# Крыніца

1(72)
2002
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

# Крыніца

**№ 1** (72)
**2002**

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

*Выдаецца са студзеня 1988 года*

**Заснавальнік:**
Саюз беларускіх пісьменнікаў

*Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года*





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца
Пераносы асобных слоў зроблены паводле магчымасцей камп'ютэра



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**
**e-mail:krynitsa@open.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 05.01.2002. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 14,88. Тыраж 734 экз. Зак. 3522.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.








# Аляксей Пысін

*Бачыў бой, бачыў землетрасенне,*
*Лес люблю, і дажджы, і траву.*
*Падымае мяне, ў чым жыву,*
*Дзень вясны – дзень майго паўтарэння.*

# Пра ЯГО

***22 сакавіка, 1920 год.*** *Аляксей Пысін нарадзіўся ў сям'і, якая каранямі зыходзіць, па сямейных паданнях, да чарнігаўскіх сялян. Вёску Высокі Борак Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці, дзе з'явіўся на свет Аляксей, заснавалі ў канцы XIX ст. некалькі дзесяткаў сем'яў з Чарнігаўскай губерні, якія пераехалі на купчыя землі. I за прадзедам паэта, Арцёмам Паўлавічам, і за бацькам, Васілём Пятровічам, паходжанне – чарнігавец – засталося нязменным. Маці паэта, Хрысціна Рыгораўна Вяржбіцкая, нарадзілася ў суседняй з Высокім Боракам вёсцы Мануйлы ў збяднелай шляхецкай сям'і.*

*Сам Аляксей Пысін выхоўваўся ў атмасферы сялянскага гуманізму, калі галоўнымі крытэрыямі чалавека былі сардэчнасць і спагадлівасць, сумленнасць і працавітасць.*

***1928 –1930-я гг.*** *Пачынаюцца першыя вучнёўскія гады – у школе, якая размяшчалася ў адным з пакояў бацькоўскай хаты.*

*Піша вершы.*

*Пачынае выступаць у мясцовай газеце "Чырвоны сцяг" як селькор. За крытычныя допісы і заметкі А.Пысіна спрабавалі выключыць з камсамола.*

***1938 год.*** *Заканчвае сярэднюю школу, едзе на вучобу ў Мінскі камуністычны інстытут журналістыкі. У гэтым жа годзе ў газеце "Чырвоная змена" надрукаваны першы верш "Ураджай".*

***1939 –1940-я гг.*** *Студэнтам 2-га курса накіраваны ў г.Бельск (Беласточчына) літсупрацоўнікам павятовай, пасля раённай газеты.*

*Вайну А.Пысін праходзіць як сувязіст, ваюе на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскім франтах. Быў двойчы паранены.*







*Вайна пакінула незабыўны след у памяці паэта. Нягледзячы на тое, што, будучы салдатам, ён ніколі не браў у рукі пяро (выключэннем з'яўляецца верш "Часавы", які быў напісаны, калі А.Пысін у першыя пасляваенныя гады яшчэ заставаўся ў арміі) і воляю лёсу апынуўся па-за літаратурнай атмасферай гадоў вайны, цэнтрам усёй творчасці А.Пысіна, вакол якога вырашаюцца філасофскія і жыццёвыя праблемы, з'яўляецца вайна.*

***1946 –1948 гг.*** *Дэмабілізаваўшыся з арміі, да 1948 года працуе адказным сакратаром краснапольскай раённай газеты "Чырвоны сцяг". Друкуе першыя пасляваенныя вершы ў часопісах "Вожык", "Беларусь", газеце "Літаратура і мастацтва".*

*Удзельнічае ў Рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў (Мінск, 1948).*

***1949 год.*** *Працуе карэспандэнтам магілёўскай абласной газеты "За Радзіму".*

***1950 год.*** *Займае пасаду рэдактара газеты ў палітаддзеле Свержанскай МТС Стаўбцоўскага раёна Баранавіцкай вобласці. У траўні гэтага ж года А.Пысін уваходзіць у рады кампартыі.*

***1951 год.*** *Выходзіць у друк першы зборнік вершаў А. Пысіна "Наш дзень", не вельмі дасканалы па глыбіні думкі і мастацкасці.*

***1954 год.*** *Працуе рэдактарам чэрыкаўскай раённай газеты "Сацыялістычная перамога".*

***1956 год.*** *Вучоба ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах.*

***1958 год.*** *Вяртаецца ў Чэрыкаў, а неўзабаве становіцца штатным творчым супрацоўнікам абласной газеты "Магілёўская праўда". З журналісцкай справай А.Пысін застаўся звязаны да канца свайго жыцця, працуючы ў "Магілёўскай праўдзе".*

***1959 год.*** *З'яўляецца другая кніга А.Пысіна "Сіні ранак".*

***1962 год.*** *Зборнік вершаў "Сонечная паводка", першая кніга для дзяцей "Матылёчкі-матылі".*

***1964, 1965, 1966, 1967, 1968 гг.*** *Зборнік для дзяцей "Вясёлка над плёсам".*

*Зборнік вершаў "Мае мерыдыяны".*

*Кніга для дзяцей "Кавылёк".*

*Паэтычны зборнік "Твае далоні". Праз два гады за гэты зборнік А.Пысін будзе адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы.*

*Зборнік вершаў "Пойма".*

***1970 год.*** *Кніга для дзяцей "Дзяўчынка Марыям". За яе А.Пысін атрымаў Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР.*

***1972 год.*** *А.Пысін выдае зборнік нарысаў пра майстроў мастацкай самадзейнасці Магілёўшчыны "Бярозка ля кожных варот". У гэтым жа годзе з'яўляецца кніга вершаў "Да людзей ідучы".*

***1974 год.*** *Паэтычны зборнік "Вярбовы мост".*

*Займае пасаду сакратара Магілёўскага аддзялення СП БССР.*

***1975, 1977 гг.*** *У сааўтарстве з С.Гаўрусёвым А.Пысін перакладае і выдае зборнік вершаў татарскага паэта М.Джаліля "Маабіцкі сшытак".*

*Выходзіць перакладзены зборнік вершаў "Жураўлі над стэпам" калмыцкага аўтара М.Ханінава.*

***1978, 1979 гг.*** *Паэтычны зборнік "Ёсць на свеце мой алень", зборнік вершаў для дзяцей "Колькі сонцаў".*

***1980 год.*** *А.Пысін атрымлівае ганаровае званне – "заслужаны работнік культуры БССР".*

***1981 год.*** *Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.*

***27 жніўня, 1981 год.*** *Аляксей Пысін раптоўна памірае, не пакінуўшы пасля сябе вялікага архіва, заявіўшы яшчэ на пачатку творчага шляху: " У мяне архіва не будзе", бо "не хацеў, каб у яго чарнавіках хтосьці корпаўся... бы ў бруднай бялізне...". Але засталася загадкавая паэзія, якая з кожным новым прачытаннем раскрывае новую глыбіню думкі паэта.*

***1982 год.*** *Пасмяротны зборнік вершаў "Палёт".*

**Падрыхтавала**
**Таццяна ХОМІЧ.**





# Цытатнік

"**В**ершы (А.Пысіна. – *Т.Х.*) хочацца чытаць спакваля, не паспешліва, удумліва, бо паэт адкрываецца часам не адразу, яго думка не ляжыць на паверхні; паэт збірае таямніцы зямнога, не спяшаючыся, рупліва, пераканаўшыся, што "вечнасць сее па зярнятку", і там, дзе яно ўзыдзе, "вырасце кветка Дабрыні...".

**С.Кухараў**.

"Ён стварыў лепшую, так-так – лепшую, у нашай беларускай літаратуры ваенную лірыку. Але сэрца яго, пры ўсёй вернасці франтавому братэрству, засталося ў Высокім Барку. Ён узышоў на вышыню агульначалавечай культуры, стаў выдатным паэтам, але і гэтая вышыня – на высакаборскім полі, дзе красуе і налiваецца жыта... Ён быў мудрэц. Ён разумеў, што сённяшні дзень жыве ў кантэксце вечнасці, адно пры гэтай умове наш дзень чагосьці варты. І верш, і паэт, калі яны сапраўдныя, — звёны з ланцуга вечнасці".

**В.Карамазаў**.

"Цікава: у асобе беларускага паэта А.Пысіна паэзія франтавікоў, круг за кругам набіраючы час і прастору, самкнулася з "вясковай" прозай іменна гэтым запасам першасных непасрэдных сувязей з народнай, пераважна сялянскай глебай, з паэзіяй зямлі, прыроды і працы".

**Р.Бярозкін**.

"У Пысіна цяжка адшукаць вершы спецыяльна і наўмысна інтэлектуальныя, але, тым не меней, ён інтэлектуальны, таму што дае эмацыянальныя адказы на вучоныя спрэчкі, праблемы, з плоскасці бытавой і псіхалагічнай выводзіць вобразы ў плоскасць філасофскую".

**Я.Шпакоўскі**.

“Шчырасць і задушэўнасць – першасныя рысы паэзіі А.Пысіна, яны дапамагаюць яму адкрываць свет і абжываць яго сваім словам. Жыццёвасці пачуццяў, натуральнасці тону адпавядае мова паэта – простая, дакладная, без непатрэбных штампаў, інтанацыйна гнуткая. Яго не абмяжоўваюць “умовы паэтычнай гульні” – рыфма, строфіка, рытмы. Ён не толькі свабодна пачувае сябе сярод гэтых патрабаванняў, яны дапамагаюць яму выражаць змест – пісаць рыфмай, гукам, колерам”.

**У.Гіламёдаў.**

“Стыль А.Пысіна – гэта своеасаблівае, цяжкое дыханне верша — яго рытму, абумоўленага зломнасцю і рэзкай пераходнасцю ад павольнага, шырокага цячэння да паскоранага, ускладненага паўторамі, вяртаннямі да зыходнай пазіцыі, шматлікімі рытарычнымі пытаннямі, зваротамі, выгукамі. Рытміка-інтанацыйная структура пысінскай паэзіі ў цэлым простая толькі на першы погляд: на самай справе яна надзвычай складаная, перадае драматычны, трагедыйны, нераўнадушны рух душэўных імпульсаў аўтара”.

**М.Мішчанчук.**

“Аляксей Пысін – выдатны майстар. Яго майстэрства – ва ўменні дакладна і поўна выявіць той адзіна верагодны стан душы, што выклікаў перажыванне, не губляючы яго ні ў прыватнасцях пабочных настрояў, ні ў прахадных, выпадковых словах”.

**В.Бечык.**

“У вершах А.Пысіна кожны знойдзе і шчырае спагадлівае слова, і добразычлівую параду, і настрой, суладны свайму. За плячыма ў паэта — вялікі жыццёвы багаж, безліч бяскрайніх франтавых і мірных дарог. Яму ёсць што сказаць чытачу. Глыбіня лірычнага перажывання, звязаная з вопытам паэта-франтавіка, тоіць у сабе невычэрпныя магчымасці. Перачытваючы вершы А.Пысіна, кожны раз адкрываеш для сябе нешта новае ў думках і пачуццях лірычнага героя... Усё, што б ні пісаў паэт, пазначана шчырасцю і цеплынёй, вялікай павагай і любоўю ў адносінах да Чалавека”.

**Л.Гарэлік.**

***Падрыхтавала Таццяна ХОМІЧ.***





# Дзень нараджэння

Сорак восем ужо, сорак восем
Імянінных сакавікоў,
Жураўліных маіх саракоў,
Што ляцяць, набліжаючы восень.

Я гляджу на той лёт, на зблiжэнне
З полем, дрэвамі, слотай зямной.
Быў аднойчы днём смерці маёй
Дзень вясны – дзень майго нараджэння.

Бачыў бой, бачыў землетрасенне,
Лес люблю, і дажджы, і траву.
Падымае мяне, ў чым жыву,
Дзень вясны – дзень майго паўтарэння.

*1968*

***

Дала мне маці гэту мову,
Каб не нямым прыйшоў у свет,
Дала мне маці гэту мову
Як спадчыну і запавет.

Была яна не беларучкай
І на жніве, і на сяўбе;
На глебе добрай беларускай
Здабыты словы ўсе яе.

Прапахлі сонцам і падзолам,
Дажджамі, сокамі раслін,

Пад знак рукам яе мазольным,
Што мелі толькі ў сне спачын.

Дачка мая! Ў жыццёвай прозе
У буднях і святочным днём
Не пакідай яе ў парозе,
Калі у нечы ўвойдзеш дом.

*1964*

***

*Сцяпану Гаўрусёву*

Забыта многае ў жыцці,
З дарогі змецена і змыта.
Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Вазьму шурпаты каласок
На чуйным провадзе саломы –
І адзавецца мне здалёк
Мой продак – сейбіт незнаёмы;

Жней невядомых галасы
Ўсплывуць над постаццю сухою.
Раскалыханы каласы
Густой паўдзённаю смугою.

Тут даспявае пад смугой
Зліццё надзей, жаданняў сумесь.
Гудзе жытнёвы провад мой –
Часоў былых і новых сувязь.

І даспявае далягляд
У трапяткім мембранным гуле.
Шукаюць рукі тых зярнят,
Каб нас таксама дзесь пачулі.

*1965*





***

Спасцігаю тайную адгадку:
На вятрах цвілі мы, як касцёр,
І вялікі трэба нам прастор,
Каб сябе пасеяць па зярнятку.

Ўзыдзем запаветным хоць на камні
І глыбока уздыхнем касцьмі:
Жні, нашчадак, жні,
Касой касі,
Толькі здуру не тапчы нагамі.

*1971*

***

Прырода – скульптар.
Вечна лепіць,
Не даспадобы, ўсё не так,
Пад ногі кіне, зноў замесіць
І возьме месіва ў кулак.
Даўно пад ёю бесканечнасць,
Але шэдэўраў тых –
Няма.
І часам гэткае скамечыць,
Што потым журыцца сама.

*1965*

***

Непазбежнасць адчуўшы, маўкліва,
Непрыкметна знікаюць сланы.
Свет жыве. Пабялела маліна.
Валам коціць суботнік лясны.

Лес да макавак гулам спавіты,
Тоне ў ім непадслуханы крок.
Між дубоў муравей цягавіты
Ношу ў трыста пудоў павалок.

*1965*

***

Не трэба гучна гаварыць,
Выкатваць словы грамавыя,
Бо хуткасці звышгукавыя
Дваццаты век паспеў стварыць.

Абознай мудрасці тайком
Паклонімся. Ўсё з намі, з часам
Талстой на коніку мышастым,
Гамер з арэхавым кійком.

*1967*

***

А я на лясным рубяжы.
Прасека. Валун пад сасною.
Так пругка маё і лясное
Спляліся ў прыціхлай душы.

І штосьці ад дрэва ў мяне,
І штосьці ад птушкі журботнай.
І штось замірае употай,
І штось ажывае ва мне.

Ўжо іншую бачу зямлю,
І неба, і ўсё наваколле.
Сэнс вечнасці, пах яе, колер
Без думак і слоў пазнаю.

Шкадую, што я не ляснік,
Не мне перададзена стрэльба, —






Часцей бы трывожыў я неба,
Каб лес мой, каб свет мой не знік.

З надзеяй маёй і лясной
Гляджу на зямлю дарагую.
Па чымсьці кукую, кукую
Высокай сваёй сівізной.

*1970*

## Байцам не сняцца пантэоны...

На абелісках — толькі даты,
Імёнаў многіх не знайсці.
І невядомыя салдаты
Маўчаць у сціплым забыцці.

Байцам не сняцца пантэоны,
У іх з маленства клопат быў,
Каб рунню дыхаў дол зялёны,
Каб град калоссе не пабіў.

*1962*

***

Столькі сонца,
Гукаў, гулу
Сёння ёсць,
Паўторыцца пасля!
І мяне на свет жыццё гукнула,
Каб яму служыў я за пасла.

Да мяне ўжо хтосьці гэта зведаў
Поўнай мерай,

Поўнаю цаной.
Водгулле далёкіх запаветаў
Патрабуе вернасці маёй.

Размаўляў з барознамі,
З зарою,
Разумеў спяванне мудрых пчол...
І не мой то грэх,
Што браў я зброю,
Сціплы і даверлівы пасол.

Боль,
Трывогу ма́ю,
А не візу
На язду ў нейтральны гарадок.
І не мой то грэх,
Што ненавіджу
Баязліўцаў, здраднікаў, прайдох.

Можа, заўтра будзе свет цяплейшым,
Дабратой прасвечаны знутры;
Святам тым сябе свядома цешу,
Несучы ахвярныя дары.

*1967*

***

Палім мы маршанскую махорку,
Бачым мы Дняпроўскую граду.
Будзе сёння бой. На тым узгорку,
Можа, я таксама упаду.

Будуць травы над курганам. Будуць
Адлятаць у вырай жураўлі.
Нас, напэўна, ў свеце не забудуць,
Ўспомняць, што на свеце мы жылі.







...Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце, калі мяне не стане –
Я ў сваю дывізію пайшоў.

*1966*

***

Не ўсе лясы мае згарэлі,
Не ўсе пасечаны сады.
Дубоў жывыя каруселі
Ідуць па кругу. Жалуды
Зрываюцца, як небажаты,
Ўзрываюцца, каб прарасці.
Свет неспазнаны, непачаты
Ка мне спяшаецца прыйсці.

*1966*

***

Ціха ў мінулым, і ў будучым ціха,
З намі ўсе гукі і гул жыцця.
Цяжка ўздыхае зямля-парадзіха:
Заўтра якое ўзаўецца дзіця?

*1976*

**Падрыхтавала**
**Таццяна ХОМІЧ.**

# Дабрыня і спагадлівасць былі яго сутнасцю

Чым больш жывеш на свеце, тым ясней бачыш, разумееш, як шмат у чалавечых стасунках вызначаюць непрадбачаныя акалічнасці, спрыяльны ці неспрыяльны збег абставінаў. Бывае, што няпроста, не адэкватна жаданню складваюцца і ўзаемаадносіны крытыкаў з паэтамі, празаікамі, драматургамі. Тут таксама ёсць элементы выпадковасці, прыкметныя хоць бы ў тым, што крытык не заўсёды мае зручную нагоду, а то і фізічныя магчымасці напісаць пра тых мастакоў, якія яму душэўна блізкія, сімпатычныя як людзі і творцы. Так здарылася ў мяне з Аляксеем Пысіным. Ды, зрэшты, не толькі з ім.

Творчасць Пысіна прыцягвала маю ўвагу яшчэ са студэнцкіх часоў. А ў свае аспіранцкія гады я ездзіў па рэспубліцы з лекцыяй “Беларуская паэзія ў барацьбе за мір”. Лейтматывам той лекцыі, з якою я выступаў перад самымі рознымі слухачамі, было сцвярджэнне, што наша літаратура адлюстроўвае міралюбства савецкіх людзей, дасціпна выкрывае замежных, найперш заакіянскіх, падпальшчыкаў вайны. Пра агрэсіўнасць савецкіх кіраўнікоў і іх крывадушнасць у прапагандысцкіх заявах пра абарону міру я, вядома, не казаў. Апорныя цытаты ў мяне былі падабраны з твораў паэтаў розных пакаленняў. Прадстаўніком маладых на той час творцаў ішоў Пысін. Заканчвалася лекцыя наступнай страфой з ягонага верша “Прэч, вайна, з дарогі” (1951):







*Мір на зямлі не знішчаць бомбы і гарматы,*
*Мацней у міру армія ў мільёны крат.*
*Мы гэтай арміі адданыя салдаты,*
*Яе надзейны авангард.*

Сказана з пафасам, які ў слухачоў пярэчання не выклікаў, бо яшчэ зусім свежыя ў людской памяці былі жахі мінулай спусташальнай вайны. А што тады найбольш бразгалі зброяй не столькі заакіянскія “ястрабы”, якіх у дэмакратычнай Амерыцы было каму стрымаць, колькі крамлёўскія стратэгі з іх нічым не абмежаванай уладай над прыдаўленым народам, — пра гэта ўслаўлены паэтам “надзейны авангард” калі і здагадваўся, дык мусіў маўчаць.

Самога Пысіна я тады яшчэ не ведаў. Асабістае знаёмства з ім адбылося пазней, калі я, трывала асеўшы ў Мінску, стаў прымаць пэўны ўдзел у працы Саюза пісьменнікаў. Пысін далучыўся да гэтай працы, вядома, раней за мяне. Ён увайшоў у склад Праўлення пісьменніцкай суполкі ў 1966 годзе, а я — толькі ў 1971-м. Але цэлае дзесяцігоддзе (Аляксей Васільевіч, нагадаю, пайшоў ад нас у 1981 годзе) мы час ад часу сустракаліся на пленумах Праўлення, на пісьменніцкіх з’ездах, разам удзельнічалі ў розных афіцыйных паездках і г.д.

Афіцыйныя сустрэчы, канечне ж, зусім не абавязкова прыводзяць да таварыскіх, а тым больш даверліва-сяброўскіх узаемадачыненняў. У нас жа з Пысіным даверлівыя, а потым і сяброўскія адносіны, адважуся сцвярджаць, склаліся. Зразумела, я ведаў розніцу нашых “вагавых катэгорый”, панібрацтва ніколі не дапускаў, але гаварыў з ім заўсёды адкрыта, тое, што думаў пра жыццё і літаратуру. І яму гэта падабалася. Зблізкала нас і даволі блізкае зямляцтва, тое, што мы абодва нарадзіліся на самым усходзе Магілёўшчыны, ён у Краснапольскім, я ў Крычаўскім раёне. Гэта натуральна збліжала і нашы моўныя арыентацыі.

Пысін увогуле вызначаўся памяркоўнасцю ў абыходжанні з людзьмі, далікатнасцю і добразычлівасцю, хоць прынцыповасці не траціў. Вельмі таварыскі ён быў у сяброўскіх застоллях, якія і я ў маладосці звычайна не імкнуўся абмінаць. Як-ніяк, а

яны людзей зближаюць і, калі справа не даходзіць да вялікіх пераборaў, успрымаюцца, а потым і ўспамінаюцца з прыемнасцю. Пысін таксама не грэбаваў сяброўскім кілішкам, але, і добра пашчыраваўшы за бяседным сталом, заставаўся прыстойным, далікатным чалавекам, ніколі не падкрэсліваў свае перавагі ў веданні жыцця, сваю значнасць у літаратуры, не накідваўся з абразамі на суразмоўнікаў, не чапляўся, у адрозненне ад некаторых "буйных натур" з пісьменніцкага асяроддзя, да кожнага не пад ягоны густ сказанага слова.

Мне добра памятаюцца цікавыя размовы з ім у час паездак у Вязынку і ў Мікалаеўшчыну ў 1972 годзе на купалаўскія і коласаўскія юбілейныя ўрачыстасці, якія, як і тагачасныя пісьменніцкія з'езды, завяршаліся вялікім афіцыйным прыёмам са шчодрым бяседным сталом, вяжы ў Докшыцы і на Нарач у тым жа 1972 годзе, на Лаўсанбуд у Магілёве (1973), шэраг сустрэч у Маскве. Там мы хораша пагасцявалі ў Максіма Танка, калі ён прыязджаў у вялікую сталіцу атрымліваць Ленінскую прэмію за кнігу "Нарачанскія сосны" (1978). Былі ўдзельнікамі пленума СП СССР, які праводзіўся ў сувязі з вядомай пастановай "Аб літаратурна-мастацкай крытыцы" (1972). Тады мы з Аляксеем Васільевічам і жылі некалькі дзён разам у двухмесным нумары гасцініцы "Масква" (аднамесныя даваліся толькі самым уганараваным кіраўнікам, літаратурным генералам). У гэты час Пысін быў асабліва шчодры на даверлівыя размовы. Пра многае ў закулісным жыцці краіны і ў норавах яе крывадушна-хлуслівых правадыроў ён ведаў тое, пра што я і не здагадваўся.

Пры другой нагодзе дзяліўся ён са мною і роздумам пра некаторыя загадкавыя з'явы чалавечай псіхікі. З вялікай цеплынёй гаварыў пра Анатоля Сербантовіча. Яму падабаліся яршыстасць гэтага паэта, яго крытычнае стаўленне да творчасці Петруся Броўкі, паэзію якога і Пысін не асабліва шанаваў, лічыў, што Броўкава творчасць афіцыйна ўзвышаецца празмерна, з кан'юнктурных меркаванняў. Я таксама з гэтым пагаджаўся, хоць цяпер думаю, што мы, ваюючы з Броўкам, у прыватнасці дамагаючыся, каб ён пайшоў з пасады шматгадовага кіраўніка СП, недаацэньвалі яго выключныя арганізатарскія







здольнасці, якія далі яму магчымасць з бляскам справіцца са шматлікімі цяжкасцямі пры выданні БелСЭ. Пысін жа пра Сербантовічаву непрыхільнасць да Броўкі напісаў і ў вершы "Што світанне ў вербах тоіць" (1972), створаным праз два гады пасля раптоўнай смерці яшчэ маладога паэта (ён памёр у няпоўныя 29 гадоў). Але нечаканай гэтая смерць была толькі для іншых людзей. Сам жа Сербантовіч, даводзіў мне Пысін, прадказаў яе з памылкай толькі на адзін дзень! Сказаў Сербантовіч і пра тое, што адбудзецца з Пысіным у той дзень, калі ён, Сербантовіч, памрэ. Я ўжо не памятаю, што іменна павінна было адбыцца і адбылося. Але Пысін сцвярджаў, што і тут Сербантовічава прадказанне спраўдзілася. Словам, задумацца было над чым. Дзелячыся такімі ўспамінамі, Пысін выслухоўваў і мае развaжанні пра таямніцы неспазнанага.

Ён ведаў, што я вельмі высока цаню ягоную паэзію. Практычна гаворка ў той ці іншай сувязі ішла пра гэта пры кожнай сяброўскай сустрэчы. Праўда, у друку падрабязна напісаць пра яго я так і не сабраўся, абмяжоўваўся агульнымі згадкамі, называючы, калі здараліся прыдатныя выпадкі, Пысіна ў ліку выдатных нашых творцаў. Так, у маёй кнізе "Шматграннасць" (1970), артыкулы з якой да выхаду зборніка друкаваліся і ў перыёдыцы, Аляксей Пысін разам з Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым і Піменам Панчанкам называецца сярод майстроў, якія вызначылі самыя плённыя, у змястоўным плане наватарскія тэндэнцыі ў развіцці тагачаснай беларускай паэзіі. Адказваючы на пытанні адной анкеты пра значныя літаратурныя з'явы 1971 года, я напісаў: "Найбольшае ўражанне пакінулі аповесць В.Быкава "Абеліск", новыя вершы М.Танка, А.Пысіна і Я.Янішчыц". ("ЛіМ". 1971. 31 снежня.) Гэта вельмі ганаровы шэраг. А калі ў яго трапіла і зусім маладая тады Я.Янішчыц, дык час паказаў, што паэтэса па праву заняла ў ім месца — па тонкасці і глыбіні выяўлення жаночай душы з ёю і сёння мала каго можна параўнаць. Найбагацейшая ў Янішчыц лірыка кахання, якая і на пачатку 70-х гадоў выразна выяўляла сваю моц і арыгінальнасць.

Шмат выдатных любоўных вершаў стварыў і Аляксей Пысін. Сярод ягоных твораў гэтай тэматычнай скіраванасці мне

асабліва падабаўся верш "На схіле дня святла яшчэ даволі". Ён друкаваўся ў зборніку "Мае мерыдыяны", а потым увайшоў і ў кнігу "Тваё далоні", па сутнасці даўшы ёй ёмістую назву. Бо менавіта ў гэтым вершы і славіліся далоні каханай жанчыны, славіліся на самым высокім паэтычным узлёце. А канцоўка ў вершы, думаецца, увогуле магутная:

*Дубы на позні дол страсаюць лісце,*
*І ў кожнага зямны кароткі век.*
*Ў мой лістапад няшумны дакраніся*
*Маіх павек.*

*І я адчую, ўбачу, невідушчы,*
*Далонямі тваімі ўбачу я*
*Ў палёце ластаўку, рабіну ў пушчы,*
*Любоў мая.*

Мне здавалася (здаецца і цяпер), што больш моцна, прачула выказаць думку пра сілу жаночага кахання, яго жыццядайнасць і жыццесцвярджальнасць нельга. І я пад настрой казаў Пысіну нават пра геніяльнасць гэтага твора. Пысін асабліва не пярэчыў. Больш таго, маё захапленне яму падабалася, бо якраз гэты верш, як яно ні парадаксальна, быў вельмі скептычна ўспрыняты нашым выдатным крытыкам Рыгорам Бярозкіным, які шмат разоў хораша пісаў пра паэзію Пысіна, але пра верш "На схіле дня святла яшчэ даволі" ў сваёй кнізе "Постаці" (1971) выказаўся па сутнасці адмоўна, знайшоўшы ў ім чужыя Пысіну рамансавыя інтанацыі, накшталт: "Ты апусці далоні мне на плечы, і я змаўчу". Можна меркаваць, што і выдаўцы кнігі "Зорка Венера" (1972), у якой сабрана беларуская лірыка кахання, створаная ў XX стагоддзі, належна не ацанілі згаданы верш, бо Пысін там прадстаўлены трыма іншымі творамі.

Вядома, падабалася мне і "ваенная" лірыка Пысіна. Тут я вылучаў як асабліва красамоўны верш пра салдацкае братэрства "Палім мы маршанскую махорку" (1966) з яго славутымі радкамі:



*...Я гляджу на даўняе курганне,*
*На траву, на рыжых мурашоў.*
*Ведайце: калі мяне не стане —*
*Я ў сваю дывізію не пайшоў.*

А як ёміста, важка выказана ў Пысіна ідэя неўміручасці жыцця ў вершы "Забыта многае ў жыцці", дзе сімвалам вечнасці выступае жытні колас, асэнсаваны як "часоў былых і новых сувязь":

*Вазьму шурпаты каласок*
*На чуйным провадзе саломы —*
*І адзавецца мне здалёк*
*Мой продак — сейбіт незнаёмы.*

Пра вершы "На схіле дня святла яшчэ даволі" і "Палім мы маршанскую махорку" мне ўжо даводзілася выказвацца ў друку — у кнігах "Васіль Быкаў" і "Арганічнасць таленту", але зноў жа не пры жыцці паэта, а толькі пасля таго, як ён пайшоў ад нас.

Моцна вабіла мяне філасофская заглыбленасць лірыкі паэта, западаў у душу сагрэты бацькоўскай пяшчотай наказ дачцэ заўсёды шанаваць родную мову, ніколі не пакідаць "яе ў парозе". І, вядома ж, хвалявалі выдатныя вершы пра маці, якая, як, бадай, усе беларускія вясковыя жанчыны ці, ва ўсякім разе, большасць з іх, вызначалася вялікай працавітасцю: *"... І ўсё магла, // І ўсё умела: //З сяўнёй ішла, //З касой — да траў рачных. //Бялей таго бярозавага мелу// На памяць мне// Пакінула ручнік"*. А яшчэ дабрыню сваёй чулай душы, неўміручую народную песню і само адшліфаванае стагоддзямі, штодзённым ужыткам трыманае і мацаванае "адбеленае слова", тое самае, якое паэт, у сваю чаргу, перадаваў нашчадкам. Але пра гэтыя вершы ў мяне раней ужо наогул нічога не сказалася...

Лічыцца, што Аляксей Пысін як таленавіты, арыгінальны паэт вызначыўся толькі ў 60-я і наступныя гады. Так схільны быў лічыць і сам паэт, які ў 60-я гады сапраўды ў многім загаварыў па-новаму, стаў і грамадскасцю ўспрымацца як

выдатны мастак. Ацэньваючы з гэтай вышыні свой першы зборнік "Наш дзень" (1951), ён у аўтабіяграфіі "Пераженытае" (1964) з вялікай самакрытычнасцю пісаў: *"Здавалася б, столькі пераэнсыў, столькі бачыў — маю што сказаць. А я, пераймаючы іншых паэтаў, пішу вершы наіўныя, надуманыя, не сагрэтыя пачуццём. З гэтых вершаў і склаўся першы мой зборнік "Наш дзень"*.

Здаецца, сказана зусім слушна. Але цяпер, калі перачытваеш усё створанае паэтам, бачыцца і іншае. Па-першае, тое, што таленавітасць Пысіна праглядвала ўжо ў яго ранніх вершах. І ва ўсіх пысінскіх кнігах няцяжка знайсці творы цікавыя, па-свойму значныя, нечым адметныя. Так што ўзыходжанне паэта на вяршыні мастацкай дасканаласці не было раптоўным, яно адбывалася паступова. І (гэта — па-другое) воблік Пысіна-паэта вызначаў не толькі яго талент, але і час, які выпаў на пысінскую долю.

У найбольш поўнае пасмяротнае пысінскае выданне (Збор твораў у двух тамах. Мн., 1989) у адпаведнасці з нашай даўняй традыцыяй усюды і ва ўсім наводзіць глянец не ўключаны з кнігі "Наш дзень" ні адзін верш культаўскага характару — з праслаўленнем Леніна і Сталіна. Сёння гэтыя вершы і сапраўды не гучаць. Але свой час у іх адлюстраваўся зусім пэўна. Іначай без культаўскіх вершаў ні ў кога з савецкіх паэтаў і быць не магло. Не ўвайшоў у згаданы Збор твораў і верш "Сцяг", які Пысін у розных рэдакцыях перадрукоўваў шмат разоў. Самая дасканалая з іх адкрывае кнігу "Твае далоні" і змешчана таксама ў двухтомніку выбраных твораў паэта (Мн., 1980) — апошнім, самым прадстаўнічым яго прыжыццёвым выданні. Дарэчы, яно наўрад ці выпадкова выйшла ў кідкай ярка-чырвонай вокладцы — пад колер партыйнага білета.

Пра чырвоны бальшавіцкі сцяг Пысін напісаў у згаданым вершы натхнёна, з тым напалам пачуцця, якое ідзе ад глыбокай перакананасці ў сваёй праваце. Вось дзве страфы з таго твора:

*Мой сцяг вышэй усіх няўдач,*
*Вышэй усіх няпраўд.*



*Я сам загорнуты ў кумач*
*Ад галавы да пят.*
. . . . . . . . . .
*Ты будзеш неўміручы, сцяг,*
*Бо мы цябе нясём*
*Ў сваёй крыві, ў сваіх касцях.*
*Перадаём — з жыццём.*

Сёння добра вядома, што пад чырвоным сцягам не толькі здабывалася вялікая перамога над гітлераўскім фашызмам, але і знішчаліся мільёны людзей у сталінскіх ГУЛАГах, а сама камуністычная ідэя, якую той сцяг сімвалізаваў, выявіла сваю утапічнасць і цяпер прываблівае хіба што заяцятых дэмагогаў ды апантаных фанатыкаў, якія ніяк не жадаюць лічыцца з жыццёвай рэальнасцю.

Але ж Пысін жыў і пісаў тады, калі пра крах камунізму мы, выхаваныя на камуністычнай рыторыцы, на татальнай савецкай дэмагогіі, не думалі, не здагадваліся, не ўяўлялі гэтага краху і ў кашмарных снах. Пысін не толькі насіў у кішэні партыйны білет, але і лічыў сябе сапраўдным камуністам, гатовым да скону змагацца за тыя ідэалы (у прынцыпе, вельмі высакародныя), якія кампартыя абвяшчала, хоць практычна дзейнічала насуперак ім. Таму так настойліва паэт сцвярджаў: ***"Чырвань, чырвань, колер праваты"***, славіў савецкую сімволіку, той жа ***"чырвоны сцяг над сельсаветам"***, будзёнаўку, будзёнаўскага трубача ды дзядзькоў-будзёнаўцаў і іх клінкі, ствараў балады пра адданых, самаахвярных камсамольцаў, палітрукоў і нават паэтызаваў воблік самога Дзяржынскага, пра жахлівыя справы якога сёння не піша хіба што афіцыёзная прэса.

Камуністычная ангажаванасць Пысіна, яго па-свойму зразуметая партыйная прававерн асць, здаецца, былі шчырыя, вынашана-пераконаныя і ўяўляюцца зразумелымі.

І ўсё ж адна акалічнасць пры перачытванні твораў Пысіна мяне здзівіла. Гутарка ідзе пра даты, якія стаяць пад вершамі пра Леніна, напісанымі ў сувязі з паездкай паэта ў Сібір у 1980 годзе. Паездка адбылася па ленінскіх мясцінах Сібіры з нагоды

чарговага юбілею бальшавіцкага важака. Яна была прадстаўнічай — удзельнічалі пісьменнікі з розных савецкіх рэспублік. Ад Беларусі таго гонару ўдастоіўся Пысін. Усё гэта абавязвала. І паэт стварыў цэлы цыкл вершаў ("Парк дружбы ў Шушанскім", "Возера Пярова", "Жураўліная горка", "Ленін у Сібіры", "Балада пра зялёную лямпу"). Пра свае пачуцці ў той паездцы Пысін напісаў: "*Паветрам,// борам шушанскім мы дыхалі, // Ступалі тымі вуліцамі ціхімі,// Слядамі Леніна// да горкі Жураўлінай:// На ёй бываў ён вольнаю часінай.// І кожны крок і міг — як ачышчэнне, //Душы, пачуццяў, думак прычашчэнне*".

Здзівілі, паўтаруся, не самі гэтыя вершы з традыцыйнай для савецкай літаратуры апалагетыкай Леніна як бальшавіцкага правадыра і чалавека, а даты, час напісання твораў — 1980 год. Бо яшчэ ў 1972 годзе Аляксей Пысін, калі мы, як згадвалася, жылі з ім колькі дзён у нумары гасцініцы "Масква", расказваў пра Леніна, яго жорсткасць, бесчалавечнасць, адсутнасць павагі да звычайных людзей, асабліва да інтэлігенцыі і нават да сваіх паплечнікаў рэчы жахлівыя. Пысін пра іх, тыя жахлівыя рысы сапраўднага Леніна, ведаў ад маскоўскіх сяброў. Публічна пра ўсё гэта было сказана намнога пазней, пасля распаду Савецкага Саюза і развалу КПСС. Як з такім веданнем можна было працягваць услаўленне Леніна, мне цяжка сказаць. Мабыць, галоўнай прычынай тут была шчырая і глыбокая адданасць паэта камуністычнай ідэі. І каб не пашкодзіць гэтай ідэі, не кідаць на яе цень, паэт працягнуў звыклую традыцыю, якая замацоўвала афіцыйную легенду пра высакароднасць і чалавечнасць бальшавіцкага правадыра.

Патрабуе тлумачэння і тое, як паэзія, натхнёная камуністычнай дактрынай, тэорыяй, дзеля якой чынілася расправа над мільёнамі, стала наборам палітычнай траскатні, годнай хіба што для ачмурэння даверлівых дзівакоў. Справа тут, думаецца, у тым, што сапраўдны паэт ніколі не зводзіць сваю творчасць да ілюстрацыі палітычных лозунгаў і афіцыйнай апалагетыкі. Пысін жа быў паэт сапраўдны, змястоўны, глыбокі, з натуральнай філасофскай угрунтаванасцю. І гэтую ўгрунтаванасць, вызначаную нявыдуманым жыццём напоўненасць не магла перакрэсліць, вынішчыць ягоная "чырвонасць".

Не менш важна, што Пысін арыентаваўся на ідэальны змест камуністычнай дактрыны, якая, як я ўжо казаў, у яе паказушнай інтэрпрэтацыі для народа, свету выглядала вельмі нават чалавечнай, абяцала ўсеагульнае шчасце. Гэтым лёгка было захапіцца. І людзі, у тым ліку добрыя паэты, захапляліся шчыра, а не з кан'юнктурных, чыста карыслівых меркаванняў, як гэта робяць многія палітыкі. Ды камуністы ніяк не маглі здзейсніць свае прыгожыя абяцанні. Бо рэальнае ўвасабленне камуністычнай дактрыны было вельмі далёкае ад абяцанак.

Пысінская ж паэзія на глыбінным узроўні скрозь, а вельмі часта і адкрытым тэкстам сцвярджала чалавечнасць. І гэта праходзіла праз пільную цэнзуру, бо не супярэчыла афіцыйнай трактоўцы камунізму, савецкіх парадкаў, бальшавіцкай паказухі. Фактычна ж паэт кіраваўся агульналюдскімі прынцыпамі ў разуменні дабрыні, чалавечнасці, высакародства, справядлівасці. Чалавек і ўсё звязанае з яго ўзвышэннем не было для паэта крывадушнай дэкларацыяй ці паказушным лозунгам. Гэта — глыбіннае крэда мастака, які не для прыгожага слоўца сцвярджаў: "*На зямлі — адзіная удача: //ў вечным слове чалавекам быць*". І ён быў чалавекам і ў жыцці, і ў паэзіі. Дабрыня і спагадлівасць, успрынятыя перш за ўсё ад маці разам з яе генамі, сталі, як і ў маці, сутнасцю яго натуры, жыццёвымі паводзінамі і яскрава выявіліся ў творчасці, зрабіўшы яе глыбінна змястоўнай, доўгатрывалай, па-сапраўднаму значнай і для тых, хто голую бальшавіцкую трускатню ніяк не падзяляе, не ўспрымае. Бо пысінская паэзія мае глыбінныя карані ў народнай свядомасці, многае зачарпнула з народнай душы.

"Свет свой па-свойму зляпіць" марыў паэт. У паэзіі, у яе лепшых узорах ён яго і стварыў. І свет гэты, паўтару, мае свае галоўныя апоры ў народным жыцці, у народнай маралі і этыцы, а таму шмат гаворыць нам і, будзем спадзявацца, зможа хваляваць многія пакаленні нашых нашчадкаў. Вядома, калі будзе жывая Беларусь.

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

# “Ты мне як брат...”

Мы сядзелі побач на дошцы, дакладней, на дзвюх табурэтках (гэта каб размясціць у невялікай гарадской кватэры як мага больш людзей — удзельнікаў юбілейнай вечарыны), размаўлялі, прыслухоўваючыся да вясёлага застольнага гулу, які ўжо ішоў пакрысе на спад, і ён, імяніннік, ціха сказаў: “Ты мне як брат”.

Забыта шмат гутарак, у тым ліку застольных, шмат слоў, у тым ліку і добрых і, можа, істотных, але тая гутарка, тое прызнанне ў братнім пачуцці запомніліся назаўсёды, на ўсё жыццё. Прызнанне Аляксея Васільевіча Пысіна...

Ну, ды распавяду ўсё па парадку.

Нашы жыццёвыя сцяжыны перасекліся ў 1951-м. У гэтым годзе я пачаў вучобу на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ, а Аляксей Пысін выдаў свой першы паэтычны зборнік “Наш дзень”. І вось адзін са старэйшых нашых выкладчыкаў, прафесар Акулаў, паведамляе аднойчы перад заняткамі: “У мяне для вас добрая навіна: заўтра мы сустракаемся з Аляксеем Васільевічам Пысіным. Ён працуе рэдактарам раённай газеты і піша вершы, выдаў нядаўна сваю першую кніжку”. Прафесар ведаў, канечне, што некаторыя з нас пішуць вершы і нават ужо друкуюцца ў студэнцкай газеце, і рабіў нам такі вось падарунак — сустрэчу з журналістам і паэтам у адной асобе. Так у снежні 1951-га я ўпершыню ўбачыў і пачуў Аляксея. Чубатага, з сарамлівай усмешкай, з добрым і, можа, крыху гарэзлівым адначасова позіркам. Запомніліся яго вершы пра крэмень, які стаў жорнамі, пра намер назваць Млечны шлях Шляхам Гастэлы, пра тое, як уніз ракі плывуць плытоў чароды, а *“ўверх вадой без перашкоды аблокі шэрыя плывуць”*.

Гэта была першая наша сустрэча. А апошні раз мы бачыліся і гутарылі ў снежні (зноў у снежні) 1980-га. Па ініцыятыве Валянціны Куляшовай ездзілі разам (быў з намі і Васіль Быкаў) у Касцюковічы, на адкрыццё ў мясцовым музеі мемарыяльнага пакоя Аркадзя Куляшова. Вярталіся раннім аўтобусам у густым зімовым прыцемку. Аляксей Васільевіч сышоў у сваім родным Краснаполлі. Мы, мінчане, памахалі яму рукой услед. Помню, я сумна падумаў: “Калі ўбачымся ў наступны раз?” Больш не ўбачыліся. Заставалася ўсяго некалькі месяцаў да яго трагічнай заўчаснай смерці. Заставалася пяць з паловай гадоў да чарнобыльскага выбуху, да забруджання смертаноснымі радыенуклідамі яго роднай Краснапольшчыны, яго *“краю бацькоўскага, раўнінна-гарыстага”*.

*Пакуль зямля твая жывая,*
*І ты — жывы, —*

выказаў ён спадзяванне ў адным са сваіх апошніх вершаў. Смерць пазбавіла яго ад неабходнасці сведчыць смерць родных мясцін, роднай так яму блізкай, так задушэўна апетай ім прыроды...

Як абрамленне, як часовыя рамкі — два снежні. Падзеленыя доўгімі гадамі. Два снежаньскія дні — дзень самай першай і дзень самай апошняй нашых сустрэч. А паміж імі? У тым-та і справа, што былі ў нашых з ім дачыненнях і іншыя поры года, і іншыя месяцы. Быў і сакавік, быў сакавіцкі дзень — дзень яго нараджэння.

*Лес люблю, і дажджы, і траву.*
*Падымае мяне, ў чым жыву,*
*Дзень вясны — дзень майго нараджэння.*

Яго пяцідзесяцігоддзе, поўдзень веку яго, быў шырока, на святочным эмацыянальным уздыме адзначаны ў Магілёве. Па даручэнні Максіма Танка я рабіў даклад, гаварыў пра яго жывую, натуральную ў сваёй плыні, як рака, паэзію, пра яе чалавечнасць, яе мудрасць, яе сугучнасць з народнай творчасцю. І гэта было ў сакавіку 1970-га года. Потым, у жніўні 1973-га, я казаў свае слова пра яго кнігі “Мае мерыдыяны”, “Твае далоні” і “Да людзей ідучы” падчас чытацкай канферэнцыі, якую праводзіла Магілёўская абласная бібліятэка. Кастрычнік 1978-га: ладзім у так званай Каміннай залі Дома літаратара “паэтыч-

ную пятніцу", прысвечаную выхаду зборніка "Ёсць на свеце мой алень" (апошняга прыжыццёвага выдання паэта). І зноў сакавік, зноў яго дзень нараджэння, на гэты раз ужо шасцідзесяты. Ён урачыста адзначаецца ў напоўненай Вялікай залі пісьменніцкага Дома. І зноў мне выпадае гонар адкрыць уступным словам і весці вечарыну...

*Ты мне як брат.*

Менавіта яго найперш вершы (разам з аповесцямі Васіля Быкава) падштурхоўвалі мяне брацца за пяро ў якасці літаратурнага крытыка. Пішу з глыбокай унутранай аддачай пра яго верш "І чаму не стаў я лесніком, лес мой, брат мой...". Эсэ друкуецца ў зборніку "Дзень паэзіі" за 1965 год. У наступным, 1966-м, у нумары "ЛіМа" за 31 траўня (усё, што звязана з ім, неяк асабліва помніцца) выступаю за прысуджэнне аўтару кнігі "Мае мерыдыяны" Дзяржаўнай прэміі. Пачыналася якраз абмеркаванне твораў, вылучаных на прэміі. У студзені 1967-га друкую ў тым жа "ЛіМе" пад рубрыкай "Пісьменнік за рабочым сталом" гутарку з Аляксеем Васільевічам. Заканчваю яе высновай, што адным з асноўных матываў творчасці паэта з'яўляецца "сцвярджэнне адзінства ўзнёслага і зямнога, агульнага і канкрэтнага, мінулага і сённяшняга"...

Перагортваючы ў свядомасці старонкі перажытага, падсумоўваючы, як кажуць, папярэднія вынікі, не-не ды і спыняешся на графе "Што зроблена добрага". І згадваеш зробленае для Аляксея Васільевіча Пысіна. Для яго, у імя яго самога і ягонай паэзіі. Не ўсё магчымае, не ўсё вартае яго лёсу і яго паэзіі, але ўсё ж нешта добрае было зроблена. Відаць жа, невыпадкова ён з яго прынцыпам *"Не трэба гучна гаварыць, выкатваць словы грамавыя"* ўзяў ды і сказаў ціха, даверліва: *"Ты мне як брат"*. Не памятаю вось толькі, ці адказаў я яму тады такім жа прызнаннем. Здаецца, адказаў.

Народ гаворыць: прыходзяць здалёку, не прыходзяць зглыбоку. І ён, старэйшы брат і настаўнік, кажучы яго радкамі,

*Успамінаецца блізка здалёку,*
*Як зялёная зорка ў лісці.*

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**





# Паэзія зямлі і неба

Мабыць, нездарма псіхолагі сцвярджаюць, што імя чалавека можа прыадчыняць яго душу, быць люстэркам духоўнай сутнасці асобы. Услухайцеся: Алякс-сей Пыс-сін... Мякка, цёпла, мілагучна. Аляксей – сеяць, сейбіт... А можа, менавіта гэтая прыхаваная адметнасць імя падсвядома дала пачатак узнікненню вобраза сейбіта ў вершах паэта?.. Па словах дачкі паэта Галіны Аляксееўны (з ёй я мела магчымасць сустрэцца зусім нядаўна), сціплы і шчыры чалавек, Пысін увайшоў у літаратуру ў сталым узросце, калі за плячыма было 40 гадоў, пяць з якіх прайшлі на ваенных шляхах. Гэта не магло не стаць прычынай таго, што мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці ў вершах творцы набывае філасофскую заглыбленасць. Безумоўна, быў першы зборнік, былі афіцыёзныя радкі *"наш Сталін – сэрца любае Радзімы"*, быў цыкл вершаў 80-х гадоў з апантаным пакланеннем Леніну. Уплыў камуністычнай ідэалогіі на свядомасць мастака відавочны (без гэтага, вядома, не абыходзілася савецкая літаратура). Але згаданыя старонкі творчасці становяцца, бадай, штучнымі і несапраўднымі, калі ўчытваешся ў радкі вершаў лепшых зборнікаў: "Мае мерыдыяны", "Да людзей ідучы", "Вярбовы мост"...

Мастацкія вобразы ў творах Пысіна зусім звычайныя, традыцыйныя для беларускай паэзіі: дрэва, зямля, неба, вада, валун, мост, пчала, зорка, ручнік і г.д., але ў адзінстве, паўтараючыся з верша ў верш, яны ствараюць арыгінальную цэласнасць, адзіны гарманічны мастацкі свет. Адным з выразных паказчыкаў гарманічнай рэчаіснасці, стварэнне якой стала галоўнай ідэяй жыцця і твор-

часці паэта, з'яўляецца вобразная пара "зямля — неба". Праблема суадносін зямнога і нябеснага вырашаецца, па-першае, у спробе вызначыць прыярытэт аднаго з пачаткаў, а па-другое — зямля і неба прадстаўлены ў паэзіі як частка цэлага свету, паяднаны па законе дыялектычнага адзінства супрацьлегласцей.

Паняцці "зямля" і "неба" з'яўляюцца праваднікамі галоўных праблем, што ўздымае Пысін у вершах. Карані аўтарскага "зямнога прыцягнення" трэба шукаць у двух вымярэннях: у звароце да міфалогіі (успрыманне зямлі як "улоння", дзе нараджаецца чалавек і куды ён адыходзіць у час смерці) і ў вяртанні да свайго маленства, да радзімы, больш дакладна — да вёскі, дзе пачынаюцца жыццёвыя вытокі.

У паэзіі Пысіна зямля адначасова з'яўляецца носьбітам жыцця і смерці: "*Не трывожуся бязмерна, //Што сустрэнуся з зямлёй. //Возьме нас зямля і верне //Тым, што сёння сніцца ёй*". Зямля, паводле закона рэінкарнацыі, ці пераўвасаблення душ, які дамінуе ў творчасці мастака, "вяртае" чалавека да жыцця ў выглядзе прыродных істот: кветкаю, дрэвам, мурашом. Таму, напэўна, з такімі ўвагай і клопатам піша паэт пра зямную прыроду: "*Ты б мог прыйсці бярозкаю, што ссек, //Мурашкаю, што сок з пянёчка выпіла. //Ў істоце той, якою быць не выпала, //Сябе адчуй хоць зрэдку, чалавек!*".

Паводле мастацкага светаўспрымання Пысіна вобраз неба, у сваю чаргу, таксама мае дачыненне да праблемы "жыцця — смерці". "Адвеяныя" душы памерлых уздымаюцца ў "неба начное" ў абліччы стрыжоў. Такім чынам, неба асэнсоўваецца як прытулак чалавечай душы, месца яе знаходжання. Вера ў тое, што "на самым дне" зямлі "штось застаецца ад мяне", выклікае жаданне лірычнага героя бачыць адтуль, з-пад "навісся карэння дубоў і траў", як "лёгка ходзіць неба".

Пытанні быцця ў "іншым" свеце нярэдка знаходзяць месца ў айчыннай і сусветнай паэзіі. Тым не менш Пысін не імкнецца ставіць кропку на вырашэнні гэтай праблемы. Мяжа паміж жыццём і смерцю ўяўляецца невыразнай: "*Ведай, смерць, што існаваннем //Абавязана і ты жыццю*". Такі погляд на праблему "жыцця — смерці" сугучны светаўспрыманню старажытных продкаў. Ідэі і матывы нацыянальнай міфалогіі зрабілі значны ўплыў на паэзію А.Пысіна.



Зямля ў вершах мастака — гэта яшчэ і радзіма, вёска, месца, дзе прайшло маленства, калі ўпершыню чалавек трымаў "баразну і лейцы". Гаспадар, сейбіт – часты герой твораў Пысіна. Якое месца ён займае на сваёй роднай зямлі? Варта звярнуцца да прасторавых уяўленняў паэта, якія заснаваны на суаднясенні двух пачаткаў – неба і зямлі. Прысутнасць чалавека на зямлі абавязкова абумоўлівае наяўнасць неба. Прычым творца ўжывае не заўсёды гэты вобраз, а, напрыклад, набліжаны да яго – птушкі: "***Зямля** *кацілася з-пад ног, //Пякла да слёз жарствою, //А* ***жаўранак****, нібы званок, //Вісеў над галавою*". Пысін схільны да вызначэння такога паняцця, як "родны небасхіл" ці "неба бацькаўшчыны", падкрэсліваючы тым самым існаванне абмежаванай прасторы ў сваёй паэтычнай канцэпцыі. Але гэтая абмежаванасць знікае, калі мастак успрымае зямлю і неба як адну непадзельную частку гарманічнага свету: "***Зямныя і нябесныя** *сцяжынкі, //І што звініць, і што цвіце – //Усё мае да дробнай парушынкі, //Што ў вока часам пападзе*". Варта адзначыць, што гармонія двух пачаткаў захоўваецца, здаецца, у зусім не гарманічных абставінах. Трагедыя вайны не здольная парушыць сусветную раўнавагу, яна толькі змяняе воблік зямлі і неба: "*Зямля няжжатымі снапамі //Падпёрла бледны небакрай. //Вайна жалезнымі цапамі //Малоціць наш пярэдні край*".

Неаднойчы крытыкі адзначалі, што А.Пысін — паэт рэчыўны, зямны. Сапраўды, нярэдка лірычны герой мастака ўступае ў спрэчку з самім сабой: што яму бліжэй — зямля ці неба? І заўсёды адказ адназначны: "*Узараны нябёсы густыя, //Толькі думы усе – аб зямным*". У воблаках ён бачыць "*контуры зямных мацерыкоў*", і "*хоць жывуць нябёсы у вачах*", дзейнічае "*зямное прыцягненне*". Нават сэнс жыцця бачыцца ў тым, каб "*зразумець, чаго хацела //І чакала добрая зямля...*". У дадзеным выпадку нябёсы асацыіруюцца з нечым звышрэальным, адарваным ад навакольнай рэчаіснасці, ад таго дня, у якім жыве лірычны герой. У процівагу яму ставіцца зямное, патрэбнае для жыцця, для чалавецтва.

Тым не менш, нягледзячы на своеасаблівае змаганне ў душы героя двух пачаткаў, паэзія Пысіна судакранаецца з вялікім Сусветам, ствараючы гармонію жыцця. Паэт знаходзіць разнастайныя мастацкія прыёмы для ўвасаблення адзінства зямлі і неба ў паэтычным слове.

Найбольш традыцыйны прыём у творчасці Пысіна – аб'яднанне вобразаў у адной страфе ці ў адным радку. Сцвярджаючы неабходнасць гармоніі на жыццёвым шляху, паэт піша: *"Зямля – //у воблаках і мяце – //Ляці увысь, //Глыбока сей!"*. Мудрае назіранне за прыродай ставарае цікавы асацыятыўны малюнак: *"Не адчувае лес зямлі – //Зімою лес бліжэй да неба"*. Прырода ўвогуле нараджае новае адчуванне жыцця, навакольнай рэчаіснасці: *"Ўжо іншую бачу зямлю, //І неба, і ўсё наваколле"*. Гармонія свету ўяўляецца неўміручай спадчынай, якая адвеку перадаецца нашчадкам: *"Зямля вам і неба, дарога і дом, //І ўсё, што над вамі, //І ўсё, што пад вамі"*. Продкі пакідаюць маладым пакаленням *"крынічную мову зямлі //І неба світальныя песні"*.

А.Пысін ужывае і прамыя выказванні пра арганічную ўзаемасувязь зямлі і неба: *"непадзельнымі пакідаю //Сонца, неба і нашу зямлю"*, *"з небам у поля сумежнасць"*. Лірычны герой стварае свой уласны свет, у якім гарманічна спалучаюцца нябесныя маланкі і зямныя бярозы: *"Не будзе цесна ў ім маланкам, //Грымучым ліўням, кроплям рос, //Зямлі, што з лазні выйшла ранкам //З пажоўклым венікам бяроз"*.

Адлюстраванне сінтэзу неба і зямлі ў вершах Пысіна дасягаецца праз выяўленне руху прадметнага свету ўвысь. Адным з галоўных вобразаў, якому ўласцівы вертыкальны рух, з'яўляецца дрэва. Бяроза *"рачулкай у неба льецца"*; яблыні *"ярусамі пладоў"* уздымаюцца да зор, *"сцвярджаючы, што дол і высь — суседзі"*; *"сасна птушыная ў палёце"*, вядома ж, таксама да неба; і маладыя сасонкі *"бягуць... пад небасхіл у сцішаныя далі"*. Дрэва выступае ў якасці злучальніка двух пачаткаў, яно — своеасаблівая вось, на якой трымаецца свет. Падобна ўяўленням старажытных славян, для якіх дрэва было апорай свету, бо вершаліна яго ўпіралася ў нябёсы, а карані дасягалі апраметнай, Пысін стварае сваю мастацкую мадэль свету, дзе *"трымціць над берагам сасна, //Нібы чатыры небасхілы //Трымае на плячах адна"*.

Яшчэ адным з вобразаў, для якога характэрны рух уверх, з'яўляецца самалёт. У тым, што самалёт лятае, няма нічога дзіўнага, але ў паэзіі Пысіна гэты вобраз невыпадковы, ён ужываецца з асэнсаванай паслядоўнасцю і сведчыць пра гарманічнае суіснаванне "нізу" і "верху" і, напэўна, пра тое, што сам чалавек, які, *"на жаль, не крылаты"*, яднае зямлю і неба: *"Ўжо стала звычайным, зусім не трывожным – //Вось тут адарвацца ад ціхай зямлі. //**Зямля** даспяліла ранеты і мёд, //Садамі і мёдам запахнуць **нябёсы**"*. Пысін нават выкарыстоўвае такое паняцце, як *"дарога ў неба"*, але вельмі важна, што гэтая дарога мае два канцы і з неба абавязкова вяртаецца да зямлі: *"Бывай, самалёт! //Ты вярнуў на зямлю"*. У гэтых адносінах універсальным падаецца верш "Палёт", дзе паэт з дасканалай падрабязнасцю і філасофскай глыбінёй асэнсоўвае ўзаемазалежнасць зямлі і неба. Прызнаючы існаванне *"дарогі ў неба"*, паэт агаворваецца, што *"яе не адарваць //Ад той зямлі, дзе ўсё пачата, //Дзе родных мне магіл багата..."*. Памяць пра мінулае, далёкае і блізкае, абумоўлівае "зямное прыцягненне" лірычнага героя. Верны ваеннай тэматыцы, Пысін стварае ў вершы глыбінны малюнак смерці чалавека ў небе, "вяртання" яго да зямлі і нават у "глыбіню зямлі" (разумеем пад гэтым вобразам магілу салдата, лётчыка). Але памяць, якая, з аднаго боку, прыцягвае да зямлі, робіць подзвіг салдат бессмяротным. У выніку *"дарога ў неба"*, апушчаная да зямлі, адмаўляючы асабістую смерць, вяртаецца ў вышыню, у вечнасць: *"Адбіўшыся ў зямной спрадвечнасці, //Паўстала ў зорнай бесканечнасці"*. Такое перапляценне вобразаў ізноў сведчыць пра іх дыялектычную непадзельнасць.

Яшчэ адным прыёмам увасаблення адзінства зямнога і нябеснага ў паэзіі Пысіна з'яўляецца выкарыстанне сінтэтычных вобразаў, якія ўзнікаюць на стыку двух пачаткаў і сведчаць пра іх пераходнасць: *"сасна птушыная"*, *"воблачны сабор"*, *"нябесныя сцяжынкі"*, *"душа зямлі"*, *"дажджы зямныя"*, *"сузор'і яблыкаў"*...

Паэзію Пысіна часта называюць паэзіяй вайны, якая схільная асэнсоўваць рэчаіснасць вачыма не толькі салдата, але і

сейбіта. Варта прыгадаць арыгінальны верш "Байцам не сняцца пантэоны", дзе вызначальным для памерлых салдат становіцца *"дол зялёны"*. Але ж у паэта ёсць і іншае: "*Што сніцца ім пад небам родным //На досвітку, ў пачатку дня? //Над імі жаўранак цвіркоча, //Трапеча, долу дастае. //Нібы паднясць забітых хоча, //Ды толькі сілы не стае*". Лірычны герой мастака заўсёды цвёрда стаіць на зямлі, але адначасова цягнецца ў неба, усведамляючы яго як неабходную частку рэчаіснасці, якая разам з зямлёй утварае гарманічны Сусвет.

...Чытаю, асэнсоўваю кожны верш Аляксея Пысіна і разумею, што ў межах салдацкага погляду на жыццё мастак стварыў і пакінуў нам паэзію зямлі і неба. Яшчэ раз паслухайце: Аляксей – сеяць, высь... Ці выпадковая гэта сугучнасць?..

**Таццяна ХОМІЧ**

# Міні-ўспамін

**У**спаміны, успаміны... Яны круцяцца, коцяцца, як кола, мільгаюць эпізодамі, нібыта кадры са стужак дакументальнага фільма...

У пачатку красавіка 1961 года нашаму дорагому сябру Аляксею Іванавічу Пячорыну спаўняецца 60 гадоў з дня нараджэння — юбілей. Аляксей Васільевіч параіў мне напісаць пра старэйшага паліграфіста вобласці ў газету: былы будзёнавец аддаў друкарскай справе 47 гадоў (з 13 гадоў пайшоў зарабляць свой хлеб). Я напісаў. Аляксей Васільевіч узяў тэкст і алоўкам стаў правіць яго. Некранутымі засталіся толькі загаловак і маё прозвішча. Я сказаў, што трэба і прозвішча замяніць, бо чыёй тут працы больш? Аляксей Васільевіч засмяяўся:

— Твой допіс. Я толькі падрэдагаваў яго крыху.

І для мяне стала зразумелым, як трэба адносіцца да кожнага сказа, да кожнай думкі, да кожнага слова. Я атрымаў добры ўрок, які стараўся помніць усё жыццё: 2 красавіка 1961 г. "Магілёўская праўда" допіс з фотаздымкам А.І.Пячорына надрукавала. Якраз да юбілею нашага сябра.

На застоллі Аляксей Васільевіч не прамінуў кінуць жарт:

— Наша газета пра юбілей Кірава забылася, а вось Аляксея Іванавіча павіншавала.

Напрыканцы шасцідзесятых гадоў мне была прапанова пайсці на абласное радыё. Я зайшоў у рэдакцыю газеты "Магілёўская праўда", каб параіцца з Аляксеем Васільевічам. Нехта з журналістаў сказаў Пысіну:

— А можа, лепей узяць яго ў нашу газету?

— Не трэба, Віктар, — сказаў мне паэт. — Калі ёсць талент, то ты як селькор будзеш друкавацца.

Затым Аляксей Васільевіч стаў прыводзіць прыклады пра тое, як руцінная праца ў газеце "засушыла" таленавітых паэтаў-пачаткоўцаў. З усіх помню сёння толькі імя Лявона Анціпенкі. Аляксей Васільевіч са шкадаваннем сказаў:

— Быў бы добры паэт, але "засушыла" яго талент раённая газета.

Відаць па ўсім, успомніў сваю працу ў Чэрыкаўскай раённай газеце.

І хаця я ў сабе таленту не бачыў, так што "засушваць" не было чаго, але не пайшоў на журналісцкі хлеб, застаўся селькорам.

У карты, даміно і шашкі Аляксей Васільевіч ніколі не гуляў. Ва ўсякім разе, са мной. Увогуле, час ён вельмі бярог, ніколі не вёў пустых размоў, заўсёды займаўся толькі канкрэтнымі справамі. Нават моманты "гульні", калі такія здараліся, садзейнічалі дасягненню нейкай мэты. Колькі разоў пры мне ён рыхтаваў да друку вершы паэтаў Магілёўшчыны. Каб я не сумаваў тыя хвіліны, ён даваў мне ў рукі стос аркушаў з вершамі пачаткоўцаў і рабіў заданне:

— Віктар, знайдзі сярод іх адзін-два лепшыя вершы.

Прозвішчаў на аркушах не было. Нейкі час я засяроджана чытаў творы і адкладваў два-тры, якія лічыў найбольш цікавымі, змястоўнымі і добра напісанымі літаратурна. Часцей за

ўсё гэта былі вершы Святланы Басуматравай. Паэт быў задаволены маім выбарам. Гаварыў, што яна лепшая паэтка нашага краю, таленавітая, што ён будзе дабівацца, каб яе прынялі ў Саюз пісьменнікаў.

Пагадзіўся са мной Аляксей Васільевіч, што верш маладога пачаткоўца добры, але адзін радок сапсаваны. Гэта, на маю думку, ён тырчыць з верша, як сук з гладкай сасновай дошкі.

Другім разам паэт даў мне такое заданне:

— Віктар! Вось табе добрыя вершы. Знайдзі ў іх памылкі.

І я шукаў тыя "сукі". Калі знаходзіў, то твар Аляксея Васільевіча свяціўся ўсмешкай. І мне было прыемна.

У вершах Святланы Басуматравай "сукоў" не было.

А іншым разам у стосе вершаў, апроч вершаў Святланы Басуматравай і Змітрака Марозава, не было ніводнага без "сукоў". Тады Аляксей Васільевіч выбіраў з іх некалькі і пачынаў правіць, "габляваць сукі", каб аддаць да друку ў газеце.

— Пра добры літаратурны вечар Аляксей Васільевіч рабіў на дзесятак-два радкоў інфармацыю, якую перасылаў поштай у газету за подпісам "А.Васільеў".

Неяк ён сказаў, каб і я зрабіў інфармацыю для газеты "Магілёўская праўда".

— Не надрукуюць мяне ў гэтай газеце, — адказаў я.

— Не можа быць такога, — не пагадзіўся са мной Аляксей Васільевіч.

Я напісаў тэкст. Ён ухваліў яго. Я папрасіў паэта перапісаць тэкст сваёй рукой, паставіць подпіс "А.Васільеў" і паслаць у мінскую газету. А ягоны тэкст перапісаў я, паставіў подпіс "В.Арцем'еў" і поштай пераслаў у "Магілёўскую праўду".

Што ж атрымалася? Мой тэкст інфармацыі за подпісам "А.Васільеў" мы ўбачылі ў сталічнай газеце. А тэкст інфармацыі Аляксея Васільевіча супрацоўнік абласной газеты забракаваў, выказаўшы думку, што інфармацыя не зацікавіць чытачоў. Я з архіва дастаў яшчэ некалькі такіх адказаў з рэдакцыі газеты.

Аляксей Васільевіч быў вельмі здзіўлены:

— Гэта з-за мяне цябе не надрукавалі. А калі заходжу да іх, то прыкідваюцца сябрамі.





Памяць у паэта была фенаменальная. Калі рыхтаваў карэспандэнцыю, то запісваў (і вельмі ўважліва, амаль што друкаванымі літарамі) толькі прозвішчы, імёны, лічбы.

Цытаты з вершаў і паэм, з прозы пісьменнікаў-класікаў прыводзіў мне па памяці. Але калі надаваў асаблівую ўвагу, то пасля сваіх слоў даставаў з паліцы кніжку, знаходзіў патрэбную старонку і гаварыў мне, каб гэтую цытату я прачытаў уголас. Пэўна, для таго, каб я лепш запомніў.

У апошнія гады жыцця (відаць, для падстрахоўкі) тэксты сваіх вершаў, асабліва навейшых, перапісваў у школьны сшытак, які насіў з сабой, калі ішоў на літаратурны вечар.

Любіў Аляксей Васільевіч успамінаць пра сваю паездку ў Варшаву. Асабліва эпізоды вячэрняй прагулкі з артыстам Р.Пятрэнкам па-над Віслай. Пятрэнка хораша спяваў свае "Ручнікі" і іншыя беларускія песні. Аляксей Васільевіч чытаў вершы. Да іх далучылася польская прыгажуня Яніна. Яе прывабілі беларускія народныя песні. Яніна спявала польскія. Прыпыняліся прахожыя. Слухалі з цікавасцю.

Дзяцей (не толькі сваіх унукаў, а дзяцей увогуле) паэт любіў і паважаў. Калі на літаратурным ранішніку маленькім слухачам рабілася нецікава, то ён лічыў вінаватым толькі сябе, толькі пісьменніка. І гаварыў, што дзеці тут ні пры чым. Дзецям трэба гаварыць цікава. І гаварыць, як з роўнымі.

Не любіў паэт, калі субяседнік гутарыў з ім, павярнуўшы галаву ў бок, ці пазбягаў глядзець у вочы. А калі яшчэ суразмоўца перапыніць ягоную гаворку, то ўвогуле замаўкаў, замыкаўся ў сабе, і гутаркі больш не было.

Аднаго разу Аляксей Васільевіч па нейкай прычыне вельмі спяшаўся. Пры пераходзе праспекта Міру, насупраць свайго дома, яго збіла аўтамашына — ці то міліцэйская, ці то "хуткай дапамогі" (таксама спяшаліся). Паэт атрымаў пералом рукі (здаецца, левай, бо не перажываў). Машына тут жа спынілася. Адвезлі на траўмапункт, там урачы наклалі гіпс, гэтая ж машына прывезла яго дамоў. Вадзіцель прасіў у паэта прабачэння. А ён — у вадзіцеля. Палічыў, што сам вінаваты. Расказваў пра гэты выпадак з уласцівым яму гумарам.

Летам заўсёды, а часам восенню і вясной, Аляксей Ва-

 





сільевіч хадзіў без галаўнога ўбору. Кепку бэжавага колеру надзяваў толькі ў лес ды ў камандзіроўку. Рэчаў насіць з сабой не любіў (салдацкая звычка: "Нічога лішняга з сабой"). Аднаго разу ён падахвоціўся ўзяць у мой альбом аўтографы ў мінскіх пісьменнікаў (найперш у Янкі Брыля). Але калі ўзяў альбом у рукі, ён паказаўся яму цяжкім. Адмовіўся ад сваёй задумы.

Аляксей Васільевіч быў "жаваранкам". Ён, як і яго дзядзька Дзям'ян Пятровіч, *"дзень будзіў і сонца паднімаў"*. Затое спаць клаўся вельмі рана. Бывала, што адразу ж пасля заходу сонца. Таму ў вячэрні час я стараўся не турбаваць яго па тэлефоне.

Любіў Аляксей Васільевіч слухаць літаратурныя выступленні Валянціна Іванавіча Ермаловіча (брата вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча) і самадзейнай артысткі Лідзіі Андрэеўны Звярковай. Быў вельмі задаволены, калі яны мелі магчымасць прыняць удзел у ягоным літаратурным вечары. Гэта лепшыя чытальнікі ў Магілёве. Л.А. Звярковай асабліва ўдаваліся гумарэскі. З захапленнем успрыняў паэт выхад у свет кнігі сатырыка Апанаса Палітыкі "Маўчанне навыперадкі". У Крычаве наладзіў яму літаратурны вечар гумару і сатыры.

Аднаго разу пачалася ў нас гаворка пра паэтаў добрых і розных. Я спытаў у Аляксея Васільевіча:

— А што было б, каб усе паэты пісалі гэтак жа добра, як ён, а яшчэ лепш — як Янка Купала?

— Сумна было б, — адказаў ён.

І расказаў мне, што нехта з маладых паэтаў прапанаваў пісаць вершы толькі так, як піша іх Янка Купала, салавей беларускай паэзіі.

Але Янка Купала не ўхваліў такую прапанову. Наадварот. Ён сказаў, што вельмі любіць спеў салаўя. Але калі б і жаваранкі, і зязюлі, і шпакі, і перапёлкі, і кнігаўкі, і буслы, і вароны ды іншыя птушкі сталі спяваць усе аднолькава, па-салаўінаму, то нецікавае жыццё было б. Таму і ў паэзіі павінны быць розныя галасы, розны спеў. І калі таленавіты будзе спеў, то паэзія наша стане вельмі цікавай.

Летам 1981 года Аляксей Васільевіч па тэлефоне зрабіў мне прапанову:







— Віктар, сходзім заўтра ў Барысаглебскую царкву.

Яно б і добра было, але ў мяне на той час па раскладу ў тэхнікуме заняткі былі. А ў галаве думка: а што паэту ў царкве спатрэбілася?

Назаўтра сустрэліся. Аляксей Васільевіч перш за ўсё сказаў мне:

— Шкада, Віктар, што ты не змог пайсці са мною: так хораша ў царкве хор спявае.

Аказалася, што паэт, аматар народных спеваў, дачуўся пра тое, што ў царкве, у хоры, ёсць таленавітыя спевакі. І ён вырашыў паслухаць іх.

Хадзіў і я паслухаць той хор. Толькі ўжо без паэта...

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

## "Свет свой па-свойму ляпіць"

Колькі ні намагаюся, ніяк не магу ўспомніць той час, калі ў маё чытацкае жыццё ўвайшоў Аляксей Пысін. Такое адчуванне, што ведаю яго паэзію даўно, з далёкага студэнцкага юнацтва. Магчыма, спрычыніўся да гэтага знаёмства Міхась Рыгоравіч Ларчанка, які на лекцыях па старажытнай літаратуры многа і часта чытаў з беларускай сучаснай паэзіі. Як бы яно ні было, але адчуванне такое, што гэты паэт і ўсё ім напісанае сталі часткай майго жыцця — як прафесійнага, так і чалавечага. Зварот да творчасці А.Пысіна — з'ява для мяне пастаянная, нават абавязковая. Яго вершы хочацца чытаць і перачытваць, гаварыць пра іх, думаць, пісаць, разважаць.

Як паэт, А.Пысін надзвычай цікавы і па-свойму унікальны ў нашай літаратуры. Найперш сваёй



 

выключнай дабратой да чалавека і ўсяго жывога на зямлі. “Гэты маральны скарб, — прызнаецца паэт аднойчы, — дастаўся ў спадчыну ад маці, Хрысціны Рыгораўны”.

*І гадоў пражыў нямала,*
*А не знаю, як тады:*
*Дзе ты брала, намывала*
*Залацінкі дабраты.*

Ён і сам, як сведчаць яго творы і яго жыццё, умеў здабываць з душы сваёй і сэрца такія ж залацінкі цяпла, дабра, любові і трывожнага клопату.

У лірыцы сталага А.Пысіна няма выпадковага ці па-мастацку не абавязковага. Тут усё абгрунтавана і выверана прыроднай згарманізаванасцю навакольнага свету. Герой пысінскай лірыкі — ці гэта паэт-філосаф, інтэлігент-інтэлектуал, салдат-франтавік, ці то звычайны вясковы дзед або жанчына-маці — адно непадзельнае цэлае з натуральным прыродным светам. Такому зайздроснаму таленту чуць, разумець чалавека, яго душу, настрой, эмоцыі праз суадносіны з жыццём прыроды — травінкі, дрэва, птушкі — навучыцца немагчыма. З гэтым трэба нарадзіцца, з гэтым трэба жыць. Такое адчуванне стыхіі прыроднага свету, якое знаходзім у Пысіна, можна суаднесці, бадай што, з тым прыродным пачаткам, якім вызначаецца талент беларускага празаіка Івана Пташнікава.

Жыццё лірычнага героя А.Пысіна дакладна акрэсліваецца пэўнымі межамі яго зямнога бытавання — лес, луг, поле. І яно, гэтае жыццё, прарастае паміж дзвюма стыхіямі — сонцам і вадой, магутнымі каталізатарамі жыцця. Чытаеш пысінскія вершы і наталяешся пошумам лесу і водарам траў, акунаешся ў супакойна-задуменную цішыню адвечнай прыроднай таямніцы. Такое шанаванне дрэва, такое пакланенне дрэву, як у Пысіна, цяжка знайсці ў сучаснай паэзіі. Ёсць у гэтага паэта штосьці ад нашага прашчура — старажытнага беларуса-язычніка, які, па словах А.Ненадаўца, верыў у тое, што дрэвы “маюць душу, валодаюць пачуццямі, як і людзі, у цяжкую хвіліну абавязкова дапамогуць. Па гэтай прычыне ён пакланяўся ім, надаваў розныя цудадзейныя ўласцівасці”.



Сувязь паэтычнага мыслення А.Пысіна з духоўным светам старажытных продкаў выразная і адчувальная. І выяўляецца яна па-рознаму: ці то прытоена, ці вось так адкрыта і непасрэдна, як у наступных радках:

*А я на лясным рубяжы,*
*Прасека. Валун пад сасною.*
*Так пругка маё і лясное*
*Сплялося ў прыціхлай душы.*

*І штосьці ад дрэва ў мяне,*
*І штосьці ад птушкі журботнай.*
*І штось заміраe употай,*
*І штось ажывае ва мне.*

Менавіта такое адзінства асабістага і прыроднага пачаткаў дазваляе бачыць жыццё ў нечаканым ракурсе і па-мастацку адметна яго ўзнаўляць.

*Ўжо іншаю бачу зямлю,*
*І неба, і ўсё наваколле.*
*Сэнс вечнасці, пах яе, колер*
*Без думак і слоў пазнаю.*

І паэт востра адчувае трывогу за лёс свой, які стаў яго светам, яго сутнасцю. Гэтым светам ён так даражыць, што гатовы яго бараніць кожную хвіліну. Не адзін раз пашкадуе яго лірычны герой, што ён не ляснік:

*І чаму не стаў я леснікам,*
*Лес мой, брат мой...*
*Быў бы я тваім замком*
*І тваёю брамай.*

Яшчэ тады, на пачатку 60-х, сфармуляваў А.Пысін свой бліскучы афарызм, які выдатна раскрывае міфалагічную аснову яго мастацкай творчасці. Як і далёкія продкі-язычнікі, наш

сучасны мастак абагаўляе дрэва. Але, у адрозненне ад старажытных, абагаўляе не адзінкавае (культавае) — дуб, напрыклад, — а дрэва кожнае, усялякае:

*Кожнае дрэва — маўклівы бог,*
*Што праклён прымае і малітву.*

Прыгадвае пры гэтым і шматлікія народныя прыкметы і павер'і, звязаныя з лесам, дрэвам. Вось і маці некалі казала пра лёсавызначальную наканаванасць дрэва:

*Пад арэшынай — любімай быць,*
*Пад вярбінаю — ліць слёзы,*
*Пад рабінаю — чужых любіць,*
*Удавой застацца — лёс бярозы.*

Народнае паданне пра асіну пакладзена ў аснову верша "І чаму не ў пашане асіна?" Верш раскрывае, дарэчы, нораў, прыродную сутнасць кожнага дрэва. Як сапраўдны ляснік, паэт выдатна арыентуецца ў сваёй лясной гаспадарцы. Ён, здаецца, не абмінуў увагай ніводнае дрэва, што расце на нашай зямлі. Ёсць, вядома, і магутны *"дуб шыракаплечы"*.

Але найчасцей ужываецца міфалагема "дубы". У пысінскіх радках, як і ў часы язычніцтва, дубы жывуць адзіным, цэльным арганізмам — прыгожай дубравай-сям'ёй. Не лішне будзе сказаць, што словы "дубрава", "гай" досыць часта ўключаюцца мастаком у паэтычны кантэкст. Пра дуб паэт ведае, лічы, усё. Ён бачыў, як *"дубы цвітуць на ранняй зорцы сарамліва"*, верыў, *"быццам сваякам, дубам — задумлівым дзядзькам"*, чуў, як *"у дубах салаўі адсвісталі"*, быў запрошаны на *"імяніны векавых дубоў"*. Нават пра жалуды паспеў сказаць па-пысінску адметна, нечакана:

*Жалуды*
*Зрываюцца, як небажаты.*
*Узрываюцца, каб прарасці.*

Як жа хораша выкарыстаў пры гэтым паэт мажлівасці слова! Побач пастаўлены два дзеясловы, блізкія па свайму гукавому напаўненню, па форме, адрозныя адной толькі літарай, але якія кантрастны сэнс надаюць яны паэтычным радкам!







Побач з дубровамі (нават рэчцы даў назву мастак адпаведную — Дубравенка) у лірыцы А.Пысіна атрымалі пастаянную прапіску сасна і бяроза. Лес, дрэвы ў творчасці гэтага мастака — не толькі дужа характэрная адзнака беларускіх краявідаў, але і той магутны эмацыянальна-псіхалагічны фактар, які актыўна ўздзейнічае на лад жыцця, характар мыслення беларуса, яго душэўны вопыт. І калі за вобразам дуба праступаюць сталасць і мудрасць беларускага людства, "вечнасці рубеж", то вобраз сасны нясе ў сабе знакі нейкай асаблівай роднасці, радзіннасці. Яна прыгожая ў сваёй светлай сталасці. Яна — найбольш характэрная, амаль не падлеглая часавай дэфармацыі адзнака, прыкмета самога краю, яго жыццядзейных пачаткаў, бо вырастае на самай няўдобіцы, дастаючы жыватворныя сокі з глыбінь неўрадлівых пясчанікаў. Побач з гэтым сасна ў А.Пысіна — дрэва, якое трывала ўвайшло ў чалавечае жыццё, побыт, давала жыллё і цяпло, было вернай спадарожніцай беларусу заўсёды — ад яго жыццёвых вытокаў да апошняга зямнога быцця. Ды і потым сосны верна берагуць вечны спакой чалавека: сасна, бадай, абавязковы атрыбут беларускіх пагостаў. У часы ж вялікіх выпрабаванняў лес дзяліў заўсёды лёс людскі — хварэў, сцякаў крывёю, бараніў жыццё і паміраў за яго:

*Я гляджу — што ў свеце адбылося?*
*Вярнуўся лес туды, дзе ўпокат лёг:*
*Пасля спрадвечных хвой растуць бярозы —*
*Трагедыі лірычны эпілог.*

Нельга не ўбачыць у паэзіі Пысіна і тое, як лірычны герой, углядаючыся ў абрысы, постаці дрэў, імкнецца ўбачыць, адчуць іх душу, чалавечую сутнасць.

*Сцяжынкі лясныя стаптаны да дзір.*
*Сышлі ўжо грузды і апенькі.*
*Сустрэча з дубамі:*
*Вунь дзед — брыгадзір,*

*А той —*
*лейтэнант маладзенькі.*
*Яшчэ ты кагосьці ўявіў і пазнаў*
*У дрэве*
*з густымі брывамі.*
*Дняпроўская пушча з траншэй і канаў*
*Паўстала братамі, сябрамі.*

У такім выпадку зусім не дзіва, не фантазія і тое, што лірычны герой не толькі бачыць зрокава лясную з'яву, а і ўспрымае ў рэальным голасе, гучанні.

*Сасна паклікала, як маці,*
*Працяжна, глуха: "Аляксей..."*

Як бачым, сасна ў Пысіна не толькі светлая, з густым смалістым пахам, мокрая ад вільгаці, з клопатным голасам мацярынскай трывогі, але і заложніца маладая, што вырастае ў ахвярным сваім далучэнні.

*Калі чалавека скосіць*
*Хваробай ці нават вайной, —*
*Прысуд*
*Сасне выносяць,*
*І стане яна трунoй.*
*Уроніць з-пад небасхілу*
*І струны свае, і званы*
*І пойдзе за ім у магілу*
*Без нейкай уласнай віны.*

Лес, дрэва Пысін ведае, адчувае знутры, стварае яго аблічча ў колерах, гуках, пахах, святле, таму і карціны прыроднага жыцця ў яго лірыцы напоўнены жывым дыханнем, рухам, яны зменлівыя і дынамічныя. Нават самае далікатнае, загадкава-інтымнае — таямніца жаночай душы вачыма мужчыны — падаецца паэтам у кантэксце мастацкай вобразнасці, звязанай зляснымі праявамі: *"Цябе, як пушчу, адкрываю //У зменах часу і святла"*, — прызнаецца лірычны герой.






Дрэвы ў Пысіна адчуваюць і ведаюць усё, у іх многаму можна павучыцца, калі жыць з ім, прыродным светам, у той "стрыечнай блізкасці", якая ўласціва лірычнаму герою. Сваім відушчым зрокам выхоплівае зноў і зноў паэт тое, *"штосьці свойскае і штось людское"*, што ёсць *"у гэтых дрэў, каменняў і жывёл"*. Так, ён навучыўся адчуваць "дзявочы халадок бяроз", у чырвоным трапяткім лістку асіны пазнаваць аленя страх, валачы непамерны цяжар мураўінае ношы — у трыста пудоў, і шмат што іншае.

Напрыканцы 70-х гадоў А.Пысін напісаў верш "Калі б вясне, Дняпру і чайцы", якім адгукнуўся на заўчасную смерць свайго земляка-паэта А.Куляшова. Высвечваючы таямніцы куляшоўскага таленту, паэт з Краснаполля не прамінуў назваць сааўтараў славутага мастака:

*І лес, і поле, і рака —*
*Яны сааўтары паэта*
*Ў стварэнні слова і радка.*

Да праўды сказаць, спіс пысінскіх сааўтараў значна шырэйшы, больш канкрэтны, зямны. Усё пры гэтым высвечана аўтарскай думкай пра плыннасць жыцця і адказнасць чалавека перад рухам часу і вечнасцю. Шкадуючы, сумуючы па тым, што так імкліва мяняецца прыроднае аблічча зямлі, аўтар прыгадвае міфалагічна-старажытны прыродны свет. Там усяму было сваё месца: рэчцы з вірамі, пушчы са звярамі, таямнічасці, загадкавасці прыроды, што, у сваю чаргу, будзіла фантазію чалавека, прымушала яе засяляць той свет дзівоснымі істотамі. Лес даваў прытулак чалавеку, а той умеў разумна існаваць з усім жывым, не гнаў са сваёй сядзібы ні вужакі, ні бусла.

*Няма той рэчкі, што люляла, —*
*Час рэчку ў травы пералсыў.*
*Не знаю, многа альбо мала*
*Ў сваім стагоддзі я пражыў.*

Мяркуючы па тым, як схоплена ў канкрэтных праявах

яго, паэтава стагоддзе, можна сказаць, што ім пражыта значнае жыццё. І значнасць тая вымяраецца не колькасцю пражытых дзён, а напружанасцю думак і пачуццяў, трывожным клопатам пра заўтра, балючай памяццю былога.

Цікава і тое, што прыродны свет А.Пысіна — гэта не толькі лес з яго шматлікім птаствам і звярамі, але і *"лугоў зялёнае міжброўе"*, дзе *"густыя травы млеюць"*, дзе *"травы клаліся дзевятым валам"*. Ён, здаецца, рашыў запісаць у паэтычным радку, адбіць у мастацкім вобразе кожную рысачку, кожную драбніцу жывой прыроды, пакінуўшы, такім чынам, вобразнае, яркае сведчанне таго, што яшчэ мы маем і што можа назаўсёды знікнуць з жыцця наступных пакаленняў у стагоддзі новым. Такое ўражанне, што паэт ведае кожную травінку, кветку кожную на лугавых абшарах ці палетках ніўных. І калі ў лесе ён бліжэй да нябёсаў, да высокага святла, то тут, у царстве траў, — больш відавочным і адчувальным робіцца зямное прыцяжэнне. Добра вядомая паэту гаючая сіла травы, бо яна першая хавае сляды чалавечай нялюдскасці, жорсткасці ці бездухоўнасці:

*Учэпіста, маўкліва*
*Трава пайшла у ход.*
*Магіла — не магіла,*
*І дот — зусім не дот.*

І думка гэтая настолькі важная для паэта, што ён вяртаецца да яе зноў і зноў. Вось так, напрыклад:

*Акопы, ямы, дол парваны*
*Перада мной, перад табой,*
*Зямля травою лечыць раны,*
*Травой, травой.*

*Травой бінтуе і сшывае,*
*Зялёныя гусцеюць швы.*
*Пакуль зямля твая жывая,*
*І ты — жывы.*



Варта адзначыць яшчэ і пысінскую ўлюбёнасць у колер жыцця — зеляніну, у вяснова-летнюю квецень. Сапраўды, цяжка не паверыць, што перад табой не проста паэт-сучаснік, а добры знаўца зёлак, лекар, чараўнік, калі чуеш, што *"Трыста траў цвітуць вясной"*. Там жа, дзе адчуваецца дух замірання жыцця, у паэта дамінуюць лістападаўскі настрой, журботны тон і колер развітання.

Цікава ў гэтым плане прыгадаць і супаставіць такія вершы, як "У лузе скошаным плыве дуга" і "Ледавікі і воблакі спаўзлі". Скошаны луг выклікае ў лірычнага героя сцішана-мінорны, нават элегічны настрой. Усё актыўна "працуе" ў творы на выяўленне пачуцця смутку. Гэтаму садзейнічаюць і кожны новы малюнак, цалкам завершаны ў двух страфічных радках, і паглыбленне чарговым малюнкам агульнай карціны нейкага закончанага вітка жыцця, і дзіўнае смугі рыпенне, і адзінокая бусліха на адной назе над ціхай поймай, і жабулька ў лісці ссохлым, і зжаўцелы ліст альховы, і белы дым, што хутка паплыве над поплавам — усё пазбаўлена дынамікі, руху, пададзена мастаком запаволена, вельмі прыблізна. Па сутнасці, кінематаграфічна. Зусім іншае пачуццё выклікае вясновая карціна ў другім вершы, напоўненым жыццёвым рухам, адчуваннем свята, духам абнаўлення.

*Свячэнне крыл, і лугу, і вады,*
*Сляды на беразе вільготным.*
*Так проста ўсё вяртаецца сюды,*
*Што снілася ўжо незваротным.*

*І фестывальны вылет матыля,*
*І дзень становіцца на пятку...*
*Магчыма, ў гэты час і свет, і я*
*Зноў пачынаемся спачатку.*

У такой знешне някідкай карціне жыцця б'ецца, пульсуе вялікая праўда быцця. У маленькім, здавалася б, будзённым паэт умее адкрыць такое значнае, агромністае, што нельга не заўважыць, не адчуць касмічна-планетарны змест яго паэзіі.

Усё прыгадваецца паэтам з пэўным сэнсам і да месца: і безбілетныя жоўтыя вочы, што самалётам ляцяць, і сівая каза, што вокам янтарным глядзіць па-біблейску на свет і людзей, і чмель з яго мажорным басам, і рыжыя мурашы, занятыя бясконцымі сваімі клопатамі... Усё гэта вельмі істотна і важна для пысінскай канцэпцыі свету, паводле якой кожны з нас мог бы прыйсці ў вялікі свет і "*той бярозкаю, што ссек*", і "*той мурашкаю, што сок з пянёчка выпіла*". І каб навучыцца гэты свет цаніць, чалавек, на думку мастака, хоць раз павінен у сваім жыцці адчуць сябе "*істотай той, якою быць не выпала*".

Гэта толькі некаторыя аспекты такой цікавай і аб'ёмнай тэмы, як прыродны свет і яго мастацкае выяўленне А.Пысіным.

**Тамара НУЖДЗІНА**

# *"Сэнс вечнасці, пах яе, колер без думак і слоў пазнаю ..."*

*(Думкі пра паэзію Аляксея Пысіна як фенаменальную з'яву.)*

Гадоў пятнаццаць назад чытаў лекцыю настаўнікам у Мінскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі. Пасля чарговага сардэчнага выступу, у маркотным настроі, які больш маркотны рабіўся і па іншай прычыне: не вярнуўся з вайны бацька, не зведаў у дзяцінстве яго ласкі, што зведалі іншыя мае равеснікі. І нешта такое найшло, што ледзь пракаўтнуў камяк болю, чытаючы пысінскія радкі пра тое, што паэт-франтавік сышоў *"ад добрых сноў"*, што яму дні-днямі сняцца жахлівыя карціны: "*Мне пажары, пажары ўсё сняцца,// Я баюся аслепнуць ад іх*". Але асабліва цяжка сталася, калі выйшаў на заключную страфу твора — пра памяць, якую яму так не хочацца абуджаць, ад якой ён адгароджваецца *"гарамі, лясамі"*, якую хоча пакінуць у забыцці. А яна ўсё выплывае і выплывае з прадоння перажытага, перанесенага, жахліва-пакутнага:

*І здзіўляцца, напэўна, не трэба,*
*Калі выйду, апалены, з сну*
*І, не ўбачыўшы блізкага неба,*
*Свет абмацваць пачну.*
*Як сцяну.*

Ураждвала і да гэтага часу ўражвае метафарычнае параўнанне недаступнага асляпленаму чалавеку прадметнага, шматколернага свету са сцяной, накладванне, праецыраванне агульнаабстрактнага, агульначалавечага, маральна-этычнага на канкрэтнае. Паэт выступае ў двух радках як унікліві навуковец, псіхолаг, фізіёлаг, што выдатна прачуў канкрэтную сітуацыю: трагічнае адчуванне адгароджанасці, ізаляванасці ад звыклых для ўсіх рэальных каштоўнасцяў скалечанага бядой чалавека.

Паэзія Пысіна складваецца з каштоўнасцяў вечных, агульначалавечых, што спрадвеку абараняліся на зямлі, дэклараваліся ўсім жыццём людзей простых, "чарнарукіх" ды "дабрасэрцых", калі скарыстаць словы Генадзя Бураўкіна. Толькі ў самым пачатку творчасці, у канцы саракавых — пачатку пяцідзесятых гадоў XX стагоддзя, Аляксей Пысін быў кан'юнктурны, "паўзуча-прыземлены", бясстрасны (такі быў час, здрабніліся каштоўнасці, мастакі слова паддаліся кан'юнктуры, не вельмі намагаліся, каб пакінуць пасля сябе след, а не наслядзіць). Бясстраснасць перарастала ў рыторыку, выяўленне замянялася апісаннем, падрэзаныя ідэалагічнымі ўстаноўкамі крылы не ўзнімалі ў неба, неслі нізка-нізка над лапікам роднай зямлі. Вершы-рэпартажы, зрыфмаваныя апавяданні насялялі старонкі першых трох кніг: "Наш дзень" (1951), "Сіні ранак" (1959) і "Сонечная паводка" (1962). Замкнёнае кола. Абмежаваная прастора. Гарызантальны, лінейны час. Зусім як у купалаўскім ляўкоўскім цыкле. А прайшло ж дзесяцігоддзе паміж 35-м і 46-м гадамі, якімі датуюцца вершы-сцэнкі Купалы і яго "Госці" і "Наваселле" магілёўскага майстра:

*Наваселле у суседкі —*
*І людзей прыйшло нямала.*
*З імі ў госці, ці то ў сведкі,*
*Сонца ў хату завітала.*
. . . . . . . . . . . . . . .
*Вось і чарку ўсе паднялі,*
*Гаспадыні далі слова.*
*Сонца свеціць на медалі,*
*Захапляецца прамовай.*

Ды падобныя апісальніцтва і ілюстрацыйнасць сталіся толькі эпізодам у творчасці славутага беларускага пісьменніка. Адыгралі ролю стартавай пляцоўкі для ўзлёту творчасці. Далей адбывалася назапашванне тых каштоўнасцяў, якія мы ўжо акрэслілі як вечныя...

Так, мастак пастаянна думае пра вечнасць, пра тое, каб не зарасло травой забыцця ўсё зробленае ім і яго таварышамі-франтавікамі, тое, што дапамагала чалавеку і чалавецтву выжываць у суровых калатнечах і бойках, прарывацца з цемры да святла. Гэтыя каштоўнасці для яго настолькі дарагія і важныя, найгалоўныя ў свеце, што часам ён адмаўляецца ад канкрэтыкі ці, больш правільна сказаць, перастварае канкрэтыку ў гераічна-былиннае, іконна-велічнае. Не адкідваючы прадметнай дэталі, рэаліі, паэт, як нам думаецца, УЗВОДЗІЦЬ І ЯЕ ДА АГУЛЬНАЗНАЧНАГА, УЗБУЙНЯЕ, НАДАЕ ЁЙ АДЗНАКІ МІФАЛАГІЧНАЙ ВАРТАСЦІ І ЗНАЧНАСЦІ. Таму ў яго споведзях родная маці фактычна не мае ўласнага імя, а з'яўляецца МАЦІ АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧАЙ.

Здзіўляе "легендарызацыя" звычайнага жыцця, яго найдрабнейшых часцінак, вартых увагі менавіта з пункту гледжання іх агульначалавечай вартасці і значнасці. У сваю чаргу, яе меркай становяцца для паэта вернасць "пабрацімству мёртвых і жывых", памяці пра нялёгкае былое і народнай гуманістычнай маралі, шанаванню такіх каштоўнасцяў, як ПРАЦА, ЛЮДСКАСЦЬ, ДАБРО, ПАВАГА да ўсяго існага. Менавіта ў разрэзе падобных каштоўнасцяў паэзія Пысіна і выяўляе сябе ў першую чаргу ў асноўным пласце лірыкі. Жыццё, такім чынам, у





цэлым падвышаецца да ўзроўню пазітыўнай міфалагемы, дзе месца дысгарманічнаму, разгубленаму пачатку адведзена нязначнае (адсюль і малая колькасць сатырычных твораў), дзе ўсё па-сур'ёзнаму велічна і стала, дзе кожны выпадак, кожны лёс, кожны крок чалавецтва на зямлі выверaныя вопытам стагоддзяў, тысячагоддзяў, а таму і сыходзяцца зусім арганічна мінулае, тагачасная сучаснасць і будучыня. На аснове падобнага падыходу да рэчаіснасці нараджаецца пысінскае мысленне па формуле — ад прыватнага да агульнага, ад малога да вялікага, ад прыземлена-рэалістычнага да рамантычна-ўзвышанага, ад звычайнага да незвычайнага.

Паэт бачыць зямныя з'явы ў іх касмічным напаўненні, пад *"сокам сучаснасці"* пастаянна знаходзіць *"сок мінуўшчыны"* і *"сок будучыні"*, выплёсквае дзеянне з Зямлі ў неабмежаваную касмічную прастору. Так здарылася і ў вершы 1967-га, на той час яшчэ прыхільнага да рамантычнага мыслення, года "Сады, як белагрудыя мядзведзі...": паэт запрашае Еўдакію (імя тут асаблівага значэння не мае, бо ёю магла быць любая ЖАНЧЫНА, тая ж Ева) наведаць сад — сімвал вечнасці, даўняй мінуўшчыны (невыпадкова мільгануў у творы *"цень Адама"*) і мінуўшчыны працягам двух з паловай дзесяцігоддзяў, калі вайна катавала аднолькава і людзей, і дрэвы — усё жывое на зямлі (*"Не ўспыхвае і не трапеча лісце,// Хоць тут усё авеяна агнём,// Калі сузор'і яблыкаў пякліся// І гаслі са знявечаным агнём"*). І пасля падобнага трохчасавага даследавання жыцця заканамерна з'яўляецца значная аўтарская філасофская формула-сентэнцыя, якая, дарэчы, ніколі ў творах паэта не дамінуе, а пастаянна вынікае з паказанага, апісанага, раскрытага-адкрытага чытачу, успрымальніку-рэцыпіенту:

*Дзе ж тое дрэва мудрага пазнання*
*Дабра ці зла? Маўчаць сады. Маўчаць.*

Звернем увагу на два "фармальныя моманты", што выявіліся ў працытаваных радках. Момант першы — паэт мог закончыць першы працытаваны (у трэцім катрэне ён трэці ў

тэксце твора) радок і паставіць пытанне. Аднак ён гэтага не робіць і пераносіць заканчэнне сказа ў пачатак чацвёртага радка, заключнага ў катрэне: тым самым узмацняецца значнасць вечных катэгорый, што абараняюцца аўтарам і выяўляюцца ў словах *Дабро* і *Зло*. Момант другі — паэт не паставіў коску пасля слова "сады", не зрабіў аднароднымі выказнікі "маўчаць". Мастак падвоіў, патроіў сэнсавае значэнне, пафас выказвання, разбіўшы фразу на два сказы, адзін з якіх складаецца з лаканічнага дзеяслова з націскам на апошнім складзе. Шматзначнае "маўчаць", такім чынам, засведчыла паэтава сцверджанне патаемнасці самога жыцця, вечнасці памяці, НЕДАСЯЖНАСЦІ СПАСЦІЖЭННЯ З'ЯЎ розумам чалавека ў разрэзе, у межах *"малога часу"* (формула Бахціна). Працягваючы выказаную думку да канца, можна адзначыць, што ў цэлым класічна-суразмерная лірыка Аляксея Пысіна ўяўляе сабой варыянт "нялёгкага, сінтаксічна і інтанацыйна ўскладненага цячэння верша", як у Баратынскага і Цютчава некалі, як у нашага Купалы ў цэлым. Можа, сваім "няроўным" рытмічным дыханнем лірыка нашага паэта нагадвае лірыку А.Блока, у якой сам ён вылучаў вузлавыя словы-вобразы. Яна блізкая да дольніка, хоць і не дольнік. У ёй (пазнейшай пары) многія словы — на кошт золата.

1970 годам (самым застойным!) пазначаны вынесеныя ў загаловак артыкула радкі А.Пысіна з верша "А я на лясным рубяжы...". У кантэксце іншых твораў яны чытаюцца як запаветныя, нават некралогавыя. Паэту так хочацца ўвайсці ў храм жыцця, у нерушную прыроду ахоўнікам яе гармоніі, цэласнасці, прыгажосці і вечнасці:

*Шкадую, што я не ляснік,*
*Не мне перададзена стрэльба, —*
*Часцей бы трывожыў я неба,*
*Каб лес мой, каб свет мой не знік.*

Нават злавесны вобраз стрэльбы — сімвала смерці — тут з'явіўся некалькі нечакана і знік, бо аказаўся не на месцы і не да месца, не адпавядае высокай паэтавай настраёвасці, узнёсласці яго пачуццяў. Заўважаючы адразу, што яна, гэтая ўзнёсласць, пастаянна як бы стрымліваецца ў выдатнага майстра пачуццём унутранай засяроджанасці, светлага самадакранання. У згаданым вершы (пазней такі прыём будзе выкарыстоўвацца радзей) засяроджанасць і самадакрананне (чаму я не ляснік, чаму ў свеце яшчэ столькі невыплаканай бяды?) атрымалі сваё выйсце ў двух заключных, згадкавых, неадназначных радках, перад якімі былі два канстатуючыя — усё пра тую ж знітаванасць чалавека з зямлёй:

*З надзеяй маёй і лясной*
*Гляджу на зямлю дарагую.*
*Па чымсьці кукую, кукую*
*Высокай сваёй сівізной.*

Прачытаўшы вылучаныя радкі, задумваемся, над чым жа такім важна-нязздзейсным, патаемна-спрадвечным "кукуе" паэт. І менавіта чаму "кукуе", а не "перажывае", "думае", "трывожыцца"? Аказваецца, "кукуе" — гэта больш высокая ступень перажывання, элегійнага роздуму над нечым, не проста нейкае паведамленне. Гэта прароцтва трывожнага, невыказнага звычайным спосабам данясення інфармацыі да чытача, калі гаварыць навуковай тэрміналогіяй. Гэта вяшчанне ісціны важнай, галоўнай. Двойчы паўторанае паэтам слова "кукуе" сведчыць пра ТРАГЕДЫЙНЫ стан яго душы, пра неразуменне яго іншымі. Не выпадковы побач з адзначаным слоўна-гукавым, слоўна-дзейсным вобразам і другі — не менш загадкава-патаемны, шматзначны: "высокая сівізна". І тут адразу напрошваецца пытанне: сівізна — гэта, зразумела, сімвал перажытага, адзнака мудрасці, зведанага вопыту. А чаму яна "высокая"? І не выпадкова, бо гэта сівізна годнасці: адзінай, непадкупнай, набытай памяццю пра *"сяржантаў — маршалаў атак"*, пра продкаў, якія карчавалі ляда, сеялі жыта, кармілі хлебам краіну, пачуццём адказнасці за ўсё на свеце, падсвечаным адчуваннем уласнай віны, што сам выжыў на той вайне, а таварышы па-

леглі. Як у Твардоўскага — сапраўднага сябра беларускіх літаратараў з яго сцішана-грымотным “Але ўсё ж, усё ж, усё ж...” (віны няма перад палеглымі, ды...!).

А яшчэ верш А.Пысіна ўспрымаецца ў кантэксце класікі — нашай, нацыянальнай, і сусветнай, у тым ліку — рускай. І гэта зноў прыкмета шчыльнасці пысінскіх радкоў, шматслойнасці яго мастацка-вобразнага свету. “*І штосьці ад дрэва ў мяне,// І штосьці ад птушкі журботнай*” — гэта пазнейшае Танкава: яго ажыўленыя валуны, гаваркія дрэвы, нават “шыбы старых камяніц”; крыху ранейшае са “Стаўбцоў” і верша “Чытайце, дрэвы, вершы Гезіёда” М.Забалоцкага; і яшчэ больш ранняе цютчаўскае выказванне пра “мыслячы трыснёг”. Згадваецца, калі чытаем прыродазаступніцкія вершы А.Пысіна, і “самы змрочны паэт” XIX стагоддзя Яўген Баратынскі, прагнастычныя творы яго пра зямлю-пустэльню як вынік нялюдскага гаспадарання на зямлі тэхнічна і навукова ўзброенага чалавецтва (“Прыкметы”, “Апошняя смерць” і інш.). А хіба не ў традыцыях сусветнай паэзіі палягае пысінскае сцверджанне, якое сталася загалоўкам нашага артыкула? Хіба не цютчаўскае балючае “*Мысль изреченная есть ложь*” складае грунт аўтаравых сцверджанняў (ці не насуперак біблійнаму?) пра немагчымасць выказаць словам сутнасць бачанага, існага і ў наваколлі, і ў самім сабе?..

Аляксей Пысін — мастак традыцыйны, але не апалагет раней набытых адкрыццяў і дасягненняў. Ён пастаянна заглыбляецца ў сутнасць з’яў, удакладняючы, узбуйняючы, на першы погляд, даўно вядомае. І тым самым робіць свой “вертыкальны зрэз” рэчаіснасці нязмушана, зыходзячы з УЛАСНАГА ВОПЫТУ, падмацаванага вопытам НАРОДНЫМ, КАЛЕКТЫЎНЫМ. Ускосна мы пра гэта пісалі вышэй. Яно, аднак, патрабуе і больш шырокага каментарыя... Звернем увагу на тое, што ў спадчыне паэта невялікая колькасць твораў інтымных (пра юнацкае ці пазнейшае каханне), бадай, няма вершаў, адрасаваных бацьку (а імі ў многім адкрывалася чытачу паэзія прадстаўнікоў пасляваеннага пакалення — Барадуліна, напрыклад), мала вершаў, прысвечаных маці, канкрэтным людзям, землякам, аднапалчанам (выключэнне — “Балада пра камбата”,







“Дзед Ярошка”, раннія сюжэтна-апісальныя творы: “Наборшчыцы”, “Магілёўскія дзяўчаты”, “Цыганка” і інш.).

Аўтарскае “я” паэта інтэграванае з калектыўным “мы”. Гэтае “Мы” (“Яно”) — не ранейшае "маладнякоўскае" (рапаўскае), а нованароджанае часам “узвышэння чалавека” (назва кнігі даследчыка рускай паэзіі перыяду хрушчоўскай адлігі А.Урбана). Агульнае ў творчасці паэта непасрэдна вынікае з канкрэтнага, становіцца сродкам не толькі рамантызацыі з’яў, але і іх усвядомленай эпізацыі, гераізацыі. У асобе Пысіна, такім чынам, мы бачым фенаменальнага мастака, што як бы вяртае нашу лірычную словатворчасць да яе вытокаў, калі яна знаходзілася ў адзінстве з эпасам, вылузвалася з сінкрэтызму, як птушаня з яйка. Дарэчы, нешта падобнае мы назіраем і ў творчасці Максіма Танка — выдатнага майстра верлібру, аўтара сінтэтычных твораў, у якіх эпічнае, лірычнае і драматычнае бываюць часта паяднаныя (як у больш ранніх баладах, як у пазнейшых, поўных сапраўднага лірычнага агню сцэнках, замалёўках з натуры, дыялогах пра ўсё на свеце і пра сябе). А.Пысін вярнуў агульнаабстрактнай лірыцы, што паўтарае вечныя тэмы на новым вітку, яе прадметнасць, дасягнуўшы сапраўднага сінтэзу думкі і пачуцця, рэаліі і яе філасофска-значнага асэнсавання...

Творчасць Аляксея Пысіна — гэта творчасць пра агульналюдскія каштоўнасці, вечнасць, якая пераламляецца ў кожным імгненні жыцця, чалавечага і прыроднага. Тым яна і цікавая ў першую чаргу. І неўміручая. Яна стала незалежнай у гады вострага ідэалагічнага дыктату.

Мы чуем голас паэта праз гады — задумлівы, сцішаны, унутрана напружаны, выбуховы:

*Ведалі — з баёў не ўсе мы вернемся,*
*Зорка лёсу не адна ўпадзе...*
*А сузор’яў, што ў снягах і верасе,*
*Выпраменьванне вялікай вернасці*
*Ў сэрцы к вам, народжаным, ідзе.*

**Мікола МІШЧАНЧУК**

# Перад ягонай глыбінёю...

Кожны раз, калі еду на Мінск з родных мне Бялынкавіч праз яго гаротную, пасыпаную чарнобыльскім попелам Краснапольшчыну, дзе, нягледзячы на сумныя метамарфозы апошніх дзесяцігоддзяў, працягваюць бруіцца і звінець маляўнічыя рачулкі Травінка і Сенна, я ўспамінаю светлае аблічча паэта, яго строфы, радкі, словы. Успамінаю не толькі таму, што ён першы звярнуў увагу на мае наіўныя вершаняты, але яшчэ і таму (і найперш таму), што з гадамі разумею, якога Паэта мы страцілі... Успамінаю, як пры нашай апошняй сустрэчы ён скупа пасвяціў (частае слова ў ягонай паэтычнай лексіцы) сваёй усмешкай: "Будуць хваліць — не вер, і будуць ганіць — таксама не вер... У нас адзін суддзя — час".

Так, у паэта толькі адзін суддзя. Суддзя строгі і бязлітасны, ад якога нельга адкупіцца ні званнямі, ні ўзнагародамі, ні прэміямі. Для яго яны, у адрозненне ад людзей, не маюць ніякага значэння. Яго Вялікасць Час бярэ ў сваю дарожную кайстру толькі тое, што яму патрэбна, у чым ён адчувае пільную неабходнасць. У выніку ягонай аб'ектыўнай рэвізіі з салідных тамоў застаюцца танюсенькія кніжачкі, з кніжачак — строфы, са строфаў — радкі... І гэта абсалютна натуральны працэс, дакладней, — натуральны адбор. Праўда, бывае і наадварот. Бывае, што час раптам пачынае працаваць на паэта. І тады адкідаецца ўсё лішняе, выпадковае і застаецца толькі залаты запас, намыты штодзённай працай душы. Залаты запас, які забяспечвае жыццё Слова ў вечнасці.







Наўрад ці думаў пра свае рахункі з вечнасцю Аляксей Пысін, пішучы вось гэтыя, сёння ўжо класічныя радкі:

*Забыта многае ў жыцці,*
*З дарогі зменена і змыта.*
*Мне ўжыта хочацца ўвайсці,*
*Мне вечнасцю здаецца жыта.*

Ён проста быў сумленны перад часам і словам. Слова і жыта былі для яго, як бачыце, паняцці адэкватныя, бо акурат у гэтым заключаўся сэнс ягонага быцця ў зямным жыцці, у якім вобразы паэта і чалавека гарманічна супадалі. Яму верыш. І, можа, якраз таму яго лірыку хочацца перачытваць, да яе хочацца вяртацца, над ёй хочацца думаць, бо Аляксей Пысін — паэт глыбокі. І ягоная глыбіня чыстая. Думаецца, з часам яна стане яшчэ глыбейшай. Надзелены ад Бога найвышэйшым моцартаўскім пачаткам, ён пісаў сябе самога такім, як ёсць:

*Нішто не моднае на свеце,*
*Уся прырода — без прыкрас.*
*Ліецца дождж і вее вецер*
*У незалежнасці ад нас.*

*Хачу застацца старамодным,*
*Жадаю лёсуаднаго:*
*Быць камусьці неабходным,*
*Не адчуваючы таго.*

Я перакананы, што сёння гэты верш успрымаецца больш глыбока, чым успрымаўся пры жыцці Пысіна, і не толькі таму, што паэта няма з намі і на яго творчасць мы глядзім больш аб'ёмна ("*лицом к лицу лица не увидать*"), а найперш таму, што абвастрылася наша гістарычная свядомасць. Тое, што было для яго нормай *тады*, для многіх з нас стала ёю толькі *цяпер*.

"*На полі бацькоўскім, якое люблю, //Чытаю свае векавыя ўспаміны*", — гаварыць паэт у адным са сваіх твораў. Гэта

вельмі важнае і невыпадковае прызнанне. Дакладней — істотнае. Невыпадковае ў такіх паэтаў, як Пысін, для якога гучная фраза, прыгожы жэст дзеля жэсту не ўласцівыя. Таму і ўспрымаецца яно шматзначна, я нават сказаў бы, успрымаецца як своеасаблівы ключ да яго мастацкага свету. Так, так — ключ, бо ў аснове многіх вершаў і балад Пысіна ляжаць успаміны. Часам, чытаючы іх, амаль фізічна адчуваеш удумлівы позірк чалавека, які пільна ўзіраецца ў пражытае і перажытае. Відаць, гэта тое, што сёння крытыка называе кінематаграфічным мысленнем. І гэта, як кажуць, не выдумка маёй галавы — гэта засведчыў сам паэт.

*Жыццё маё ў двухколерным свячэнні,*
*Як доўгі фільм. Я — аўтар і глядач.*

*Ці вось яшчэ:*
*Лес і поле — міма, міма,*
*Лес і поле — чарнатроп.*
*Не бяжы, прырода, стоп,*
*Вось мой край, мая радзіма!*

Як бачым, кадры-ўспаміны, але, заўважце, "успаміны векавыя". Аўтар глядзіць на жыццё па-філасофску і бачыць яго ў трох вымярэннях, мінулае цесна пераплецена з сучасным, а сучаснае прасякнута трывогай і клопатам пра будучае. Сваё, асабістае, для паэта неаддзельнае ад лёсу "бацькоўскага поля". Канкрэтней, ад лёсу народа і яго гісторыі.

*Старажытная каплічка,*
*Гарадзішча над ракой.*
*Ледзь прыкметная крынічка,*
*Што ўзялася асакой.*
*Не, не спадчына сівая*
*І не ўцэнены тавар, —*
*Мне радзіма адкрывае*
*Ў дарагіх радзімках твар.*





І хаця чыста "гістарычных" твораў у Пысіна мы не знойдзем, каардынаты яго духоўнага быцця пазначаны канкрэтна і выразна. Гэта і старажытная шматпакутная Магілёўская зямля з Баркалабавым, дзе нарадзіўся геніяльны летапіс, які і сёння ўражвае мастацкай сілай (ці не таму "Баркалабаўскія салаўі"?), і Мсціслаў з легендарнай Дзявочай гарой, і трагічны лёс волата Машэкі, убачаны паэтам па-свойму, і руплівы мовазнаўца Бялькевіч, што не адзін год збіраў па нашых вёсках свой "Краёвы слоўнік", тых самых вёсках, у якіх і цяпер яшчэ жыве смачнае "*як полаз выгнутае — сянні*". І, вядома, вайна, якая была для Пысіна не гісторыяй, а жорсткай рэальнасцю. За плячыма гвардыі радавога Аляксея Пысіна дымілася пяць франтоў. Двойчы ён быў паранены і двойчы вяртаўся з нябыту да жыцця. А колькі разоў ён адчуваў побач дыханне смерці!

Памятаеце:

*Нядоўгі прывал. Нядоўгі начлег.*
*Пад намі снег. Над намі снег.*
*Вароты рыпяць ці нашы сляды?*
*Дарога адна, дарога туды.*

*Стралковая рота сопку ўзяла.*
*Пад намі зямля. Над намі зямля.*

Паэт усім жыццём аплаціў права сказаць: "*Ведайце, калі мяне не стане — //Я ў сваю дывізію пайшоў*". Пысін ведаў, адкуль і дзе пачынаўся яго радавод, таму "дарагія радзімкі" мінулага для яго — "не ўцэнены тавар", а неад'емная частка яго жыццёвай і духоўнай біяграфіі. Дарэчы, пра тое, што кожная з'ява ў яго жыцці мае тры вымярэнні, Аляксей Васільевіч пісаў у сваёй аўтабіяграфіі ў 1964 годзе. Несумненна, што менавіта гэтай формулы ён прытрымліваўся і ў творчасці. Інакш ці напісалася б вось такое:

*Ціха ў мінулым і ў будучым ціха,*
*З намі ўсе гукі і гул жыцця.*
*Цяжка ўздыхае зямля-парадзіха:*
*Заўтра якое ўзаўецца дзіця?*

 



Я не стаў бы так доўга засяроджваць увагу на гэтым аспекце творчасці пісьменніка, калі б аднойчы не пачуў такое: "Пысін, вядома, паэт, але ж у яго слаба выяўлена нацыянальнае". Тое, што менавіта паэтам дадзена найбольшая магчымасць выявіць дух і псіхалогію свайго народа, бо паэтычнае слова не толькі сэнсава напоўненае, але мае яшчэ і гучанне, і стылістычную афарбоўку, я ведаў даўно і Аляксея Пысіна заўсёды лічыў адным з тых нямногіх шчаслоўцаў, каму гэта ўдалося. Яшчэ як удалося! Звернемся да аднойчы ўжо згаданага:

*Жалезніца, Касцягаўка і Горна.*
*І вёска маці — светлыя Мануйлы.*
*Журба і радасць ціхая агорне:*
*Вы ёсць, не адляцелі, не мінулі!*

*Была радня аддзесьці ў Саматэвічах,*
*За Бесяддзю, за полем і барамі.*
*У вёсках тут прыгадваюць Бялькевіча:*
*"Краёвы слоўнік" разам мы збіралі".*

*Чытаю, перагортваю я слоўнік,*
*Нібы ў бабульчынай гасцюю хаце:*
*— Прысядзь, маё ты дзетка, на услоне,*
*А як жа бацька твой, а як жа маці?..*

Тут ёсць усё: і слова, і дух, і нацыянальны характар, і тая спрадвечная спагада, якую, на жаль, мы парастрэслі недзе на дарозе з вясковых хат у гарадскія кватэры. А які фінал верша! Які беларускі, знаёмы і дарагі яшчэ з маленства малюнак! І колькі ў ім ціхай і непазбыўнай, наскай, годнасці:

*А добра мне. І маці не старая.*
*І брат жывы. І ходзяць к нам суседзі.*
*Вайна нікога ў нас не забірае,*
*І дома ўсе — дарослыя і дзеці.*

*Яшчэ няўцешна ўдовы на галосяць,*
*Яшчэ касцоў гарматы не гукалі.*



*І тыя, што забіты, сена косяць,*
*Ядуць на лузе сала з агуркамі...*

Ці вось гэтыя, пранізліва-шчымлівыя радкі, у нечым нават прарочыя ў дачыненні не толькі аўтара, але і Міхася Стральцова, якому яны прысвечаны і які, дарэчы, вельмі высока цаніў паэтычны дар свайго старэйшага земляка:

*Зямля — у воблаках і мяце —*
*Ляці увысь,*
*Глыбока сей!*
*Сасна паклікала, як маці,*
*Працягла, глуха: "Аляксей..."*

"*Зямля — у воблаках і мяце...*" Зямля, якая нечакана падаражэла на іх абодвух. Амаль адразу...

Я, здаецца, занадта захапіўся цытатамі, ды што зробіш, калі цытаваць Пысіна — занятак прыемны! Больш таго — карысны. Працытаваныя радкі, строфы прыносяць не толькі эстэтычную асалоду сваёй натуральнасцю і дасканаласцю, яны яшчэ прымушаюць думаць і перажываць. Адбываецца той складаны ачышчальны працэс, які старажытныя называлі катарсісам. А гэта, як вядома, — прывілея высокай паэзіі.

Нельга не сказаць колькі слоў пра зайздроснае майстэрства Пысіна пісаць партрэты, бо яны займаюць значнае месца ў яго творчасці. Здаецца, у адным з твораў так і сказана: "*Словам малюю настрой*". А ў вершы "Валуеў" можна нават назіраць сам працэс гэтага малявання:

*Я ўспомніў прозвішча Валуеў,*
*Гвардзеец быў зусім хлапчук.*
*Малюю каску. І над ёй малюю*
*Вучнёўскі твар, вяснушак пух.*

Гэтую асаблівасць пысінскага таленту ўпершыню заўважыў яшчэ Рыгор Бярозкін: "У Пысіна апошніх гадоў яўна вырасла цікавасць да аб'ектыўнай, "прадметнай" тэмы, у прыват-



 

насці да верша-партрэта і псіхалагічнай характарыстыкі". Вельмі трапнае і дакладнае вызначэнне: вершы-партрэты. Псіхалагічна дакладныя, з цікавымі канкрэтнымі дэталямі і ў той жа час прасякнутыя ціхім, мяккім лірызмам. Не адзінкавыя, не выпадковыя, а цэлая галерэя. Вось некаторыя з іх: дзед Ярошка, Варачка, дзядзька Міхалап, Пятрусь Бядулін, сястра Проня, Анатоль Сербантовіч, чарнігаўцы... Калі ўважліва ўчытацца-ўгледзецца, у іх ёсць нешта агульнае з партрэтамі сялян Пётры Сергіевіча. Той жа беларускі каларыт, тая ж любоў да аб'екта сваёй творчасці.

У кнізе "Пячатка майстра" Міхась Стральцоў, кажучы пра вершы Пысіна, некалькі разоў ужывае слова "шэдэўр, сапраўдны шэдэўр".

Я разумею высакароднае захапленне майстра работай свайго таварыша па цэху і цалкам яго падзяляю. Тым больш, што ў нас няма падстаў не давяраць строгаму і беззаганнаму густу Міхася Лявонавіча, як і няма падстаў баяцца гэтага слова: яго першапачатковае значэнне мае на ўвазе ўзорны выраб, які сярэдневяковы рамеснік прапаноўваў высокай камісіі для набыцця звання Майстра.

*P.S.* Нядаўна, перабіраючы старыя паперы, я знайшоў у студэнцкім альбоме ягоную паштоўку:

"Дарагі Алесь!

Рад павіншаваць цябе з надыходзячым 1976-м! Няхай гэты высакосны год будзе па-сялянску для цябе ВЫСОКАЎКОСНЫМ. Каб і трава над Бесяддзю ў пояс, каб і кветак густа, і стопаў багата.

І ўсяго самага добрага.

*А.Пысін*".

У тую суровую і цяжкую для мяне зіму (першую зіму ў горадзе) 76-га я ўспрыняў гэтыя сардэчныя радкі як бацькоўскае блаславенне.

Блаславенне, ад якога мне светла і сёння.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**






# *"Свяцi, мой плёс, шумі, мой лес, напеўна...":* адкрываючы паэзію Аляксея Пысіна

Класічнымі сталі ў беларускай літаратуры па сваёй дакладнасці і выразнасці радкі Аляксея Пысіна: "*Мне ў жыта хочацца ўвайсці,// Мне вечнасцю здаецца жыта*". Творчасць кожнага паэта прываблівае чымсьці сваім. Мяне паэзія А.Пысіна ўразіла найперш цудоўнай пейзажнай лірыкай. Прычым гэта не проста нейкія замалёўкі, апісанні лесу, лугу, поля. Для Аляксея Пысіна прырода — крыніца святла, хараства і чысціні.

А.Пысін — яшчэ адзін "пясняр Бесядзі", як вобразна можна назваць тую кагорту паэтаў з Магілёўшчыны. Сам Аляксей Пысін вызначаў свой край маленства і дзяцінства як "салаўіны, глыбінны". З тонкага разумення хараства прыроды нараджаюцца нейкае асаблівае святло ў душы, адкрытасць, цеплыня. І гэта выразна перададзена ў вершах, лірыка раскрывае духоўны свет паэта. Яна — нават нейкі своеасаблівы летапіс творчага жыцця: пачынаючы з успамінаў маленства да вершаў сталасці. Хараство роднай зямлі, роднай прыроды стварылі адметны мікраклімат, мікракосмас паэтычнай душы. Мяне ўразіла, як цёпла, хораша піша Аляксей Пысін пра свае маленства, пра вытокі ўсяго — жыцця і паэзіі:

*Мы свет нанова адкрывалі,*
*Калі маленькія былі.*
*У буйным жыце прожмы рвалі*
*І бульбу ў прысаку пяклі;*

*Даследвалі наліў арэхаў,*
*Шаптанне лоз і смак суніц,*
*А цуда з цудаў — гэта рэха*
*Ў вячэрнім лузе ля крыніц;*
*Каго, каго тады гукалі?*
*Напэўна, шлях мы свой шукалі!*

Аднак нельга сказаць, што Аляксей Пысін — толькі пейзажыст. Лес яго — гэта лес франтавіка, і нямала зборнікаў, кніг прысвечана менавіта ёй, вайне, Вялікай Айчыннай, якую паэт прайшоў ад пачатку да канца, або, калі гаварыць вобразна, "ад званка да званка". Усё гэта — цяжкасці ваеннага і пасляваеннага ліхалецця — паклала свой адбітак на творчасць, светаўспрыманне. Аднак паэзія сталасці не страціла таго, першаснага, светлага і ўзнёслага захаплення жыццём, светам, хараством зямлі. Нездарма, мабыць, і свае паэтычныя зборнікі ён называе сугучна: "Сіні ранак", "Сонечная паводка", "Ёсць на свеце мой алень", "Вярбовы мост". Дарэчы, зборнік "Вярбовы мост" названы так у выніку светлага ўспаміну дзяцінства пра тыя далёкія гады ў вёсцы Высокі Барок — "малой радзіме" Аляксея Пысіна, дзе праз высахлую рэчку Палуж пралягаў не звычайны, а "вярбовы" масток. І ён добрай згадкай застаўся ў паэтавай памяці:

*Святло рачулкі. Свіст лясны,*
*Рыпенне глейкіх вёрст,*
*З тае дзіцячае вясны*
*Нясу вярбовы мост.*
*На ім — пад крылцамі стракоз —*
*Сляды маіх дзядоў.*
*Нягулка прагрымеў абоз*
*Нагружаных гадоў.*
*Любую новую бяду*
*Сустрэну, як ваду:*
*Свой мост вярбовы пакладу,*
*Над бездданню пайду.*



Аляксей Пысін, успамінаючы сваю "малую радзіму", своеасаблівае хараство гэтага краю, часта згадвае лясы Магілёўшчыны, а ў адным са сваіх вершаў піша так:

*Я веру, быццам сваякам:*
*Дарозе — цётцы гаманлівай,*
*Дубам — задумлівым дзядзькам,*
*Пчале над белаю галінай.*

Пра надзвычайную любоў да ўсяго зямнога, пра асаблівую еднасць паэта з прыродай пісаў у сваіх успамінах пра Аляксея Пысіна Віктар Карамазаў, адзначаў адну з самых прывабных якасцяў яго паэзіі — "яе надзвычайную ўтульнасць да ўсяго жывога: звяроў, птушак, мурашоў, матылёў, дрэў, людзей, зорак, рэчак. Яны не просяцца ў яго вершы. І ён, здаецца, іх не запрашае. Яны прыходзяць у верш, як у сваю хату, жывуць у ёй са сваім норавам, імем, тварам, не прынараўліваючыся да паэта, законаў гэтае хаты. Яны такія ж гаспадары ў вершах, як і ён. Яны роўныя ў правах. Яны — сааўтары.

Без іх паэт не ўяўляе ні свайго жыцця, ні сваіх вершаў. І таму ў яго няма вершаў абстрактных, сузіральных, пазбаўленых жывога дыхання.

Роўнасць з усім, што насяляе свет, з кожнай жывою душой, была ў яго ў крыві. Роўнасць і крэўнасць. Без зорнай сувязі яму, безумоўна, цяжка было б весці штодзённы дыялог з усім гэтым светам".

Гэтыя словы В.Карамазава, на маю думку, вельмі трапна і вельмі выразна акрэсліваюць унутраны свет паэта Аляксея Пысіна, акрэсліваюць духоўны стрыжань яго паэзіі — знітаванасць з роднай зямлёй, з яе зажуранымі ўвосень і ўзнёсла-раданымі ўвесну вялікімі і малымі рэчкамі, сінявокімі азёрамі, мядовым водарам лугавых траў, шчымліва-развітальным курлыканнем жураўоў, світальнай расой у яблыневым садзе... Усім гэтым поўніцца паэзія А.Пысіна. У гэтым для мяне — яе святло і хараство, яе сіла і веліч. І яе вечнасць.

Чытаючы вершы Аляксея Пысіна, адкрываеш для сябе не толькі духоўны свет самога паэта, але і глыбінную сутнасць —

святло і веліч краю. А гэта важна. Асабліва сёння, калі пакрыху пачынаюць страчвацца, сціраццa лірычнасць, пранікнёнасць. Варта згадаць, напрыклад, як надзвычай вобразна малюе Аляксей Пысін родныя ваколіцы:

*Балота патушыла аганькі*
*На сініх газавых ражках.*
*І вось над лугам плачуць кнігаўкі*
*Ў крухмальна-белых фартушках.*

Думаецца, што ў захапленні прыродай, у надзвычай чулым адчуванні яе — адлюстраванне не абыякавай да жыцця і людзей душы паэта А.Пысіна, таму што шчырасць і дабрыня якраз і пачынаюцца з любові да ўсяго жывога: з імкнення прынесці гэтую любоў да іншых, у іх сэрцы, каб было на зямлі больш чысціні і разумення. Сімвалічна гэтая думка гучыць у адным з пазнейшых вершаў Аляксея Пысіна:

*Ёсць на свеце мой алень,*
*Ёсць і гэткае маленне:*
*Будзь заўсёды у аленя*
*Цёмны мох і светлы дзень!*

*Вы, разумныя браты —*
*Я і сам страляць умею, —*
*Дайце жыць майму аленю*
*Пад галінкай дабраты.*

Многа напісана і сказана пра жыццё, творчасць Аляксея Пысіна. Мне хацелася проста адкрыць тыя старонкі яго паэзіі, якія блізкія асабіста мне, у якіх найперш мне бачыцца яго цёплы, надзвычай лірычны мастацкі свет — той “край Бесядзі”, дзівосны край, у якім жыве душа паэта, дзе свеціць яго зорка, дзе найбольш натхнёна гучыць яго слова. Пра гэта — з вышыні сталасці — піша і сам Аляксей Пысін:

*Я не спяшаюся хутчэй узяць,*
*Што б мне далося.*







*Магчыма: свеціць мой адзіны язь*
*Пяром світальным у сутоннях плёсу.*
*Шукаць не ўмею ці шукаць прывык.*
*Што ў коўш не ўлезе?*

*Пакінуты мне летам баравік*
*Зімуе ў лесе.*
*Я не спяшаюся — чакаць магу.*
*Свяці, мой плёс,*
*шумі, мой лес, напеўна.*
*Калі ж аб тым, хто ў большым з нас даўгу, —*
*То гэта я, напэўна.*

*“Свяці, мой плёс, шумі, мой лес, напеўна...”* — жадае Аляксей Пысін краю, апетаму ў сваёй паэзіі. Гэта былі яго адвечныя мерыдыяны, велічны і ўзнёслы Сабор яго душы — менавіта такой адкрылася і ўбачылася мне, ды і не толькі мне, яго паэзія, прысвечаная роднай зямлі.

**Маргарыта ПРОХАР**

# Балада другой смерці*

*Памяці Аляксея Пысіна*

Крылы, як жораў,
Ён склаў і зламыў.
Вынеслі ў морг яго сцежкай хаджалаю.
Толькі ўначы ён знячэўку ажыў,
З лаўкі ускочыў, нібыта уджалены.

Сэрца калолі
Цвікі-асцюкі, —
Ледзь, атэіст, ён не выгукнуў: “Божачка!”
Злева і справа, нібы сваякі,

Шэрыя муміі немых
Нябожчыкаў.

Ціша з-пад столі,
Як зерне з каўша, —
Туга на плечы і — ў морга завоіну!
Ды не ўпала у прорву душа
Ратніка бітвы сусветнай
І воіна.

З лёсам, журбой
Дзівака-куліка,
Хоць па-набатнаму сэрца і бухала.
Каменем важкім свайго кулака
Біў ён у дзверы,
Марозам набухлыя.

І нападпітку
Дзядок-вартаўнік
Той, што дружыў са спажывай, з пад'ездамі,
Крыгу дзвярэй ледзь адсунуў і — знік,
Голас падаўшы з падворка,
Як з бездані.

Ноч, за мітрэнгу
Даруй і прабач!
Вочы такога б ніколі не бачылі!
Моўк вінавата галоўны урач,
Позірк адводзіў убок
Па-сабачаму.

Думна нямелі
Ў палаце сябры
Ранкам, што шэрхнуў крылом сівагракавым.
— Віця, вазьмі ды адсюль забяры! —
Рукі цягнуў ён з мальбою
Да Ракава.






Сябра прасіў,
А не тую куму,
Што памагае прыбрацца і выбрыцца.
Ведаў, напэўна, што болей яму
З кіпцяў касой нізавошта
Не выбрацца.

Божа, навошта
Так жорстка караць?!
Там, на вайне, што навылет рашэціла,
Колькі прыйшлося разоў паміраць,
Колькі разоў уваскрэснуць
Пашэнціла!

Быў ён баец —
Уварві ды падай! —
Не на курорце, на фронце знаходзіўся.
Тройчы без вестак, як дым, прападаў.
Тройчы жывы сярод мёртвых
Знаходзіўся.

Божа, надзею
Навошта даеш
Зноў на жыццё, а хаця б і гаротнае?
Скрухі, маўляў, ты скарынку даеш
З векам на пару, што смагу
Ледзь коўтае.

Бачыў, як кулю
Прасілі байцы,
Кулю збавення ў смяротнай агоніі.
Лепш бы рукамі цяпер — за канцы
Электраліній рвана-
Аголенай!

Ці ж не балюча
Глядзець з-пад павек,

Бы з-пад рабога намоклага полага?!
Лепш бы уміг і цяпер, каб — навек,
Як ад снараднага ўзбліску
І сполаху!

Чым правініўся
На тым, межавым,
Грозным загоне, дзе свет перакулены?
Можа, што з фронту вярнуўся жывым,
Хоць, нібы дрэва,
Падсочаны кулямі?

Ботаў не купіш,
Не знойдзеш бахіл,
Гэткага герба, з сярпом і калоссямі,
Каб стараной абмінуць небасхіл,
Што, нібы века, звісае
Над лёсамі.

Гнуцца, скажу,
Ён не гнуўся дугой,
Знацца не знаўся і з догмаў канонамі.
Толькі ці думаў, што смерцю другой
Знікнуць яму, адысці
Накановнна.

З рук ірвануўшыся,
Вобад стырна
Колам кульгавым у вечнасць пакоціцца...
Ў хаце хаўтурна нямела труна.
Гнуўся абраз па-сялянску
На покуце...

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

---

* Факт, які меў месца ў біяграфіі паэта.









# Аксана Забужка

...лэдзі і джэнтльмены, прашу не спяшацца кваліфікаваць разглядаемы выпадак закаханасці як паталагічны, бо апавядальнік яшчэ не сказаў галоўнага – галоўнае ж, лэдзі і джэнтльмены, палягае ў тым, што ў жыцці паддоследнай то быў першы *ўкраінскі мужчына*. Сапраўды – першы.

Першы *гатовы* – каго ***не*** трэба было вучыць украінскай мове, цягаючы яму на спатканні, выключна каб пашырыць супольную ўнутраную прастору для паразумення, кніжку за кніжкай з уласнай бібліятэкі...

*Аксана Забужка, вядомая ўкраінская пісьменніца, кандыдат філасофскіх навук, з'яўляецца аўтарам трох арыгінальных паэтычных кніжак — "Травневий іній" ("Травеньская шэрань") (1985), "Диригент останньої свічки" ("Дырыжор апошняй свечкі") (1990), "Автостоп" (1994), двух зборнікаў выбранай паэзіі — "Каралеўства Зрынутых Статуяў" (1996), выдадзенага ў Таронта ў перакладзе на англійскую мову, і "Новий закон Архімеда. Вибрані вірші 1980—1998" (2000). Акрамя таго, Аксана Стэфанаўна — аўтар аповесці "Інопланетянка" (1992), рамана "Польові дослідження з українського сексу" (1996, 1998, 2000) і "Казкі про калинову сопілку" (2000), а таксама літаратурна-філасофскіх даследаванняў "Дві культури" (1990), "Філософія української ідеї та європейський контекст: Франківский період" (1992; 1993), "Шевченків міф України: Спроба філософського аналізу" (1997), "Хроніки від Фортібраса. Вибрана есеїстика 90-х" (1999, 2001).*

*Раман "Польові дослiджання з українського сексу", напісаны ў 1994 годзе ў Амерыцы, выклікаў у свой час, без перабольшання, эфект выбуху бомбы. Амаль адразу ён быў перакладзены на англійскую, французскую, нямецкую і іншыя мовы, а яго аўтарка — вядомая абмежаванаму колу аматараў паэзіі на абсягах былога СССР — ператварылася ў пісьменніка сусветнага маштабу. Вось як адгукнуліся на першыя публікацыі "Палявых доследаў..." "Slavic and East European Journal": "Кніга адразу ўражвае чытача наватарствам формы і арыгінальным падыходам да такіх адвечных тэмаў, як каханне, жыццё і творчасць, пераплеценых з тэмамі выключна ўкраінскімі... "Палявыя доследы ўкраінскага сексу" — сведчанне унікальнага моўнага майстэрства Забужкі..." і "Литературная Газета": "Уражанне каласальнае... Ад банальнага "жаночага" рамана ці папулярнай яшчэ да нядаўняга часу "чарнухі" гэты раман адрозніваецца наяўнасцю стройнай сістэмы аўтарскіх эмоцый і рэфлексій, што якраз і выступаюць арганізуючай асновай тэксту. Тым болей, што асноўная тэма рамана не жаночая, а чалавечая..." А таму не дзіўна, што папулярнасць рамана з кожным годам не зніжаецца, а толькі расце. Расце і колькасць ягоных перакладаў на замежныя мовы — у 2001 годзе "Палявыя доследы ўкраінскага сексу" былі апублікаваныя ў Чэхіі, Польшчы, Расіі. Прыемна паведаміць, што на гэты раз беларускі чытач здолее не адстаць ад суседзяў і азнаёміцца з сусветным бестселерам на роднай мове.*







# Сястра мая чарнакніжніца

Раман стаўся скандалам. Ужо сама назва "Палявыя доследы ўкраінскага сексу" здавалася ледзь не парнаграфіяй у краіне, дзе сексу ўвогуле, як вядома, не было, у дзяржаве "з кодэксам прымусовага шчасця". (Тут і далей цытую Аксану Забужку.)

Пяць гадоў таму (вяртаючыся да жыцця пасля ўласных палявых доследаў украінскага сексу) я чытала тэкст са змешаным пачуццём захаплення творчай смеласцю аўтаркі і крыўды за знявечаную нашу — агульную — усежаночую таямніцу. Жанр вызначаўся прыблізна: проза паэта. У насычаны вобразнасцю энергійны тэкст упляталіся цалкам самадастатковыя эсэ, прарываліся рыфмаваныя радкі і строфы, уперамежку з якімі траплялiся старонкі, круцейшыя за інтымныя дзённікі дам галантнага стагоддзя.

Нядаўна я зноў звярнулася да рамана — цяпер ужо як перакладчыца паэтычных радкоў. І раптам прыйшло разуменне, што ў інтрыгуючай назве твора ключавое слова не секс, а *ўкраінскі*. Тут жа здагадку арганічна пацвердзіла і сама аўтарка: "Галоўнае ж, лэдзі і джэнтльмены, палягае ў тым, што ў жыцці паддоследнай то быў першы *ўкраінскі мужчына*. Сапраўды — першы. Першы *гатовы* — каго ***не*** трэба было вучыць украінскай мове, цягаючы яму на спатканні, выключна каб пашырыць супольную ўнутраную прастору для паразумення, кніжку за кніжкай з уласнай бібліятэкі (Ліпінскі, Грушэўскі, ні пра Горску ён таксама не чуў, ані пра Світлічнага, у яго былі зусім іншыя шасцідзесятыя, добра, я табе заўтра прынясу!)".

І згадалася наша першая сустрэча з Аксанай.

Алма-Ата 1986 года, чарговы Усесаюзны фестываль маладых паэтаў. Урачыстасці адбываліся на тле першага за гарбачоўскай перабудовай уздыму нацыянальнага пытання: бязлітасна разагнанай стыхійнай дэманстрацыі казахскай моладзі. Тым не менш, лейтматыў той трагічнай падзеі чуўся ў Алма-Аце, здавалася, паўсюдна. І звезеныя з усёй імперыі маладыя паэты, на думку ідэолагаў, павінны былі яго заглушыць разнамоўнымі вершамі. Але, калі ўдзельнікаў фестывалю запрасілі на планавую сустрэчу ў ЦК Кампартыі Казахстана, нацыянальнае пытанне загучала напоўніцу. Ды – дзіўная рэч – не казахскае, а... украінскае. Падняла яго Аксана Забужка. Гучным, добра пастаўленым выкладчыцкім голасам (яна ўжо на той час абараніла дысертацыю і чытала лекцыі ў кансерваторыі) Аксана запыталася ў казахстанскага сакратара пра тое, ці маюць магчымасць чытаць нацыянальную прэсу і атрымліваць адукацыю на роднай мове два мільёны ўкраінцаў, якіх некалі прымусова перасялілі ў братнюю рэспубліку. Мне пытанне падалося амаль рытарычным, але Аксанін імпэт, ейная энергетыка рабілі цалкам рэальным чаканне асэнсаванага адказу. Праяўлялася зайздросная якасць: пачувацца пераможцай нават у безнадзейных бітвах.

Напэўна, і самая моцная жанчына марыць пра сустрэчу з тым, хто мацнейшы за яе. У гераіні "Палявых доследаў" такая сустрэча адбываецца. Лёсавызначальная. "Адразу выказала – першаму ў жыцці! — гатоўнасць саступіць: упершыню – бо мела справу з *мужчынам-пераможцам*. Украінец – і пераможца: дзіва, яй-богу, у сне б не прыснілася, — чаго мусілі каштаваць яму толькі семідзесятыя-васьмідзесятыя ў правінцыйным мястэчку, лічы, у падполлі..."

Такі вось эратычна-палітычны раман у наўпростым і пераносным сэнсе! Перыядызацыя зусім як у гісторый (ці ў гісторыі літаратуры): шасцідзесятыя, семідзесятыя, васьмідзесятыя... І сітуацыя для нас, беларусаў, на жаль, не рэтраспектыўная: "Цэлую маладосць яна імкнулася вырвацца з лёхаў, дзе атрутна смярдзела напаўстлелымі талентамі, жыццямі, дагніваючь у безрухомасці, прэллю і цвіллю, нявымытым прысакам марных намаганняў: украінскай гісторыяй".

"Палявыя доследы" – паэма з героямі. Паэтка і мастак, дзве асобы, якія амаль аднолькава адчуваюць час і прастору, паяднаныя спачатку творчасцю, а потым ужо – жарсцю. Гэта тое пачуццё, да якога спрычыняюцца божыя ці д'яблавы сілы. І тады ўжо людзям немагчыма ні знайсці ўладу над імі, ні выйсці з гульні.







Мастацтва, каханне... Шукаю апошні складнік трыяды. Мова! Словы, што гучаць з вышыні фалічнай Бабілонскай вежы, — зразумелыя ўсім закаханым і паэтам. Але ў свеце суцэльнай вербальнасці нават пачуцці патрабуюць перакладу. І тады *"нібы галосіш: "Мой вырак! Мой смутак" // На мове, якую не ўцямяць, крычы – не крычы"*. Парадокс публікацыі, якая прапануецца сёння "крынічанскаму" чытачу, палягае ў тым, што пераклад адбыўся з мовы, "якую не ўцямяць", на мову, якую не ўцямяць яшчэ больш, у межах якой нават з'яўленне бестселера здаецца неверагодным.

Мова "Доследаў" шырокая, як і іх геаграфія. Тонкая гульня сэнсаў, жывое пульсаванне лексічных пластоў (ад украінскай аўтэнтыкі да ангельска-амерыканскага слэнгу і выразаў, друкаваныя вобразы якіх сталі магчымыя толькі са знікненнем цэнзуры), гранічная адкрытасць пісьма – на мяжы (ці адсунуўшы мяжу) — зрабілі раман адным з самых яскравых твораў украінскай літаратуры канца XX стагоддзя.

Колькасць перакладаў на іншыя мовы (цяпер ужо – і на беларускую) сведчыць сама за сябе.

І ўсё ж... Каб напісаць *так*, патрэбна было прайсці своеасаблівую ініцыяцыю, у метафізічным сэнсе – *памерці*. Праляцець над безданню і пакінуць на яе дне сябе-іншую: сваё каханне, досвед, час. І не азірацца болей. Гэты тэкст не столькі акт творчай смеласці аўтаркі, колькі сам яе лёс. Яе самагубстваўваскрэсенне. Яе варажбіцкая чорная кніга.

Стаўлю пытанне да сябе: "А ты здолела б?" І разумею, што адказу быць не можа, бо падобныя творы не выплываюць з павольных плыняў роздумаў і задумаў. Ачышчаныя пластамі свядомасці і падсвядомасці, яны выпульсоўваюць з глыбіняў, як крыніцы. І не баяцца перашкод.

**Галіна БУЛЫКА**

# ПАЛЯВЫЯ ДОСЛЕДЫ ЎКРАІНСКАГА СЕКСУ

## Ад аўтара

*Раман, прапанаваны чытачу, меў шчасце набыць скандальную рэпутацыю задоўга да выхаду ў свет. Яго чарнавая версія, раздрукаваная ў свой час у Пітсбургскім Kinko Copies лікам 12 асобнікаў, з меркаванняў чыста практычных (каб не знікла падчас пералёту праз Франкфурт), і раздадзеная аўтаркаю сябрам "пачытаць" (пераважна ў спадзяванні дачакацца разумных парад), цалкам нечспадзявана зрабіла вокамгненную кар'еру: яна спарадзіла самвыдат. У Нью-Йорку і Чыкага, Парыжы і Мюнхене, Кіеве і Львове запрацавалі капіравальныя машыны, ксераксы ні ў чым не вінаватага чарнавіка, перадаваныя з рук у рукі, развяліся між людзей, быццам мышаняты, і праз некалькі месяцаў у кіеўскай кватэры аўтаркі раздаліся міжнародныя званкі: адразу з дзвюх заходніх краін ёй пагражалі судом і забаронай права на ўезд.*

*А яшчэ кажуць, быццам літаратурай у наш час ніхто не цікавіцца, спрасонку падумала аўтарка і падалася да Сашка Задзіракі замаўляць з сябе новы, як мага шыкоўнейшы фотапартрэт... для магчымай судовай справы. Тым часам вакол рамана закружлялі перакладчыкі яшчэ з чатырох краін, і просты падлік паказваў, што калі ўсё будзе як след (пастукаць па дрэве!), дык пад канец стагоддзя перад сардэчнай даследчыцай украінскага сексу пагодзяцца адчыніць браму хіба толькі якія-небудзь дзяржавы Цэнтральнай Афрыкі або Ціхаакіянскага архіпелага. Кепска абазнанай у міжнародным праве, але, як усе пісьменнікі (нават і ўкраінскія!), не пазбаўленай маніі велічы, аўтарцы ўжо мроіліся дыпламатычныя канфлікты, незлічоныя ноты да ўкраінскага ўрада і, нарэшце, поўная міжнародная ізаляцыя нашай незалежнай дзяржавы. Ну, а пасля такога недалёка было і да танкаў акупацыйнай арміі. Спалоханая падобнай перспектывай, аўтарка, па натуры лаяльная грамадзянка і патрыётка, вырашыла, што мусіць задушыць катастрофу ў зародку, і з гэтай мэтай даводзіць да ведама чытачоў наступнае.*

*1. Дадзенае выданне – адзінае, прызначанае для друкавання рамана.*

*2. Любыя іншыя, у выглядзе ксеракопій, версіі маюць пірацкае паходжанне, і за іх цыркуляцыю ці магчымае выкарыстанне па-за ведамам аўтаркі яна адказнасці не нясе.*

*3. Раман, пра што не цяжка даведацца са слоўнікаў паняццяў, – то жанр мастацкай літаратуры, а не раздзел з асабістай (ці судовай) справы аўтара, – згодна з чым ад усіх магчымых аналогій паміж апісаным у дадзенай кніжцы, з аднаго боку, і рэальнымі асобамі і падзеямі, з другога, аўтарка папярэдне адмяжоўваецца (французы ў такіх выпадках кажуць: хай будзе сорамна таму, хто пагана пра тое падумаў).*

*Напрыканцы аўтарка выказвае сардэчную падзяку сябрам, што стаялі ля вытокаў гэтай кніжкі і, кожны па-свойму, спрычыніўся да з'яўлення яе на свет: Ліндзе Рэйдэр і Лісі Сапінкопф – за ідэю, Міхалу Найдану і Расціславу Байковічу – за дзейную дапамогу ў яе ўвасабленні, Аскольду Мельнічуку – за маральную і прафесійную падтрымку, без якой з гэтага б нічога не атрымалася або, у крайнім выпадку, атрымалася б нешта зусім іншае.*

*Ну вось і ўсё, любы мой чытач. За акном у мяне то сонца, то мігціць у залеву над пячорскімі пагоркамі ліпеньская навальніца, на суседскім гаўбцы натхнёна галосіць ашалелы певень, пад гаўбцом прытулілася парачка – і не заўважае, што дождж перастаў, звоніць тэлефон, і я, з пяшчотай і жалем, стаўлю кропку ва ўсёй гэтай гісторыі: як звычайна сканчалі свае пасланні старажытныя, я сказала – і ўратавала сваю душу.*

**Аксана ЗАБУЖКА**

### Кіеў, 31 ліпеня 1995 года

Яшчэ не сёння, кажа яна сабе. Не, яшчэ не сёння. У кухні – малюсенькі *eat-in kitchen*[1] (лядоўня, электраплітка, шафкі з абы-як начэпленымі дзверцамі, што натапырыліся – не ўвярнуцца, няма сілы ўхіляцца, быццам сківаца на нервова-несамаўладным аблічча, усё гэта адгароджана невысокай дашчанай стойкай, штосьці накшталт шынкарнай, – на яе можна проста з тае вузенькай аборы падаваць у пакой – а як жа ж, чаму не! – ну хаця б ранішнюю каву, або на абед – падсмажанае куранятак, як тое ў тэлерэкламах: залаціста падскарыненае, трапяткое ад спелых сокаў, і з какетліва падабранымі ножкамі, ускладзенымі на лапуховае лісце салаты, засмажанае куранятак заўсёды выглядае шчаслівейшым за жывое, проста праменіцца цудоўным смуглявым румянцам ад уцехі, што зараз яго з'ядуць, – можна таксама падаваць які-небудзь джус ці джын з тонікам у высокіх таўстабокіх шклянках, можна з ільдом, кубікі, калі чэрпаць, смешна шаргацяць, можна і без лёду, увогуле, мажлівасцяў безліч, трэба толькі адно – каб нехта *сядзеў* па той бок іхняй доўбанай загароджы, у якой, здаецца, завяліся мурашы, бо па стальніцы раз-пораз паўзе нешта, што ў гігіенічным амерыканскім доме не павінна бы поўзаць, ды і ў неамерыканскім таксама, – нехта, каму ты ўсё тое дабро мусіла б, прамянеючы часопіснай усмешкаю, з кухні падаваць, а паколькі там ніхто не сядзіць і сядзець не збіраецца, дык ты наважылася была ўзгрувасціць на стойку імправізаваны зімовы сад з двух бяскрыўдных вазонаў – тры тыдні таму, калі ты сюды ўсялілася, дык былі: пышная цёмна-зялёная кучма ў вогненна-жоўтых кветках – раз, і густыя караллі лускатых, падобных на пластыкавыя, чырвоных бубак на высокіх сцяблінах з элегантна завужаным лісцем – два; зараз абодва вазоны маюць такі выгляд, нібы тры тыдні іх штодня палівалі сернай кіслатою, – на месцы былой кучмы аблавуха звісаюць некалькі пажоўклых лісцікаў з няроўна абгарэлымі берагамі, а колішнія тугія чырвоныя пацеркі чым далей, дык усё болей нагадваюць сушаную шыпшыну, дзеля нечага паначапляную на рудыя цурбалкі, – найсмяшнейшае, што ты якраз не забывалася, палівала "зімовы сад", ты песціла яго, як вучыў Вальтэр, а як жа, ты *жадала* нечага жывога ў той чарговай, няведама якой з шэрагу-яму-ж-няма-заканчэння, тагачаснай хаце, дзе бруды ўсіх папярэдніх наймальнікаў неадмыўна ўсмакталіся ў кожную шчыліну, так што ты і не бралася іх адмываць, – але подлыя амерыканскія бур'яны аказаліся задужа далікатнымі для тваёй дэпрэсіі, якая неўскаламучана насычае прастору ў гэтых чатырох сценах, узялі дый здохлі, палівай не палівай, – а ты яшчэ хочаш, каб цябе трывалі людзі!), – вось так, у кухні са здзекліва-дурным боўканнем крапае вада ў ракавіну, і няма чым перакрыць той гук – нават касеты не паставіш, бо партатыўны магнітафончык таксама чамусьці сапсаваўся. Праўда, яшчэ за акном, вузенькім, як адчыненыя дзверцы шафы, цёмным у гэтую пару ("блайндэрсіў" ты не апускаеш, бо насупраць усё роўна глухі мур), за супрацьмаскітнаю сеткай, быццам засеўшы ў ёй, настырліва стракаціць, як той далёкі тэлефонны званок, нябачны цвыркун, – вось таксама настырліва стракаціць і тая думка, можа, гэта ўвогуле яна і стракаціць, – а чаму б не зараз?.. Не ўжо?.. *Чаго* чакаць?..

Лагічна ўзважыўшы – нічога. Ну проста-такі зусім.

Паўупакоўкі транквілізатараў плюс галяк, – і выбачайце за няўдалы дэбют. Старалася шчыра, сумленна, а што ні фіга не атрымалася, дык сумленней будзе адразу здаць карты – не гулец з мяне і зараз, далей будзе яшчэ *хрэновейшы*: прагляду не бачна, а сілы ўжо не тыя: не дзяўчынка.

І ўсё ж такі – не, не сёння.

Яшчэ пачакаць. Дагледзець той фільм да канца. У адрозненне ад тых, якія транслююцца па тутэйшых "паблік чэнэлз", – калі ў найнапружанейшыя хвіліны з халадком міжвольнага страху сочыш, як герой імчыць у парожнім тунелі, дзе з-за рогу на яго вось-вось вываліцца страхотная пачварына, спахопліваешся – ды гары яно гарам! – што ўсё павінна скончыцца як след – яшчэ дзве-тры хвіліны, сутычка, куча мала, покат па падлозе, і пачварына, тагасветна зароўшы, нейкім там дзівам раструшчыцца ў прах, а адважны, толькі крыху паскубаны герой, апавіты дымамі пажару, пераводзячы дух, прыгорне да сябе ўратаваную Шэран Стоўн ці тую другую кралю, чарня-

венькую, як-яе-там, – і нарынулы было непакой умомант з’яўляе ўсю сваю смяхотнасць: зноў тым галівудскім хеўрам удалося, бадай на імгненне, цябе ашукаць! – у адрозненне ад тых фільм, які ты ўсё-такі не адважваешся выключыць, не абавязкова павінен скончыцца шчасліва. Але, аднак, выключыць – недаравальнае свінства. І глупства. І дзівацтва: не вывучыў урок, не пайду ў школу. Не, золатка (“золатца”, іранічна выпраўляе яна сябе: так звяртаўся да яе той мужчына, якому зараз, мусіць, яшчэ паскудней, чым ёй, але тое ўжо не мае ніякага значэння), – не, сачкануць не атрымаецца: адбудзь усё па парадку, дык мо і ведаць будзеш, чаго ты сапраўды вартая. *Зразумела?*

*Запішы словы, татуіроўку зраблю*, груба і развязна падхопліваецца ў ёй зусім іншая жанчына, цынічка з відавочна прыблатнёнымі, нібы з “зоны” прывезенымі манерамі, здатная, часам калі што, і матам засандаліць: калі чалавек у цэлым (кожны!) – адна вялікая вязніца, дык звычайна раней тая лотра жыла ў ёй дзесьці ў самай далёкай камеры, выходзячы вонкі рэдка, толькі калі даводзілася сапраўды крута і солана, ды і тое быццам напаказ: *З-закалябалі,* – казала скрозь зубы ў хвіліны раздражнення, трасучы галавою і сама сябе гамуючы[2] з’едлівай усмешкаю, або, травячы паслясмак чарговай крыўды (крыўдаў апошнім часам выпадала болей чым дастаткова!), з угнеўлена выпнутымі вачыма пераказвала сябрам: *Дзяўчо-пахолку з мяне зрабіць хочуць – а на вось!* – біла сябе рэбрам далоні па згібе сціснутай у кулак левай рукі, – у Амерыцы блатная бабёнка навучылася лаяцца па-ангельску, асабліва гожа атрымлівалася ў яе *“Шшіт!”* – кацячае шыпенне з выгнутай дугою спінай, а таксама пагардлівае *“О, кам он – гіў мі а брэйк!”*[3], якім аднойчы апераазала была таго мужчыну, – наогул менавіта з тым мужчынам тая, па-вядзьмарску раскудлачаная, з нездарова бліскучымі вачыма і зубамі і нейкім нябачным, але адгадваемым лагерным мінулым, штораз вырывалася на пярэдні план, размашыста трушчачы крохкі посуд незапоўненых спадзяванняў, той мужчына вызваляў, выклікаў яе на сябе з найдалейшай камеры – толькі пачуўшы, у першай жа сутычцы, тую яго брутальную, мардабойную інтанацыю: *“Ты мне скажы – на хера я сюды ехаў, я дома такіх самых прыбамбасаў меў – вось так во!”* – лотра радасна кінулася яму напярэймы, пазнаўшы партнёра, толькі ў гэтым яны і былі партнёрамі, – і ўжо не ўтаймоўвалася, распанеўшы ва ўмовах ніколі раней не знанай свабоды: *“Я ўчора галаву пачаў ляпіць”*, – браўся ён апавядаць у яе прысутнасці калегу-скульптару, і лотра ірвалася наперад, губляючы шпількі і гузікі ў нястрымным захопе слоўнага вывяржэння: *“Ну нарэшце, зляпі сабе, сэрца, галаву, зляпі – не зашкодзіць!”* – ён цямнеў з выгляду так, быццам замест крыві ў твар кідаўся атрамант, нахіляўся да яе вуха: *“Перастань мяне підйобуваты!”* – вядзьмарка, пускаючы дым, рагатала ў сярэ-дзіне яе, упершыню за доўгі час хоць нечым задаволеная: *“Гэй-гэ, сэрца, – дзе тваё пачуццё гумару?”* – *“Я яго на той кватэры пакінуў”*, – ляпаў ён: з тае кватэры яны, дзякуй Богу, выехалі, і найлепей было б яе пасля іх апячатаць бадай на паўгады, пакуль выветрыцца чумны дух, – *“Ну збегай, прынясі,* – шчэрылася вядзьмарка, – *я тут пачакаю”*, – *“Ключ здаў”*, – ляпаў ён, ставячы, як яму здавалася, кропку, але памыляўся: *“Ключ здавала – я, а ў цябе быў дублікат”*, – адбівала яна: шпаркае, імклівае фехтаванне кпінамі, за якім чужаніцы проста не ўсачыць, не, што б ні казалі, а з іх была пара, не абы-што! А зараз – зараз, калі той, кляты і памяты, прасмалены бедамі дазвання, з перагарэлым на ацэтон, але ўсё ж непазбытым духам выжывання (***адкуль*** гэта ў табе, з ласкі Божай?), якраз бы і запанаваць над цэлаю вязніцаю, узяўшы адказнасць за далейшую хаду ў ёй сякога-не-якога жыцця, раздаючы на ўсе бакі загады: туды, у тыя дзверы – прэч, а вось тое смецце – зараз жа на фіг павыносіць, а гэты той адсек тамвось-ось – праветрываць, у ім ад гэтага часу музей будзе, а гэта яшчэ што за пачвара тут бадзяецца і слініць – ану пшла прэч *(зляпі сабе, сэрца, галаву, зляпі!)*, – лотра (так-такі і лотра!) сходу адступілася, размазалася па нейкай найдалейшай сценачцы, не бачна – не чутно, і па ўсіх апусцелых памяшканняхператворанай у суцэльны атвор вязніцы разгукаецца зусім іншы, кволы і безадказны, пацярушны нейкі, голас: шоргаецца тудысюды няроўнымі дробнымі крокамі, туп-туп-туп – і спынілася, – і б’ецца аб муры, у адным і тым жа месцы, з кожным разам

губляючы сілу, – і скуголіць, скуголіць, скуголіць небарака, нялюбая, пакінутая на вакзале дзяўчынка, згодная ісці на рукі да кожнага, хто скажа: "Я твой тата", ды толькі хто ж такое скажа трыццацічатырохгадовай бабе, – вось тую дзяўчынку і ты сама ў сабе не любіш, ты ад падлетка намагалася трымаць яе ў най-глушэйшым заканурку сутарэння, без хлеба і вады, і каб не паварухнулася, – але ж вось, аднак, здолела ацалець, і як яе цяпер суцішыш – цяпер, калі здаецца, што, акрамя яе, іншай цябе – няма, не засталося?..

Заматлялася ты, "золатцэ". Вох, заматлялася. Зусім выпруцілася – трэці месяц у цяглiцах трасца не сунімаецца, зранку, прачынаючыся (а асабліва цяпер, калі прачынаешся – сама), першае, што адчуваеш, – сваё паскоранае сэрцабіццё, якога нічым не суняць, – добра, што хаця спіш ужо без транквілізатараў, і тыя страшэнныя прыступы сухіх ванітаў, якія знясільвалі былі па начах, нагадваюць пра сябе хіба калі чысціш зубы і заглыбока засоўваеш шчотку – кароткім нудотным вывертам, несвядомай клеткавай згадкаю пра ўласнае дурное падпарадкаванне неадкладна, ад першай хвіліны, – напачатку яшчэ хаця б з узбуджальна-пажадным нашэптваннем, а па некалькі тыдняў ужо проста сухім, загадным зваротам: *"Вазьмі ў роцік... Глыбей вазьмі... Глыбей, ну!"* – сухая лыжка рот дзярэ – эге ж, вось так, – напачатку і яна яшчэ спрабавала неяк паразумецца, растлумачыць, што і ёй таксама, у сваю чаргу, спачатку дзесьці чагосьці хацелася б, і не толькі "там": акрамя палавых органаў, цябе ўва мне больш нічога не цікавіць? І: калі ў цябе былі нейкія планы на сённяшні вечар, дык не зашкодзіла б даць мне магчымасць даведацца пра тое да таго, як я пайшла спаць, – замест таго, каб сядзець і драпаць сваю графіку, і ўвогуле я, ведаеш, не люблю распранацца сама... Добра, – весела абяцаў ён, – мы табе заўтра такую ўверцюру забацаем! – заўтра, аднак, так ніколі і не настала. Хадзі сюды – але я ўжыла снатворнае – ну значыць, на "ім" і заснеш. Божа, які то быў жах. Ці магчыма ўвогуле зразумець свет людзей, якія мысляць пра свой уласны палавы орган у трэцяй асобе? Калі табе кажуць, а той мужчына толькі так і казаў, – "Раскрый "яе", ты адразу пераносішся ўсімі думкамі ў гінекалагічнае крэсла, – бо не ***"яна"***, гэта ***ты*** раскрываешся – або закрываешся: як у тым выпадку – намёртва. *Ды ведаеш ты, колькі ў мяне жанчын было! – і ніводнага разу не было такога, каб – пагана, проста пагана!* Але ж, табе не было, а ім, – у іх ці ты калі пытаўся? Я таксама не ўяўляла, што так бывае, – толькі ж як пагана, каб ты, галубок, ведаў! *Чаму гэта ты кусаешся,* з дзіўным, шкляным спыненым паглядам спытаў ён, пасля маркетавання, у адну з першых вашых начэй, седзячы і палячы ў цябе ў нагах, *што гэта за справы,* – тым часам ты, раскінуўшыся на падушцы, бяздумна пахіхікваючы, гладзіла яго па галаве выцягнутай ступнёй, у цябе былі цудоўныя ногі, усе дыёраўскія-сэн-ларанаўскія мадэлькі на сваіх жардзінах павінны былі ад выгляду такіх ног недкладна пайсці і ўтапіцца, гэта зараз ты ўжо другі месяц не вылазіш з нагавіцаў, бо лыткі распярэсціла, як мапу, архіпелагам разнатонавых, чырванаватых і брунатых, лускатых і злушчаных плямаў – шнары, парэзы, апёкі, наяве прадэманстравана гісторыя дзевяцімесячнай (а то ж, дзевяцімесячнай!!!) *mad love*[4], з якой атрымалася – сапраўднае *madness*[5], а тады ты проста гладзіла яго нагою па галаве, перанасычаная пяшчотай, ідыётка слінявая, жорсткі мужчынскі "вожык" прыемна пакалваў цябе ў ступню, – і знянацку ён, спрытна выкруціўшыся, прыціснуў тваю нагу да пасцелі: *дык так? Табе, значыцца, падабаецца кусацца? А як мне зараз спадабаецца цябе падпаліць, што тады?* – і ты ўбачыла падсунутую да твайго падкалення запальнічку, і, замест каб спалохацца пад прыцэлам упершыню тады перахопленага, немігаючага і не па-чалавечаму – *неяк інакш,* злоснага і бязглуздага, на мяжы ашчэранай усмешкі з нахабна выпнутымі з-пад верхняе губы ікламі, запытальнага пагляду, ад якога з таго часу заўжды баранілася – смехам, адно крыху здзівілася, не тое каб зусім свядома – дзіўна, да якой мяжы ягоная прысутнасць, быццам дынамітам, заглушала ў табе ўсе, да тае пары ненаўмысна развітыя, абарончыя інстынкты, якія сплывалі, як тая рыба дагары чэравам, пакуль раку і надалей сатрасала – выбух за выбухам.

Не, прадчуванні – былі: прадчуванні ніколі не здраджваюць, гэта толькі мэтанакіраваная сіла нашага "хачу!" перабівае

іхні голас, замінае дачуцца. У першы ж вечар, на тым гарадскім фэсце, дзе ўсё і пачалося, – а ён тады сходу ірвануў да цябе, маўляў толькі цябе і чакаў: "Пані Аксана, я – Мікола К., можа, вам паказаць места, можа, звазіць на замак, у мяне машына", – да слыннага замка было хвілінаў дзесяць шпацыраваць пехатою па зацішных, абсаджаных зграбнымі барокавымі цэркаўкамі брукаваных вулачках, піжон шэляговы, падумала ты, закусіўшы ўсмешку, правінцыйны фраер, глядзі як нарцысічна заклапочаны – беленькі каўнерык з-пад швэдра, дагледжаныя пазногці (гэта ў мастака!), не моцны, якраз у межах, пах дэзіка – кацяра з сівым "вожыкам" і шальмоўскім зеленавокім прыжмурам, троху падзёрты, разбэшчаны артыстычны шарм, сухія зморшчыны ўсмешкі, парабацелыя мяхі пад вачыма, – "*а ты сказала,* – узгадваў ён пасля, калі ў іх пачаўся быў працэс стварэння той супольнай міфалогіі, без якой ніводнай пары не абысціся, – з легендаю пра Залаты Век фазы закаханасці, з уласнымі дробнымі абрадамі і рытуаламі, – пачаўся, ды адразу ж і абарваўся, – *ты сказала – валі з пляжу, дзядзя",* – ну, дапусцім, не так, калі дакладней, не зусім так, але зацікаўленасці не выявіла, што праўда, дык праўда, – таму тым дзіўней быў вечар таго дня, неспадзяваны сполах яскрава акрэсленага, пранізлівага ***бачання наскрозь***, якое, грэх наракаць, ніколі цябе на стромкіх паваротах не пакідала, вось ты яго – гасіла-такі, і не раз, ды яшчэ як! – увечары, у самым разгары фэставай праграмы, у густых выпарэннях поту і алкаголю, куды ты зайшла з эстрады, адчытаўшы сваё – два вершы, два халерна добрыя вершы проста ў нецвярозае гудзенне злітых у адно наўкольнае міргаценне жаўтаплямных фізіяў, а дакладней, паверх яго – трымаючыся за гук уласнага ні на што не зважаючага, толькі на словы падуладнага голасу, прылюднага аргазму, вось як тое называецца, што ўстаўляе публіцы – заўсёды і паўсюль, нават калі словаў ніхто ні фіга не цяміць, нават у чужамоўным атачэнні, упершыню ты тое зведала некалі на пісьменніцкай сходцы ў адной азіяцкай краіне, дзе цябе дзеля прыліку папрасілі прачытаць на роднай мове – *you mean, it is not Russian*[6]? – і ты стала чытаць, ад крыўды і роспачы (астапранцавацелі са сваім *Russian*'ам яшчэ тады!) слухаючы






толькі ўласны тэкст, хаваючыся ў яго, як у асветлены дом заходзячы і зачыняючы за сабою дзверы, і на паўдарозе нечакана звярнула ўвагу, што гучыш у звонкай, прыгаломшанай цішы: ***мова***, дарма што незразумелая, на вачах у публікі злучылася вакол цябе ў празрыстую, зменліва-бліскучую, быццам з рэдкага шкла выплаўленую, сферу, усярэдзіне якой, гэта яны бачылі, чынілася нейкая варажба: штосьці жыло, пульсавала, выпроствалася, раскрывалася прадоннямі, набягала агнямі – і зноў захіналася імглою, як належыць шклу ад заблізкага дыхання, ты адчытала – апавітая, прасветленая і абароненая, вось тады дык і ўцямілася, што дом твой – мова, якую па-путнаму хіба яшчэ некалькі соцень душаў на цэлым свеце і ведае, – заўжды пры табе, як у слімака, і іншага, неперасоўнага дома не суджана табе, кабета, як бы ты ні дрыпалася, – потым усе тыя пыхлівыя, лысыя, чорна-кучаравыя, у цюрбанах і без, доўга і ўсхвалявана трэслі табе рукі, не даючы, між іншым, прайсці да прыбіральні (ад іхняе млосна-водарнай кухні твой страўнік рашуча адмаўляўся і сурміў, курва, басам якраз у тыя хвіліны, калі варта было пачціва дзякаваць), – з таго часу ніводная зала цябе б не збіла – а хаця б перад крымінальнымі злачынцамі! – эксгібіцыянізм там ці не, уласны тэкст бараніў цябе ад здзеку і прыніжэння, ты чытала, як пісала – на голас, кіруемая самарухомаю музыкаю верша, да гэтага працэсу сведкі звычайна не дапускаюцца, акрамя як у тэатры, чым жа, магчыма, і праймае, і фэставае стойла таксама прыціхла дзесьці пасярэдзіне твайго выступу – аблямавала шкляную сферу і са згодаю задыхала ва унісон, і вось калі ты, астываючы ад воплескаў, ужо не на эстрадзе, а ўнізе, у напаўцемры, у нейкім учэпістым сяброўскім колцы: парка, дымна, хтосьці наліваў, хтосьці смяяўся, твары мільгацелі адасобленымі кадрамі, – выпрастала руку ці то па працягнутую цыгарку, ці то па келіх, той мужчына на імгненне апынуўся поруч, маўляў, спатыкнуўся аб цябе мімаходзь, – з запаленымі, што ў той коткі, у прыцемку вачыма захоплена патыхнуў гарэлачным духам: "Ну, ты і даеш!" – і таксама мімаходзь, не спыняючыся, спрабаваў сціснуць табе руку, перахапіць яе, сягаючую па цыгарку (ці келіх), – ты запомніла гэта таму (бо ж хто толькі ні ціснуў табе руку ў тым натоўпішчы!),

што вось гэтым нязграбным рухам, неяк напярэймы ўрэзаным у напрамак твайго ўласнага, нібыта ўездам з разгону пад "цагліну" і міліцэйскі цвірчок, ён балюча падламіў табе вялікі палец, – і цвірчок секануў адразу ж – штуршком, бліскавіцай прамільгнула скрозь цемру – дзіўнае для таго разгубленага імгнення, акрэсленае і цвярозае скразное разуменне: нібыта нейкі чужаніца спакойна, сур'ёзна, суцэльным сказам прамовіў у галаве: **"Гэты мужчына зробіць табе балюча".**

Менавіта так, слова ў слова, а значыцца, меўся на ўвазе ўжо ніяк не падламаны палец, і ты цудоўна тое зразумела. Вось у чым уся рэч, даражэнькая, – што ўсё ты, ад самага пачатку, ведала, ды не, ведала яшчэ і да пачатку: дзесьці за тыдзень перад той паездкаю на фэст аднойчы ўвечары агаленыя нервы, балюча-смагна, як бывае толькі ўвосень, адкрытую для свету – насустрач яе згасаючым фарбам і таямнічым шолахам у засынаючай лістоце, – запеленгавалі былі ўрывак, які ты тады не ўцяміла і таму не запісала: *"Штось зрушылася ў свеце: хтось крычаў /Скрозь ноч маё імя, нібы канаў на дыбе, /І хтось на ганку лісцем шамацеў, /Варочаўся, а сну не дачакаўся. /То быў урок навукі развітанняў /З пытаннем: як адрозніць боль смяротны /Ад болю жыватворнага (пісаў /Лісты мне хтосьці, але ў грубку кідаў, /Радка недапісаўшы). Хтось чакаў /Чагосьці ад мяне, а я маўчала. /Вучылася навуцы развітанняў"* (Тут і далей пераклады вершаў – ***Галіны Булыкі.*** – **А.Астраўцоў**), – вось і спраўдзілася ўсё да слоўца: вучыся, вучыся цяпер "навуцы развітанняў" – і з жыццём, і з сабою, з дарам сваім нешчаслівым, які цяпер ужо наўрад ці здужаеш узняць – калі дагэтуль, заўваж, ні разу не выціснула гэтую штангу на вышыню поўнага рыўка.

Ай, маці яго за лапу...

Не, хай бы хто-небудзь усё ж растлумачыў: якога ***д'ябла*** было нараджацца на свет жанчынаю (ды яшчэ і на Украіне!) – з гэтаю блядскаю *залежнасцю,* закладзенаю ў цела, як бомба запаволенага дзеяння, з несаматойнасцю гэтай, з патрэбаю пепатапляцца на вільготную, хлюпаючую гліну, утаптаную ў паверхню зямлі (знізу, заўжды любіла – знізу, распрас-



цёртай на спіне: толькі так і пазбаўлялася ад сябе канчаткова, зліваючыся рытмам уласных клетак з праменным пульсаваннем абсягаў свету, – з тым мужчынам ні разу нічога падобнага не было, у імгненне, калі яна, здавалася, вось-вось пачынала ўязджаць, ён, не спыняючыся, пракідваў яе зверху рэзка выдзьмуханым: *"Мда, тут трэба роту жаўнераў!"* – гэта смяшыла, але не болей: *"Што яшчэ за заявы?"* – абражалася яна: не на слова, на адасобленасць тону, – *"Дурніца ты, гэта ж камплімент! – табе ўвогуле трэба б з двума мужыкамі спрабаваць, ведаеш, як бы тое табе ўставіла!"* – цалкам мажліва, што і ўставіла б, нездарма я ж любіла пад час маркетавання кусацца, упівацца вуснамі ў палец або плячук, зацягвацца да ачмурэння глыбачэнным пацалункам, храмавай прастытуткай – вось кім я мусіла быць у папярэднім жыцці, але ў гэтым – у гэтым, сэрца, мне вох як не ўсё адно, з кім я: прыгадваю, аднойчы ў нью-йоркскім метро, дзе я сядзела, з галавою абрынуўшыся ў апошні раман Тоні Морысан, нехта пляснуўся поруч са мною на сядзенне, усім целам прыціскаючы да металёвых парэнчыкаў, – і мяне імгненна апякло чыстым, як высокі музычны тон, запалам такога пажаднага эратычнага закліку, што плоць адразу ж адгукнулася ўзбуджаным набрыняннем, што разбуялася ўсярэдзіне, як вясновае дрэва; адначасова я сцяміла, што гэты мужчына – хто б ён там ні быў – ужо некалькі прыпынкаў навісаў быў нада мною, і каб мы не былі людзьмі, дык павінны былі б ужо зараз маркетавацца проста на той запляванай падлозе, бо ж, маркетуючыся па-сапраўднаму, злучаешся не з партнёрам, не, – з разбуялаю ананімнаю сілай, якая працінае сваімі струменямі ўсё жывое, падключаешся да яе дзеля таго, каб абы на некалькі секундаў – а-ах! – катапультавацца ў вібруючае агністымі контурамі чарноцце, якому няма ні наймення, ні вымярэння, на чым стаяць усе паганскія культы, ды толькі хрысціянства прыпісала гэтае зліццё да ведамства Чарнабога, замураваўшы чалавеку ўсе выхады з сябе, акрамя адзінага – праз верх, дзе да нашае пары, хаця па сутнасці і постхрысціянскай, ужо адсечаны шлях для вяртання назад, у аргазмічнае свята сусветнай еднасці: мы, кожны паасобку, безнадзейна заражаныя праклятай свядомасцю важкасці і зашчэм-

ленасці ўласнага "я", і таму пераможна-чысты, гучны і высокі музычны тон памкнуўся і згаснуў у маім целе адразу ж, як толькі той, справа, – *загаварыў*: недзе праз прыпынак адгукнуўся, з дзікунскім акцэнтам, спытаў, што я чытаю: вучуся, ці як? студэнтка? – вось тут я ўпершыню *зірнула* на яго – то быў малады, дзесьці пад трыццатку, невысокі, але ладна збіты, быццам з цэльнага кавалка адліты "шпік"[7], яго прыгожыя, быццам слівы, вачышчы, што засціліся хціваю шызаватаю імгліцаю, якія паглядалі на мяне, кожнае з-за кратаў свайго жыцця, сотні людцаў розных нацыяў і колераў скуры выпнуліся адтуль на хвілінку – можна, а чаму ж не можна – гэта выйсце назаўсёды; *"Pardon me?"* [8]– перапытала я тым наўмысным вострым голасам, якім адшываецца нахабнік, і той Хуан, ці Пабла, ці Педра, адразу ўцяміўшы, што – усё, канец, кантакты выкручаныя, – "не, нічога", прабурболіў і яшчэ штосьці далей мармытаў сабе пад нос, ужо па-свойму, – магутны стваральны заклік яго цела скамячыўся, скурчыўся, стаў хутка-хутка вычухвацца, поруч са мною сядзеў звычайны сабе прычэпа-эмігранцішка – затым неўзабаве і ўстаў, і пашыбаваў – ці да выхаду, ці куды яшчэ, я ўжо не цікавала, вярнуўшыся да кніжкі: *асоба,* толькі вызірнуўшы, развадзіла *плоць*. Можа, сапраўды адзінае выйсце з тае вязніцы – выходзіць увечары, нізка захінуўшы твар каптуром плашча, сядаць у праезджае аўто, не называючы імя, рука кіроўцы на калене, нізкі, асіплы смяшок, гарачкавы шоргат лішняга адзення, не трэба ўключаць святла, не трэба расплюшчваць вачэй, слухаць адно клекаценне крыві, мужчынскую партыю ўдарных і сваё, ці ўжо-не-сваё, расчыненне-рассоўванне, *вох, як ты класна раскрылася,* ну! ну! яшчэ! яшчэ! – ды толькі ж яны ўсе хочуць *размаўляць*, хочуць адсёрбнуць, распырскваючыся слінаю і спермаю, глыточак *цябе*: а што ты чытаеш, а куды ідзеш, а ці маеш мужа, трэба прыдумляць легенду, "Как вас зовут? – Ирина!", – было, было раз і такое, скончылася моцным, да жалезістага прысмаку, пацалункам у пад'ездзе, выслізнула – уцякла, смеючыся пра сябе, ім усім трэба *перамагаць,* вось у чым справа, шчыра, няхітра браць і даваць, як вуглекіслата-хларафіл-кісларод, яны не ўмеюць (і той мужчына, які зараз гібее дзесьці ў пенсільванскай пушчы з






адзінакроўнае ласкі братоў-дыяспарнікаў, без цэнта за душою і без слова ангельскай [а меў жа час падвучыцца, прыд-дурак!], – эх, як жа ўскінуўся, як па-конску тады ўскінуў быў твар угору, быццам пугай сцебануты, калі ты, усадзіўшы яго за столік у кавярні, спрабавала, усю сваю вытрымку на дапамогу паклікаўшы, унесці хоць якую тэрапеўтычную акрэсленасць у тую двaістую душэўную і цялесную нямогласць, – усё праўда, сэрца, і што я цябе ўжо не кахаю – таксама праўда: *"Дык ты што,* – клацнуў лязом угору, быццам сцізорык, – *"пабядзіцельніцай" пачуваешся?"*, – здаецца, так і засталася сядзець з разяўленым ротам: Мікола, дык ці ж мы з табою ў перацягванне каната забаўляемся?.. *"Ведаеш,* – і зноў быў той злавесны немігаючы пагляд, быццам *нешта іншае* глядзела скрозь ягоныя рэзка абведзеныя запаленымі павекамі вочы, як скрозь прарэзы маскі, – *каб ты была мужыком, я б табе зараз уваліў!"* Дужа міла з твайго боку, каханы, – мне і самой часам вох як шкода, што я – не мужык). *"Жанчына ты. І ў тым твая мяжа. /Твой месяц спіць у срэбнай пене грэшнай. /Нібы карыца з вастрыя нажа, /У кроў тваю цярушыцца залежнасць"*, – мармытала пра сябе ў тыя страшныя зімовыя месяцы, па-іншаму страшныя, чым гэтыя, восеньскія: палова студзеня, люты, сакавік – ніводнай звесткі і ніводнае магчымасці хоць што-небудзь даведацца – праз Атлантыку, з Кембрыджа – з украінскага правінцыйнага мястэчка, з ацяпляемай дровамі майстэрні на гарышчы пакінутага дома без адраса і тэлефона, без клазета і гарачай вады, толькі з голаю лямпачкай на скручаным дроціку пад столлю, з палкаю каўбасы і бляшанкай растваральнай кавы на запэцканым фарбамі нізенькім століку, *хоч' канапку? во, яшчэ памідорку маю, хоч'?* Божа, жыве ж мужык – як сабака валацужны, да шостай раніцы не кладзецца спаць, з-за мальберта аўтамабіль той свой беспрытульны – безгаражны! – праз акно пільнуючы, у дваццаць пяць, нават у трыццаць такое яшчэ магчыма стрываць: звярыная энергія вывозіць, – але ў сорак! Тым часам у яе кембрыджскай хаце, якую заставалася адно перамерваць няўцямнай хадою з кута ў кут – ад уваходных дзвярэй да кухні і назад (праца, дзеля якой быццам бы і прыехала ў Штаты, развалілася, як той бяздарна змацаваны картачны бу-

дыначак), – нешта няўцямнае рабілася з тэлефонам: штораз яе палохалі на золку хімерныя званкі, зрывалася, хапала слухаўку: "Хэло!" – дзесьці далёка на бязмоўнай лініі свістаў пахопісты вецер і глуха грукацеў акіян, некалькі хвілінаў неабжытая, бязлюдная прастора над паўночным паўшар'ем нагадвала ёй пра сябе, нібы сапраўды ў ёй "хтось крычаў скрозь ноч маё імя, нібы канаў на дыбе", – і не мог дакрычацца, пасля чаго нямы сігнал абрываўся: падводна-зеленаватым ззяннем запальваліся пукатыя кнопкі на слухаўцы, і выбурбольваў з раструба бяздушны зумер, – га, у вас абодвух хапіла б моцы сапсаваць усе тэлефонныя лініі над Атлантыкаю, тая ашалелая, прагная да жыцця моц фугасіла з яго карцін і тваіх вершаў, ты пазнала яе адразу, як толькі-толькі, апынуўшыся ў яго ў майстэрні і начапіўшы акуляры з тоўстымі шкельцамі, стала перад палотнамі, і ён таксама мусіў пазнаць тваю, – тваю, якая ў тыя зімовыя месяцы, так нечакана і ўпокат зрынутая са сваёй, толькі напярэдадні набытай восі (бо ты была – жанчына, жанчына, хай яму стонаццаць д'яблаў: павойная расліна, каторая без стромай падпоры, хай бы нават і надуманай, – без канкрэтнага аблічча жывога кахання – ападала долу і марнела, губляючы ўсю энергію на вераб'іны разгон: кожны верш быў цудоўным байструком ад якога-небудзь князька з зоркаю ў ілбе, зорка звычайна потым згасала, верш – заставаўся), – пакінутая без дагляду, тая сіла разрывала цябе з сярэдзіны, люта драпалася ў сценках тваёй істоты і пырскала ў роспачнай ашалеласці, – *"І голасам драпежным, ваўкаватым /На лямпу выць ды кіпцюры ўтыркаць /У плоць шпалерную – ад спасцігнення страты, /Ад ісціны – цябе дарэмна ўжо чакаць"*, – ажно пакуль, адным сакавіцкім днём, не абпаліла ўсё нутро моташная думка, што ён – памёр, вось проста ўзяў ды памёр, "умазаўся ў кропачку", як і хацеў (прызнаўся ёй у гэтым ледзь не напачатку – з крывою ўсмешкаю разганяючы аўто, як самалёт на ўзлётнай паласе, сярод ночы на загараднай дарозе, і мокрыя ліхтары ў дробнаігольчатай срэбнай аблямоўцы, і чорны алейны бляск сустрэчных калюжын, – усё злілося, імкліва паімчала на пярэймы, захопліваючы дух, сто, сто дваццаць, сто сорак, сто... сто шэсцьдзесят? – *не баішся? не ўзнікае жадання – умазацца ў кропачку?* – не, не баюся, не было ў мяне сапраўднага страху, ды, калі шчыра, і цяпер няма – дзіўна і незразумела, асабліва прыняўшы на ўвагу цалкам маё, ах растуды ж яго, катаржанскае жыццё, што някепска распачалося, пры нараджэнні – клінічнаю смерцю, мама прыгадвала, што вунь і цурок калу звісаў з азадачка, і цельца ўжо пасінела: вытыркнула душачка нос на свет і залемантавала – э, не, пусціць назад! – а яе, дзякуй, адкачалі, а калі так, дык няма чаго плявузгаць, ёсць рэчы, страшнейшыя за смерць, і я іх ведаю, толькі ад *таго* страху – зманлівага і цёмнага, вабна-прыцягальнага захаплення *згубаю,* якое ёсць у ім, і ў іншых я часам яго распазнавала, – няма ўва мне, і капец, вось таму ён і паглядаў на мяне з іскрамі непрыхаванага зорнага захаплення, нават калі ўжо было ўсё роўна: "А ты адважная жанчына!", – і "кропачка" тая праскочыла тады паўз мяне, не спалохаўшы), – але гэтая думка – што ён памёр, што тыя загадкавыя тэлефонныя званкі сапраўдытакі ад яго: з "тамтэйшага боку", а значыць, што яе каханне не абараніла яго, што яна сама нарцысічная эгаістка, ганарлівасцю сваёй дурною, пыхою таннай, бурчэннем пустапарожнім падштурхнула яго да "кропачкі", дзе ж там, прынцэса знайшлася: ах так? ну што ж, тады я паехала, – ведама ж, Амерыка – *the land of opportunities*[9], паў-Еўропы, не нашай доўбанай, а найсапраўднейшай, ад Брытаніі да Італіі, сюды ірвецца, грошы, кар'ера ("Музыка, жанчыны, шампанскае...", – адгукаўся ён іранічным рэхам), а на Украіне што, Украіна – Хронас, які хрумкае сваіх дзетак з ручкамі і ножкамі, што ж, так і сядзець, пакуль жаба цыцкі дасць, ці пакуль дыяспарныя дзядулі, калі клімакс стукне, – прэмію Антановічаў? – вой, Божа ж мой, ды ***чаго*** яно ўсё на фіг вартае, калі раптам ён памёр, што, што, што з ім здарылася?! – гэтая думка была настолькі нясцерпная, што, выскачыўшы на ганак задняга двара, узняўшы твар да зменлівага, шпарка цямнеючага кембрыджскага неба ў наплывах хмарнай гуашы, усхліпваючы зліплымі ад сядзення і палення лёгкімі ледзьве ўлоўны павеў акіяна, яна стала маліцца – так, як перад тым малілася толькі двойчы, раз за бацьку, які далежваў у лякарні пасля ўжо непатрэбнай аперацыі і гадзінамі курчыўся ад страляючага метастазамі болю (а да наркоты-

каў яшчэ не дайшло), – абы Бог паслаў яму хуткі канец, і другі, сорамна ўзгадаць, – за незалежнасць, тады, 24-га жніўня дзевяноста першага года, калі ўсё вырашалі гадзіны, як яно зазвычай і вядзецца ў жыцці людзей і народаў: Божа, прасіла ў трасцы, дапамажы – не дзеля нас, бо нявартыя ясьмо, а дзеля ўсіх палеглых нашых, што несць ім ліку, – і абедзве малітвы былі пачутыя, *такія* малітвы да адрасата заўжды даходзяць, а тут яна ўпрошвала: Божа, зрабі так, каб ён быў жывы! – хай бы забыўся на мяне, хай бы вярнуўся да жонкі, хай бы здраджваў з кім ні патрапіла, – не патрэбны мне ён як муж, і нічога ад яго не трэба, як на тое Твая воля, Спадару, я буду кахаць іншага, з іншым нараджу дзяцей, толькі – о Божа, хай ён будзе жывы. І здаровы. І шчаслівы. Толькі гэта, Божа. Толькі гэта.

Ну, "здаровы і шчаслівы" – гэта ты, золатца, канечне, закруціла звыш меры, бо сілком нікога шчаслівым зрабіць і Пан Бог не здолее, так што ў апошняй рэдакцыі тваю адчайнадушную тэлеграму мусілі былі прыняць без гэтых двух слоў, – каб Бог слухаў дурнога рамізніка... (А цікава, як яно ўсё там у іх адбываецца – мо які-небудзь анёл-сакратар адбірае зямныя пасланні пры апараце, вымаючы з патоку *шчырыя*, важкія і гарачыя, і незваротна спускаючы ў чорную дзірку бязважкія масы *пустых* слоў? – так і з вершамі бывае: адразу абрыдае, як толькі пачынае валіць пустая парода, – і кідаеш, недапісаўшы). І яшчэ ў адзін момант ты тады зманіла – "хай бы забыўся на мяне": лапатнула ў напаўняўцямнасці, у сапраўднасці цвёрда ведаючы, што ніколі ён цябе не забудзе, – го, цяпер ужо ніколі, колькі жыцьма будзем: сціснуўшы недапалак двума пальцамі, шпурнуў яго наводдаль, ажно дугой у паветры блiснула: *"А ты падумала, колькі мне пасля цябе аджываць? Га?"* – быццам праз сілу стрымліваючыся, каб не зафутболіць і яе, следам за недапалкам (*"Ты ж зразумей, я мужчына слабы, я і засекчы магу"*, – прызнаўся быў аднойчы, і цябе імгненна працяло: вось, вось яно! не брэша, праўду кажа! – і, з умомант уключаным *безасабовым* прагным інтарэсам, – загулі, заскуголілі нябачныя драты, шпарка пераганяючы інфармацыю, – выціснула-такі тады з яго, хоць і задубела-адмоўнага на ўсялякія роспыты-лашчанні-сюсі-пусі-ну-скажы-мне-цурчанні, – скупую, пункцірам гісторыю пра тое, як некалі даўно, распісваючы вясковую царкву на пару *"з адным мудаком, які мяне дастаў"*, дайшоў да стану, калі ганяўся за тым з сякераю ў руках, – няўжо вакол царквы, падумала ты, чамусьці ўявіўшы, што тое павінна было адбыцца ўночы, бо няма нічога жахлівей за начную царкву з адбітаю ў цёмных шыбах поўняю, – вось пасля таго і зрываецца на ўцёкі кожны раз, як толькі адчуваецца набліжэнне *таго* духу, – *зразумела,* хмыкнула ты, *цікава,* хаця па-сапраўднаму цікаваю была адсюль, і надалей, поўная адсутнасць у табе страху, вось адлуп – і ўжо, нібы ўсё тое апавядалася праз бар'ерчык у пакоі для наведванняў у вязніцы ці вар'ятні, даслухаеш – і пойдзеш, і за табою, гучна скрыгочучы, зачыняцца акаваныя бляхаю дзверы, і паласне наўздагон, прысакам па скуры, сухое клацанне пракручанага ў замку ключа). Колькі мне аджываць пасля цябе, колькі табе – пасля мяне, "Сколько нам так еще идти, протопоп?" – спыталася жонка ў расстрыжанага Авакума, валочачыся за ім, выгнанцам, па бязмежнай раўніне, і знямогшыся ад бязмэтнасці шляху, і прысеўшы на купіне, – і пачула ў водпаведзь: "До самыя смерти, попадья". Падобны фаталізм, эге ж, – у расіянаў гэта ёсць, з намі горш, складаней, мы, уласна, ні сёе, ні тое, Еўропа здолела заразіць нас каламутнай гарачкай індывідуальнага хацення, вераю ва ўласнае "магу!" – аднак падстаў для яе спраўджвання, учэпістых структур, якія б тое "магу!" падхоплівалі і трымалі, мы ніколі не стварылі, шамацеючы стагоддзямі на дне гісторыі, – наша ўкраінскае "магу!" самотнае і таму бяссільнае. Амінь.

Чаму табе здавалася, нібы ты *здолееш* выцягнуць яго на сабе з тае яміны, у якую ён, відавочна ж было, так паслядоўна ўвальваўся? Уласна, насцярожыцца мусіла ўжо ў першую ноч – калі, яшчэ толькі распранаючыся, ён прыжмурыўся насцярожана, нібы прыцэньваючыся: *"А ты можаш раней за мяне скончыць?"* – засмяялася, перапоўненая шумавіннем сілаў, што тая бутля маладога віна: *"Я ўсё магу!"* Дурнічка, ужо тады павінна была ўбачыць, што ён *не партнёр,* – што, скамянелы ў сярэдзіне сябе да шматгадовага мярзлоцця, проста не ў стане быць

не сабою – зрэшты, і ў каханні (*“Вох, як ты класна даеш!”* – выстагнаў у яе – пасля доўгага няўдалага валтузання, пасля пакутніцкіх сутаргаў, пасля ўсіх адчайных лямантаванняў – *“Ах, навошта ж я банячыў!”* і *“Ай, бляха, а я так цябе хацеў!”*, пасля ўпадання ў некалькіхвілінны сон – самотны сон, наглуха *адрублены* ад яе прысутнасці поруч: не зварухнуўся, калі памкнулася выпрастацца з абдымкаў, ну і пайшоў на фіг, імпатэнт няшчасны, зараз устану, апрануся, запару каву, хутка пойдуць аўтобусы і можна будзе вярнуцца ў гатэль, у вокнах майстэрні незваротна бляднела, вадзянілася светлавая сінь, вымалёўваліся нагрувашчаныя пад сценамі вуглаватыя стосы палотнаў з дрыжыкаватага, як пратаплазма, змроку, паскудная гадзіна, гадзіна хворых і саракагадовых, гэта ў такой, пэўна, адшэрай каламуці катуюцца пазасветныя душы, – і вось тады ён і зрабіў ёй балюча, сапраўды-такі балюча, куды там згадкі пра страту цноты, *painful intercourse*[10], вось як тое называецца ў медычнай літаратуры, якую яна, зашуганая саўковая дурніца, толькі ў Амерыцы пачала *штудзіраваць*, нават да лекара была схадзіла, пакутуючы ад прыгнятальнага падазрэння, ці не папсавалася, часам, нешта там у яе, даруй Божа, і вылупілася, не даючы веры, калі лекарка паціснула плячыма: *“I don’t see any problems”*[11], – а тады, віскнуўшы дзікім голасам – пасля таго налупцаваная матка ныла, як перад месячнымі, – схамянуўшыся, здрыгануўшы нагамі, – *“Мне балюча, балюча, чуеш?”* – яна пачула – адначасова з пераможна-пагрозлівым вокрыкам: *“А слабо за мяне замуж пайсці? А слабо ад мяне дзіцёнка нарадзіць? Дурная ты, дурная, я ж цябе кахаю!”*, – як усярэдзіне займаецца і пашыраецца яго вільготная зызлая гарачыня, вох, тая хвіліна, усё – дзеля яе, пабудзь, вох, пабудзь яшчэ, не сыходзь, глыбокі ўздых, ён вырынуў з яе з такім адмытым ад гадоў, разгладжаным вільготнаю падсветкаю шчасця тварам, ажно позірк ёй засцілі міжвольныя слёзы пяшчоты, у тых слязах хударлявае і востраабрысае, з натапыранымі вушамі і сківіцамі пасляваеннае пацанё – бацька ў лагеры, пасля нямецкага палону, маці ў калгасе на бураках – стаяў з дубчыкам на выгане, упершыню ўражаны разлітым уздоўж небасхілу, дакуль сягала вока, барвяным золатам захаду ў дымна-шызым касмыллі хмараў, свет гарэў і змяняўся, усё тое было ў яго
ных карцінах, вызваліць тое пацанё з гэтага маўклівага і жорсткавуснага, моцна заклапочанага і ахайна паголенага мужчыны – *“Ты не нарадзіла? У цябе вусны патыхаюць нявыпітым малаком, – вось вазьму і зраблю табе дзіцёнка, чуеш? Сыночка”*, – то была цалкам самадастатковая творчасць, у якой тваё ўласнае фізічнае незадавальненне важыла не так ужо і багата, – засталася сама – бо ён, захінуўшыся ў даўгаполае, падобнае на шынель паліто, адразу памкнуўся некуды на памыўку: звычка досыць хамская, калі ўдумацца, але і гэта цябе тады не ўразіла, – ты вуркатліва пацягвалася, храбуснуўшы сплеценымі над галавой рукамі, і дазволіла сабе падумаць, з хрыпаватаю ўсмешкай, – ну вось цябе нарэшце і *выйіблі*, сяброўка, так-такі адкрытым тэкстам – выйіблі, упершыню ў жыцці, бо да таго ўсё болей – дагаджалі, песцілі, як цёплае цеста, дапытваліся, якія словы любіш, а тут проста ўзялі дый трахнулі па-мужыцку, без цырымоній, – і, дзіўна, нават гэтая думка не была непрыемнаю, і калі ты выцягнула з сумачкі люстэрка, наперад палохаючыся таго, што ў ім угледзіш – на трэція суткі няспання, пасля ўсіх выпаленых цыгарак і паўночных каньякоў, вось дык і фэст выдаўся! – дык і сама ўспалыхнула радасным позіркам: на цябе зірнуў папрыгажэлы, памаладзелы да стану тваёй аўтэнтычнай уроды – далікатны і худзенькі, амаль што дзіцячы, пазіраючы на свет чорнымі вачыма твар, які ты заўжды за сабою ведала, але ў люстэрку не бачыла ўжо хто-ведае-колькі: ты вярнулася да сябе, ты была *дома*, – а ён сядзеў у нагах ложка, паліў і паглядаў, яго неадрыўна звернутае на цябе праменна-заварожвальнае аблічча асвятляла яшчэ цёмную майстэрню, – зрэдку нахіляўся над табою: лёгенька, хаваючы ўсмешку, пацалаваць натапыраныя з-пад адсунутага пледа смочкі і зноў дбайна, па-сялянску няспешна, як сваё дабро, захінуць цябе ажно пад шыю, падаць кубак з каваю, *“глядзі не расплюхай”*, і ты тут-такі і расплюхала, бо затрэслася ад хіхікання, *“а я цяпер гэты плед выстаўлю – і падпішу, кім залапана”*, – і, знянацку: *“Чаго ты плакала?”* – не скажу, не, яшчэ не скажу, скажу пры нагодзе, праз месяц, а раз сказаўшы, буду паўтараць яму ледзьве не штохвілінна: з-за недахопу іншых, найёмістых слоў

– калі няма такой цыстэрны, каб змерыць бяздонную студню, застаецца раз за разам апускаць і выцягваць тое ж самае дзіцячае вядзерца, – манатоннасць паўтору, рыпенне корбы: я кахаю цябе. Я кахаю цябе. Я кахаю цябе).

Вось так лавіся, кабета, – закахалася. Яшчэ і як закахалася – выбухнула ўсляпую, паляцела на злом галавы, рассыпаючы ў прасторы вядзьмарскі смех, падхопленая нябачнымі самаўладнымі вірамі, і боль той не спыніў – а мог бы, – дык не ж, высякала ў сабе ўсе засцерагальныя табло, што палымнелі чырвонымі лямпачкамі на мяжы перагрэву – якраз як перад аварыяй на АЭС, – і толькі вершы, што нечакана ўключыліся замест таго і павалілі суцэльнай, непадзельнай плынню, прапускалі недвухсэнсоўныя сігналы небяспекі: у іх навязліва праглядалі – пекла, і смерць, і нямогласць, *"І ў жоўтай плыні дня, і ў шарым моры сну, /У колерах нябёс, халодных і гарачых / Я хвалі напяю, а ты нашэпчаш дну, /Як страшна нам з табой свае адбіткі бачыць"* : *"Значыцца, ты ведала?* – вызверыўся ён, бліснуўшы воўчымі агеньчыкамі ў вачах, калі яна – губляць не было ўжо чаго – наважылася нешта з тае плыні прачытаць яму ўголас, – *ведала, што так будзе? Дык якога ж? ..."* Гэ, сэрца маё, дык у гэтым жа ўся і штука...

Нне, не была мазахісткаю – была, ёлкі-палкі, нармальнай жанчынаю, чыё цела цешылася, калі дарыла радасць іншаму, дый што там казаць – класнаю бабаю была, "девочка сладенькая", "фантастическая женщина", *"stud woman"*, мусуймусуй цяпер у памяці, як кнігу водгукаў (выгукаў) – з тых хвілінаў, калі мужчыны не брэшуць, можа, хоць крупінку раўнавагі сабе тым вернеш: была ж! – а вось не, не вяртаецца, не ратуе – што з таго, што была, што заўсёды пры гэтым адчувала, з часам большым, часам меншым каламутным ападкам недавыпітасці, якою яшчэ ***магла б*** быць, – бо ёсць у жыцці рэчы, ад нас не залежныя, бо я ёсць такая, які ты са мною, – у мужчын тое троху па-іншаму, у жанчын, на жаль, не так – і, на жаль, ва ўсім, і хоць бы колькі станікаў спалена ні было амерыканскімі феміністкамі, ад мастурбацыі – ці тое гумовым пенісам, ці жывым чалавекам, бо жывым чалавекам гэта не інакш як мастурбацыя, калі без кахання, – не прыбудзе ні дзяцей, ні вершаў. І ўсё, і клямка. *"У тым твая мяжа"* . Як жа той кембрыджскі верш скончаўся? *"Ралля пад снегам прагла бараны. /Плылі ў адлігу мокрыя вароны. /Каханы быў – цябе не бараніў, /А сам чакаў жаночай абароны"*. Эге ж, *exactly* – ці, калі хто жадае, "вот іменна". Вось чым яшчэ, дарэчы, кепская чужая краіна – набіваюцца, напіхваюцца, як пух у ноздры, найувішныя чужынскія слоўцы і звароты, заляпляюць поры ў мазгох, нахабна сунуцца пад руку, нават калі сам-насам з сабою, – і не адчуеш, як пачынаеш балабоніць "хэф-напалову", а значыцца, паўтараецца тое самае, што і дома (дома? схамяніся, кабета, – дзе ён, твой дом?), ну дакладна, як у Кіеве, на Украіне, – з рускай: усмоктваецца звонку па кропельцы, ссыхаеццацэментуецца, і мусіш – або ўвесь час трымаць наўме расчышчальны сінхронны пераклад, які гучыць выпакутавана і ненатуральна, – або ж прыстасавацца, як усе мы, самім голасам забіраць чужамоўныя словы ў двукоссе, надаваць ім такое сабе блазнавата-іранічнае адценне, як у нібыта-цытатаў (напрыклад – файны прыклад для студэнтаў, можна прывесці заўтра на лекцыі: *"Ты што – "пабядзіцельніцай" пачуваешся?"*).

А яшчэ можна было б сказаць – выступаючы з дакладам у якім-небудзь амерыканскім універсітэце, або на канферэнцыі "трыпл-эй-дабл-эс"[12] , або ў Кенан Інстыт'ют у Вашынгтоне, або дзе цябе яшчэ там і далей насіць будзе благім ветрам, сто, максімум дзвесце баксаў ганарару плюс аплочаная дарога – і дзякуй пачціва, ты не Еўтушэнка і не Таццяна Талстая, каб атрымліваць па тысячы за выступ, ды хто ты ўвогуле такая, слыш, ты, забацаная *Ukrainian*, дзіця адсавецкай камунальнай "хрушчоўкі", з якой цэлае стагоддзе марна намагаешся вырвацца, Папялушка, што ляціць за акіян панаракаць за вячэраю ў Шэфілда з парачкаю нобелеўскіх лаўрэатаў (спрытнеючы на ўсе бакі, чатырма мовамі адразу за адным столікам сыплючы) на ідэйную вычарпанасць сучаснае цывілізацыі, пасля чаго вяртаецца на сваю кіеўскую кухню плошчаю 6 кв.м сварыцца з мамаю і прыніжана тлумачыць родным рэдактарам, што "дзе я,

там і будзе айчына" – гэта зусім не значыць *"ubi bene, ibi patria"*, – бадай таму, што з-за той самай доўбанай *patria* табе ні ў Шэфілда, ні ў Тыфані, ні на Гаваях, ні ў Флорыдзе не ёсць *bene*, бо айчына – гэта не проста зямля нараджэння, сапраўдная айчына ёсць зямля, каторая здолее цябе *забіць* – нават на адлегласці, падобна як маці павольна і незваротна забівае дарослае дзіця, утрымліваючы яго пры сабе, скоўваючы яму кожны рух і подум уласнай засцячай прысутнасцю, – ды што там мянціць доўга, тэма майго сённяшняга выступу, лэдзі і джэнтльмены, – як і пазначана ў праграме, "Палявыя доследы ўкраінскага сексу", і, перш чым перайсці да яе, хачу падзякаваць усім вам, прысутным і адсутным, за нічым не апраўданую ўвагу да маёй краіны і маёй сціплай асобы, – вось чым дык чым, але ўвагаю мы досыць разбэшчаныя не былі: па-простаму сказаўшы – здыхалі, на фіг нікім не заўважаныя (я тут яшчэ ў досыць упрывілеяваным становішчы, бо калі б наважылася, плюнула і сыпанула ў рот разам усю рэшту таблетак з вогненнажоўтага слоічка, дык цела знайшлі б досыць хутка, дзесьці, мабыць, дзень на трэці: Крыс, факультэцкая сакратарка, затэлефануе, як толькі я не з'яўлюся на лекцыю, вось жа, грэх наракаць, нітачка-павуцінне, хай і танюсенька-правіслая, каб, за яе шморгнуўшы, даць свету дазнацца пра свой чарговы, гэтым разам апошні, ад'езд, у мяне ўсё ж-такі ёсць, – і калі б з тым мужчынам штосьці здарылася там у пушчы, – хаця я і не думаю, каб з ім штосьці здарылася, ён ніколі не ўчыніць такога сам, забагата мае ў сабе злосці для такой справы, – дык Марк і Розі ў той жа ж дзень наведаюцца да яго), – дык вось, лэдзі і джэнтльмены, прашу не спяшацца кваліфікаваць разглядаемы выпадак закаханасці як паталагічны, бо апавядальнік яшчэ не сказаў галоўнага – галоўнае ж, лэдзі і джэнтльмены, палягае ў тым, што ў жыцці паддоследнай то быў першы *ўкраінскі мужчына*. Сапраўды – першы.

Першы *гатовы* – каго ***не*** трэба было вучыць украінскай мове, цягаючы яму на спатканні, выключна каб пашырыць супольную ўнутраную прастору для паразумення, кніжку за кніжкай з уласнай бібліятэкі (Ліпінскі, Грушэўскі, ні пра Горску ён таксама не чуў, ані пра Світлічнага, у яго былі зусім іншыя шасцідзесятыя, добра, я табе заўтра прынясу!), а падчас мілавання-вуркатання мімаходзь узгадаўшы *"Не захист мрій – блаженний дім..."*, тут жа пускацца ў паўгадзінны каментар пра жыццё і творчасць аўтара – гэта, ведаеш, быў у трыццатыя такі паэт на Заходняй Украіне, – і вось так, хай яму гарэць, усё жыццё! – прафесійная ўкраінізатарка, няйнакш яшчэ па аднаму органу ім усім нарошчваеш, калі-небудзь наша незалежная, ці хутчэй яшчэ-не-памерлая, калі да таго часу не пампрэ, павінна бы ўвесці якую-небудзь спецадзнаку – за колькасць украінізаваных койкамесцаў, ты б ім нагарнула спіс табою навернутых! – а то быў першы мужчына з *твайго свету*, першы, з кім абменьвалася не проста словамі, а адразу ўсім прадоннем трымцлівых, студзяным бляскам падсвечаных схованак, тымі словамі адкрытымі, і таму прамаўлялася лёгка, як дыхаецца і сніцца, і таму пілася размова засмяглымі высахлымі вуснамі, і ўсмокталася ўсё ажно да млосці, го, тая ніколі не знаная поўная свабода быць сабою, тая ігра, нарэшце, у чатыры рукі па ўсёй клавіятуры, натхнёнасць імправізацыі, колькі іскрыстай, гуллівай энергіі вызваляецца, калі кожная нота – іранічны намёк, адценне, дасціпны жарт, дотык – у момант рэзануе, падхопленны суразмоўцам, кульбіт у паветры, проста ад празмернае сілы, жартаўлівае каленца – бліжэй: можна? і вось ужо – двухсэнсоўней, рызыкоўней, і вось ужо – усутыч, і вось ужо, заглушыўшы рухавік (бо ты-такі села, у рэшце рэшт, у тую ягоную машыну – пасля адведзін майстэрні, пасля таго, як разгледзела назвоч, *хто* ён), – навальны пераход на іншую мову: вуснамі, языком, рукамі, – і ты, адхіляючыся са стогнам: *"Паехалі да цябе... У майстэрню..."*, – мова рэзка скараціла ваш шлях насустрач адзін аднаму: ты пазнала: свой, ва ўсім – свой, адной пароды звяркі! – і ў ёй жа, у мове, было ўсё, чаго ніколі потым не было між вамі ў ложку.

*"Gosh, if he only weren't such a damned good painter!"* [13] – казала ты, седзячы ў бары "У Крыстофера" на Портэр-сквер, ты выпіла нашча два келіхі кабернэ-савіньёна, і цябе трошку разняволіла – упершыню за тыя кембрыджскія месяцы, з зацяняюча лёгкім, адважным уздымам, вой, выпіла – выхіліла, сама

сябе пахваліла, эх, шкада, няма з кім заспяваць, – Ліса і Дэйв слухалі, як малеча — калядную казку, забыўшыся храбусцець чыпсамі, *Slavic charm*[14], вось як гэта ў іх называецца, – ты любіла той бар, глухую пляшкавую зеляніну дэкору, якая наводзіла на згадку пра ломберныя столікі, таксама як і нізкае святло, што адсоўвае твары ў паўзмрок, і людзей, згурбленых перад шынкарняй за праглядам бейсбольнага матча, і гудзенне галасоў, і ноч за далёкімі вокнамі, яе густы карычневы вар, у якім плавяцца жоўтыя цукаты ліхтароў, – усё разам, бо толькі так і атрымліваецца ўвайсці ў свет *чужога:* прымаючы ўсё адразу, усім уяўленнем, і ты гэта ўмела, ты проста стамілася, за ўсе гады бяздомных блуканняў, любіць свет *самотаю* – прахадзіць ананімнай і нераспазнанай праз сутонныя аэравакзалы, рэстараны і бары з цёплымі агнямі, марскія ўзбярэжжы з набягаючым шоргатам прыбою па гальцы, ранішнія гатэлі з каваю ў холе, – *“Where are you from?”* – *“Ukraine”*, – *“Where is that?”*[15] – ты стамілася *не быць* у гэтым свеце, стамілася валачыць дахаты ў зубах асмягла-ўсмактаныя з яго згусткі фарбы і радасна лямантаваць: *“Гей, дывітыся!”* – але дома, у тваёй беднай забембанай краіне – краіне ўрадоўцаў у абвіслых нагавіцах і ўсеяных перхаццю пінжаках, азызлых пісьменнікаў, спрытных чытаць толькі на адной мове, дый з таго ўмення не ў стане скарыстаць, і шпаркавокіх, жучкаватых бізнесоўцаў са звычкамі колішніх камсамольскіх сакратароў, – усё яно неяк ні да чога не мацавалася, правісала непрыкаяна і вось хіба толькі на выліванне жоўці намаўляла, сваёю імглістаю, зашыфраванаю ў незнаёмых назвах і рэаліях недасяжнасцю, тых напампаваных хатніх самавукаў (чамусьці нязменна – на куцых, пажакейску выкручаных нагах: парода такая, ці што?), заквашаных дзе-небудзь у абласной публічнай бібліятэцы імя Громіна ў час, калі ты мела нахабства ці, можа, дурное шчасце, думалася ім?) бадзяцца па гарвардскай “Вайдэнэр” ці дзе там яшчэ, – ты стамілася ад *непадзеленасці* сваёй любові да свету, і ў тым мужчыне – толькі апынуўшыся ў яго майстэрні, стаўшы (у акулярах з тоўстымі шкельцамі) перад павернутымі абліччамі, адно да аднаго, палотнамі, што грувасціліся ўздоўж сценаў, збіраючы пыл, – ты бліскавічна адгадала свой адзіны, круглазавер-



шаны шанц на *несамотнасць* гэтага кахання, – таксама таму, што ён быў *such a damned good painter*[16], – але ўжо гэта Лісі з Дэйвам годзе было тлумачыць, ты і не намагалася, Лісі выразна пасміхалася сваім непраўдападобна-яскравым, падобным на ўзбуджанага каралавага малюска ротам, і вочы яе вільготна блішчэлі: *What a story!*[17]. О так, страшэнна рамантычная *love story* – з пажарамі і аўтакатастрофамі (бо тую слынную машыну ён аднойчы ўначы ўзяў ды раздаўбаў, казаў, на друзкі), з таямнічым знікненнем прататыпа і ад’ездам гераіні за акіян, з купаю вершаў і карцін, а галоўнае – з тым нязменным, неперадавальным скразным пачуццём, якому, уласна, ты і падпарадкавалася, — адчуваннем, што *ўсё магчыма:* той мужчына граў без правілаў, дакладней, граў па ўласных, як сапраўдны кантаўскі геній, у ягоным сілавым полі прабуксоўвала кожная прадбачаная логіка падзеяў, так што быў ён сам сабе *the land of opportunities*[18], і што ўжо там сярод тых *opportunities* ні чакалася падрыхтаваным на будучыню – смерць у чарговай з шэрагу аўтакатастрофе (не, Божа, не, толькі не гэта!) альбо трыумфальны праход па музеях свету, – напляваць, няхай, абы толькі выкараскацца, выбіцца з каляіны – з тае спрадвечнай украінскай *асуджанасці на небыццё.*

Гэта асобная тэма, лэдзі і джэнтльмены, пані і панове, выбачайце, калі адбіраю забагата вашага часу, мне цяжка пра ўсё тое казаць, да таго ж, я сапраўды моцна хворая, маё зацкаванае, згаладнелае, а калі не бавіцца эўфемізмамі, дык проста згвалтаванае цела трэці месяц не ў стане суняць дробныя нутраныя дрыжыкі, асабліва жахлівыя – да млосці! – унізе жывата, дзе ўвесь час адчуваю бадлівы жыўчык, і калі растапырваю пальцы, дык яны нечакана пачынаюць жыць самастойным жыццём, варушачыся кожны асобна, нібы нанітаваныя на розныя, у нязгодных рытмах паторгваемыя ніткі, я ўжо маўчу пра набрынялыя, як у падлетка, ружовыя прышчы, якімі квітнеюць твар і плечы, і няма на тое рады, – гаротнае цела яшчэ жыве, яно даходзіць з элементарнай сексуальнай галадэчы, яно б, магчыма, і ачуняла, і заскакала зайчыкам, калі б яго ўсмак трахнулі, але, на жаль, гэтую праблему не так лёгка развязаць,

асабліва калі ты сама-насам-адна ў чужой краіне і чужым горадзе, у пустой кватэры, дзе тэлефон адгукаецца хіба на тое, каб запрапанаваць табе – рэдкая нагода, толькі на тым тыдні! – ка-ла-саль-ну-ю скідку на перадаплату мясцовай газеты, і адкуль выграбаеш тройчы на тыдзень – да універсітэта, дзе паўтузіна ахайных, абутых у белыя шкарпэткі і красоўкі, чыста памытых і дэзадараваных амерыканскіх дзецюкоў са здаровымі, ажно вільготнымі скураю і зубамі, водзячы за табою, як дэфілюеш туды-сюды па аўдыторыі, паглядамі акварыумных рыбак, нешта там – адзін Бог ведае, што! – ціхенька шкрабаюць сабе ў сшыткі, пакуль ты, сама сябе накручваючы (ну, трэба ж неяк пратрымацца гадзіну з чвэрцю!), палка тлумачыш ім, што не было! не было ў Гогаля, такога, які ён быў, у той час іншага выбару, акрамя як пісаць па-расейску! хоць плач, хоць гопкі скачы – не было! (і ў цябе – таксама няма, акрамя як пісаць па-ўкраінску, хоць гэта і ёсць, бадай, найнепатрэбнейшы на сёння занятак пад сонцам, бо нават каб ты, нейкім дзівам, габлянула б гэтай мовай што-небудзь *посильнее "Фауста" Гете*, як выказваўся адзін абазнаны ў гісторыі літаратурны крытык, дык яно проста праваляласся б у бібліятэках нечытанае, што тая нялюбая жонка, колькі там дзесяткаў гадоў, ажно пакуль не пачало б *асцюджацца,* – бо нераскашштаваныя, неўжываныя, не падсілкаваныя энергіяй сустрэчнай думкі тэксты пакрысе-спакваля асцюджаюцца, яшчэ і як! – так што калі плынь чытацкае ўвагі своечасова не падхоплівае і не выносіць іх на паверхню, каменем ідуць на дно і пакрываюцца, што не аддзярэш, зімовым брудам, як твае нераспраданыя кніжкі, што пыляцца недзе дома на кніжных паліцах, такое сталася амаль з цэлаю ўкраінскаю літаратураю, можна па пальцах вылічыць – не аўтараў нават, а адзінкавыя творы, якім пашчасціла, – са здранцвеннем у пальцах і слязьмі ў вачах ты чытала дасланы табе тут, у Амерыцы, пераклад "Лясной песні", аўтарызаваную версію, прызначаную для брадвейскае сцэны, кайфавала, што той наркаман, ад яе хапатлівага гарачага дыхання: жыве! жыве, не знікла, праз семдзесят гадоў, на іншым кантыненце, у іншай мове – скажы ж ты, выплыла! – зразумела, што іншага – пісаць па-руску ці па-англійску, на першы ж твой верш, надрукаваны англійскай, і тое ў цалкам малапрыкметным часопісе, экстатычна адгукнуўся, аднекуль амаль ці не з Канзаса, нейкі там *"The Review of Literary Journals"*, гэта ж трэба, і Макмілін збіраецца ўключыць яго ў Анталогію сусветнай жаночай паэзіі XX стагоддзя, *"You are a superb poet"* [19], – кажуць табе тутэйшыя выдаўцы (марудзячы, аднак, з кніжкаю), дзякуй, я ведаю, тым горай для мяне, – але ў цябе няма выбару, золатца, не таму, што не здолела б змяніць мову, – цудоўна здолела б, каб троху памарудзіць, – а таму, што закляло цябе – на вернасць памерлым, усім тым, хто таксама не горш мог бы пісаць, – па-руску, па-польску, нехта і па-нямецку, і жыць зусім іншым жыццём, але замест гэтага шпурляў сябе, як дровы, у дагараючае багацце ўкраінскае, і ні фіга з таго не паўставала, акрамя знявечаных лёсаў і нечытаных кніжак, але, аднак, сёння ёсць ты, каторая праз усіх тых людзей пераступіць – не здатная, не здатная, і ўсё, іскаркі іхняй прысутнасці не-не дый ускідваюцца ў штодзённым, наогул цалкам спапялелым быцці, і гэта і ёсць твая радзіма, радавое тваё дрэва, арыстакратка забацаная, прашу прабачэння за недапушчальна доўгі ўступ, лэдзі і джэнтльмены, тым болей што нашай тэмы ён, уласна, не тычыцца). Лэдзі і джэнтльмены, нараканне на ўласнае, з дня на дзень марнаванае цела – гэта пачуццё, знаёмае хіба ГУЛАГаўскім вязням: вечарамі ў ванне я разглядаю перад люстэркам (начапіўшы савіныя акуляры, тыя самыя, з тоўстымі шкельцамі, так што выгляд маю досыць камедыйны) свае грудзі, досыць-такі нязменна куляста-пругкія, задзірліва натапыраныя піпкамі ўразнабоч (*"Это ж надо,* – казаў некалі, не так і даўно, адзін недаўкраінізаваны мною мужчына, – *наверно, четвертый размер, а как держится!"*): у тую восень яны ўпершыню знемагліся, недвухсэнсоўна пасунуліся долу, наводзячы на згадку аб перастаялым сырым цесце, і пабраліся нейкімі агіднымі плямкамі, падобнымі на пігментныя, а смочкі чым далей, тым болей нагадваюць пацямнелую скурку зморшчанага персіка, – той мужчына быў з тых, хто ўвогуле кепска ўяўляе, што рабіць з жаночымі грудзьмі, акрамя хіба як ушчыкнуць праз адзенне, але справа, вядома, не ў ім, – то было *гарнае* цела, здаровае, разумнае і жыццярадаснае, і, варта аддаць яму належнае, яно

вельмі доўга трывала, толькі з тым мужчынам скукожылася адразу, але я прыкрыкнула на яго, груба і крута, а яно супрацівілася, скуголіла нейкімі хранічнымі застудамі, апухлымі залозкамі і ліхаманкавымі высыпкамі, "паслабленне імунітэту", казалі лекары, а я ўскідвалася з ложка, заклейвала высыпкі пластырам і, паленая гарачкай, ляцела на вакзал, цягнік, грукочучы па стыках рэек, імчаў мяне скрозь ноч у места, адкуль маўчаў той мужчына, раздаўбаўшы на друзкі сваю каштоўную машыну, у ноч аварыі мне саснілася, нібыта ў яго яе скралі, і вершы, несвядомыя дзеі, але па-свойму снавідна-відушчыя, наплывалі, як у тумане краягляд за акном: *"Той снег адбыўся незнарок, /А восень пахла карвалолам. /І аўта, збіўшы пыл з дарог, /Па гаражах сушылі колы"*, – я досыць доўга чыніла гвалт над сваім целам, яно мусіць мецць на мяне крыўду, ці, па-тутэйшаму, *grudge*, а цяпер, наўздагон, адзінае, і што магу для яго зрабіць, – хіба катаваць шторанку бессэнсоўнымі прысяданнямі, пасля якіх падманам напружаныя сцёгны ныюць забытай салодкай знямогай, ды яшчэ тупа, як на працу, валачыць яго вечарамі ў басейн, дзе мяне ўжо ведаюць: апавітая ў пярэсты цюрбан мурынка-джэніторша, што выдае на ўваходзе ключы ад *lockers*'аў[20], асляпляльна шугае насустрач зубным бляскам: *"You're pretty faithful to that swimming, huh?"*[21] – Божа, якая яна мілая, мяккая і ласкавая, як вада ў басейне, ад першага-гожага шчырага слова я адразу гатовая разраўсціся адразу, што тое зацкаванае ваўчанё-падлетак, згоднае есці з кожнае рукі, хаця б і з гэтай працягнутай, даверліва раскрытай – ружовай галізною наверх – далоні з залатым ключыкам на чырвоным капронавым матузку, за якую, хапаючыся, распавядаю, што мушу, літаральна мушу сюды часціць, што адно толькі так і ратуюся ад дэпрэсіі – Вялікай Амерыканскай Дэпрэсіі, ад якой пакутуе, здаецца, семдзесят адсоткаў тутэйшага насельніцтва, лётаюць да псіхіятраў, каўтаюць *"Prosac"* , кожная нацыя вар'яцее па-свойму, і маю дэпрэсію, якая па-сапраўднаму мае іншы назоў, я, хочаш-не-хочаш, ужо напрактыкавалася перакладаць зразумелаю ім моваю: *broken relationship*, да таго ж *straight after the divorce*, да таго ж *sexually traumatic*[22], а далей ужо ўсё з падручнікаў па псіхіятрыі: *fear of intimacy, fear of frigidity, suicidal moods*[23] – карацей, класічны выпадак, нават да псіхіятра наведвацца не варта, і мая благаслаўлёная мурынка, такая разложыста-цялістая за цеснаю стойкай, шыкоўна і цёпла, па-каровінаму сытна, Вялікая Маці, пяшчотнае, сырадойнае муканне і шурпаты язык, – ківае з мудрай усмешкаю: *"I've been there,* – кажа яна, – *with the father of my kids"*[24], – вось як, яна разведзеная, *single parent*[25] з двума малечамі – і такія ж цудоўныя дзіцяняты, малодшаму неўзабаве два годзікі, калі ёсць дзеці, яно лягчэй – і цяжэй, і лягчэй (*"А цяпер,* – казаў той мужчына, трыумфальна прамянеючы над ёю ў цемры спатнелым хлопчыкам, – *вось цяпер ты зацяжарыш: я проста ў цябе скончыў!"* – *"Не,* – смяялася яна – ціхенька, каб не расплюхаць налітую ў яе пад вянец пяшчоту, – *не, сэрцайка, сёння – не"*, – але, аднак, гэта, мусіць, і была, з першай ночы, галоўная спадзяваная думка, падводная плынь таго кахання: *сыночак*, Данілка, употай вызначыла яна, – пакрытая бліщчастым курчавым пушком галоўка, па-жабячы скурчаныя ножкі, малюсенькія пупачкі пальцаў, вой, Божа ж мой! – у снах яна прагна туліла яго да грудзей: якар-катвіга, што ўтрымлівае ў жыцці, той, без якога мы, дзяўчаткі, на гэтай зямлі непаўнамоцныя, "непрапісаныя": не слова, ці нават літара, у тэксце, а выпадковая кропля на краях аркуша, – а вершы тым часам цьмяна шамацелі самі па сабе, распадаючыся рознагалоссем: *"Холадна мне, каханы. /— Вось кажушок вышываны. /— Марошна мне, каханы. /— За працу бярыся, панна. /— Штось не йдзе яна гладка. /— А ты нарадзі дзіцятка… /— Боязна з ношкай такою /— Стаць навекі тваёю"*, – не ўзгадваць, лепш не ўзгадваць!), – *"Everybody seems to have been there"*[26], – адзначаю, з адчуваннем хвіліннага душэўнага супакаення далучаючы сябе хоць бы да якога *шэрагу*, супольнасці: *join the club*[27]! – вось так, паважна ківае мая мурынка, *every woman has been there*[28], – і, з хітраватым жаноцкім прыжмурам: можа, якраз тут, у басейне, кагосьці і сустрэнеш? Тут дарэчы разрагатацца – бадай таму, што той восенню, праз сілу цягнучы сваё няшчаснае, прыгнечанае цела вуліцамі чужога горада, ты ўпершыню спазнала самаадчуванне *няўгледкі* – не адразу нават і ўцяміла, у чым рэч, а ўцяміўшы, пачала пільна прыглядацца:

сапраўды, так і ёсць – сустрэчныя мужчыны слізгалі па табе абыякавымі, невідушчымі паглядамі, як па нежывым прадмеце, і нават у аўтобусе, набліжаючыся, падпіхнутая натоўпам на рызыкоўную адлегласць да чыёй-небудзь спіны з хакейнаю эмблемаю, ты не ўлоўлівала таго бліскавічнага, імклівага імпульсу на твары, – ускінуцца, азірнуцца, – што ўключаецца ў іх несвядома, проста на водар жанчыны, але не толькі: бо ў сапраўднасці яны – магчыма, хіба акрамя зэкаў ды жаўнераў, пашызелых ад абстыненцыі бедакоў, – адгукаюцца не так на жанчыну, як на ніводным прыладам не падуладныя, мэтанакіравана наведзеныя на тую жанчыну частоты ўсіх іншых мужчынскіх дамаганняў, якія ў тыя хвілі аблямоўваюць яе (а мяне якраз у тыя хвілі *не* аблямоўваюць!) шчыльна наэлектрызаванаю эратычнаю хмараю – нездарма кажуць, што засватаная дзеўка ўсім падабаецца: вось гэта і заводзіць іх па-сапраўднаму, вымушае пыхаць ад раз'юшанасці раздзьмутымі ноздрамі і біць у зямлю капытом ад нетрывачкі – дух суперніцтва, імкненне перамагаць, выклік на адзінаборства, нячутны гук баявой сурмы, што калыша паветра, неспатольная патрэба даводзіць уласную перавагу над усімі іншымі, дарма што ніколі не бачанымі: *"Ты мне скажы – табе з мужчынам добра было?"* – *"Дужа!"* – securely секанула з гарачкі шчыра, як поўхай сцебанула, – ажно скурчыўся: ну бо сілаў ужо не ставала выварочваць сябе праз горла, прылашчвацца, глынаючы крыўду за крыўдаю, дый маўкліва, што тая шлюха за плату, дэманстраваць, які гэта ён, хай яму што-небудзь, клёвы (*"Сараматніца, цыцкі вываліла!"* – падхопліваўся, быццам уджалены, у апошнія дні супольнага жыцця, застукаўшы яе напаўголаю, злуючыся сам на сябе – што ўсё яшчэ, насуперак усялякаму глузду, мог жадаць гэтую жанчыну, з якою ні халеры не атрымлівалася, акрамя ўзаемнага мардавання, *"як абцэнгамі сцяла"*, – а вось не трэба было з адмычкаю: скокнуўшы пад коўдру а трэцяй раніцы, турбаваць, пераварочваць на спіну, па-дзелавому ўсаджваць пальчык, куды не просяць, так я і сама сябе магу пацешыць, ды не, лепей магу, пяшчотней, цела баранілася па-за маёю ўласнаю воляй, але ж у целе, угнезджаны і звонку нябачны, разрастаўся – *страх,* так неабачліва пакінуты мною без ўвагі: яно адчувала ў тым мужчыне *нешта,* чаго не адчувала я, – сама тым часам ператвараючыся ў Ягу, у каструючую мегеру з ціскамі ва ўлонні: а чаму не ведаеш! – і вось тут дык і пачыналася скавытанне заціснутага самца: *"Ды ведаеш ты, колькі ў мяне жанчын было!"* – а пляваць я хацела на тваіх жанчын, колькі б іх у цябе ні было, мяне – не цікавіць, мяне не перамагаць трэба, а – кахаць, кахаць, разумееш ты?! – так што ў галізне яе, варта прызнаць ягоную рацыю, сапраўды было сарамоцце: то была галізна наўмысная і абразлівая, тая, якой не спакушаюць, а дэманструюць знявагу – магу стрыгчы пры табе пазногці на нагах, агаляць сцягно, пакідаць пасля сябе ванну неспалосканай, у наліплых да сценак цёмных завітках валаскоў, падмывацца, мастурбаваць – толькі ж не так, вох, не так, як тое бывае, калі кожнае найдрабнейшае дэманстраванне цялеснай свабоды іншага прымаецца як дарунак, як яшчэ адзін самакаштоўны знак даверу, і сходу ўзвірвае ў табе гарачую хвалю ўдзячнае пяшчоты, не так, як было між намі дома, у тыя дні, калі мы маркетаваліся ў выпадковых прытулках, сунуліся ў лістападаўскую ноч праз акно чужога лецішча, дзе стаяла сяміградусная сцюжа, затым пілі, каб сагрэцца, каньяк, не скідаючы паліто, і я хукала на твае жорсткія скарчанелыя рукі, і хавала іх сабе пад швэдар, бо там было цяплей за ўсё, і ты смяяўся і плакаў, задыхаўся, не даючы веры: *"Гэта ты? Няўжо гэта ты?"*, – тая восень была восенню ключоў, ад роду-веку я, пазбаўленая ўласнага дома, не цягала ў кайстрачцы і па кішэнях столькі пазычаных ключоў адразу – здавалася, бразгачу імі на бягу, што той кірмашовы конік, прыцягваючы да сябе ўсе погляды, і, як і коніка, ад гэтага парывала хіба толькі весела заіржаць, і калі ты ў чужой хаце разаграваў мне ваду для купання ў двух здаравенных казанах, выцягваў апоўначы вядро з нябачнай, адно з-за плюхання ўяўляемай мною крыніцы пасярод двара, а я слупянела ў дзвярах у халаціку на голае цела, не адчуваючы холаду, і потым, зачыніўшыся ў ванным пакоі, убачыла ў мыльнічцы яшчэ вільготнае пасля цябе мыла, прымацаванае, тваёй звычкай, стоймя, тарцом – каб абцякала, а маё заўжды ляжала плазам і квасілася ў калюжцы, і я мілавалася з таго мыла і была такая па-дурному шчаслівая, як бывала толькі ў дзяцінст-

ве, бо толькі там і быў у мяне дом, я стамілася, любы, вох, як я стамілася, адзінае, чаго мне тады хацелася, – каб ты быў побач і намыльваў мяне, але ты замкнуў мяне ў той хаце на ключ, а сам пагнаў машыну некуды ў ноч па харчы – ай, ёлкі-палкі, ды хрэн з імі, з харчамі, чалавеча, колькі таго жыцця, колькі таго кахання, каб далікатненька кроіць яго ножыкам на сняданак і вячэру!). *"Колькі разоў ты кахаў?"* – *"Тры,* – падсумоўваў, прыкрыўшы павекі, – *гэта чацвёрты"*, – *"Нешта зашмат, як на адно жыццё,* – *ажно тры вялікіх каханні..."* – *"Чаму адразу – вялікіх?* – смяяўся вачыма, і яна адгукалася ўсмешкай яму насустрач: – *Можа ж, якраз і мышачых – невялічкіх такіх?"* – хто бачыў такія размовы пра сваё каханне, нават калі затаптанае, нават калі прамінула і пераехала цябе напалам, быццам грузавік сабаку на дарозе, як мяне тады ўзімку – пералёт праз Атлантыку: да пятай раніцы, да самога таксі ў аэрапорт я *чакала* – званка, калі не дзвярнога (тысячу разоў, да затлумлення, пракручаны ўявай кадр: адчыняю дзверы – і на парозе стаіш ты, ледзьве стрымліваючы скрыўленымі куточкамі вуснаў несамавіта-радаснае святло, што рвецца з твару вонкі: нарэшце, ах ты Божа, ну распранайся, ну як жа можна было так, ах ты, бяда, адна ходзіш, ну што здарылася, а я так замучылася, думала, з глузду з'еду!), – дык, бадай, тэлефоннага званка, слова, голасу, – кончыка ніткі, за які ўхапіўшыся, пачала б размотвацца за сабою з кантынента на кантынент, ***няўжо***? – верашчала маё абваранае роспаччу нутро, ***няўжо***?! – таксі вываліла мяне ў сумёт перад уваходам у залу міжнародных рэйсаў, нейкі парожні, быццам змярцвела – маўляў крэматорый – асветлены Барыспаль а пятай раніцы, станцыя Чортаў Тупік, галоўная паветраная брама краіны, ха! – краіны, безнадзейна *непрыналежнай* да нервовай сеткі, што шчыльна апавівае планету, што гудзе ўдзень і ўночы, перапампоўваючы праз гіганцкія гангліі портаў, і вакзалаў, і мытняў мітуслівыя плыні абуджаных людскіх нейронаў, Шарамецfavа, Кенэдзі, Бен Гурыён, і дзе толькі мяне ні насіла, хай тое ўсё марнота марнотаў, хай стома духу і цела, затое – рух, затое – воўчы гон за жыццём, ашчэрыўшы іклы: вось-вось дацісну, учаплюся ў карак! – а ў Барыспалі на адчайна душна-гулкі, быццам крык у пустым



доме, гук маіх абцасаў з-пад сцен уздымаліся, паверх неаглядных насціртаваных бабэхаў, расфакусаваныя сонныя твары, памалу распростваючы рысы, як патурбаваныя начныя жывёліны: маўляў, тут яны і жылі, габрэйскае сямейства ў адвечным чаканні, пакуль расчыніцца брама кардону і можна будзе шаснуць у шпарыну, і вось так праводзіла мяне мая краіна, у якую я, пасля ўсяго, – вярнуся, але ж, і дарма мае добрасардэчныя амерыканцы раяць мне падацца на яшчэ якуюсь стыпендыю, запэўніваючы, што маю добрыя шанцы, я вярнуся, я папаўзу даздыхаць, як паранены пёс, прыдушаны папругаю нікому не вядомае мовы, а вы ўзгадайце пра мяне ў *"The Review of Literary Journals"*, эге ж, і што мой пазамінулагодні артыкул пра ўкраінскую літаратуру ў *"Partisan Review"* быў не зусім благі, яго адзначылі, на яго – оўва! – адгукнулася *"Times Literary Supplement"*, але ў галоўную думку вы, браткі, аднак, не ўехалі, яна здавалася вам забаўнаю, і не болей: што ўкраінскі выбар – гэта выбар паміж *небыццём і быццём, якое забівае,* і цалкам літаратура наша гаротная – адно енк прываленага бэлькаю ў абрынутым землятрусам доме: я тут! я яшчэ жывы! – ды дзе там, ратавальныя каманды штосьці доўга марудзяць, а самому – як яно выкапаешся? Жывою на імгненне адчула сябе ў Франкфурце, пры перасадцы: наскочыўшы, з разгону сляпога руху калідорам, на двух пастаўленых слупняком памежнікаў, двух аднолькава рудых амбалаў-немчуракаў у аднолькавых прасяністых, нават і па руках, канапушках, каторыя, са здароваю малайцоўскаю цікавасцю, яе разглядаючы і весела перагыркваючыся між сабою па-свойму, праверылі пашпарт, спыталі на зачэпку, дыстыляванаю міжнароднаю англійскай, куды ляціць, – да Бостана? Го, там зараз халодна, найсуровейшая зіма за сто гадоў! – *"I know"* [29], адказала, завучана чыркнуўшы ўсмешкай, як падмоклай запалкаю, і, у той падсвядома-звярынай, чыста цялеснай моцы, якой ад іх патыхнула, упершыню ў жыцці ўлавіла ў сабе цалкам не вычытаны, непадкантрольны парыў *ламаць рукі*: не народнапесенны зварот, не! – *ой ломи, ломи білі рученьки до єдиного пальця, та не знайдеш ти, ой дівчинонько, над козака коханця,* – але найнепасрэдная, неадольная фізічная прага выслабаніць тым натужным жэстам яшчэ жывое

цела з цеснага панцыра пакуты, што сціснуў з усіх бакоў даўкім цяжарам: Мікола, Мікола, пісала яму пазней з Кембрыджа ў невядомасць, на "да запатрабавання", бо болей не было куды, – што ж ты вырабляеш, каханне маё? Навошта ты абарачаеш у смерць тое, што магло б быць такім безразважна-яскравым – жыццём, паланнем, парным палётам узаемна счэпленых зорак скрозь *fin-de-siecle'*аўскую цемру? Блін, вось бы зараз перачытаць тую пісаніну – ад самога стылю, мусіць, урагатацца можна! – на медыцыне! на медыцыне трэба б вывучаць курс украінскага рамантызму, на псіхіятрычных аддзяленнях! *"Лісты вернеш"*, – распарадзілася напрыканцы, жорстка і дзелавіта, – не тое каб ёй сапраўды так ужо пнулася мецъ тыя лісты, што было – адгуло, фіг з імі, а вось вызваліць ад яго ўсе рэшткі сябе, у якіх яшчэ маглі захавацца кволыя пасіпванні жыўца, свярбела, і нават дужа, – а ён адразу замкнуўся, выставіўшы наўсторч вось тое сваё небяспечна развітае, куды там псеўдамужным галівудскім сперматазаўрам, падбароддзе: *"І не падумаю. Гэта – маё"*, – тваё, голубе мой, акрамя таго, што намаляваў, і не трэба сябе дурыць: ува што сам не правалішся – без аглядкі, з галавою, – ніколі тваім не стане. Запішы словы, дазваляю, чаго ж. А, і яшчэ адно, ледзьве не забылася: вось таму дык і каханні твае – мышачыя атрымліваюцца: невялічкія такія.

*"Слухай,* – казала пад канец, нясмела працягваючы да яго голас, нібы з прыгнятальнай начной маўчанкі – руку пад коўдраю, калі ляжаў поруч, стаіўшыся без сну: *– а можа, ты мяне проста – і не кахаў?"* Бо тады сапраўды было б працей: лягчэй. Але ён павярнуў да яе надтрэснуты горкай усмешкаю твар – Божа, якую балесную, неспатольную прагу спараджаў у яе калісьці яго профіль: нібы, суткі не піўшы, разглядала змешчаны за тоўстым шклом, запатнелы ад холаду гранёнчык з вадою, і вось толькі шкло і засталося, – углядалася вачыма хворай жывёліны: *"Ужо зноў пачынаеш нагружаць?"* Даруй. Кахаў, я ведаю, – кахаў, як умеў: у сабе, а не з сябе, і мне перападала, таксама ж як мышцы – акрышынамі пад стол, – толькі праменны ад захаплення пагляд, што часам прарываўся кароткім, скнарным прыгортваннем, ледзьве не сарамлівым, грубавата-хлапечым тыцканнем кудысьці ў шыю: *"Клёвая ты чувіха!"*, ды яшчэ палыханнем непадробнага шчасця ў мой твар, асабліва калі ўвальвалася з вуліцы, заспеўшы яго пры палатне, а гэта было – што плюхнуць вядро вады на соннага: шарахаўся ад палатна дзіка, як спалоханы жарэбчык, гахнуўшы спужана, з месца скрутнуўшыся скачком у абаронную стойку: зараз убрыкне! – і ўжо ў наступнае імгненне – пазнаў! – вышчараны твар адмяняўся, успыхваў, робячыся такім, як тады, уночы, – і як тады, калі здымаў з ветравой шыбы яшчэ цэлага аўтамабіля мае прышпіленыя цыдулкі, бо я часціла імі, быццам у ліхаманцы, у рытме зубнога дробату, раскідвала іх паўсюль, паспешліва заследжвала імі яго прастору, жоўценькія матыльковыя аркушыкі, доўга пырхаючы ліст, як распавітая па ветры каса: трымай мяне, го, трымай мацней, не адпускай мяне ў неба! – і трымаў, і насіў па кішэнях курткі пук падобных на асенняе лісце цыдулак, некаторыя, больш істотныя, уклейваў у мае кніжкі (першы аўтограф быў – пры першых адведзінах майстэрні: падпісалася, ужо прадчуваючы немінучы ўдар дзвюх лавінаў: "шчыра скароная", – і, магчыма, адразу прыйшлі і першыя "ад яго" вершы, бо вершы – яны, паўтараю яшчэ раз, калі хто не паспеў сабе занатаваць, – заўжды *ад кагосьці,* хай бы той хтосьці пра тое ні сном, ні духам: *" Болей, чым брат, бо айчына і дым. /(Зноў ты і я ў азалелым сутонні) /З нас ні адзін не памёр маладым /Толькі таму, каб сустрэліся сёння"* : *ведаеш,* – балбатала, вох, як жа легкадумна, раз уночы, – *а не трэба нам жаніцца!"* – *"Чаго?"* – знямеў, як токам стукнуты, пасярод кухні з неданесенаю да пліты туркаю ў руках: золатка маё, хлопчык спалоханы! – *"А – давай лепей пабратаемся"*, – весялілася ўсім сэрцам з ягонага перапалоху, і ён гучна пераевў дух: жарт, ну зразумела, жарт! – а пабраталіся мы, між іншым, даўно, задоўга да таго, як сустрэліся, бо гэта да цябе, сэрца, а як жа, да цябе гналіся з мяне, задыхаючыся, скрозь гады надрыўна скамечанай маладосці незразумела-цёмныя радкі – ніколі не давала ў друк! – у якіх не-не дый выбулькваў наверх нейкі, падводным вірам вынесены "брат-чарнакніжнік", якога зроду не мела: мела – сяброў, каханкаў-закаханкаў, цудоўна-пругка падкідваючы, хаця багата ў якіх месцах і дзіравы, батут

сумеснага захаплення: клёвая чувіха, эге ж! – мела мужа, які навучыў прымаць і шанаваць – схіляючыся да зямлі, без дурніцаў! – каханне праўдзівае, тое, што гадуецца гадамі і робіцца роўнавялікім жыццю, – а за ўсім тым глуха клекатала ў крыві, пагрозліва абяцаючы спраўдзіцца: *"Браце мой, чарнакніжнік, /Дзе ты цяпер есі? /Суддзям зямным ты лішні /Навекі і на часы – /І тым, у чорных сутанах, /І кату з лязом рудым. /Судныя дні настануць, /Калі развеецца дым. /Сплятуцца травінкі ў росце – /Скрозь труны праб'ецца рацъ. /Мае пабялеюць косці – /І чэрці ў іх сядуць граць. /І помнікам нашай страце /Ляжа каменны груд. /Які тады нас, мой браце, /Чакае апошні суд?"* Цікавае пытанне, так? Дык вось і яно. І вось, "болей, чым брат", – гэта і ёсць "брат-чарнакніжнік": магла б адразу пазнаць, ды што там муліцца, і пазнала адразу – толькі ўбачыўшы той ягоны цыкл з вядзьмаркамі: з зялёнымі аблічамі, быццам пры месяцы, але ў росквіце дня, бо на вохры, на золаце, песенным "вербавым колам" ці, хутчэй, крывым танцам, разгорнутыя, павольна так, палатно за палатном, – прставалосыя жанчыны ў даўгіх белых кашулях, узмахі рук, сухі трэск валосся (з майго таксама не раз сыпаліся іскры, як часалася!) – што яны робяць, няўжо вёску ад чумы бароняць? Не, нешта цямнейшае, рызыкоўнейшае, і мэта цьмяная – цурчыць, сцякаючы ў місу, менструальная крывя, б'ецца певень пад пахаю, не, ***так далёка*** я ніколі не забіралася: ушчыльную, бывала, падступалася, але адразу ж і збочвала, спалохаўшыся бажаволля, што дзесьці там вухала ў цемры па-савінаму, а гэты мужык рыдляваў там, дзе і я, і, адзіны з усіх, рабіў тое, ах, халера, – ажно сліну скрозь сцятыя зубы ўсычала ад захаплення! – *лепш* за мяне: глыбей, натужней ды, ёлкі, проста *адважней:* напрасткі, на суцэльны абсяг рытмічнага – палатно за палатном, як сістала-дыястала, – дыхання, плыў у плыні, да якой я даскоквала – прарывамі, выносячы ў зубах па аднюсенькаму вершу, Божа, які тое клас, калі бачыш кагосьці *дужэйшага* за цябе! – "Пане Мікола, што тут маецца на ўвазе? – дзяўкала, завучана-мокла коўзаючыся на шыпячых, аднак усё ж такі, "из уважения к объекту", з украінскай не злазячы, заезджая, як і ты, кіеўская мастацтвазнайка з натрэніраванаю манераю раз за разам закладаць пальчыкамі, сапраўды гарнымі, пасмачкі за вушка – ніводная мастацкая тусоўка без іх, рыбак, не абыходзіцца, асабліва там, дзе патыхае *артыстычна-блядськымы* мужыкамі, раздратавана думала ты, бо цябе ўжо зачапіла, табе ўжо прагласяя ягонае непадзельнае ўвагі, толькі ж не вякаць яму ў вочы з тою дурніцаю наўзвод: "Нейкі народны, э-э, абрад? Павер'е?" Ён стрымана ківаў – і тым нібы ўступаў з табою ў змову; "А які з іх?" – "Пра тое нельга казаць", – адказваў паважна: так, менавіта так, брацік, нельга, тое таямніца, твая і мая, – пячатка на вусны, як сухі пацалунак: замкнутыя, маўчок, маўчок).

*"Бачыш,* – паказваў ёй, у першыя тыдні сумеснага жыцця – новая краіна, новы кантынент, цяпер усё будзе па-новаму, з чыстай старонкі, эге ж, – ці не першы новы, не "з запаснікаў", накід, туш-пяро: – *глядзі, манюня, гэта – любоў*". Любоў выглядала так: *"манюня"*, што азначала досыць умоўную кабету, ляжала на ложку (*"Сараматніца, цыцкі вываліла!"*, але тое настала ўжо потым...) і грала на скрыпачцы (*"Гэта што,* – выдыхнула з сарданічнаю ўсмешачкай: уночы зноў было балюча, а яму хоць бы хны, – *метафара мастурбацыі?"* – *"Можа быць,* – згадзіўся бестурботна, прапусціўшы паўз вуха яе наезд: надта засяроджаны быў на эскізе: – *гэта з адной польскай песенькі, я некалі пачуў, запомніў сабе*"); ніз жывата ёй цнатліва затуляў распластаны, шчыльна заштрыхаваны коцік – ну, з коцікам усё было зразумела, коцікам быў ён сам (*"Вось тут ты і зглавілася!* – бліснуў вачыма ледзьве не злавесна, пачуўшы, што яна згодна ўсходняга гараскопу – Мышка: – *Таму што я – Кот!"* – гм, з катамі ў яе складалася не вельмі, увогуле дык яна аддавала перавагу сабакам, ніколі не прапускала нагоды папесціць між вушэй нават шалудзівую прыблуду, але тады – тады запаланіла дзіўным, абяззбройваючым шчымленнем ужо апрысутненай небяспекі, і гэта было сумна і салодка: трапілася, нарэшце, што ж ужо, не ўцячэш цяпер, – толькі эскіз разглядаючы, падумала, унутрана здрыгануўшыся: а што, калі коцік, выгнуўшы спінку, раптам возьме ды ўсадзіць *туды* кіпці?..); у нагах ложка стаяў вазончык з нейкай сухой галінкаю,

на галінцы сядзела птушка з заручальным пярсцёнкам у дзюбе (*"Вось прыеду – абкальцуемся!"* – абразліва-весела гарлаў у трубку, калі яна-такі здолела датэлефанавацца – пасля тае страшнае кембрыджскае зімы, калі павольна, з тыдня на тыдзень вымарожвалася, умарожвалася ў непралазныя снягі, выцякаючы з яе, быццам сукравіца са спрактыкавана прахромленага цела, яе каханне, пакуль не скупілася ў апошняй вогненнай кропцы: толькі б ён быў жывы? – і, здолеўшы-такі, праз акіян, праз чароду супольных знаёмых, надыбаць нейкі кантактны нумар, і пачуўшы знаёмы голас, што буркаваў бессаромным задавальненнем: *"Шалёна радая чуць вас, пане!"*, – выбухнула, што тая фурыя, ледзьве не матам – а ён, аказваецца, быў чарговы раз разбіўся, акурат перад яе ад'ездам, зваліўся ўначы са сходаў на купу друзу, паламіў рэбры, дагэтуль ходзіць у гарсэце, вой, блін! – затуліла рот далонню, успышкаю ўзгадаўшы свой, фізіялагічна неяк цяжкі, агідны сон: быццам трымае ў руках яго гіпсавы бюст, які страшнавасценька варушыць вуснамі, дык што ж гэта такое, сапраўды! Добра, будзе табе, чувак, выклік у Амерыку, будзе стыпендыя, выстава ў Нью-Йорку, музыка-жанчыны-шампанскае, усё будзе, – толькі тое "абкальцуемся" пырнула, няйнакш, наглым узвіскатам, сола на пілцы сярод опернай уверцюры: не тое, не тое – не тыя словы!). Скрыпачка, коцік, вазончык, птушка, заручальны пярсцёнак – *"гэта ў іх любоў"*, і эскіз, падалося ёй, такі выпраменьваў, хай і млявенька, драбніцу якога-ніякога цяпла (у завершаным выглядзе, на палатне, напісаным ужо па разрыве, яно цалкам выветрылася – пасцель з жанчынаю апынулася ў атрутна-жоўтай пустэльні, і калі карціна прастаяла ноч у "бейсменці" у гаротнага Марка, ушчэнт забембанага гэтымі звар'яцелымі ўкраінскімі геніямі, дык зранку на ёй знайшлі здохлага павука – вось і трэба было наляпіць яго на палатно, дзесьці між коцікам і птушкаю, якраз яго там і бракавала!). Праз некалькі тыдняў, аднак, з'явіўся другі эскіз – тая самая дама, у люстэркава супрацьлеглай пазіцыі, распасцёрлася на волатаўскай, да белага абскубанай костцы: *"Гэта яе апошні мужчына,* – пракаментаваў злавесна, – *яна яго з'ела"*. У колеры тло атрымалася чорным, маслак мільгацеў на ім нядужнаю фасфарычнаю збялеласцю, а жанчына мела






ўздыбленыя наўсторч, быццам нябачным пыласосам узнятыя, пажарна-рудыя валасы. Такі сабе дыптых. Гісторыя аднаго кахання, так бы мовіць. *"Гэта наш раман"*, – некалі, дома яшчэ, уварнула яна мімаходзь, і ён, не ўзнімаючы на яе ўтрапёнага пагляду, цвёрда паківаў галавою: *"Гэта не раман. Гэта штосьці іншае"*.

Лэдзі і джэнтльмены, я ўжо бачу той змушаны выраз, што вымалёўваецца на вашых тварах, вы ўжо праставілі ў думках дыягназ *severe psychological problems*[30] з абодвух бакоў – нацыянал-мазахістка (хаця з такім дыягназам вы, напэўна, не знаёмыя...) і аўтынічны маньяк (тут працей, бо, акрамя сапраўдных камунікатыўных хібаў, некантактнасці гэтай, ці як яно там называецца, можна б згадаць і драбнейшыя, клінічна выразнейшыя сімптомы – напрыклад, яго поўную няздольнасць нават на імгненне ўтрымаць у галаве тэлефонны нумар перад тым, як запісаць, і асабліва характэрнае, на дзіва куралапнае напісанне – неспадзяваныя пропускі літар, ці тое знянацку пасярод сказа слова з вялікай, або заблукалае з суседніх абзацаў "э" ці "j", нібыта дзеля таго, каб радок прыгажэй складаўся графічна, – нядобрыя рэчы, насцярожвальныя, а калі яшчэ ўзгадаць гэтыя ягоныя падазроныя мігрэні, ад якіх, выхваляўся, непрытомнеў, бывала, дык і ўвогуле кепская карціна складаецца), – што ж тут запярэчыш, гэтае прыгожае, зручнае слоўца, – *problems*, яно азначае і матэматычную задачку, і рак грудзей, і страту кахання, у кожным выпадку дзесьці заўсёды існуе хтосьці здатны даць параду, прафесар, лекар, псіхааналітык, – калі, звычайна, маеце чым заплаціць, а калі не маеце, дык ужо як-небудзь пазавіхайцеся, нашкрабіце па засеках мучыцы, нічога не зробіш, жыццё – рэч каштоўная: вунь Роза, Маркава жонка, сёмы год запар рэгулярна наведвае псіхааналітыка, два сеансы на тыдзень, чаго сярдзега Марк, рахманы гладкі шкаляр павялічанага фармату, не быўшы нават поўным прафесарам, аплаціць, вядома ж, не ў стане, а таму час ад часу, колькімесячнымі нападамі, Роза – саракагадовая дзяўчынка, маці дарослай дачкі, і такая ж маленькая, худзенькая, як вераб'яня (крутазадае вераб'яня з па-вядзьмарску

зрослымі на пераноссі бровамі), нязменна ці то прастуджаная, ці перагрэтая на сонцы, ці, прынамсі, launch пeратомленая (рука на чале, як у калгаснай жняі, скамечаны мокры камяк "Клінэксу" каля носа), вымушана шукаць сабе якую-небудзь працу, і знаходзіць, і нешта там рабіць месяц, і два, або нават тры, – і ўсё дзеля таго, каб мець магчымасць і надалей двойчы на тыдзень класціся на тую самую канапку і апавядаць некаму, хто яе слухае, якая яна няшчасная, – на шосты год яны з Маркам перасталі трахацца, і гэта відавочнае парушэнне: цяпер абое скрыгочуць зубамі ад абстыненцыі, сваркі ўспыхваюць з галодным трэскам, як добра падсушаны хмыз, на кожны славесны дотык, і, падобна, давядзецца павялічыць колькасць сеансаў: *problems* ёсць *problems,* і супольнае жыццё вымагае іх развязваць, згодна з чатырма арыфметычнымі дзеяннямі: дадзена *А*, дадзена *В*, іх можна дадаваць, памнажаць, падзяляць, перастаўляць месцамі, і ўсё тое ў надзеі здабыць нейкую трэцюю велічыню, усёпаглынальны занятак! – дзесьці ў канцы задачніка змешчаны адказ, набраны петытам, мусім трываць, калі-небудзь нам яго пакажуць. Калі-небудзь кожны з нас прачытае свой адказ – праўда, што-небудзь змяніць будзе тады ўжо позна.

Лэдзі і джэнтльмены, *problems* – гэта тое, на развязку чаго існуюць правілы. Але якраз правіл мы і не ведаем, ведаем толькі чатыры арыфметычныя дзеянні, і сунемся з імі, пыхлівыя недавукі, у правальныя пячоры невядомых і ўяўных велічыняў, і глеба выслізгвае ў нас з-пад стопаў, і рэха грукоча абвалам, і ў тым грукаце, даслухаўшыся, можна б улавіць водгулле нечага – гэта ж чыйго, а ну здагадайцеся? – рогату, – і пякучы жах зловіць, калі нага завісае над безданню, адкуль нябачнымі выпарэннямі павольна смаліцца тая спустошлівая, высмоктваючая да млосці ў костках нуда, якую расіяне называюць "*смертною*"*:* а гэта ж бо і ёсць – уваход у пекла, пані і панове, заходзьце, калі ласка, ён заўжды адчынены, што ж вы палохаецеся, вы ж – *сюды* спяшаліся?..

*"Я заўжды хацеў аднаго – рэалізавацца"*. Так ён казаў – і казаў шчырую праўду. *"Панюхай, вось панюхай, як пахне, – хадзі сюды, а-ах!"* – нахіляўся, хціва сапаючы ноздрамі, над пеналам свежапрыдбаных фарбаў, экстатычна прыкрываў павекі (якая раскоша тыя амерыканскія крамкі, чаго тут толькі няма, ах, сукі, глянь, глянь! – украдліва галубіў пальчыкам шаўкавісты аркуш кітайскай малявальнай паперы, колькі гэта каштуе? ні фіга сабе! – вох, якая губачка, памацай, яна ж жывая! – і палотны ўжо нацягнутыя прадаюцца, ну, блін вашчэ, а гэта што, бялілы? колькі? Задавяцца, падлы, – усё, хадзем адсюль, – і раптам рэзка гамаваў на месцы, закідаючы галаву назад, з пакутаю неспатоленай прагі ўцягваючы паветра: чуеш, як пахне?), – ёй падабалася тая драпежная асаблівасць, шкада, што не на яе скіраваная, шкада, што ёй з таго перападалі хіба паследкі: яна таксама адмыслова любіла слова – найперш гучанне, але гук шчыльным невадам цягнуў за сабою фактуру, кансістэнцыю, пах і, зразумелая рэч, колер таксама: колер мелі не толькі асобныя словы, асабліва адчуваўся ён пры пераходзе з адной мовы на іншую, – бо кожная мела свой, зменліва-ззяючы, *асноўны тон* выпраменьвання: італьянская – электрычны фіялет, ультрамарын, нешта накшталт такога светлавога эфекту, калі б чырвонае віно магло зрабіцца сінім, польская шамшыла даўкаю, аскомнаю ад шыпячага трэння маладою зелянінай, англійская пабурбольвала, прасвятляючыся навылет нечым падобным на пяшчотна-залацісты курыны булён, прычым у Штатах больш вадзяністы, у брытанскім варыянце больш густы, смаліста-цягучы – сыцейшы; вядома, родная была найспажыўная, найгаючая для задум: чарнабровы аксаміт, не, хутчэй вішнёвы (сок на вуснах)? русы (пах валосся)?.. так заўсёды – толькі станеш прыглядацца зблізу, рассыпаецца, крышыцца – не збярэш, галадала яна без яе цяжка, проста фізічна: нібыта на бязводдзі ці яшчэ чым, пачуць бы – жывой, шчырай, каб інтанацыяй той спеўнаю, няйнакш, струменьчык цурчыць, калі здалёк паслухаць, плюхнула – яй-бо, падужала б! – у тую хвіліну ён узгадаў без усмешкі, як калісьці класе ў пятым, седзячы на ўроку ўкраінскай мовы, употай нюхаў фарбы, схаваныя пад партаю, а настаўніца, падскочыўшы, шпурнула іх, аж з грукатам разляцеліся па праходзе, – ну пэўна ж, толькі настаўніца ўкраінскай мовы здатная штосьці такое забайбусаваць, чамусьці

яны, быццам на падбор, усюды – найтупейшыя, найзлоснейшыя бабішчы, ашалела-раўнівыя служакі, дакладна як сяржанты-хахлы ў савецкім войску, – *ты не думаеш, што тут комплекс нацыянальнай непаўнавартасці грае напоўніцу?..* Так яны размаўлялі – калі яшчэ размаўлялі, бо раскрываўся – дзяліўся нечым з сябе-ўнутранага – ён наогул памалу, рыпуча: не прызвычаіўся, нейкія там дзверцы ў ім да-аўно, бадай, пазакліньвала, што і завесы іржою пабраліся, – Божа, што ж там за шлюб у мужыка быў, га?.. Для чужых, а значыцца, для ўсіх, акрамя хіба аднаго-двух таварышаў (супольных сяброў у іх было – процьма, і яна даволі хутка ўпэўнілася, што кожны з таго гурта, нават не дурныя мужыкі з некалькінаццацігадовым стажам сяброўства, яго, уласна, не дужа і ведалі, гэта ён іх ведаў: *бачыў!* – куды глыбей, пранізлівей, але ў адначассе і неяк *няшчадней,* падчас перамывання сяброўскіх костачак, зрэшты, для кожнай пары надзённа-неабходным, – бо так засяляецца, залюдняецца навастворaны *свет двух,* у іхным выпадку дадзены ў рукі амаль гатовым, ужо-сямідзённым, – ён прыкра здзіўляў яе тым, як няшчадна раскідаў наўкол адзнакі: Ікс "скача па вярхах", Ігрэк "згаслы вулканчык", Зэт "ажаніўся з той здаравеннай дзеўкай, бо шукаў мамы", – быццам асінавыя калкі ўсаджваў людзям у грудзі: прымацоўваў, забіваў з пляча, без намёку на спачуванне, быццам пачуццямі сваімі да іхніх жыццяў, уласна, не датыкаўся, і калі да яе павярнуўся тым жа бокам, спакойна секанууўшы на яе як-жа-ж-мне-жыць-далей: *"Я ў табе бачу здольнасць выжываць у любых сітуацыях"*, – яна імгненна тую здольнасць і прадэманстравала: успрыняўшы не балюча-адчужаны тон, а голы сэнс сказанага: мужык, не стары, і разумны, і цёрты, раз так кажа, мо і сапраўды – выжыву?) – дык вось, для чужых ён шмараваўся звыш меры – непраглядным, дужа, праўда, не серыйнага вырабу вёрзам, шчодра прысмачаным пернаватымі іранічнымі фрашкамі-прыдабашкамі, але яе тым не задурыў бы, яна таксама мела ўласную, гоў, яшчэ і як выробленую, ды як пластычна (каб не сказаць сексуальна!) прычэпную моўную заедзь, і калі ён спрабаваў схавацца за сваёю, лічыла за лепшае – не, чувак, граць, дык сумленна! – успароць тое пап'е-машэ нажом: тады і павалілі






істэрыкі, штодзень, быццам тыя дні вышчарбіліся, адно ў лякарню ў пару класціся, але і мужыка выкрышыла – не дай Божа: калі так, дык так, не мне адной расплочвацца! Цьху ты, паскудства якое... *"Ведаеш, што ёсць твой слынны герметызм?"* – бо ён называў тое герметызмам, падводзіў пад тую справу тэарэтычную базу, мысляр, блін, знайшоўся! канцэптуаліст! – *"Ну і што ж? Давай, наразай, толькі ў двух словах"*, – *"Калі ласка, магу і ў двух: каменнае яйка!"* – *"Гарна,* – прыцішыўся на імгненне, сапраўды збіты з панталыку: – *а што – напісана так?.."*

*"Жанчынка, ты кропля атраманту, літарка ў цітрах, /Імкні каранямі да глебы нямой, да жарствы. /ГУЛАГ – гэта нібы ўбіваюць пустую паўлітру /Табе паміж ног, а пасля пераходзяць на "Вы". /Мы ўсе – з лагероў. Нам сто год не знасіць той абутак, /Што ходзіць па кветках і кружыць дарогі ўначы. /ГУЛАГ – гэта нібы галосіш: "Мой вырак! Мой смутак!" – /На мове, якую не ўцямяць, крычы – не крычы..."* Так бомкае яна сама сабе (вось толькі – уначы ці ўночы? сноўдаецца мова, сноўдаецца, і не пудрыць нам мазгоў "літаратураю ў *екзылі*"!), – цягнучы сваё непаслухмянае, нялюбае цела вуліцамі чужога амерыканскага горада, у якім няма сяброў, ніводнае душы, а на факультэце належыць пасміхацца і на ўсе *"How are you doing?"* адказваць *"Fine"*[31], – гэта яшчэ адно з арыфметычных правіл, хаця якое там на ліха "файн", дзе яно ёсць, тое "файн", і хто яго бачыў, – на адным з факультэцкіх прыёмаў паважная і ўраўнаважаная таўстуха Крыс, адміністратыўны геній, маці васьмігадовай дзяўчынцы і мужу – вечнаму студэнту (тыднямі харчуюцца бульбаю, на шчасце, у "Джайнт Ігл" якраз на яе скідка, дзевяноста дзевяць цэнтаў за чатырохфунтовы пакунак), пасля трэцяга (аднаразовага) кубка дармавога віна, распунсавеўшыся і запаліўшы, прызналася – панесла жанчыну, – што ў яе рак грудзей, вось ужо пяты год ходзіць на апраменьванні, а ёй жа ж толькі сорак першы, а Элен, заўжды жвавай і рухавай, электрычна накручанай абуджаным смехам, у шортах, у адкрытай летняй сукенцы са споўзлаю з пляча брэтэлькаю, у чорнай вузкай спадніцы з разрэзам да клуба, у

падскокваючай штокрок пухнатай хмары разыскранага цёмна-залатога валосся, – дык той неўзабаве *палціннік*, разведзенай і бяздзетнай, спазматычна ўчэпленай у беспамерную *(fits all ages*[32]! пазіцыю *sexy lady*, з якой плынь часу няўмольна яе вымывае, выштурхоўвае ў спіну, хаця яна заглушае сябе працаю, абы таго не заўважаць, – размахваючы адвечнай цыгаркаю, як поп кадзілам, жыццярадасна верашчыць, што любіць, проста абажае наведванні да гінеколага – кожны раз сканчае ў крэсле, і слухачы пасміхаюцца, адгукаюцца ёй запалам, файна, малайчынка, яна класная, Элен, *клёвая чувіха,* як сказаў бы той мужчына, – можа, толькі тро-ошачку западрабязна расказвае пра сябе: пра тое, як спазнялася на лекцыю, а аўто не заводзілася, і як мусіла выскокваць на вуліцу і галасаваць, не-не, нават спадніцы не задзірала, і які мілы трапіўся бізнесмен за рулём, і што яна яму сказала, і як яны абмяняліся візітоўкамі, – увесь той шлак, які вечарамі спускаецца ў сям'ю, бо гэта *там* мы, дзяўчаты, апавядаем у любоўна-чулліва звернутыя да нас твары, што трапілася за дзень, а чужым – чужым трэба *ўмець* такое накручваць, каб іх не занудзіць, трэба ўмець загарнуць увесь той пaслед, як цукерку, у шаргаткі залацісты фанцік гумарыстычнай навелеткі, пашабуршаць ім зманліва – бач, і пракаўтнулі, і лічыцца, быццам павесяліла публіку, – тут Элен трошку прабуксоўвае, тут усё ж такі мастаком, ці, як сказала б дыяспара, мастакіняю трэба быць, але пасля гэтага – пасля гэтага трымаецца цудоўна, няўрымсліва і тэмпераментна вытанцоўваючы на адкрытай платформе цягніка, які імчыць па каляіне да межавое рысы таго дня, у які нарэшце – абсядзе, згорбіцца, пагасне, нібы выкруцяць з яе лямпачкі, што засталіся без патрэбы, і, можа, таксама зачасціць да псіхааналітыка, як шасцідзесяцігадовая Каці з суседняга аддзела, каторую год як пакінуў муж, і цяпер яе ніякім чынам не выпхнуць на пенсію, а можа, пачне ўшчэнт співаціца ў сябе дома, займецца медытацыяй або завядзе сабаку – само сабой зразумела, пародзістага. І ёсць яшчэ Алекс, састарэлы сербскі паэт, што гадамі валочыцца па свеце, перабіраючыся з універсітэта ва універсітэт, пра сябе ён з годнасцю кажа: “Я – югаслаў”, нібыта такім чынам, як Божым словам, скасоўвае вайну і ўсё, што прыйшло






разам з ёю, яго манера пачынаць размову – “Вось калі я быў у Японіі...”, “Калі я выступаў на канферэнцыі ў Прада, і быў запрошаны кардынал...”, “Калі я жыў у Лондане, у ваколіцах, мне там далі цэлы маёнтак...” – да смешнага нагадвае выхваленні колішніх “выязных” саўкоў перад зайздросна прыгнечанай аўдыторыяй тых, хто ўсведамляе, што самім ніколі “туды” ім не вырвацца, аднак Алекс не чуе сябе збоку, як і ўвогуле нічога збоку не бачыць і не чуе, суцэльна захоплены няспынна прамаўляемым з энтузіязмам панегірыкам самому сабе, – сваім кніжкам, перакладзеным на англійскую, іспанскую, кітайскую, альфа-цэнтаўраўскую, сваім інтэрв'ю і публікацыямі ў гэткіх выданнях за гэткі год, тым, колькі яму плоціць за старонку *“The World”* і колькі абяцае плаціць *“New Yorker”*, – гэты маналог у ім, бадай, не прыпыняецца ні на імгненне і час ад часу сягае той мяжы, за якой узнікае патрэба ў пары вушэй, – тады Алекс тэлефануе, і заязджае па яе на сваёй “Таёце” (штораз нязменна прыгадваючы, што дома, у Бялградзе, меў “Мерседэс”), і яны ідуць куды-небудзь на дрынк, два славянскія паэты ў чужой краіне, а-йа, і няхай жытам-пшаніцаю, быццам золатам, пакрытая, не размежаваная застанецца навек ад Атлантыкі да Пасіфіка славянская зямля, спаць з ім яна не збіраецца, дый занадта ён захоплены ўласным вусным жыццяпісам, каб як след за яе ўзяцца, але вершы ягоныя, якіх навалок ёй колькі хапіла рук, у тым ліку ў кітайскіх перакладах, такі не бяздарныя, – збольшага, праўда, усё ж “снэпшоты”, падарожныя замалёўкі, сняданак турыста, аднак амаль у кожным сямтам дый праблісне жывы радок, і ўжо нібы, бач, і цэлы верш стуліўся да купы: рэдкавата, але іскрыць, і аднаго вечара яна пытаецца ў Алекса, а як жа ён дае сабе рады з моваю, — гадамі толькі ад жонкі і чуючы сербскую, ці не адчувае абмялення запасаў, – і найперш бачыць на ягоным твары панура-наваўкалачаны выраз: ёсць такая справа, згаджаецца неахвотна, нібы змушаны прызнацца ў старанна хаваным фізічным недахопе, – таму дык і згадзіўся на працу ў эміграцкай газеце, – ага, тое прыблізна так, калі б яна падрадзілася выпраўляць мову ў нью-йоркскай “Свабодзе”: Дня 31-га жніўня 1994 року па закліку Усявышняга Творцы неба й зямлі адыйшла ў Сусьвет (у Сус-

вет! па закліку! проста касманаўтка, ці там астранаўтка...), пакінуўшы невыказны смутак і жаль (гэта значыць, *без* смутку і жалю?) нашая найдаражэйшая, незабыўная, улюбёная жонка, цётка, швагерка і сястра (вуф, дайце дух перавесці!). Ня ў сілах адзьдзячыць усім асабіста за такія шматлікія праявы спачуваньня: тэлефанічныя, пісьмовыя і асабістыя (а сінтаксіс! сінтаксіс, перапрашаю, сінтакса!), таму такім шляхам (сцяжынаю! дарогаю! хайвэем!) выказваю ўсім прыяцелям, і знаёмым, ды сваякам маю найшчырэйшую падзяку (а цяпер вазьмі і паспрабуй гэта ўсё перапісаць, каб быў нейкі глузд!), – і тады яна разумее, што кайфаваць ад сябе, па-шчанячаму цешачыся кожнаю адзнакаю ўласнай прысутнасці ў свеце, – гэта таксама адзін са спосабаў стварыць у ім дом, асабліва калі пазбаўлена ўзаемнасці з-за сваёй мовы, краіны, і што да гэтага таксама, напэўна, прыходзяць не адразу, – і ўжо не здзіўляецца, калі пасля таго вечара Алекс перастае ёй тэлефанаваць – верагодна, назаўжды. Божанька мой, і на ўсё тое трэба ўменне – быць хворым, быць самотным, быць бяздомным: усё гэта мастацтва, і кожнае вымагае таленту і працы. *Fine*, будзем вучыцца.

Чхаць яму было на яе вершы – як і на ўсё ўвогуле, і заўжды было чхаць, яго вёў уласны, ні на што не зважлівы інстынкт таленту, і, ведаючы цёмным, клейкім веданнем – радавым і фамільным, якое ўбірала ў сябе змалку пракаўтнутай камянюкаю і якое, што праўда, і гнала яе наперад, наперад, наперад! – найперш бажавольным страхам, каб і самой, патрапіўшы ў шэраг, *не вызваліцца,* скапыціцца, як усе ў папярэднім пакаленні, і ў пазапапярэднім, і ў пакаленні перад пазапапярэднім (тым увогуле далося – лепей не ўзгадваць!), цэлую маладосць яна імкнулася вырвацца з лёхаў, дзе атрутна смярдзела напаўстлелымі талентамі, жыццямі, якія дагніваюць у безрухомасці, прэллю і цвіллю, нявымытым прысакам марных намаганняў: украінскай гісторыяй, – ведаючы, кроўным веданнем, *праз якія* ляды праломваючыся, выносіў яго, пручы як танк, інстынкт таленту на сабе – угору (увесь час – угору: апошнія працы былі і наймацнейшымі, ззялі святлом ужо нетутэйшым, як зорнае неба ўначы над пустэльняю, – а на яе памяці шэраг за шэрагам урачыста пасвечаных у геніі падавальні-






каў надзей покатам валіліся з ног у пратаптаную каляіну, ледзьледзь вычарпаўшы маладосць!), – яна, якой рабілася млосна ад выгляду зашморганых родных алкашоў у праплешынах празмернае геніяльнасці (каму цікава, вось адрасы: "Энэй" у Кіеве, "Чырвоная каліна" ў Львове, уваход вольны, гадаваць, а нават і паіць жывёлу не толькі дазваляецца, але і заахвочваецца), – адразу выказала – першаму ў жыцці! – гатоўнасць саступіць: упершыню, бо мела справу з ***мужчынам-пераможцам***. Украінец – і пераможца: дзіва, яй-богу, у сне б не праснілася, – чаго мусілі каштаваць яму тыя сямідзесятыя-васьмідзесятыя ў правінцыйным мястэчку, лічы, у падполлі, з таго мястэчка, ухапіўшы падпаху яе сямігадовую, калісьці даўно ўцякалі ад кагэбісцкай аблогі ў Кіеў яе бацькі, бацьку, які адтабарыў сваіх шэсць гадоў яшчэ "сталінскіх", усё жыццё ганяў, як вавёрку, у абручы жаху комплекс "паўторніка" – другога арышту ніхто не вытрымліваў, нават калі выжывалі, ламаліся ўсе, кожны пасвойму, – ці не тыя самыя ўвішныя, серыйна стрыжаныя, усе як на падбор чарнявыя, хлопчыкі ў шаргаткіх плашчах, катопых яна – кепска сфакусіраванаю, размытаю дзіцячаю памяццю – зафатаграфавала са спінаў, як корпаліся ў наваленых долу грудах кніжак сярод аголеных ураз сцен яе першага ў жыцці, ды не, адзінага ў жыцці дома, – потым, даслужыўшыся да вялікіх зорак, смяротным похапам учапіліся былі ў мяцежнага мастака? – эх, братка мой, і пабрацімства ж наша доўбанае – усё роўна што з аднаго лагера карашы, колькі ж, маць яго за лапу, колькі гадоў трываць тую спадчыну і як яе з сябе выкрывіць, выхаркаць – як? – сябры-кіяне, размяклыя за чаркаю, згадвалі, як пазнаёміліся з ім у восемдзесят другім: прыехалі ў камандзіроўку, уваліліся на каву ў мясцовую "шклянку", падышоў правінцыял зашуганы: "Хлопцы, вы не мастакі? Тут мая майстэрня побач, хадземце, я вам свае працы пакажу, і кава ў мяне ёсць", – а, ну хіба што кава, давай, чувак, налівай, – а з чаго ўзяў, што мы мастакі (былі – пісьменнікі, акторы, вопшэм, таксама зброд парадашны)? – "А – бароды ў вас", – а туды да д'ябла, на ўлік іх там тады бралі ў той нары за нашэнне барадаў, ці як?! Так скрозь краты ў акне вагонзака працiскалася рука з цыдулкаю, матлялася па ветры: а раптам хто нязлосны ўгледзіць, падбярэ, адашле на адрас – выгляд-

ванне ўслед прашамацелай паперцы, галодная надзея ў вачах: не мастакі, не?.. А да майстэрні – бачком, задамі, акружнымі вулачкамі: "Не трэба, каб вас са мною бачылі..." Айчына і дом, а то ж: Украіна, восемдзесят другі год. І ні табе брытанскіх карэспандэнтаў, ні лістоў у падтрымку ад вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва – гэта ж хто тады Нобелеўку быў дастаў, Маркес, здаецца? (Добры пісьменнік, халера, а што нібыта, пагаворвалі, адданы сябра Савецкага Саюза, дык – *who cares*[33].) Тую показку, якая ў імгненне зрабіла яго – родным, балесна адчутым з сярэдзіны тых непраглядных гадоў (якія – адужаў жа, узяў гару: намаляваўшы ўсё, што намаляваў! – пакуль іншыя співаліся, вешаліся ці, як яе бацька, гадзінамі палілі, стоячы ля акна, утаропіўшыся ў мур будынка насупраць і нажываючы рак ад безвыходнасці!), – яна пачула яшчэ да таго, як на трэці дзень фэсту ён, на нейкай лядашчай падставе, уварваўся да яе ў гатэльны нумар, пабудзіўшы ад сну, – усё, усё ад пачатку было замяшана на турбаванні, на гвалтоўным выбіванні са звыклага фізічнага рэжыму, на саслабелым усведамленні, на плывучых, быццам гук на аселых батарэйках, рэфлексах! – і стаяў у цеснай, быццам ліфт, вітальні, са скрыжаванымі на грудзях рукамі, падпіраючы дзверы, па-кацінаму красамоўна свецячы ў яе вачыма, і яе раптам працяло – сціснула зубы, каб не скрыгаталі, – наплывам дзіўнага, не эратычнага нават, не! – *нейкага іншага,* да млосці хвалюючага ўзбуджэння – быццам перад аперацыяй ці іспытамі: нешта з гудзеннем клубілася, насоўваючыся на яе, нешта неадольнае, цьмянае і пагрозлівае, нешта самачыннае і таму *сапраўднае,* яшчэ можна было ўхіліцца, прыгнуць галаву, і хай бы пранеслася міма, але ў ёй не было страху, была – ужо ўключаная, узведзена-пругкая гатоўнасць неадкладна ірвануць насустрач жыццю, хутка толькі яно само прыпускае з наседжанага месца: сапраўднае – нагода рэдкая, гэта тое, што болей за цябе, да чаго мусіш дарастаць, выскокваючы са скуры, пакідаючы яе пасля сабе, сем скураў, дзевяць скураў, абы толькі не спыняцца! – добра, прымаю, вочы ў вочы! – *"Да вечара?"* – *"Да вечара"*, – *"Пойдзем тады на каву?"* – усё знялося з месца, віхор шпурляў лісце па асенніх дарогах, і мястэчка, у якім яна нарадзілася і якое ўвесь час недзе на адлегласці, нібы на дне возера,



зберагала ў сабе схаваным яе ранняе, яшчэ спрасоннае дзяцінства, вяртала цяпер яго назад – у сподняй вільготнай кашулі, якой няма зносу, гэта, уласна, пачалося з першага дня – прысутнае падземнае гудзенне абуджанай памяці, пазнаванне знаёмых вулачак: ах, вось яны якія! – вітрына аптэкі на рагу, на тым жа месцы, што і дваццаць пяць гадоў таму, – спынілася, быццам укапаная, задыхнулася ад слёз: тут ставілі гарадскую ялінку, і яна фатаграфавалася з Дзедам Марозам, пяцігадовая дзяўчынка ў абскубаным футрачцы, пах мандарынак і бэзавага надвячорняга снегу, яго бляск пад ліхтарамі – а на тым баку, троху далей, быў, здаецца, кінатэатр (ранішні сеанс – з татам за руку – нешта дакументальнае, пра малпачак?). – А ён і зараз там ёсць, – адказвалі ёй са змушанымі замілаванымі ўсмешкамі, якімі трэба расчуліцца пры выглядзе чужога дзяцінства, і толькі ён, каго пацягнула за руку за сабою – туды: *"Паехалі ў парк?"* – *"Куды скажаце, пані, я цалкам ваш"* (старадаўні парк над рэчкаю, наноў, як прамытыя, выплывалі са шматгадовай імглы каменныя сходы, аблушчаная балюстрада, ах, *вось* адкуль тое ў маіх снах! – і, о Божа любы, тая струменлівая фарба, тое павольнае падводнае святло, халаднаватае, блакітна-зялёнае, у якім знерухомелі, углыб алеі, дрэвы і лавы, – дык гэта ж тым прамянеюць мае прыгажэйшыя, найбольш *мае* вершы, – вось жа, таксама ***адсюль?***), – *"Тут дзесьці быў тады бярозавы мосцік"*, – *"Ён і зараз ёсць – хадзем, пакажу"*, – толькі ён адзін не выказваў няшчырага прыпудранага расчулення, увогуле ніяк не прыкідваўся, а моўчкі, засяроджана і зацята, думаючы і адзначаючы сваё, прадзіраўся скрозь яе стан, як потым, начамі, скрозь шыйку маткі, каб нарэшце выдыхнуць: га, вось яна! – стаялі над нерухомым плёсам, усцеленым раскаю колеру пацiны, *"Глядзі,* – кіўнуў галавою, – *які дзень"*, – і раптам балюча сціснуў яе за плечы: *"Слухай! Я кахаю цябе і твой мосцік. А табе – слабо?"* – *"Што менавіта?"* – *"Слабо сказаць – я кахаю цябе і твой дзень? Слабо – бо я для цябе чалавек з пейзажу: з* ***гэтага*** *пейзажу"*, – вось тады і варта было спытаць: а я – для цябе? Бо яна сапраўды ўпусціла яго ў свой пейзаж – у кожны са сваіх пейзажаў, паслядоўна, крок за крокам, апошні — пенсільванскі, і ён, скіраваўшы ўслед за ёю (*"Апошняе маё каханне"*, – хваліўся прыяцелям: ёй пераказ-

валі, – а з яе выпырсквалі радкі, як бурбалкі паветра з лёгкіх тапельца: *“Восень пустапарожняя /Ходзіць плошчамі тлумнымі… /А любоў – не апошняя, /Ты дарэмна так думаеш”* ), – прайшоў праз яе тэрыторыю, быццам татарская арда, – са свістам і гікам выпаліўшы амаль з цэлага абшару памяці, з усіх яе асноўных здабыткаў тую жывёльную, таямніча-трапяткую любоўную вільготнасць, якую душа з году ў год збірае пра запас: падземныя воды, няўлоўныя на слых сёрбанні-цмоканні, учэпістыя запусканні варсістых карэньчыкаў у цёмную глыбіню перадсвядомасці, у калідор, што знянацку адчыняецца – у раскрытую прастору спагады: там замірае дзяўчынка пасярод асенняе алеі, упершыню адчуўшы, як гудзе за туманом далёкі небасхіл, як свет кліча яе, абяцаючы ёй *дарогу,* вось з той дзяўчынкі ўсё і пачынаецца, і што б ні здаралася потым з табою ў жыцці, – яно цэльнае, яно трымаецца разам датуль, пакуль ты верыш той дзяўчынцы, пакуль улоўліваеш у сабе пачуты тады ёю покліч, – бо ўсе так званыя ідэалы юнацтва – гэта пустка, лэдзі і джэнтльмены, пані і панове, *forget it*[34], яны прыносяцца звонку, таму дык рэдка ў каго атрымліваецца зберагчы аддансць ім, ну і паралюш з імі, невялікая страта, вытрыце соплі, усе пажаваныя-памятыя гадамі барадатыя леваки-шасцідзесятнікі, колішнія хіпі, што так і не адужалі ўласнага будыначка ў сабербіі з квітнеючым гародчыкам на заднім двары ды гаража з двума аўто, а таксама ўсе тыя, што адужалі, і пагалілі бароды, і незаўважна для сябе пакрыліся, як гаршкі паліваю, глянцаватым сытым водбліскам канчаткова спыненага – у спакоі і даббрабыце – жыцця, і ўсе, некалі кіданыя ў “варанкі”, да страсення мазгоў збіваемыя па мянтарнях і падваротнях украінскія бунтары, а цяперашнія лаўрэаты дзяржаўных прэмій з азызлымі ад спецбуфетаўскага тлушчыку ручанятамі і дабротліва, па-гаспадарску адгадаванымі, вох, якімі ж красамоўнымі спінамі, уціснутымі ў гарсэты блюмінгдэйлаўскіх пінжакоў, – хай не сніцца вам вашае цудоўнае юнацтва, нават калі ўсялякія там няўдачнікі тыркаюць ім вам у вочы, дурное тое ўсё, шчыра кажу, – падман, міраж: толькі ў дзяцінстве ёсць праўда, толькі ім і варта вымяраць сваё жыццё, і калі вы здолелі не затупаць у сабе тую дзяўчынку (таго хлопчыка – які вось стаяў з дубчыкам на выгане, уражаны гнятлівай, бо непад’емнай, звыш чала-





вечай сілы велічынёю вогненна-барвовай сімфоніі захаду), – значыцца, ваша жыццё не збочыла, пракрывуляла, хай як там цяжка і балюча, за сваім уласным рэчышчам, значыцца, збылося, з чым вас і віншую, – і каханне, лэдзі і джэнтльмены, сапраўднае каханне – яно заўсёды відушчае на схаванага ў іншым (іншай) хлопчыка (і дзяўчынку: вазьмі мяне – тое заўсёды: вазьмі мяне з маім дзяцінствам, *“Вось сюды,* – паказвала, заміраючы перасохлым горлам, схіліўшыся на пярэднім сядзенні, быццам прыпалы да грывы вершнік, – *тут паварот у двор, вось гэты будынак”*, – была глыбокая ноч, нешта на трэцюю раніцы, сярод пустэльнай вуліцы гарэў толькі ліхтар на рагу, – ён заехаў пад арку, развярнуў аўтамабіль, заглушыў рухавік, *“Вось тыя вокны, бачыш, дзе гаўбец, на трэцім паверсе? Вось там мы жылі”*, – у тое імгненне ён і наваліўся на яе, з доўга стрымліваемым стогнам усмактаўся ў вусны, зашастаў рукамі пад швэдрам, трохі згвалтоўна, але як адбылося, так адбылося, *“Паехалі да цябе… У майстэрню…”*, – недзе ён і зараз там ёсць, той двор, і гаўбец, і арка, і ўцалелы болей чым за трыццаць гадоў стары каштан на пагорку – вось толькі дзяўчынкі, што выйшла колісь з таго двара ў набрынялы таемным гудзеннем вільготны туман, – няма ў ім болей). Няпраўда, ты яшчэ жывая, пераконвае яна сябе, увесь час на ўсе бакі прамацваючы памяць, быццам спрактыкаваны хірург – выцягнутае з-пад завалу цела: тут – адчуваеце, калі націснуць? а тут? – прамільгамі, рыўкамі сутаргавых рухаў нешта часам нагадвае пра сябе, – напрыклад, учора, выйшаўшы на вуліцу, востра – бліскавічным паглыбленым рассячэннем углыб гадоў – пазнала пах асенняга лісця, усё роўна, як называюцца тыя дрэвы – платаны, канадскія клёны, – пах быў той самы, што і дома, вільготны, шчымліва-гаркавы дух *яшчэ жывой* (апошнія дні – жывой) зеляніны: сонца ў высокіх прарэджаных кронах, пачатак навучальнага года, дарога да школы праз наскрозь вызалачаны святлом парк, і зграйка падлеткаў, бялеючы, як ветразямі, футболкамі, з недарэчна-квакліва артыкуляванай – англійскай! – смехам пратупала напярэймы, мірганулі, як за шклом, прыжмураныя супраць сонца юныя вei, пшанічна-васковая спеласць агаленых шыяў і раскалыханых хадою рук, мільганула думка: яшчэ вас, зайчаняткі, *не біла,* – а можа, хто ведае, можа, ка-

госьці і абміне? – і прыпынілася па гэты бок шыбы, стрымліваючы рыданні, што падступілі да горла: Божа, дык няўжо ж усё скончылася – спраўдзілася ўсё, абяцанае на світанку жыцця тым разлітым у прасторы гудлівым працяглым клікам, абвеяла – павевам па валоссі, мазком па вуснах, так і не вывернуўшы да дна, не выцягнуўшы з яе галоўнага?.. (як пагрозліва ракатаў быў: *"Я цябе разарву!"*, – падхапіўшы пад калені, нацягваючы яе на сябе, – а ў выніку і не скончыла ні разу: хіба, можа, той боль, што выпатрошвае жыўцом, – таксама адзін са спосабаў скончаць?). *"Напрыканцы восені вянуць надзея і плоць, /Лістам адкрываецца вечнасць у вольным падзенні. /Прасторай, аголенай насцеж, праходзіць Гасподзь /Між чорных пякельных ствалоў у бялюткім адзенні..."* І што ж цяпер, Божа? Што ж цяпер?..

"Божа, куды ж далей?" – так быў падпісаны эскіз, які яна падгледзела ў ягоным рабочым альбоме, неабачліва пакінутым навідавоку: на самай вяршыні, на ігольчатым шпілі гары балансаваў на адной назе пляшывы мужчынка з небяспечна завостраным, як у аўтара, тварам (усе маляваныя ім твары былі ўмоўныя і ўсе няўлоўна-зменліва падобныя між сабою, быццам разыходзіліся, як кругі па вадзе, ад патопленага арыгінала – так ніколі і не напісанага аўтапартрэта), – мужчынка абедзвеучруч трымаў драбіны, настаўленыя ў неба, і пытаўся ў Бога, куды ж далей, але неба над ім было пустое. *"Я заўсёды хацеў аднаго – рэалізавацца"*. Чароўнае супадзенне, братка, – я гэтаксама, толькі што тое значыць – рэалізавацца? Калісьці – яшчэ каханы, яшчэ высветлены яе любоўным замілаваннем, як свежа адрэстаўраванае палатно: непахісны, смарагдавыя ўспышкі на досвітку, той нясцерпны (го, да стогну!) профіль са старажытнае манеты, срэбнаваты, не, хутчэй алюмініевага водсвету, вожык (*"Дикобразик!"* – смяялася, разглядаючы, парывіста ўтуляючы гэтую суха, пародзіста вылепленую галаву сабе між персяў), суцэльны метал, камень, абсідыян! – седзячы ў яе на кухні, звесіўшы рукі між каленяў і неадрыўна ўтаропіўшыся ў кафляны ўзор на падлозе (і той пухнаты швэдар, у якім цалкам патанала ягоная дужая, у вузлік сціснутая постаць, яна таксама палюбіла), ён распавёў ёй пра свайго бацьку, – дзед



старыўся самотаю ў вёсцы на Падоллі, давай праведаем яго – удвох, паедзеш са мною? (і ёй адразу ж уявілася, як з гонарам кажа, ляскаючы дзверцамі машыны: "Тата, гэта мая жонка!" – тое прасталюднае "жонка" ў вуснах украінскіх мужчын заўсёды ўспорвала ёй слых, але тут – тут яна б не крывілася, з усмешкаю ступіла б, як з часопіснай вокладкі, у сваім шыкоўным расхінутым кармазінавым паліто ад "Ліз Кларбон" і чорных, гармонікам, боціках на высачэнных абцасах, у раскврашаны дажджамі чарназём – ці што там у іх, глей? пяскі? – настаўляючы каўнер, тонкія музычныя пальцы з наманікюранымі ў тон паліто пазногцямі, гайдлівыя бразготкі арабскіх срэбных завушніц: *ягоны* ганарліва дэманстраваны здабытак, апошняя перамога, якім здзейсненае жыццё дае справаздачу перад сваім вытокам) – маладосць старога прайшла па канцлагерах, нямецкіх і савецкіх, *"памыі сёрбаў з карыта"*, – вымавіў, нібы скулу выдавіў: з драпежным утрапеннем і хваравітым задавальненнем разглядаючы выціснуты гнойны стрыжань, – і давершыў няголасна, так і не ўздымаючы позірку: *"Рабы не павінны нараджаць дзяцей"*. – *"Што ты такое кажаш, як можаш, грэх!"* – *"Бо гэта перадаецца ў спадчыну"*. – *"Ні халеры не перадаецца – хочаш сказаць, што ў табе няма свабоды?"* – *"Жаданне вырвацца – яшчэ не свабода"*. ***Вырвацца!*** – яе скаланула гэтае слова, так лёгка вынутае з яе ўласнага слоўніка, нібы ён загадзя ведаў, на якой старонцы раскрыць, – тым словам ён *вывеў на яву* і так падцвердзіў, замацаваў невычарпальнасць яе родавага інстынкту, што *ўрубаўся* ў тую першую ноч, *пазнаўшы*: мілы мой, родны, хлопчык маленькі, ідзі да мяне, у мяне, я абгарну, закрыю цябе сабою, я нараджу цябе наноў, так, адразу, адгэтуль і да заканчэння, ну зразумела ж, мы ажэнімся, дый што там, мы ўжо пабраліся, і ў нас будзе – сын (*"Нарадзіць табе трэба,* – задыхнуўшыся, адрываўся ад яе вуснаў, не ў стане болей стрываць цалаванне стоячы, – *малака ў табе багата!"* – у тым ягоным, кашмарнаватым нейкім, – хаця ён, дзякуй, літаваў яе ад падрабязнасцяў, адкручваючыся балесным жэстам – далонямі па твары, быццам сухое ўмыванне: *"Ат – мытарства..."*, – шлюбе – у яго *быў* сын, ужо дарослы, студэнт, і, казалі, страшэнна файны пацан, ад яго ўвогуле павінны былі нараджацца *хлопцы,* такія рэчы яна вызна-

чала адразу, скразным прамянёвым веданнем, дзяўчынай яшчэ – з кожным мужчынам, без выключэння і яшчэ да кожнага ложка: хто з тым восі будзе, сын ці дачка, – чый пол дужэйшы), – бялявенькі, з курчава-пухнатым валоссем хлопчык, што ўжо некалькі разоў з'яўляўся ёй у снах, – пакруціўшыся ў беспаветранай прасторы, пацягнуўся, ускалануты шалёнаю сілаю яе памкнення, – да яго: будзе класны хлопча, што тое золата (і ўсё стракатае сумяцце прачытаных імі кніжак, яго карціны, яе фартэпіяна, Божа, як жа *багата* ўсяго нажытага і перадуманага! – сарваўшыся ў рознакаляровы віхор, збіўшыся да кучы, умомант утварыла ў яве – *гняздо,* стала структураю – завершана-круглаю, з жывым прыцяжэннем у сярэдзіне: зусім не пагана нарадзіцца ў такім свеце, і мы – мы здолеем яго абараніць, праўда? ёлкі-палкі, ды колькі нас увогуле ёсць, тае няшчаснае, праз сілу, ***упоперак*** гісторыі затрыманай інтэлігенцыі ўкраінскай, – жменька, дый тая расцярушаная: выміраючы від, загіблыя кланы, нам бы памнажацца шалёна і ўвесь час, займаючыся любоўю дзе толькі магчыма, з аргіястычнаю неспатоленасцю зліваючыся ў адзінае, лямантуюча-стогнучае шчасцем кублішча рук і ног, якое ўсцілае сабою, засяляе наноў гэтую радыеактыўную зямлю! – сын, восі ён дык нарэшце вызвалены будзе ад тае спадчыны, за якую ўсю маладосць расплочваліся мы – так цяжка, што ўжо, няйнакш, дарэшты), – люты, яскравы інстынкт *пароды*, аднойчы ўсвядомлены ёю на ўвесь абсяг духу, запоўніў яе цалкам і папёр напралом, усё на шляху зрынаючы, – што там раструшчанае аўто, што там адлегласці – паміж гарадамі, а хаця б і паміж кантынентамі! – што там пажары з позвамі і мянтоўскімі пратаколамі (а які дзіўны быў пажар, следства так нічога і не дадурнілася, на зімовым лецішчы, куды прыехалі кампаніяй, ён раскладаў пад раніцу агонь у каміне, гэта ён дамагаўся шашлыкоў, зматаўся на аўто, тады яшчэ цэлым, на досвітку на кірмаш, набыў мяса, – ёй запомнілася, як нёс перад сабою цяжкі, раздуты пластыкавы пакунак у крывяных пісягах: неяк нядобра, тлумліва ўздзейнічала на яе тое бяссонне – засмяглы ёлкі прысмак у роце, пачуццё нямытасці і бруду пад пазногцямі, здавалася тады – ад стомы, перапою-перакуру, а потым, у нармальных ужо, ды што там нар-мальных, у, лічы, клёвых, з усімі амерыканскімі выго-



дамі, умовах падалося – не, не ад таго, – адчуванне тым больш незразумелае, што ён жа быў такі клінічны чысцюля, шторанку па гадзіне плюхаўся пад душам, і гэта калі не лічыць галення, ажно яе брала злосная цікавасць: што здаравенны мужык можа там гадзіну рабіць, ананue, ці што? ягонага ўласнага паху яна так ніколі і не ўнюхала: тытунь – так, дэзік – так, але як, халера забяры, пахне мужчына, з якім перад тым два месяцы, пардон за высокі штыль, падзяляла стол і ложак? – нават сперма яго, здавалася, не мела паху, можа, таму, што, толькі скончыўшы, зрываўся і гнаў у ванны пакой як апараны, слухай, мне што – за табою бегчы, ці як? *"За бродам – і блуд, і бруд: /Прамыўка падземных руд /Ад смяротных атрут, /Урэшце застаўся – труп. /Адмыты, як дно ракі, /Раскінуўшы дзве рукі – /Бяспёрыя цені крыл, /Ляжаў, маўчаў і курыў. /Маўчання глухое тло /Ў душу мне пеклам плыло"*, – гэта яна цяпер такое піша, хаця на фіг яго такое і пісаць – функцыя хворага арганізма, не болей, а тады – тады скрозь бяссоннае ачмурэнне бліснчаў тонка, з сінявою накрухмалены сняжок, на шыбках ззялі марозныя яліны, была ціша, вялікая, ажно, няйнакш, сусветная, толькі пашоргвала знадворку пад крокамі прыхопленае церушыннем апалае лісце, пасмы бляклага сонца ляжалі на паркеце, калі яна ўвайшла ў гасцёўню, дзе ён, прысеўшы на кукішкі перад камінам, раскладаў агонь, падсоўваў нарыхтаваныя паленцы, гукнуў, не паварочваючы галавы: "*Чуеш?* – з гарышча даносіўся хімерны лязгатны гук: – *кран прарвала, трэба будзе майстра выклікаць*", – правяла, з-за спіны, рукою яму па патыліцы – супраць поўсці, нібы спадзявалася выкрасаць іскры, што ж учыніць з тым варушэннем у сабе, *"што мне рабіць з табою?"*, і тут – ледзьве здолела адступіцца – уляцеў Алеська ў расхлістанай куртцы, адштурхнула буйным планам – танцавальна закруціўся аб'ектыў: істэрычнавясёлы жах з вачэй, рот, разверсты крыкам: "Людзі! Уцякайце, гарыць!" – хто – гарыць, што – гарыць, а ўжо былі на двары, атупела стаялі, пазадзіраўшы галовы: уся мансарда каламуцілася, абцятая шчыльным, жаўтавата падсвечаным дымам, ён шугаў у неба, і ўжо грукатаў, ужо *штосьці* нарастала ў ім рогатам, узносячыся напоўніцу, з трэскам праломваючыся галавою скрозь страху на волю, у-гу-гу-гуу, нарэшце! – і яна

ізноў, імгненна, здзівілася, што не адчувае ў сабе страху, што — *вырубленая*, маўляў, не з ёю ўсё тое дзеецца, — ад суседзяў бегла па заільдзянелай сцяжынцы маладзіца, дзеля нечага захітваючыся на бягу ў чорную хустку, нехта кінуўся тэлефанаваць, заскакалі на ўзбочцы зроку твары і постаці, распачалася сумятня, а яна бачыла толькі ягоны дзіўны, нетутэйшы нейкі, спакой, звернуты да нізкага срэбнаватага неба профіль, рукі ў кішэнях, узгадала радкі з ягонага ліста, незадоўга перад тым атрыманага: *"Прызвычайваюся да свайго новага стану, але маю патрэбу ў леках. Згодны на лякарню, турму, лабатамію"*, — нешта тут было не тое, і калі, праз некалькі гадзін, калі ўжо пагасілі, калі ўжо адверашчалі, адмільгацелі па снезе сінюшнымі сполахамі пажаркі, а следчы яшчэ не прыехаў, і кампанія, уся яшчэ ў затлумленні ад узбуджанага смеху, кашлю, сморкання — першы шок перамогся, і належала разняволіцца, — даглушылі падрыхтаваную было пад шашлык пляшку каньяку ў сухім і такім утульным пасля ўсяго флігелі — ужо амаль што радня, вох, братцы, ну ні фіга сабе, плюхні яшчэ, каму цытрынкі, вуф, кайф, здаецца, уставіла, дайце хто цыгарку, — і ён знянацку палез у торбу і выцягнуў жменю бенгальскіх агеньчыкаў: набыў зранку на кірмашы, калі ездзіў па мяса, думаў, прызнаўся каротка, наладзіць невялічкі феерверк, — выбух нервовага рогату страсянуў флігель, ажно шыбкі бразганулі: ну і ну, наладзіў, — як гэта табе ўдалося? ты хаця б следчаму, чуеш, не паказвай, — склаў зморшчыны ва ўсмешку, павярнуўся да яе, прыўзняўшы кароткім, кінжальным водбліскам павекі: *"Можа, ты хоць так мяне запомніш"*, — бо тым ранкам, перад пажарам, яна сказала яму, што едзе ў Амерыку. І нічога не высветліла следства, зусім-такі нічагусенькі, — проста вырваўся аднекуль дух агню, кім? чым выпушчаны? — вырваўся, і дзевяць месяцаў гнаўся за ёю, ужо па амерыканскіх шыротах, у кухні, асабліва ўночы, калі выходзіла папаліць, раз за разам адчуваўся выразны серны пах — ці то газ выцякаў? — патэльні з гюрзіным сіпеннем пляваліся ёй на ногі кіпячым алеем, апёкі гаіліся кепска, а ўжо пры ім, як прыляцеў-такі, паадкрываліся, маўляў стыгмы, даруй Божа, — ён сам залепліваў ёй пухіры на лытках аддзёртаю ад яечнага шкарлупіння плеўкаю: *"Пасядзі так, хай падсохне"*, — і заставалася сядзець перад тэлевізарам,



пакорліва ўсклаўшы на *coffee table*[35] свае няроўна падсмаленыя сырыя кілбасы, ужо цалкам разутыя ад усялякіх эратычных чараў, — і ўрэшце, у апошні вечар перад тым, як меліся, дзякуй Богу, выбірацца з кватэры, ператворанай за час іхняга сямейнага жыцця ў бокс для ашалелых, насычаны тлуста настоеным, ажно нібы *бачным* цёмна-бурым чадам, — куды, невядома, тым часам у матэль, абы хоць якая перамена, — тады, на развітанне, агонь вярнуўся ў сваім першасным выглядзе: была адна, гатавала на кухні вячэру і ўжо звыкла, чакаючы ягонага вяртання з майстэрні, адчувала да нудоты абцінаючае душу сціскание, пры гэтым нешта там адшкрабала, спінаю да пліты, і раптам азірнулася, быццам ад штуршка, — фаерка пад каструляю шугала ўжо амаль да столі, і ўжо нараджаўся ў полымі той самы грукат, з якім на гэты раз была сам-насам: *fire alarm*[36] чамусьці маўчаў, быццам спаралюшаваны, але над тым яна задумалася толькі пазней, а ў першае імгненне, машынальна, з сашчэпленымі пясцямі — у левай потым знайшла заціснутую цыбульную лушпайку, — кінулася збіваць полымя ручніком, што трапіўся пад руку, — яно ж, ненажэрнае, узрадавалася, маўляў, таго і чакала, ручнічок затлеў у яе ў руках, быццам плавіўся, шпарка скручваючыся пачарнелымі, гарачымі берагамі, ажно пакуль не здагадалася шугануць вады — адну кварту, другую, трэцюю, — засіпела, распаўзлося едкім смуродам, стала пасярод кухні з абгарэлаю анучаю ў апушчаных руках: не, Божа, не стрываю, ужо не стрываю! — і так спраўдзіўся яе сон — даўні, мінулагодні, задоўга да знаёмства іхняга пабачаны: дрэванька на раздарожжы, трапяткое і шаргатлівае, нехта нябачны запальвае пад ім вогнішча, чыркануўшы запалкай, і вось — імгненне! — дрэўца ахоплена пажарам, які тут-такі і гасне, быццам на тое толькі, каб абскубсці крону з лістотай, і там, дзе за хвілю да таго дрэванька пералівалася светлавою зялянінай на тле неба, тырчыць горкі счарнелы касцяк. З чым вас, *дзевушка*, і паздраўляю. *"Вярбінка-зялінка між голых сясцёр. /Куды ж ты спяшаешся, дзеўка? /Шчэ сон веснавы снежнай ночы не сцёр, /І глеба ўскіпаецца глеўка. /Шчэ вецер пайднёвы зашыўся, як мыш, /І ў дуплах кубеляцца змейкі... /А ты ўжо іскрышся, а ты ўся дрыжыш /У водгуллі пахкім і клейкім. /Ірвешся, імкнешся на дыбачкі ўстаць /З усіх сваіх не-*

*рваў і сокаў. /Аж чутна, здаецца, як млосна трымцяць /Суставы ў нябёсах высокіх...»* , — спачатку быў гэты верш, таксама недапісаны — а слабо было дапісаць, да канца дадумаць — слабо? — потым той сон, потым — усё, што было потым. Гані цяпер, раскалупвай углыб, пласт за пластом, археалагіня ты гаротная, — толькі шкадаваць сябе не надумай, бо нішто так на саслабляе, як шкадаванне сябе самога). Хто б тое патлумачыў — вершы, яны толькі прадбачаць ці, чаго добрага, *ствараюць* нам будучыню — выклікаючы з рою схаваных у іх мажлівасцяў тую, якую *прамаўляюць?* І калі гэта сапраўды так — калі мы, сляпыя вар'яты, самі праграмуем жыццё наперад, радасненькія, што тыя дурнічкі, — што так клёва напісалася! — робім яго такім, якім яно ёсць, — дык які гэта страшны дар, Божа, — няйнакш, бомба ў руках пяцігадовага дзіцяці, — і як яго адмаліці?

Хто (што) піша намі?

Божа, я баюся. Я ніколі дагэтуль не баялася па-сапраўднаму — не знешніх абставін (тое пустое, бо з іх заўжды можна неяк выкараскацца), а сябе самой. Я баюся даверыцца ўласнаму таленту. Я болей не веру, што ён — у *Тваёй* руцэ.

Злітуйся нада мною. Калі ласка.

**Заканчэнне будзе.**

---

[1] Eat-in kitchen *(англ.)* — убудаваная кухня.

[2] Гамаваць *(абл.)* — тармазіць.

[3] "О, кам он — гіў мі а брэйк!" *(англ.)* — У, адсуньця, пакінь мяне ў спакоі!

[4] Mad love *(англ.)* — вар'яцкая любоў.

[5] Madness *(англ.)* — вар'яцтва.

[6] You mean, it is not Russian? *(англ.)* — Вы хочаце сказаць, гэта не руская?

[7] "Шпік" *(англ.)* — зняважлівая мянушка імігрантаў-пуэртарыканцаў.

[8] Pardon me? *(англ.)* — Што?

[9] The land of opportunities *(англ.)* — край неабмежаваных магчымасцяў.

[10] Painful intercourse *(англ.)* — балесныя палавыя стасункі.

[11] I don't see any problems *(англ.)* — Не бачу ніякіх праблем.

[12] "Трыпл-эй-дабл-эс" *(англ.)* — AAASS, American Association for the Advancement of Slavic Studies, вядучая славістычная асацыяцыя ЗША.







[13] Gosh, if he only weren't such a damned good painter! *(англ.)* — Божа, абы ж ён толькі не быў-такі вельмі добры мастак!

[14] Slavic charm *(англ.)* — славянскі шарм.

[15] Where are you from? – Ukraine. – Where is that? *(англ.)* — Адкуль вы? – З Украіны. – А дзе гэта?

[16] Such a damned good painter *(англ.)* — такі вельмі добры мастак.

[17] What a story! *(англ.)* — Вось гэта гісторыя!

[18] The land of opportunities *(англ.)* — край неабмежаваных магчымасцяў.

[19] You are a superb poet *(англ.)* — Вы бліскучы паэта.

[20] Lockers *(англ.)* — шафа ў пераапранальні.

[21] You're pretty faithful to that swimming, huh? *(англ.)* — Такі ўпарта адданыя таму плаванню, так?

[22] Broken relationship *(англ.)* — парыў сувязяў; straight after the divorce *(англ.)* — адразу па разлучэнні; sexually traumatic *(англ.)* — сексуальна траўматычны.

[23] Fear of intimacy, fear of frigidity, suicidal moods *(англ.)* — страх да блізкасці, страх фрыгіднасці, суіцыдальны настрой.

[24] I've been there — with the father of my kids *(англ.)* — І я такое перажыла – з бацькам маіх дзяцей.

[25] Single parent *(англ.)* — маці-адзіночка.

[26] Everybody seems to have been there *(англ.)* — падобна на тое, што кожны такое перажыў.

[27] Join the club *(англ.)* — Запрашаем у клуб.

[28] Every woman has been there *(англ.)* — Кожная жанчына такое перажывала.

[29] I know *(англ.)* — Я ведаю.

[30] Severe psychological problems *(англ.)* — істотныя псіхічныя праблемы.

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Алесь АСТРАЎЦОЎ.**

**УВАГА!**
**Змешчаныя ў № 11-12 за 2001 год навелы Гіёма АПАЛІНЭРА пераклаў з французскай мовы Алесь АСТАШОНАК.**



Уладзімір
Дамашэвіч

*Потым Алесю прыйшла ў галаву яшчэ адна цікавая думка: а чаму гэта іх лічаць шпіёнамі, а не абшуквалі? Забралі толькі сцізорыкі – і ўсё, што ў іх знайшлі. А ў шпіёнаў у вопратцы можа быць вунь што схавана! А іх гэта не цікавіць. Чаму? А таму, што ім трэба абвінаваціць чалавека, а доказы ім не патрэбны.*







# РАЗВІТАННЕ Ў 37-М

*Апавяданне*

Як толькі гук матора прапаў і машына знікла ў кустах, сюды падышоў малады хлопец. Ён быў страшэнна перапалоханы тым, што ўбачыў, але не мог перамагчы сваёй маладой цікаўнасці, якая прывяла яго сюды. Ён усю ноч не спаў, праседзеўшы на дрэве непадалёк.

Пра тое, што ў гэтым ляску забіваюць раніцай людзей, яму па сакрэце сказаў яго дзед, які даведаўся пра гэта ад некага. Але ўнук не паверыў і рашыўся праверыць, ці гэта праўда. Ён прыйшоў сюды звечара і заняў пазіцыю на густой невысокай яліне. Недзе апоўначы з'явіліся два чалавекі з рыдлёўкамі і выкапалі яму, пакурылі і пайшлі. Ён сядзеў на дрэве ўсю ноч і драмаў, як заяц пад кустом. Як толькі пачало світаць, зароў матор і прыехала машына з будкаю, спынілася блізка ад ямы.

Пагранічнікі ў круглых шапках агледзелі месца, нешта абгаварылі, а потым адзін адчыніў будку, заскочыў туды, але там нешта адбылося: відаць, тыя, у будцы, напалі на яго, бо ён крыкнуў "ратуйце". Прыбег другі, заскочыў у будку, пачуліся два стрэлы, а потым усё сціхла.

Праз колькі хвілін машына пад'ехала бліжэй да ямы, з будкі выцягнулі два целы. Адзін з пагранічнікаў стрэліў з нагана ў галаву таго, што быў справа. Хлопцу на дрэве стала млосна. Палепшала ўжо тады, як магілу зраўнялі з зямлёю, як пілі гарэлку і пагранічнік мачыўся на свежы пясок.

А цяпер ён як не сваімі нагамі ішоў да таго месца, дзе нядаўна забілі і закапалі двух маладых

людзей у цывільным. Цяпер унук на свае вочы бачыў, як гэта робіцца...

Ён ішоў па сваёй мяжы, што аддзяляла яго поле ад суседскага, і плакаў. Каб яго слёзы сталі дыяментамі, дык назаўтра раніцою яго жонка і дзеці забагацелі б.

Пятрусь Калінковіч ішоў па мяжы і плакаў. Ён не асмельваўся пабудзіць жонку і развітацца з ёю па-чалавечы, бо баяўся, што расстанне толькі зацягнецца, пачнуцца слёзы, папрокі. Так і стаялі ў вушах яе словы, якія яна сказала б яму: "На каго ж ты мяне пакідаеш? На каго ж ты сваіх сыночкаў пакідаеш, якім аднаму тры гадочкі, а другому — усяго паўгодзіка, яшчэ ў калысцы ляжыць... А нас кідаеш і ідзеш некуды ў свет, нібы там цябе нехта чакае, нібы ты там некаму вунь як патрэбны..."

І ўспомніць Паўліна, не праміне, пра Грышку Базыльчыка, які хадзіў во гэтак на ўсход, за мяжу, яшчэ пяць гадоў назад, у трыццаць другім, ды вярнуўся адтуль праз паўгода – адна скура ды косці, худы і вашывы. Хоць і ведаў, што палякі яго пасадзяць за пераход мяжы, але вярнуўся і паўгода праседзеў. Але з польскае турмы вярнуўся гладкі, як кабан, карак стаў тлусты і чырвоны.

Ужо адно гэта для жонкі — вунь які важкі доказ, што не трэба туды ісці, бо невядома, як яго там прымуць і што скажуць, якую работу дадуць. Ну, няхай маладыя, нежанатыя туды ідуць, а ты ж маеш сыноў на руках, жонка ў цябе, гаспадарку не ўсю ўладкаваў, гумно не давёў да ладу – цэлы бок страхі трэба перакрываць, бо накрылі "пад колас"...

З пасяджэння ячэйкі, на якім вырашаўся і яго лёс, ён адразу ўзяў курс на ўсход, толькі заскочыў дадому, каб пакінуць свой ровар, на якім ездзіў у суседнюю вёску. Там большасцю галасоў вырашылі так: Васілю Пальцэвічу, Алесю Язубчыку і яму, Петрусю Калінковічу, трэба неадкладна ісці за мяжу, у СССР, таму што тут ім пагражаюць арышт і турма. Ён хацеў сказаць, што не згодны з такім рашэннем, але самаўпэўнены сакратар ячэйкі закрыў пасяджэнне і стаў развітвацца з імі. "Не забывайце, што вас там чакаюць, як братоў. Вы станеце паўнапраўнымі грамадзянамі вольнай краіны. Не выключана, што праз некалькі гадоў будзеце разам з Саветамі вызваляць нас ад панскага іга", — так сказаў на развітанне сакратар ячэйкі.

Гаварылі пра траіх, хоць тут яны былі толькі ўдвух: ён і Алесь Язубчык. А Васіль Пальцэвіч быў ужо невядома дзе: мо нават па той бок мяжы. Чамусьці паны выпусцілі яго з Баранавіцкай турмы на некалькі дзён. Гэта ён і сказаў, што іх, Петруся Калінковіча і Алеся Язубчыка, будуць арыштоўваць, таму ім трэба ратавацца за мяжою. Была тут нейкая няўвязка, нейкі сакрэт, які не даваў бачыць усё ясна: чаму яго, Пальцэвіча, адпусцілі з турмы на некалькі дзён? Можа, яго выпусцілі зусім? Але чаму тады ён пайшоў сам і сказаў ісці ім? Можна падумаць, што прымусілі назваць іх імёны, і ён цяпер хоча выратаваць іх ад турмы і пасылае ў далёкую дарогу, на ўсход. Ратуе? Утапіў, а цяпер ратуе? Ці ўведаў які сакрэт у дэфензіве?

Як стрэмка ў пальцы ці цвік у боце, гэтая думка-сумненне не давала яму спакою. Трэба будзе пагаварыць з Алесем Язубчыкам. Той недзе ў Гусакоўскіх курганах чакае – так яны дамаўляліся, — а далей яны пойдуць разам. Галоўнае – абмінуць Клецак, каб не трапіць на вочы паліцыянтам.

Запахла балотам, аерам, бабком. Па хісткай кладцы ён перайшоў сваю рэчачку і папраставаў па ледзь прыкметнай сцяжынцы на Гусакоўскія курганы. Было неяк светла, хоць месяц на небе не паказваўся. Няўжо яшчэ рана? А мо гэта развідняецца? Нешта ён збіўся з часу... Птушкі толькі сям-там пераклікаліся нейкімі як соннымі галасамі, сям-там з кароткімі перапынкамі цвыркалі конікі. Чуліся іншы раз галасы перапёлак: піць-палоць, піць-палоць. Далёка ля вады драў свае штаны на вузкія палоскі няўрымслівы драч. А над галавою вісела бяздоннае неба, усеянае зоркамі, але сёння яны віселі надта высока над зямлёю і ледзь віднеліся.

Але вось і курганы. Людзі кажуць, што яны шведскія, з той далёкай вайны, калі шведы ішлі пад Палтаву, калі тут, пад Клецкам, іх таксама пабілі, а яны ўцякалі і тапіліся ў Лані. Таму і кажуць, што швед шапку пад Клецкам згубіў і калі-небудзь яшчэ вернецца, каб знайсці сваю згубу. Курганы былі невысокія, за доўгі час яны асунуліся, уехалі ў зямлю, былі не вышэй, як на метр.

Недзе тут павінен чакаць яго Алесь, відаць, прыпазніўся.

Ён ужо збіраўся ісці адзін, як убачыў – мільгатнуў чорны сілуэт, з-за бярозы выйшаў чалавек і скіраваў да яго.

– Алесь? – спытаўся ціха.

– Але, Алесь, – заалекаў ён яшчэ здалёк. – Ты чаго так доўга? Развітваўся?

– Якое там... – не хацеў гаварыць Пятрусь пра балючае. – Проста памалу ішоў. Нешта як трымае за нагу. Як стрыножаны...

– Ну, выкінь з галавы розныя сумненні. Я гэтае хвіліны даўно чакаў. Лічы, нам проста пашэнціла, – неяк бесклапотна-пафасна гаварыў Алесь Язубчык. – Нам трэба ганарыцца гэтым, а не кіснуць, – дакараў ён Петруся.

– Не кажы "гоп", пакуль не пераскочыш, – не пагадзіўся з ім Пятрусь. – У нас наперадзе яшчэ дваццаць кіламетраў дарогі. Не гарачыся. – А потым павярнуў гаворку на іншае: – Што табе бацькі сказалі на дарогу?

Алесь хмыкнуў, сам сабе ўсміхнуўся, не спяшаўся адказваць. Гэта быў моцны таўсматы хлопец, ніжэйшы трохі за Петруся, але на сілу то мо і не слабейшы: плячысты, з моцнаю шыяй і ўчэпістымі рукамі. У змроку ночы ён здаваўся Петрусю нават прыгожым: даўгаваты востры нос, тонкія энергічныя вусны, выпуклы падбародак, вялікія, з бліскучымі бялкамі, вочы. На галаве – цёмная кепка з кароткім казырком. На згібе левай рукі ён трымаў суконную жыкетку – узяў на ўсялякі выпадак, хоць на дварэ лета. Малайчына!

– Я не развітваўся, – азваўся ўрэшце Алесь. – Толькі скажы бацькам – яны табе такога нагаворaць... Проста сказаў малодшаму брату Юзіку, што іду за мяжу, бо тут пагражае арышт... Каб потым сказаў бацькам... Ну, і каб чакалі, бо мы хутка вернемся.

– Каб жа твае словы ды Богу ў вушы, – трохі з іроніяй зазначыў Пятрусь.

– Бог нам не дапаможа, запомні. Мы самі – і толькі... Працоўныя ўсіх краін...

– Ну, цябе там у гімназіі добра адукавалі, – зноў як падкалоў яго Пятрусь, бо Алесь вучыўся калісь у Клецкай беларускай гімназіі, якую паны зачынілі за камуністычны накірунак.

– Адукавалі няблага, павінен табе сказаць, – неяк нібы не заўважыў іроніі Алесь. – І на лекцыях, і пасля лекцый – яшчэ болей. Я там добрую школу прайшоў, стаў патрыётам.

– То паны нездарма вас разагналі? Я чуў, што нават траіх вашых гімназістаў пад суд аддалі.

– Яны, каб маглі, усіх бы нас аддалі. Яны нас, беларусаў, не пераносілі, вось яны і ўхапіліся за камуністычную прапаганду: мы ўсе тут "выўратоўцы", толькі і чакаем іхняй пагібелі, толькі і снім, каб хутчэй прыйшлі Саветы... І дамагліся свайго: зачынілі, разагналі... А ты быццам і радуешся, як я зразумеў?

– Ну, ты скажаш: я радуюся? Прыдумаў абы-што, – пакрыўдзіўся Пятрусь. – Я і сам туды б хацеў, ды ў мяне не было каму дома гаспадарыць, бацька ледзь спраўляўся з работай... Не, брат, вучыцца нікому не шкодзіць, навука асвятляе жыццё... Мне толькі не падабаецца, што навуку запрагаюць у адзін воз з палітыкай.

Гаворачы, яны ішлі на ўсход, абмінаючы Клецак з поўначы, каб выйсці на Гарбуноўшчыну, на Сякерычы, а потым – на Зубкі. У Зубках іх чакаў праваднік, які перавядзе праз мяжу. І тады яны апынуцца на волі... Навокал стаяла яшчэ недаспелая збажына, якая праз тыдзень-другі ўжо пойдзе пад серп, а цяпер па баках дарогі трапляюцца часам скошаныя нядаўна паплавы, а часам яшчэ і свежыя копы, ля якіх так і хацелася прысесці...

Зноў пачалі гаварыць пра Васіля Пальцэвіча і тут жа заспрачаліся. Пятрусь выказваў сваё сумненне наконт Васіля: яго выпусцілі з турмы на некалькі дзён? Тут нешта падазронае, бо калі выпускаюць, дык ужо назусім, а на кароткі час з турмы ніхто не прыходзіць.

Алесь як больш дасведчаны стаў даказваць, што няйначай Васіль Пальцэвіч ашукаў паноў, абвёў іх вакол пальца – нездарма ў яго і прозвішча такое! Відаць, ён паабяцаў ім, што зможа вось так, прыйшоўшы дадому, здаць іх панам у рукі. Яны на гэта і клюнулі, згадзіліся яго выпусціць на пару дзён, а ён вунь што ўчвэрыў: сам уцёк з-пад іхняй апекі і ім даў мажлівасць пазбыцца панскае турмы.

– Ты разумееш, які ён ход зрабіў? Ім, панам, і не снілася такое. З іх хітрасцю – і сесці ў такую лужыну!.. Ды за гэта Пальцэвічу трэба ордэн даць!.. Там яго, можа, і ўзнагародзяць: сам вырваўся з панскіх лап і яшчэ захаваў для партыі двух байцоў! Ты разумееш, як паны цяпер будуць кусаць сабе локці, што паддаліся на такі ход? Не яны яму дыктавалі ўмовы, а ён ім! Разумееш?

– Разумею, але ўсё роўна ты мяне мала пераканаў, – не згаджаўся Пятрусь.

— Вось пяройдзем мяжу – і там ён сам табе раскажа, тады ты паверыш, калі такі недавярак, – пачынаў злаваць Алесь.

— Яшчэ невядома, ці мы яго там убачым. Свет вялікі, а мы – як іголка ў стозе сена. Скажы мне, чаму ён разам з намі не пайшоў?

— Тут, можа, правіла канспірацыі спрацавала, — адказаў ужо спакойна Алесь. – Утраіх – ужо арганізацыя, ужо падазрэнне на нейкую змову. А ён адзін пайшоў, і добра. Мы ўдваіх за ім – таксама мала падазрэння. Што ты да яго маеш? Яго ўжо два разы арыштоўвалі і саджалі. Відаць, ён ведае, што рабіць, будзь спакойны!

— Ведае, ведае... Чацвёра малых дзяцей кінуў – і пайшоў. А хто іх будзе гадаваць?

— Ну, браце, ты ўжо загінаеш не туды! – здзівіўся Алесь. – І ты ж двух малых кінуў, жонку маладую, а вось ідзеш? Калі мы на гэта будзем глядзець, як ты кажаш, дык ніколі вольныя не станем.

— Добра табе так разважаць, калі ў цябе дома малыя дзеці не плачуць, — не мірыўся Пятрусь.

— Думаеш, каб дзеці былі, дык я стаў бы іншы, не такі, як цяпер? А з табою і з такімі, як ты, цяжка будзе дасягнуць мэты. Мо ты вернешся назад? Яшчэ не позна, Клецак яшчэ недалёка, во за рэчкаю... Там цябе пашкадуюць. І тваіх сынкоў таксама... Табе турэмнае кашы дадуць, а сынкоў усё роўна давядзецца жонцы даглядаць і карміць... Гэтага ты хочаш? – гарачыўся Алесь.

— Не бойся, не вярнуся, — агрызнуўся Пятрусь. – Не думай, што толькі такія, як ты, дбаюць пра волю для нашага







краю. Дбаюць усе, амаль усе, але лезці на ражон ніхто не хоча. Загінуць мы заўсёды паспеем, а вось што пасля сябе пакінем?

Алесь доўга маўчаў, яны ішлі ды ішлі, ужо, здаецца, нагамі пачалі зямлю баранаваць, а тых Зубкоў усё яшчэ не было відаць.

Раптам Алесь ні з таго ні з сяго пачаў гаварыць:

— А ты — філосаф. Хочаш і з печкі зваліцца, і срачкі не пабіць? Не, браце, такога не бывае – ні з кім! Раз ужо ўзяўся за дугу, не кажы “не магу”. Раз ужо наважыўся на адно, то і трымайся за яго. Бо за двума зайцамі пабяжыш – толькі людзей насмяшыш. Вось так!

— А мне здаецца, так... — пачаў з роздумам Пятрусь, як бы ў адказ на апошнія Алесевы словы. – Вось у войска бяруць маладых, яшчэ не жанатых. Ім там спакайней: не думаюць пра жонак, пра дзяцей – іх яшчэ няма. А ўжо раз цябе дзеці абселі, то гадуй іх, даглядай, не лезь ні ў якія авантуры, хай гэтым займаюцца тыя, хто мае да іх нейкую схільнасць ці патрэбу. А ўсіх пагалоўна цягнуць не трэба, бо не будзе нідзе парадку. Іншая рэч, калі на краіну напалі чужынцы, дык тады ўжо ўсім, хто можа, трэба брацца за зброю. А скончылася ўсё – зноў кожны хай займаецца сваімі цацкамі.

— Вось чаму так цяжка ўзняць масу, — неяк вельмі хутка загаварыў Алесь, нібы баючыся, што яго пераб’юць, — таму што гэтая маса і складаецца вось з такіх, як ты, нерухомых, непаваротных асобаў, якім напляваць на тое, якая на дварэ пагода, абы яму ў хаце за карак не цякло... Ад таго, як хутка мы паварочваемся, вельмі шмат залежыць, каб ты гэта ведаў. А круцімся мы марудна, таму і маем – нічога.

— Я з табою амаль што згодны, але што ад гэтае масы засталося б, каб яна мамэнтам адклікалася на кожны гук трубы нейкага там трубача, якому захацелася свайго суседа ці каго іншага паказытаць шабляю? А калі жыць?

Паказаліся прысады – высокія таполі, бярозы, потым з цемры выразна выплылі вясковыя хаты, хлявы і гумны. Забрахаў сабака ля канцавое хаты, але неяк ленавата: ну што вы ўсё ходзіце, не дасце спакойна паспаць давідна...

Яны звярнулі на загуменне, прамінулі некалькі будынкаў

і ўбачылі той двор, які ім апісалі яшчэ там, калі яны збіраліся ў дарогу: высокая ліпа, на ёй буслянка, хата не надта каб – крытая саломаю, як і большасць хат у беларускіх вёсках, гумно прасторнае і хлеў непадалёку. На прыгуменні будзе стаяць пусты воз, а дзверы ў гумно будуць трохі прачынены.

Яны зірнулі адзін на аднаго з палёгкай, зайшлі ў двор і адразу падаліся ў прачыненае гумно. Тут і без святла можна было ўбачыць, што яно пустое, толькі ў адной крайняй кульшы ляжала сена да самае страхі, якое пахла на ўсё гумно і таму адразу пацягнула іх да сябе. Па лесках яны ўзабраліся наверх, зрабілі сабе ямкі-яшкі ў сене і заваліліся ў іх, прыкрыўшыся сваімі жыкеткамі.

Больш ні пра што не гаварылі, не спрачаліся – хапіла і за дарогу, а тут адразу на іх, стомленых, абрынуўся сон. Колькі яны спалі, невядома, але ачнуліся імгненна абодва – рыпнулі дзверы ў гумне, зайшоў чалавек, гучна закашляў, як прасігналіў. Яны таксама азваліся яму падобным чынам. Ён пастаяў трохі, як аб нечым думаючы, а потым спытаўся:

— Гэта вы з Дабрыніч будзеце?

— Але, але, — адказаў яму Алесь. – З гэтых самых. Зайшлі да вас пагрэцца.

— Ну, то добра. Грэйцеся да вечара. Зараз прынясу што перакусіць.

Праз хвілін колькі гаспадар вярнуўся з вядром у руцэ. Хлопцы ўжо злезлі з сена, чакалі яго на таку, дзе цяпер стаяла сячкарня. Гаспадар павітаўся з імі, падаў руку – спрацаваную, цвёрдую. Гэта быў сярэдніх гадоў чалавек, зарослы рыжаватым шчаціннем, худы, апрануты ва ўсё сваё, толькі на галаве была крамная заношаная кепка няпэўнага колеру, насунутая на вочы. Ён уважліва агледзеў іх, нічога не спытаўся, а толькі сказаў:

— Тут во і снедайце, на сячкарні. Во хлеб, сала і кіслае малако. Яшчэ свежыя гуркі – і ўсё, два кубкі. Ножык маеце? Добра, я так і падумаў, свайго не ўзяў. Будзьце тут дацямна. А там пабачым, што і як... – скончыў неяк няпэўна гаспадар.

Яны ўзяліся за сняданак. У Алеся з сабою таксама былі кавалак сала і пара лустаў хлеба, закручаных у польскую газету “Валька люду”, а ў Петруся – нічога, бо не заходзіў дадому – еў чужое. Хлеб быў чорны, чэрствы, пахнуў кменам і з салам і гурком быў уежны. Потым яны выпілі па пары шклянак кіслага малака, астатняе ўсё паклалі назад у вядро, прыкрылі нейкаю шырокаю дошчачкаю і зноў забраліся на сена, каб дабраць сну.

Алесь заснуў хутка, а Петрусю нешта не спалася. Думкі круціліся то каля свайго дому, то заносілі яго ў тое невядомае, што іх чакала ўжо сёння. Ад таго, як яны пяройдуць мяжу, шмат будзе залежаць. Іх могуць злавіць польскія пагранічнікі з Копа – корпуса аховы пагранічча. Тады іх чакае турма. А як усё пойдзе добра – тады наперадзе свабода, новае і цікавае жыццё, якога яны ніколі не бачылі, але пра якое шмат чулі, асабліва па радыё.

Сон адолеў яго непрыкметна. Сніліся нейкія неймаверныя падзеі, у якіх ён сам удзельнічаў, але ўсё выходзіла так, што ён заставаўся вінаваты і яго збіраліся караць. Якая была тая кара, ён не ведаў, але адчуваў, што яго чакае нешта страшнае, мо нават страшнейшае за смерць. У прадчуванні сваёй кары ён пачынаў маліцца, чаго не рабіў у жыцці, як стаў дарослы, і малітва яго была складная, нават прыгожая і, напэўна, даходзіла да Госпада Бога, бо яму паволі рабілася спакайней і ўсе страхі прападалі. А потым ён апынаецца дома, ходзіць па сваім двары, бачыць нейкія новыя парадкі, перамены – і не пазнае: яго гэта двор і дом ці не яго? Потым бачыць сваіх сыноў, але яны не маленькія, а ўжо дарослыя і прыгожыя хлопцы, мо ўжо нават перараслі бацьку. Ён кідаецца да іх, хоча абняць, але яны не пазнаюць яго, адварочваюцца і кажуць у адзін голас: “Ты не наш бацька. Ты нас кінуў”. Ён хапаецца за галаву, хоча закрычаць, але не можа – голас яго прапаў. Ён ажно скалануўся, затрымцеў усім целам ад вялізнага болю і крыўды на сыноў, што не прызналі яго сваім бацькам, – і прачнуўся.

Сэрца моцна тахкала, лоб быў увесь мокры ад халоднага поту. Ён яшчэ ўвесь у палоне нядаўняга сну, яшчэ ўсё стаіць у яго перад вачыма – і ніяк не можа змірыцца, што сыны яго не пазналі, не прызналі за бацьку і адвярнуліся ад яго. Каб мог, ён цяпер птушкаю паляцеў бы дадому, каб пабачыць іх, малых, абняць жонку, пацалаваць яе і сказаць: “Я кахаю цябе, дарагая.

Я пакідаю цябе на кароткі час. Так трэба. А потым будзе ўсё, як і было дагэтуль".

Але ён не птушка, паляцець не можа. Ён ахвяра абставін, падзей, якія сёння склаліся не на яго карысць, і ён вымушаны пакінуць родны дом і родных яму людзей, каб ісці ў свет і там шукаць шчасця. Не толькі для сябе.

Больш Пятрусь так і не заснуў да самага вечара. А Алесь спаў як пшаніцу прадаўшы, хоць у сне таксама нешта мармытаў, як лаяўся ці сварыўся з некім, а мо спрачаўся з ім, Петрусём, мо працягваў тую спрэчку, якую яны вялі ў дарозе.

Цяпер Пятрусь зайздросціў Алесю, што той нежанаты, што ідзе ў свет з лёгкім сэрцам, бо дома яго нічога не звязвае, калі не лічыць бацькоў. Але хто калі з маладых лічыўся з жаданнем бацькоў? Мо з соткі — адзін чалавек. Не пытаюцца маладыя ў бацькоў рады-парады, робяць усё самі, часам на сваю галаву, а вось ужо калі бяда, калі нейкае няшчасце – вось тады яны ўспамінаюць, што ў іх ёсць бацькі – і бягуць да іх прасіць дапамогі...

Вечарам, як добра сцямнела, праваднік ціха паклікаў іх, і яны рушылі ў дарогу.

Ішлі спачатку па дарозе, потым па ледзь прыкметнай сцяжыне, а пасля ўвогуле без усялякай дарогі. Пачаліся луг, балотца, запахла вільгаццю, потым – лясок, які пераходзіў у гусцейшы і большы, калі пачынаў узбірацца вышэй. Праваднік ішоў упэўнена, як днём, відаць, што гэтую сваю дарожку ён добра ведаў, хадзіў па ёй не раз і не два. Урэшце яны апынуліся на краі лесу: спераду відны былі толькі кусты, як невялікія копы сена, няйначай, лазняк. Тут праваднік сказаў ім пачакаць, прысесці, а сам ён павінен адлучыцца на некалькі хвілін, разведаць.

Яны з нецярплівасцю чакалі – час цягнуўся марудна. А што, калі ён здасць іх польскім пагранічнікам? – мільганула падобная думка ў аднаго і другога. Але не можа такога быць: чалавек ён, відаць, правераны, свой. А што, як ён сам наткнецца на пагранічнікаў, як яго зловяць? Што тады ім рабіць? Вяртацца назад ці ісці на ўсход самім, без праваднікa? Але гэта тое самае, што ісці праз ямы з завязанымі вачыма, – усё роўна ўваліўся ў



якую-небудзь. Трывога ўсё глыбей залазіла ў іх душы, думкі.

Але вось паказаўся праваднік. Трохі засопся, відаць, адмераў некалькі кіламетраў. Прысеў побач з імі, таямніча сказаў:

— Хлопцы, граніца праз вярсту. Я падвяду вас... Спачатку пойдзе адзін, потым другі. Будзеце ісці проста на ўсход у вёску, там пагранічная застава. Пакажаце свае дакументы, скажаце, чаго прыйшлі. А яны ўжо разбяруцца, што да чаго...

Яны ўсе ўсталі, прыслухаліся, агледзеліся. Усё было ціха; апроч асобных піскаў начных птушак, нічога не чуваць. Яны прайшлі па балотцы, па купінах, міма лазовых кустоў, якія адначасова і палохалі, і супакойвалі: як што якое – адразу можна схавацца, нырнуць у куст. З-пад ног у праводніка выпырхнула птушка, засвістала крыллем – яны ўсе трое спалохаліся, ледзь не прыселі ад нечаканасці, потым, ступаючы яшчэ больш асцярожна, пайшлі далей.

— Усё, — сказаў праваднік, спыняючыся, — далей пойдзеце самі... Ну, з Богам, — дадаў на развітанне.

Алесь пайшоў першы, Пятрусь чакаў, пакуль той растане ў цемры. Потым глядзеў на праваднікa – той махнуў рукою, і Пятрусь асцярожна падаўся следам. Праз хвілін колькі ён дагнаў Алеся – той стаяў за кустом і чакаў. Яны разам выйшлі на нейкі прагал, а потым заўважылі між цёмнай зеляніны шэрую стужку дарогі і скіравалі туды. Але не паспелі дайсці, бо перад імі, як з-пад зямлі, вырaслі два пагранічнікі, наставіўшы на іх вінтоўкі са штыхамі – проста ў грудзі кожнаму.

— Кто такие? Руки вверх! – скамандаваў рэзка адзін з пагранічнікаў.

Хлопцы спалохаліся і разгубіліся – яны не ведалі, ці падымаць рукі: яны ж ніякія не ворагі, а свае.

— Мы да вас... Мы вас шукаем, — сказаў першы Алесь.

— Руки вверх! А потом будешь говорить! – сярдзіта сказаў той жа пагранічнік. – Кто вы такие?

— Мы з Польшчы. Камуністы. Уцякаем ад польскай турмы. Да вас... — уставіў Пятрусь.

— Пошли! Быстро! Будем разбираться.

Нешта адразу ў грудзях у Петруся як парвалася ці

зламалася – нейкая жылка ці спружынка. Ён адчуў, што раптоўна перамяніўся. Нібы гэты пагранічнік сваім сярдзітым голасам і сваім штыхом перарваў тую жылку ці спружынку – і свет адразу стаў нейкі іншы. Свет стаў чужы і варожы. Яны ад такога ўцякалі – а вось жа не ўцяклі. Ён і тут такі самы, як там. Але... яшчэ пабачым. Яны не ведаюць, хто да іх прыйшоў. Яны думаюць, што шпіёны...

Да вёскі было кіламетры два. Яны ўсе ішлі моўчкі, хоць хлопцы некалькі разоў спрабавалі завесці гутарку. Адказ быў адзін – маўчаць! Яны ішлі моўчкі, з узнятымі рукамі, і гэта было так балюча і крыўдна, што ажно хацелася плакаць: ад прыніжэння, ад недаверу, ад варожасці. Але што яны цяпер маглі зрабіць? Пратэставаць? Няма сэнсу – іх ніхто не стане слухаць, бо яны – невядомыя перабежчыкі. На заставе павінны разабрацца, гэта не ў чыстым полі...

Але цуду не здарылася – і на заставе ніхто не хацеў ім верыць, чаго яны прыйшлі з Польшчы і з якімі намерамі. І ўсе іх дакументы – польскія пашпарты – былі для пагранічнікаў звычайнымі шматкамі паперы, ні больш ні менш. Яны толькі трохі насцярожыліся, калі Пятрусь і Алесь сказалі, што сюды, да іх, днём раней перайшоў іх старэйшы таварыш па партыі і ён можа пацвердзіць, што яны кажуць праўду. Але пагранічнікі сказалі, што не ведаюць пра такога, хоць, па ўсім відаць, ведалі. Гэта ўжо быў іхні сакрэт, і яны не маглі ім дзяліцца з нейкімі там перабежчыкамі.

Алеся і Петруся завялі ў нейкі склеп, халодны і сыры, і замкнулі. Яны сядзелі на сырой падлозе і маўчалі ў цемры. І думкі былі чорныя, як гэтая ноч у склепе.

Нават гарачы і самаўпэўнены Алесь цяпер маўчаў, як рыба. Відаць, ніяк не мог паверыць у тое, што яго трохі малодшы сябра Пятрусь у многім быў блізкі да праўды, калі спрачаўся з ім, ідучы па дарозе во сюды, у гэтую халодную мышалоўку, у якой яны так нечакана апынуліся. Нездарма яму, Петрусю, так не хацелася сыходзіць з дому...

— Хоць бы сена якога падаслалі, пустадомкі! – азваўся ўрэшце ў цемры Алесь. – Вільгаць да касцей праймае!

Пятрусь горка ўсміхнуўся сам сабе і патлумачыў:



— Няма ім калі сена касіць, у іх тут свае занятկі. Няўжо ты яшчэ не зразумеў?

Алесь на гэта нічога не адказаў. Яны абодва, хутаючыся ў свае суконныя жыкеткі, якія сёння так прыдаліся, моўчкі перабіралі ўсё тое, што з імі адбылося за апошнія два дні. Ды Алесь неяк хутка заснуў. А Пятрусь доўга круціўся, не знаходзячы зручнае позы: то было мулка, то халадзіла знізу, ад падлогі, то пачыналі шастаць мышы ці пацукі, і яму рабілася неяк не па сабе, хоць тых мышэй-пацукоў ён не баяўся. Зноў убіўся яму ў галаву Грышка Базыльчык, яго расказы пра падарожжа сюды вось яшчэ пяць гадоў назад. Ён праседзеў тут недзе паўгода, яму давалі выбраць: або ў Сібір, або дадому. І ён папрасіўся дадому, хоць ведаў, што яго чакае турма.

І ўсё ж пад дзень змучаны Пятрусь заснуў і спаў моцна, як забіты, аж да таго часу, пакуль у замку дзвярэй не заскрыгітаў ключ. Яны адразу, не чакаючы каманды, ускочылі на ногі і падаліся да выйсця, на святло, чыстае паветра. Два пагранічнікі з вінтоўкамі вывелі хлопцаў на двор, падвялі да прыбіральні і цярпліва чакалі, пакуль тыя па адным зробяць усё неабходнае. Потым падвялі да машыны, якая стаяла ля адкрытага насцеж гаража. А машына была крытая, светла-блакітнага, выцвілага колеру, і на адным з бакоў вялікімі літарамі па дыяганалі было напісана “ХЛЕБ”. Дзверцы ззаду былі адчыненыя, хлопцам сказалі залазіць у сярэдзіну. Па жалезнай прыступцы яны забраліся ў будку. Яна была голая – ніякіх лавак, нічога такога, за што можна было б нават ухапіцца рукою, калі машыну трасе ці кідае ў бакі: тут можна толькі сядзець ці ляжаць на дне кузава.

Як толькі хлопцы залезлі ў будку, дзверы тут жа з грукатам зачыніліся, бразнула жалезная засаўка. Зароў матор – і машына пайшла.

— Ну, і куды нас вязуць? – счакаўшы, як бы сам сабе спытаўся Пятрусь, бо ведаў, што пытаць гэта ў Алеся дарма – адкруціцца якім-небудзь жартам.

– Яны ведаюць, а вось нам забыліся сказаць.

— Затое едзем у хлебнай машыне, — дадаў Пятрусь, як бы выклікаючы Алеся на спрэчку.

— Тут даўно хлебам і не пахне. Чуеш, сцакамі смярдзіць? Маскіроўка...

— Ад каго маскіроўка?

— Ад нас з табою. Ад усякіх цікаўных, якія ўсё хочуць ведаць, вось ад каго. А так – едзе машына з хлебам, ну і хай едзе.

Машына тым часам паскакала трохі на выбоінах, выбралася на роўную дарогу і паімчала хутчэй, толькі часам трапляючы на рэдкія калдобіны, і яны ў будцы падляталі ўверх, як і грушы. Вось, здаецца, яны з'ехалі на брук – колы як засакаталі, дакранаючыся да кожнага каменя і вітаючыся з ім. Але ехалі нядоўга – вось заскрыгіталі тармазы, машына стала. Хлопцы насцярожыліся, чакалі: што далей? Час ішоў, пра іх нібы забыліся. Але вось затупалі боты, да машыны ззаду падышло некалькі чалавек. Адхінулі жалезную засаўку, адчынілі дзверцы, сказалі "выходи".

Падобна было на тое, што яны апынуліся ў нейкім гарадку, які адным крылом падыходзіў да самага лесу. Тут стаяў доўгі цагляны будынак з закратаванымі вокнамі. Ганкаў было два: на пачатку дома і ў канцы. Іх павялі ў бліжэйшы канец. Першы ішоў пагранічнік, тады яны абодва – побач, плячо ў плячо, а за імі – яшчэ два пагранічнікі з вінтоўкамі. Усе зайшлі ў будынак, прайшлі па доўгім калідоры і спыніліся перад высокімі дзвярыма карычневага колеру, за якімі нешта моцна гаварылі ці спрачаліся. Слоў нельга было разабраць, але галасы гучалі са злосцю, зацята. У Петруся ажно пабеглі мурашкі па спіне: тут іх прымуць, праверацць – адно чакай. Ён глядзеў на Алеся: той быў змрочны, у яго хадзілі жаўлакі. Хутка адтуль вывелі чалавека ў цывільным, усяго пабітага, знявечанага, і павялі пад рукі па калідоры: відаць, сам ён не мог трымацца на нагах. Дык вось чаму там быў такі гвалт!

Пятрусь са страхам чакаў, калі іх павядуць у гэтыя дзверы, і думаў, што яны пойдуць разам, але іх раздзялілі: Алеся павялі першага, а ён застаўся на калідоры з пагранічнікам.

Спачатку за дзвярыма галасоў амаль не было чуваць: няйначай Алеся распытвалі – хто, што, адкуль. Як для першага знаёмства. І ўжо праз кароткі час пачаліся крыкі, лаянка, няйначай дайшло і да мардабою – плясь-плясь, нейкі грукат, нібы ўпала нешта цяжкае, потым пачуліся нейкая мітусня, шмат крокаў, як глухія ўдары ў нешта мяккае, — відаць, Алеся білі. Пятрусь увесь напяўся, як струна, рукі самі сабою сціснуліся ў кулакі: што ж гэта робіцца? За дзвярыма зноў стала ціха, чалавечыя галасы загучалі спакойна, вылучаўся адзін, які нібы выгаворваў некаму, што той нешта зрабіў не так. І вось Алеся вывелі з кабінета. Твар у яго быў бледны, а з носа цякла кроў, і ён размазваў яе далонню па твары – як выціраўся, але рухі яго рукі былі нервовыя, а сам ён быў гатовы закрычаць ці заплакаць. Неяк мелькам ён глянуў на Петруся і сказаў яму гучна:

— Гавары праўду! І не бойся – тут усе свае!

Пагранічнік замахнуўся на яго прыкладам, але не стукнуў – нібы пашкадаваў ці мо падумаў, што за праўду біць не трэба.

Петруся ўвялі ў прасторны кабінет. Проста перад ім за вялікім сталом, што не меў ножак, а стаяў на тумбах, сядзеў лысаваты мажны чалавек сярэдніх гадоў у гімнасцёрцы з адзнакамі на каўняры, у якіх Пятрусь не разбіраўся, а на крэслах пры стале сядзелі яшчэ некалькі вайскоўцаў у шапках з вострымі вярхамі. Можна было падумаць, што нядаўна яны пілі тут гарбату, усе спакойныя: ва ўсякім разе, знешне.

Пагранічнік, які зайшоў з Петрусём, падвёў яго да табурэткі перад сталом і буркнуў "садись", а сам адышоўся да дзвярэй і стаў, апусціўшы прыклад вінтоўкі да нагі.

Мажны лысаваты мужчына за сталом паглядзеў на Петруся халоднымі шэрымі вачыма і сказаў як да ўсіх:

— Ещё один гость пожаловал. Из самой панской Польши... Сколько же вас там собралось на границе? Много? – пытанне было звернута да Петруся.

— А хіба я ведаю? Я не лічыў, — пацiснуў плячыма Пятрусь.

Вайскоўцы, што сядзелі ля стала, усе яшчэ зусім маладыя, рагатнулі; усміхнуўся, як нехаця, і начальнік.

— Правильно. Откуда тебе, рядовому, знать? Они тебе не докладывают. – Ён узяў са стала пашпарт, пакруціў у руках і потым з цяжкасцю прачытаў: — Назвіско – Калінковіч. Твой? – падняў вочы на Петруся.

— Мой, — адказаў Пятрусь.

— А как ты докажешь, что твой?

— Там мая фатаграфія, усе звесткі пра мяне, — адказаў Пятрусь коратка.

— Такую бумажку я тебе за полчаса нарисую. И всё будет гладко. Кто тебя к нам прислал?

— Наша парт'ячэйка. Вёска Жарабковічы, гміна Ляхавіцкая.

— Я тебя не об этом спрашиваю! Кто тебя прислал к нам шпионить? Вот что меня интересует! Охранка? Дефензива? Где она размещается, кто её начальник? Говори! – і ён прыстукнуў кулаком па стале. – Какое твоё настоящее имя и фамилия? Какое получил задание и от кого? Говори немедленно! – і яшчэ раз прыстукнуў кулаком па стале, ажно падскочыў чарнільны прыбор на стале справа.

— На гэта я вам нічога не адкажу, бо нічога такога не ведаю. Вы прымаеце мяне за нейкага шпіёна, а я не шпіён, а селянін з вёскі Дабрынічы Клецкае гміны, — і ён назваў свае прозвішча і імя. – Я прыйшоў да вас, каб ратавацца ад польскае турмы.

Вайскоўцы, як па камандзе, рагатнулі, а потым ім як заняло – начальнік застаўся сур'ёзны. Ён устаў з-за стала, пахадзіў па кабінеце. Боты, наглянцаваныя да бляску, злёгку парыпвалі. Ён падскочыў да табурэткі, дзе сядзеў Пятрусь, пастаяў трохі, пагайдаўся на нагах з наскоў на пяткі, а потым ні з таго ні з сяго стукнуў Петрусю ў вуха. Той адразу паляцеў на падлогу. У галаве зашумела, у вуху стаяў суцэльны звон, усе гукі, апроч гэтага звону, прапалі. Ён хацеў устаць, але не паспеў: тыя вайскоўцы, што сядзелі пры стале, апынуліся ля яго і сталі таўчы ляжачага нагамі, дастаючы часам і кулакамі па твары. Так яны білі яго хвілін пяць ці дзесяць, ён ад нялюдскага болю, здавалася, некуды правальваўся, а потым зноў апынаўся на падлозе.

— Хватит, а то одним шпионом в Польше станет меньше, — пажартаваў начальнік, і яго падначаленыя зноў рагатнулі, як па камандзе. – Теперь, я думаю, тебе не стоит отпираться, потому что так или иначе ты признаешься, с каким заданием и







кто тебя прислал, — сказаў яму начальнік, які ўжо сядзеў на сваім месцы і курыў папяросу з мундштуком. – Уведи его, — кіўнуў ён пагранічніку з вінтоўкай.

Пятрусь, з цяжкасцю адольваючы боль ва ўсім целе, усё ж падняўся сам і, кульгаючы на абедзве нагі, пачыкіляў да дзвярэй. Петруся зноў павялі па доўгім калідоры, але не на ганак, як ён чакаў, а павярнулі налева, спусцілі па прыступках у падвальны калідор. Тут на дзвярах былі нумары. Пагранічнік спыніўся перад нумарам "дзевяць", другі адамкнуў дзверы і ўпіхнуў туды Петруся. Пры бляклым святле лямпачкі ля самай столі ён адразу ўбачыў, што Алесь ляжыць на падлозе і плача: плечы яго ўздрыгваюць, усё цела тузаецца, а твар ён схаваў у рукавах сваёй жыкеткі.

— Добра, што нас не разлучылі, — сказаў сам сабе Пятрусь, сядаючы побач з Алесем. – Усё ж дваім неяк зацішней.

Ад Алеся не было ніякага адказу. Прайшло мо паўгадзіны ці больш, як Алесь заварушыўся на падлозе, выпрастаўся і сказаў да Петруся:

— І цябе білі таксама?

— Мгу, — кіўнуў Пятрусь, не расціскаючы вуснаў.

— А чаго? Мог бы сказаць, што я і ты – польскія шпіёны, і ўсё было б нармальна...

— Сказаць проста, а вось як даказаць, што ты ці я – польскія шпіёны? Гэта ж немагчыма!

— Ім не трэба твае доказы, ім важнае тваё прызнанне. А прызнаешся – і цябе тут жа кокнуць. І не трэба ніякіх доказаў. Вось так!

Яны зноў доўга маўчалі. А потым Алесь ні з таго ні з сяго спытаўся:

— А ты запомніў таго чалавека, якога выводзілі з кабінета, куды потым нас заводзілі?

— Не разгледзеў, але бачыў, што чалавек збіты на горкі яблык.

— Эх ты, сваіх не пазнаеш! Гэта ж Васіль Пальцэвіч, наш старэйшы таварыш па партыі і па гадах.

— Яго змушаюць прызнацца, што ён польскі шпіён?

— Але, але, як і нас з табою...

— Дык што ж гэта робіцца? Няўжо няма праўды і справядлівасці?

— Можа, мы яе дома забыліся, — сказаў як сам сабе Алесь і надоўга змоўк.

Іх больш у гэты дзень не вадзілі на допыт, далі толькі лусту чорнага хлеба і міску крупянога супу, трохі нават заскваранага. Яны абодва прагаладаліся і з’елі ўсё ў ахвоту.

Потым Алесю прыйшла ў галаву яшчэ адна цікавая думка: а чаму гэта іх лічаць шпіёнамі, а не абшуквалі? Забралі толькі сцізорыкі – і ўсё, што ў іх знайшлі. А ў шпіёнаў у вопратцы можа быць вунь што схавана! А іх гэта не цікавіць. Чаму? А таму, што ім трэба абвінаваціць чалавека, а доказы ім не патрэбны. А гэта – прамое парушэнне закона аб вінаватасці ці невінаватасці. Калі няма доказаў вінаватасці, чалавек не павінен пакутаваць так, як сёння яны. Ніякіх доказаў іх віны няма – значыць, невінаватыя, яны павінны быць адпушчаны на волю. А іх трымаюць пад замком. Іх нават б’юць, як жывёлу, здзекуюцца. Іх прымушаюць узвесці паклёп на сябе! А гэта ўжо прамое злачынства з іх боку! Гэта ясна нават чалавеку, які мала знаёмы з юрыдычнымі законамі.

Назаўтра іх зноў павялі на допыты. Па адным, праз роўныя адрэзкі часу. Паўтаралася ўчарашняе: “шылі” шпіянаж, ніякіх аргументаў не прызнавалі – білі кулакамі і нагамі, душылі за горла, заціскалі пальцы ў дзверы, выкручвалі рукі і ногі, выціскалі вочы з арбіт.

Яны абодва, Алесь і Пятрусь, пасля глуму і здзеку абодва не падобныя да сябе, сядзелі на зэдлях і чакалі нечага важнага. Ім сказаў начальнік вялікага стала: “Мы вас если не убьем, так удивим наверняка”. І вось у кабінет увялі Васіля Пальцэвіча, загадалі сесці на трэці, вольны, зэдаль, і начальнік вялікага стала пытаецца ў Васіля: “Гэта твае землякі?” – і называе іх прозвішчы, імёны. Васіль згодна ківае галавою. Следчы пытае далей: “Яны – польскія шпіёны?” Васіль адказвае: “Так, яны — польскія шпіёны”. Следчы пытае далей: “А ты сам – таксама польскі шпіён?” Васіль без запінкі адказвае: “Так, я — таксама польскі шпіён”.

Васіля тут жа выводзяць з кабінета.







— Ты ілжэш! Ніякія мы не польскія шпіёны! – крычаць у адзін голас Алесь і Пятрусь.

Але іх ніхто не слухае. Вочная стаўка закончана.

... Яшчэ было цёмна, калі іх разбудзілі. Куды і чаго ў такую раннюю рань, калі яшчэ ўсе добрыя людзі спяць? Дык спяць добрыя, а гэтыя... Хіба ў іх спытаеш? Хіба яны скажуць?

Пяць пагранічнікаў з вінтоўкамі выводзяць іх на двор, вядуць да гаража, вароты якога расчынены. “Рукі за спіну!” – камандуе адзін пагранічнік. Другі тонкаю вяроўчынай звязвае ім рукі ў запясці, моцна заціскае вузлы. З гаража выязджае машына, на борце па дыяганалі вялізнымі літарамі напісана “ХЛЕБ” – ці не тая самая, што іх вазіла аднойчы? Іх абодвух падсаджваюць у кузаў, дзверцы зачыняюць, бразгаюць засаўкай. Чуваць тупат ног – падыходзяць, адыходзяць. Чуюцца галасы размовы: “Опять хлеб?” – дзівіцца хрыпаты заспаны голас. “А что? Вот везем двоих полячков. Хорош будет хлеб для червей”, — адказвае бас.

— Што ж рабіць? – пытае разгублена Пятрусь.

— Ужо нічога не зробіш – позна. Канцы! Але... паспрабуй мне развязаць рукі – сваімі, хутчэй!

Яны павярнуліся спінамі адзін да аднаго, сталі церабіць канцы вяровак. І хутка рукі ў абодвух былі вольныя.

— Цяпер слухай, — зашаптаў Алесь. – Як адчыняць дзверы – не выходзім. Хай каторы залезе сюды. Тады мы яго асядлаем... Нагою бі ў яйцы. Як зблізку – каленам у машонку. Але моцна, з усяе сілы. Як адбяром наган ці вінтоўку, тады будзем адбівацца. З будкі. А там будзе відаць. Жывымі не здамося.

Машына набірае хуткасць, але паступова змяншае – пачынаецца траская дарога, відаць, лясная: колы ўвесь час скачуць на каранях, машыну кідае то ўлева, то ўправа – і хлопцы, як цурбакі, у кузаве пераязджаюць ад аднаго борта да другога – тут няма за што ўчапіцца.

Урэшце прыехалі, бо машына прыпынілася, бразгаюць дзверцы кабіны.

“Что тут подъезжать? Если что, перетащим этих полячишек”, — чуваць адзін голас.

"А мне кажется, это типичные белорусы. Никакие они не поляки. Видно по мордам, по языку. Они ни слова по-русски не умеют. И акцента никакого, тем более польского".

"Да хрен с ними! Сойдут и за полячков. Тебе какая разница? Эти нацдемы — тоже наши враги. Хотят отколоть Белоруссию от СССР. В Наркомзем им одна дорога"... — і ў канцы брудна вылаяўся.

Яны моцна абняліся, прытуліліся...

Было чуваць, як нехта хоча адчыніць дзверцы будкі.

Яны леглі далей ад дзвярэй, пад кабіну, рукі заклалі назад, як звязаныя, і чакалі.

Скрыгатнула засаўка, дзверцы адчыніліся, стала відно.

— Эй вы, полячишки! Выходи! – сказаў гучна пагранічнік.

Яны маўчалі і не варушыліся.

— Что они тут – подохли, что ли? – і пагранічнік з крэктам палез у будку. – А, вот вы где! Не шевелятся! Подохли!

Ён падышоў бліжэй – і тут яму ўрэзаў нагою пад ніз жывата Алесь, які быў бліжэй да выхаду. Пагранічнік войкнуў і, скурчаны, паваліўся на падлогу. На яго тут жа накінуліся хлопцы, заламілі рукі і сталі адбіраць наган, які быў у кабуры.

— На помощь! – закрычаў немым голасам пагранічнік. – На помощь! Убивают!

Да машыны кінуліся астатнія. Адзін ускочыў у кузаў, трымаючы наган напагатове. Убачыў распластанага на падлозе свайго сябра і ля яго двух арыштантаў. Ён стрэліў аднаму ў спіну, а другому – у грудзі, так яны былі павернутыя да яго. Яны адразу ўпалі ля пагранічніка.

— Вставай, Ванька! – сказаў той, што страляў. – Они тебя уже не укусят. – І ён узяў яго за папружку, памог стаць на ногі.

Яны абодва саскочылі на дол: вочы іх гарэлі шалёным бляскам, вусны крывіла ўсмешка пераможцаў. Яны хутчэй механічна, чым свядома абцягвалі гімнасцёркі, абмацвалі сябе, аглядалі.

— Как это они свалили тебя, Ванька?

— А вот так, Сашка! Они развязались, суки. Это ты их связал, да?

— Я связал их крепко, честно говорю.









— А вот видишь – развязались. Да хрен с ними, им уже концы. Пойди, сбрось на землю... Или лучше подъехать к яме... Эй, Сеня, дай машину к яме! Быстро!

Машына паволі, як нехаця, кранулася з месца, папаўзла бліжэй да ямы, вакол якой ляжаў жоўты залацісты пясок.

— Норма! – крыкнуў Ваня. Ён трымаўся рукою за тое месца, па якім нядаўна атрымаў нагою, і крывіўся-моршчыўся: відаць, яшчэ балела. – Вот сейчас они, такие-растакие, получат ещё и от меня подарочек. Стащи их, Сеня, всё равно ты ничего не делаешь, а я проверю свой наган...

Шафёр сцягнуў з кузава два акрываўленыя целы. Адзін з застрэленых яшчэ жыў – варушыў вуснамі, як намагаўся нешта сказаць. А потым прарвалася:

— Мы... Мы... не палякі... Беларусы мы... Беларусы... Беларусы...

Ваня стрэліў яму ў галаву. Пырснула кроў, вочы ў ахвяры застыглі, сталі шкляныя і пазіралі ў неба з нямым запытаннем і дакорам. Потым стрэліў яшчэ два разы – у грудзі. А таму, хто ляжаў нерухома, ніцма, стрэліў у патыліцу – каб ужо напэўна.

— Вот так вам, ср... шпионы-поляки-белорусы, — сказаў ён, ускаліўшы зубы, дзьмухнуў у ствол нагана і засунуў яго ў кабуру. – Кто сегодня гробовщик? Ты, Сеня? А ну, погрейся, мы тебе поможем.

Яны ссунулі яшчэ падатлівыя мяккія целы на дно ямы, сталі рыдлёўкамі сыпаць пясок. За якія дзесяць хвілін работа была скончана. Пясок зраўнялі з грунтам, каб не было ніякага ўзвышэння.

Ваня палез у кабіну машыны, дастаў пляшку "Маскоўскай" і шклянку.

— Выпьем по стаканчику за нашу нужную Родине работу, — сказаў ён сур'ёзна. Адкаркаваў бутэльку і наліў Сашку першаму: — Пей, Сашок, сегодня ты заслужил. Спас от смерти своего начальника. Орёл-парень!

Сашка тут жа выпіў, аддаў шклянку. Ваня наліў Сямёну, а сам стаў піць нагбом з пляшкі, з рыльца. Выпіўшы без перадышкі, ён кінуў пляшку пад ногі на пясок, выняў чэлес і стаў мачыцца.



## Святлана Явар

### Паратунак

Я не веру, што ты закаханы.
Толькі, дзе б і калі б ні была,
Дапаможа спаліць лёс паганы
Генератар святла і цяпла.

Да якой ты разеткі падключан —
На зямлі ці ў нябёсах? Няўзнак
Я чырвонаю ружай калючай
Паўз драты твае вырасту так,

Што не будзе мне роўнай ніколі
Сярод красак бяскрайніх палёў.
І не знойдзе сабе той паталі,
Хто ў драты мяне гэтыя ўплёў...







## Максім Шчур

***

Цудоўна, што ніводная эпоха
не ёсць апошняй: нават гэткая, як гэтая.
Мне, шчыра кажучы, сучаснасць ...—
нашчадкаў бавіць ёсць маёю мэтаю.

Уява, што праз год прыблізна трыста
мяне чытацьме нехта, мяне ўзрушвае
ўжо зараз: ах ты, доля анархіста,
дасць Бог, ты не такая ўжо і скрушная.

Няўжо ж і мы, не вартыя пазногця
Шэкспірава, патрапім-такі ў класікі?
Няўжо ж абагаўляцьмуць нас? Авохці
нам тады ўсім, прыхільнікам схаластыкі

ў навуцы паэтычнай, малаверным,
не здатным да страфы нетрывіяльнае...
Ды ў некаторых з нас ужо цяпер нам
прымройваецца штосьці геніяльнае.

### Санет № 4

*А.Ф.*

Мне боязна. Я спаў і больш не сплю:
свет на мяне зірнуў тваймі вачыма.
Няўцямна, недарэчна, немагчыма,
няпраўда, што я іх яшчэ люблю,

з той недаткнёнкі ж сталася жанчына,
ва ўсіх быў час спусціцца на зямлю,
як будзе й пад, я мала што змяню,
жыццё не ёсць тэатарам, хлапчына —

няўмольная, няўрымсная, халодна
ты зразумела гэта ўжо тады
і вырашыла: гэтак неабходна,

і гэтак яно лепей сапраўды,
бо вакуўм ёсць адзінай, верагодна,
магчымасцю быць разам назаўжды.

***

*Уладзю Міхневічу*

Я сніў, нібыта паміраў
у ложку; мне было сцюдзёна,
і быццам шмат разоў штодзённа
няісны нумар набіраў.

Нарэшце, з Гданьска ці аднекуль
яшчэ, я зноў цябе пачуў.
Маўляў, не чуў цябе адвеку,
што робіш дзе, таварыш Шчур?

У Капенгагене ці ў Ніццы?
Працуеш ці бяда зусім?
Ці не паспеў там ажаніцца,
стары паскуднік, кот Максім?

Я ўзняўся з ложка: во дзе поўха!
Ты тут, хоць сам сябе ўшчыкні!
І запытаўся: ты надоўга?
Адказ: на два якія дні.







Дзівосы! Мы ў маёй бабулі
ў Карэлічах: кухонны стол,
патэльня смажанае бульбы
і рытуальныя па сто... —

Я абудзіўся: хваляў шоргат
мой востраў-рыбіну люляў,
чужынны бераг носам шморгаў
з-за адыходу карабля;

вада паўсюль шукала выйсця
з затокі й дзесьці метры два
была празрыстая, як Свіцязь;
і, як у нас, была трава,

цвырчэлі конікі па-наску,
схаваўшыся глыбока ў ёй —
прырода бы прыўзняла маску
і зноўку сталася сваёй;

нябесны й водны акіян
пераплывала наша лебедзь,
і я падумаў: ты дзе-небудзь
такі ж самотны, як і я.

## Пергамон

Па каменных прыступках, шырокіх, нібыта гекзаметр,
на якіх варта раз паслізнуцца й адразу — гамон,
што ляжалі ў зямлі, бы гармонікам складны пергамент,
я прыходжу, каб стацца ахвярай тваёй, Пергамон.

Між калумнамі, дзе ад кентаўраў хаваліся німфы,
Арыяднінай ніткай я нерат блукальні пляту.
У мурох — лязгат зброі, бы ў памяці водгалас рыфмы:
неўміручы, ён жывіць дрымценнем сваім немату.

Папугай мазаічны, бы вышыты ніткай па камні,
падслухоўвае ў нерушы пільнай маўчанне багоў.
Кожны рух пераможцы фіксуе рэльеф старадаўні,
быццам відэазапіс якіх алімпійскіх бягоў.

О, каменныя людзі, насельнікі боскага места,
суразмоўцы Сакрата, глыбокага роздуму плён —
вы былі, безумоўна, не з нашага зьлеплены цеста,
бо стрывалі сваёй дасканаласці вечны праклён.

Потым здрадзілі вашыя творцы й прыйшлі бандарлогі,
што, не ў стане ў вачох невідушчых убачыць адказ,
пахавалі ў зямлі пассяканыя галавы й ногі,
катаваннем ніводнага слова не выбіўшы з вас.

Як трывала зямля на вынёслых хрыбцінах сланечых,
калі рукі забойцаў глумілі аблічча ахвяр?
Касметычным люстэркам бязлітасны месяц-сланечнік
набліжае да нас наш уласны цяперашні твар.

Што ж, паколькі нас вучаць, што псіхіка — адлюстраванне,
ёсць уласнаю прымхай нашчадак прымата прамы.
Таму мармур — адзіна магчымае веравызнанне,
бо не вартыя іншай, відаць, неўміручасці мы.

## Цытадэль

На Каляды кожны горад ператвараецца ў Вавілон.
Затапляюць перасохлыя вуліцы натоўпаў мёртвыя моры.
У Віфлеем, абсталяваны пад гандлёвы парцалянавы павільён,
прыязджаюць па падарункі ажно з Садома й Гаморы,

накупляюць, колькі знясуць рабы, імя якім — легіён.
Маці з нованароджанымі імкнуцца ўцячы ў пячоры,
і па радыё задаволеным голасам абвяшчае сінедрыён,
што па колькасці інфектаваных ільга гаварыць аб моры.



Жанчыны, належныя бліжнім, падбухторваюць на крадзёж.
Аголенасць узімку вымагае большай смеласці з-за хваробы —
прастытутку не адрозніць па вопратцы,
трэба ўвайсці ў бардэль.

Я ўрываюся ў тваю схованку, нібы заваёўнік, відзёж
майго шалу цябе агаломшвае: ты стаіш і не робіш спробы
зашпіліць расшпілены гузік на шыі,
непрыступная, як цытадэль.

## Зіма

Бачны свет сканчаецца за тры крокі:
зрэнка сонца звузілася да слепаты
белай плямы й напружвае зрок кароткі,
каб дазнацца ў зімовай смузе, дзе ты.

Ад нячутнага снегу аглухлі ружы:
у чырвоных пялёстках згубіўся гук.
Памірае з сумленнем дзіцёнка дужы
вынаходнік вакольнага, бог Мардук.

У пустэльні, населенай толькі ценьмі,
накупляе сонца на талер свой
усе перліны свету, чыё мігценне
пад нагамі палохае пекнатой.

***

Сутонне. У бэзавай неба смузе
паўгорада знікла.
Ля плоту ржавее на штучнай назе
шкілет матацыкла.

Дым ночы завяндліў барочных нябёс
учорашні роспіс.

У спіс свой снег цвінтар суседні занёс,
прасторны, як хоспіс.

У сметніцы марна шукае жабрак
усё, што ядома,
і смутак душу мне агортвае так,
нібыта я дома.

Калісьці я думаў: таго, што было,
ніколі не будзе,
што парабак панскае спаліць жытло
дый шлях той забудзе,

адылі штогод надыходзіць зіма,
і часта здаецца,
што розніцы ў часе наогул няма
з-за розніцы ў месцы.

## Перакладчыкам

Перакладаць паэзію—што ўзяць сабе псеўданім
з ужо гатовых імёнаў: Шэкспір, Эспранседа, Уітмен—
над галавою велічна высвечваецца псеўданімб,
і муміі, быццам лялькі, танчаць у пальцах спрытных.

Паводле твайго паэта чытач пазнае цябе,
нібыта паводле маскі—новую роль актора.
Золата ператвараецца ў стыхійнай барацьбе
дзвюх моваў і целаў у срэбра толькі праз факт паўтору.

Ці ты звар'яцеў, алхімік? Навошта табе яно?
"Кожны тэкст ужо існуе адвеку ў кожнай мове..."
Ды з часам заўжды даводзіцца вадой разбаўляць віно
старое, мае перакладчыкі, геніевы братове.











# Барыс Сачанка

*Пісьменнік — адзіны абаронца чалавека на зямлі, бо ўсё, што дасюль рабілі дзяржавы, урады для чалавека — не што іншае, як большае заняволенне чалавека, большы прымус.*

Барыс САЧАНКА

# З ЗАПІСАК РЭДАКТАРА. З пісьменніцкага дзённіка

***У** шафе, сярод рознай адзежы, у кішэні старога паліто майго бацькі доўгія 30 гадоў беражліва захоўваўся скарб — “агульны” сшытак з дзённікавымі запісамі, зробленымі ў час бацькавай працы ў часопісе “Полымя”. Нават я, родная дачка, ніколі не здагадвалася аб існаванні гэтага патаемнага дакумента хрушчоўскай “адлігі” і пачатку брэжнеўшчыны...*

**Святлана САЧАНКА.**

***

Перш чым пачаць весці гэты дзённік, хацелася б і самому сабе, і тым, хто, магчыма, з часам будзе яго чытаць, вытлумачыць, дзеля чаго я гэта раблю. Проста запісваць буду ўсё, што дзеецца ў аддзеле: можа, каму некалі і цікава будзе ведаць, чым жыла наша рэдакцыя (а значыць, у нейкай ступені і літаратура, паколькі “Полымя” — галоўны і амаль адзіны часопіс беларускай літаратуры), як нараджаліся некаторыя творы, што думалі самі пісьменнікі пра свае творы і мы, супрацоўнікі рэдакцыі. Пакладацца на памяць вельмі не варта. Што запісана пяром, таго не вырубіш тапаром. Даверымся лепей гэтай народнай мудрасці. І так, “яшчэ адно, апошняе сказанне”...

***

**Раман САБАЛЕНКА. Незамужняя ўдава.** *Аповесць.* Кастрычнік, 1963 г.





Барыс САЧАНКА

Нават чытаць уважліва не хацелася. З першай старонкі — несусветная лухта. І ўсё — прыблізнае, непраўдападобнае: і ў мове, і ў вобразах, і ў самім успрыманні вакольнага. Тое моцнае, што было ў ранейшых творах Р.Сабаленкі — мова, тут перайшло ў сваю супрацьлегласць — усе героі, і сам аўтар, загаварылі выдуманай, штучнай, народна-саладжавай запечнай мовай. Не маляванне словам, не паказ стану героя ці карціны — а падбор устойлівых, ідыёматычных зваротаў, “клішэ” — сляза, дык абавязкова буйная, як боб, гора — горкае, спыніўся, як укопаны... Потым — як даў, дык ён... аж... Народныя выразы можна і трэба ўплятаць у мову і герояў, і аўтара, але рабіць гэта трэба ўмела, з адчуваннем, дзе і як. Да прыкладу — Адамчык. Ён “живописует”, і народныя выразы памагаюць яму.

Галоўная гераіня Заранка — выдуманы вобраз. Жанчына сама сябе ўвагнала ў магілу — і гэта як дадатны вобраз падаецца. Наогул, адмоўны і дадатны вобраз — падзел штучны, непатрэбны, ён пушчаны ў абіход не зусім дасведчанай крытыкай у сувязі з тым, што літаратура павінна мець выхаваўчае значэнне. А чым выхоўваць? Вобразамі. Рахметаў, Карчагін, моладагвардзейцы...

Рахметавы, Карчагіны, моладагвардзейцы не паўтараюцца, і не такія яны ўжо патрэбныя і цікавыя людзі, каб іх трэба было ўсюды насаджаць. Дый немагчыма з Н. ці К. зрабіць Рахметава ці Карчагіна. Н. і К. астануцца самі сабою, адзінымі ў сваёй непаўторнасці. І прыкладу следаваць яны будуць не вычытанаму з кніг, а таму, што будуць бачыць вакол сябе, як “абкруціць” іх само жыццё. Выхаваўчае ж значэнне літаратуры не ў тым, як неяк казаў Шамякін — “трэба ж нешта сцвярджаць дадатнае — калгас, ферму, брыгаду, чалавека”, а ў тым, што літаратура вучыць чалавека глыбей глядзець на ўсё, што вакол нас: людзей, прыроду, наогул — на ўвесь свет. Яна паказвае, што многае, што ёсць зараз, было некалі, і хацелі б мы таго ці не — яно астанецца і пасля нас, што адны людзі заўсёды хацелі дабра іншым і праз гэта пакутавалі ўсё сваё жыццё, што роўнасці ні ў чым ніколі не было і не будзе, што ёсць розныя людзі — разумныя, хітрыя, удачнікі і няўдачнікі, хціўцы і блюдалізы, выскачкі і... Адным словам, каго толькі няма — і калі ты чалавек,

ведай гэта і выбірай у людскім моры для ўсіх сваіх спраў, хто табе ў гэты момант трэба... Літаратура вучыць глядзець на свет не звужана, а шырока, вучыць за маленькімі дробязямі жыцця бачыць складаныя супярэчнасці часу і людскіх узаемаадносін... Я ўхіліўся ад аповесці, калі-небудзь пра выхаваўчую ролю літаратуры я яшчэ паразважаю. Нельга, каб памылялася гэтулькі людзей у вызначэнні гэтага. Атрымалася прыкладна так, як заўсёды атрымліваецца. Нехта добра і правільна сказаў, яму паверылі. І пайшлі — кожны на свой лад крыўляць і "извращать"... І ніхто не сумняваўся больш, усе бралі на веру. І скрывілі так, што далей ужо нельга.

Аповесць, адным словам, дрэнная, я не бачу нават магчымасці яе паправіць. Парваць ды выкінуць, каб менш было паганых твораў на беларускай мове: і так дайшло ўжо, што беларускае — сінонім бяздарнага, пустога. А марку трэба трымаць. Хаця б таму, што беларуская мова не вытрымлівае ніякай канкурэнцыі з рускай. Толькі творамі, выдатнымі творамі мы можам павярнуць да нашай мовы чытачоў... Іншыя ж спосабы пакуль што немагчымыя. Р.Сабаленку сказалі проста ўсё пра яго твор. І Я.Скрыган, і І.Пташнікаў, і я. На тое былі свае прычыны. (...)

Яшчэ калі я прыйшоў у "Полымя", А.Рылько папярэдзіў мяне: "Гэты чалавек... Наступі яму на хвост, праз усё жыццё не забудзе..." Хутка я пераканаўся: Рылько казаў праўду. Забракавалі мы яго аповесць, апавяданне, пасля сказаў я з трыбуны пленума, што яго зяць атрымаў кватэру, а члены Саюза — не... І пачалося... Карыстаючыся тым, што намеснік рэдактара "ЛіМа" пачаў шалёную кампанію супраць мяне, маіх твораў, разоў колькі абы-што малоў і з трыбуны. Запрасіў нават Гарбачова*, каб той даў гразі... Калі хлопцы ў рэдакцыі выкінулі, накрычаў на іх...

Але, каб нават з Пташнікавым не абвінавацілі ў чым, далі пачытаць Я.Брылю, члену рэдкалегіі. Той прачытаў палавіну і вярнуў... Гаварылі ў кабінеце. Скрыган першы, я

* **Гарбачоў М. В.** — тагачасны літкансультант СП СССР, перакладчык з беларускай мовы.






другі, канчаў Пташнікаў. "Адзінае праўдападобнае — гэта арышты", — выказаў пахвалу Пташнікаў. Р.Сабаленка моўчкі курыў. Відно было, што з намі не пагаджаецца і нават пасміхаецца ў душы, маючы нейкі козыр, каб нас пабіць... Часам сёе-тое аспрэчваў... Пасля выняў той козыр. "Мяне перакладае Гарбачоў на рускую мову, вельмі падабаецца гэты твор". Я адразу ж загарэўся: тое ж казаў нам Звонак, калі бракавалі яго п'есу пра Харужую. Маўляў, Ленінградскі тэатр прыняў да пастаноўкі, МХАТ... А прайшло тры гады, а п'есы той нідзе ні духу, ні слуху... Аж перасмыкнула Р.К. "Я ж проста так сказаў! Дам, хай яшчэ хто прачытае, не можа быць, каб мне так усё не ўдалося..." Зноў узяліся мы разбіваць, і даволі-такі грунтоўна. Пташнікаў нават кавалкі зачытаў... Узяў папку, пайшоў. Назаўтра — захварэў.

Вядома, можна было б і ласкавей пагаварыць, каб не біла так у яго самаўпэўненасць і пыха. Перад тым як несці твор у "Полымя", сказаў у рэдакцыі: "Я ўцёр нос хлапчукам (гэта значыць, нам) і Брылю... Хай паглядзяць, як трэба пісаць пра паліцаяў і Заходнюю Беларусь..." А раней яшчэ: "Грамовіч аднатомнік выдае... А я... У мяне ж чатыры тамы назбіраецца, і не плануюць усё... А каб нарысы ды перадавіцы сабраць, што я пісаў у раённых ды абласных газетах... Пух-пух (з рота вылятаюць клубы дыму)... Цэлых шэсць тамоў было б."

Спрачаліся неяк у рэдакцыі, чаму надрукавалі ліст Ул.Карпава. Гарою стаяў за Карпава, Карпюка абазваў несавецкім чалавекам. А выдалі — ціхенька зашаптаў: "Я не згодзен з Карпавым". "Чаму? — пытаемся, — так адстойвалі гэты ліст, калі не згодны?" "Я ж — прадстаўнік рэдакцыі. І наогул, ліст гэты арганізаваны. Артыкул В.Каваленкі не спадабаўся рэдактару — і недзе *там*, вось я і пазваніў Карпаву, каб напісаў..."

Канечне, цяпер камень за пазухаю будзе насіць і яшчэ болей ліць гразь на "Полымя", на нас. Але нічога не зробіш — такая наша доля. Да таго ж аповесць напісана горш, як піша Гурскі. А там, дзе бяздарнасць лезе наперад, трэба быць бязлітасным. Інакш яна загубіць усё святое, лепшае, — хаця б таму, што яна не разумее гэтага святога, лепшага, не бачыць

яго, не бачыць нічога, апрача свайго карыта. У літаратуры, мастацтве — гэта самая страшная сіла. Яна падобная на спуджаны натоўп коней — ён нясецца, высунуўшы языкі, і топча ўсё, што трапляе пад ногі. Нічога не трэба так баяцца, як бяздарных аўтараў і сябелюбівых, “карыстлівых” людзей... Яны зробяць што заўгодна, каб быць першымі, быць на віду. А паколькі зрабіць гэта нельга, калі ёсць таленавітыя, сумленныя, на гэта “кішка ў іх слабая”, то яны стараюцца ці ачарніць талент, ці зусім яго знішчыць... 37-ы год не так страх, як разгул менавіта гэтых дзвюх стыхій ці сіл — называйце, як хочаце. Усё, што толькі можна было ўтаптаць ці знішчыць, было зроблена. Асталіся недасяжныя і бяздарныя... Мозг Расіі быў загнаны ў турмы ці ў зямлю, загнаны зайздроснікамі, няўдачнікамі, людзьмі злымі і несумленнымі...

***

**Піліп ПЕСТРАК. Серадзібор.** *Раман.*

Калі П.Пестрак прынёс у рэдакцыю першую частку рамана, то з сабою захапіў чырвоны аловак і нажніцы:

— Бярыце, закрэслівайце і рэжце, — палажыў іх на папку, завярнуўся і хуценька выйшаў. Крэсліць і “рэзаць” сапраўды давялося мала — увесь раман быў напісаны вельмі “дрымуча”, сказы былі стылёва не апрацаваны, сям-там парушалася логіка. Часам П.Пестрак забіраўся ў такія нетры думак і адчуванняў, што і сам дакладна не разумеў, што ён хоча сказаць. Не хапала проста слоў, уменя перадаць словамі стан душы героя. Рылько запіў, Скрыган дзіўна ўмыў рукі, і ўсю работу давялося весці мне — “церабіць”, выкідаць, рэдагаваць. Старонкі літаральна былі чорныя (правіў я алоўкам) пасля мяне. Пестраку паказалі перадрукаваны экземпляр. “Нічога, толькі адновіце вось тут і тут... — а сам чырвоны, як рак. — І не ацярэблівайце так, хай і сучкі сям-там астануцца...”

“Сучкоў” асталося больш, чым трэба, Скрыган нават папракаў, што слабавата папрацавалі над раманам.

Але самае страшнае было сказаць, што трэцяя частка (апошняя) нікуды не вартая як з боку мастацкага, так і палітычнага. П.Пестрак паказваў, як кіраваў Чухноўскі





(культавік), як людзі ў эмдэбоўскай форме тыранілі людзей, як адусюль у Заходняй Беларусі выжываліся нацыянальныя кадры і замяняліся рускімі... Скрыган ухіліўся ад размовы, Рылько піў... Танк, прачытаўшы раман, у канцы напісаў: “Дзіч”...

Цэлыя тры гадзіны патраціў я на ўгаворы П.Пестрака. Казаў, што ён адзіны чалавек, які паказаў нам Заходнюю Беларусь. 4 кнігі “Сустрэнемся на барыкадах” — да ўз’яднання, трэба 4 і пасля ўз’яднання. З трэцяй “Серадзібора” варта зрабіць 3—4. Многае пашырыць, а многае і апусціць. Нельга сёння друкаваць тое, што ён напісаў. Ніхто не рашыцца...

Забраў трэцюю кнігу. Праз месяц прынёс дзве — 3—4. Трэцюю сяк-так надрукавалі. 4-ю зноў вярнулі — цяпер не так з ідэйнага боку не падыходзіла, як з мастацкага. І толькі пасля трэцяй ці чацвёртай дапрацоўкі надрукавалі... Пташнікаў якраз прыйшоў і даклаў сваю руку...

А праз месяц на нас з Пташнікавым у “ЛіМе” артыкул таго ж Пестрака... І, канечне, аб нашых недахопах, правільней, аб недахопах нашых твораў... Скрыган, мусіць, болей ведаў Пестрака, таму і ўхіляўся. (...)

***

Мы — не Масква. Там некалькі часопісаў, самых розных, ад самых левых да самых правых. Таму нам даводзіцца друкаваць усё — і левае, і правае. І, калі няма лепшага, нават бяздарнае, халтурнае. Часопіс з "белымі плямамі" не выйдзе, нечым трэба запоўніць старонкі.

Запаўняем...

***

**Янка БРЫЛЬ. Птушкі і гнёзды.** *Раман.*

Чытаў з асалодаю. Праўда, чакаў большага.(...) З Я.Брылем гаварылі ўсе, як і заўсёды, шчыра. Ён умее слухаць і ўсе заўвагі, якія, на яго думку, слушныя, заўсёды паправіць. Няслушныя ці малапераканаўчыя аспрэчвае, хоча, каб яго зразумелі.

Я гаварыў адзін, якраз перад ад’ездам у Кіеў. Дачуўся, што я еду, і знарок прыйшоў.

Многа хваліў — мову, стыль, тое, што беларус упершыню пастаўлены як роўны з роўнымі сярод іншых народаў Еўропы і выглядае ніштавата між іх, і за цікавыя думкі, погляды, дэталі...

У рамане Брыль многа расказвае і вельмі мала паказвае. Пераказ, героя не адчувае, героі блытаюцца. Не спадабалася: шмат увагі ўдзелена дружбе з кнігамі, паўтарае некаторыя свае творы, дакучаюць успаміны дзяцінства. Больш значную прычыну да вяртання дадому павінен мець галоўны герой. Параўнаў "Особняк" Фолкнера, дзе герой 45 год мучыцца на катарзе дзеля толькі таго, каб, выйшаўшы з турмы, забіць свайго брата, які не памог яму ў цяжкую хвіліну... Нейкую падобную ідэю павінен насіць у сабе і герой брылёўскага рамана — тады раман і кампазіцыйна палепшае, і наогул. Апошняе аспрэчваў, казаў, што чалавеку заўсёды хочацца дамоў. Правільна, але ж каб даць герою нешта фолкнераўскае — які б ён стаў, як бы вырас як вобраз!

Пасля Кіева, сустрэўшыся, гаварыў: "Правіў два месяцы ў Каралішчавічах. Шарахоўская сказала: раман палепшаў, дай Бог, каб паболей такіх раманаў друкавалася".

Хвала Богу, поспеху Я.Брыля я заўсёды буду рад. Я. Брыль — падзея нашай прозы. (...) Яму мы ўсе абавязаны многім — ён нас і маральна падтрымлівае, і наогул.

Помніцца, у "ЛіМе" на маё апавяданне "Стажок сена" з'явіўся пасквіль. Я раззлаваўся, напісаў ліст у рэдакцыю. Спаткаў Я. Брыля. "Не паказвай выгляду, бо крытыкі, як сабакі: пабачаць, што ты звяртаеш на іх увагу, будуць усю дарогу брахаць..." І яшчэ: "у польскай арміі салдат мог абжалаваць загад камандзіра аб спагнанні пасля таго, як адбудзе пакаранне. Пасля некалькіх дзён чалавек ахалоджваўся і рэдка калі скардзіўся, што камандзір пакараў яго няправільна". Гэта запомнілася на ўсё жыццё. Цяпер стараюся не звяртаць увагі — добрае пра мяне пішацца ці кепскае...

***

**Іван МЕЛЕЖ. Навальніца над полем** (працяг "Людзей на балоце"). *Раман.*

І.Мележ — мой зямляк. Я не вельмі цаніў яго дагэтуль. Ранейшыя творы здаваліся надуманымі, далёкімі ад праўды.






Таму "Людзей на балоце" пачаў чытаць без асаблівай ахвоты. Першыя 20—40 старонак не захапілі. Сказаў нават нейкую недарэчнасць, Я.Брыль падтрымаў: "Іван можа, глядзі, скарачай". (Ён быў тады намеснікам рэдактара.) Вялюгін пасмяяўся: відаць, лепей было б, каб раман згарэў (у Мележа быў пажар на кватэры, і раман сапраўды ледзь не згарэў). Але прачытаў 100, 200, 300 старонак — Божа мой, якая проза! Пасля К.Чорнага нічога падобнага не было.

Сказаў у рэдакцыі гэта — скептычна ўспрынялі: маўляў, малады хлопец, што ён яшчэ разумее ў літаратуры. Ад Мележа ніхто не чакаў, што ён напіша што вартае.

З Мележам гаварыў доўга — гадзіны тры. Многае мне падабалася, сёе-тое і не. Як толькі зраблю крытычную заўвагу, Мележ шапку ў ахапку — і "мне пара дадому". Я пачынаю хваліць — забывае пра дамоўку, слухае, пытае, што яшчэ я маю сказаць пра раман. І так тры гадзіны...

Пасля неяк дома ў яго быў. Слухаў кавалкі другой часткі, другога фактычна рамана. Чытаў І.Мележ, што думаюць яго героі пра калектывізацыю. Усё натуральна, жыццёва. Спытаўся, як ён лічыць, правільнай была калектывізацыя, ці нельга было абысціся без яе? (...)

100 старонак новага рамана чытаў два дні. 50 старонак смакаваў — лепш за папярэдні раман. Там месцамі была скаванасць, ненатуральнасць, тут здзіўляючая вольнасць, прастата і глыбіня. 50 астатніх старонак — пра калгас. Усё добра, натуральна, але няма першаадкрыцця, паўтор таго, што было ўжо ў другіх. Нідзе няма, што яны беларусы і ў нас таксама нешта было ў галовах, што і мы жылі не толькі чужымі думкамі, а сяды-тады думалі самі...

Пазваніў мне ў рэдакцыю. Шмат хваліў. Выказаў усе заўвагі — з Я.Брылём, І.Мележам можна гаварыць шчыра. Наконт нацыянальнага сказаў, падумае. І наогул, зойдзе, каб яшчэ пагаварыць больш грунтоўна і падрабязна.

***

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ. Сустрэча на ростанях.** *Раман.*

Чыталі ўтраіх — Я.Скрыган, Я.Брыль і я. Спачатку ўдваіх

— Скрыган і я. Мне сёе-тое здалося падазроным у паказе вайны (штрафнога батальёна). Скрыган: “Трэба ж некаму праўду пісаць!” (ён быў тады загадчыкам аддзела). Але даў Я.Брыль. Брыль літаральна знішчыў раман. Гаварылі ўтраіх за адным сталом, папярэдне звёўшы ў адно нашы заўвагі. А.Кулакоўскі моўчкі выслухаў усё, пасля ледзь не заплакаў: "Няўжо я горшы пісьменнік, як Шамякін?” Я.Брыль: “Таму і кажам, што ты не горшы”.(...) Паправіў хутка, нешта праз месяц і надрукавалі...

Другая частка слабейшая за першую, хаця бытавыя дэталі і там ёсць цікавыя...

***

**“Тры зоркі”.** *Аповесць.*

Пісаў у Караліщчавічах, я яшчэ быў там. Калі хадзілі па лесе — часцей за ўсё Я.Брыль, А.Кулакоўскі, В.Тарас і я — расказваў пра людзей са свае вёскі. Раптам чытаю аповесць, сустракаю тое, што чуў. Аповесць здаў у апошнія дні, перад самай здачай у набор, А.Бачыла адразу ж аддаў у №1. Мы з Пташнікавым выказалі сумненне: ці пройдзе яна цэнзуру, сёе-тое варта было б паслабіць... “Ерунда, я нічога не бачу такога, каб трэба было паслабляць...”

Здалі. Прайшла цэнзуру. І раптам, дні праз тры, званок — затрымаць друкаванне.

Аказваецца: А.Кулакоўскі ва ўсе газеты здаў урыўкі. Адзін урывак трапіў Фесько, той перадрукаваў яго ў некалькіх экземплярах ,і ў ЦК. Там спахапіліся, далі каманду зняць. Танк хадзіў у ЦК, але, мусіць, даказаць яму нічога не ўдалося, бо нават не даведаўшыся, чыталі аповесць усю ці толькі кавалак, вярнуўся і даў каманду зняць...

Пасля нарады ў ЦК, выступлення Мазурава... Кулакоўскі на трыбуне, яго, як хлапчука, пытаннямі збівае Шаура*, паказвае выдадзены за мяжой экземпляр “Дабрасельцаў”... Хацеў жартам Кулакоўскі “отбояриться”, не ўдалося...

Аповесць чыталі ўсе члены рэдкалегіі, некалькі разоў П.Броўка... Усё ж надрукавалі...

---

*** Шаура В. Ф.** — сакратар ЦК КПБ па ідэалагічных пытаннях.






У выдавецтве Казека на пытанне, чаму не ўключылі ў план, адказаў: “Трэба пісаць не заганныя творы, тады пытацца не будзеш, уключылі ці не...”

А аповесць-то вельмі сярэдняя, часам проста нарыс...

(Нядаўна чытаў запісныя кнігі А.Вішні. Здаецца, пісаў знарок іх, каб, калі трапіцца папасці ў органы, былі апраўдальныя дакументы. Я пішу не для апраўдання сябе, проста хай застаецца праўда на паперы.)

***

**Іван НАВУМЕНКА. Апавяданні (“Сон”, “Негры ў Мінску”).**

Запомнілася вельмі яскрава, можа таму, што гэта былі першыя мае дні ў “Полымі”, “мядовы месяц”. Я.Скрыган здорава пакрэсліў — ён быў тады загадчыкам аддзела. І.Навуменка глянуў і адразу ж да мяне (Скрыгана пазвалі да тэлефона): “Не, я не дам, каб мяне так крэслілі. Я не пачынаючы...” Я параіў: “Можа б глянулі, што там падкрэслена. Можа, і варта сёе-тое напісаць не так...” “Не, Барысе, я ведаю, што я прынёс у рэдакцыю. Я шліфую...”

Вярнуўся Я.Скрыган, селі за стол. Навуменка не даваўся, каб яго правілі. Скрыган адказваў, што правіць трэба, неабходна — асобныя фразы гучаць па-газетнаму, ёсць калькі, не беларускі сінтаксіс. “Гэта гумарок”, — апраўдваўся Навуменка. “Гумарок таксама павінен гучаць па-беларуску, каб беларус смяяўся сапраўды са смешнага, а не з таго, што пісьменнік не ўмее пісаць па-беларуску...” “У нас няма адпаведных пластоў мовы, каб перадаць дакладна мову інтэлігента, вучонага...” Я.Скрыган: “Гатовага ні ў якой іншай мове не было, усё стваралі самі вучоныя, пісьменнікі... Не браць гатовае ў другіх, а трэба самім ствараць...” Абое расчырванеліся, пачалі гарачыцца, злавацца. 12—15 старонак апавяданняў тых, а сядзелі гадзіны 3—4. І ўсё ж Скрыган настояў, і многае выправілі.

Я зрабіў заўвагу: “Газетка пракідаецца сям-там, не варта б”. “Не так многа ты, Барыс, і ў газеце той быў, каб мне такія заўвагі рабіць! Я больш за цябе прапрацаваў і ведаю, дзе што...”

Але разышліся вельмі мірна, хораша. Толькі пасля пры

сустрэчах Навуменка часам казаў: "Які Скрыган пісьменнік?" — і ўсміхаўся. "Стыліст добры", — апраўдваў я Скрыгана. "Што, стыліст? Пару дыялектных слоў ведае, і гэта ўжо стыліст?"

Наогул Я.Скрыган, прыйшоўшы ў "Полымя", спачатку вельмі лез у кожны рукапіс, усё хацеў, каб мова кожнага твора была падобная на мову яго твораў. Прымушаў многа правіць. Я ды і аўтары бунтавалі — павінна ж аставацца нешта і сваё, аўтарскае, нельга, каб мова ўсіх твораў, што друкуюцца ў "Полымі", была падобнай. Яна павінна быць беларускай, а ўхіл да дыялектаў у кожнага свой... Я.Брыль нават раз сказаў: "Што, хіба табе, Янка, няма чаго свайго рабіць, што перапісваеш усіх..." Пасля здаўся, менш упікаў. Толькі перыядамі, калі, мусіць, свая работа не ішла.

***

**Міхась ЛЫНЬКОЎ. Замежныя апавяданні.**

Прынёс Танк. Чыталі я, Скрыган. Не ўсё спадабалася, у мове — газета, "ўшыя", "ўшыся" амаль у кожным сказе... "Правіць ці не?" — пытаюся ў Я.Брыля. "А што?" Паказваю. "Гм, трэба было б, ведаеш, папраўляць..." Пазваніў Лынькову — не прыйдзе сам, кажа, хай папраўляюць у мове, дзе лічыце патрэбным". Аддалі Шарахоўскай — тая зрабіла ўсё па свайму густу. Наогул, Шарахоўская многім навяла глянец на мове, зрабіла, наколькі гэта было магчыма, яе беларускай. Цікава, якая будзе мова многіх з нас, калі пойдзе Шарахоўская з "Полымя"?

***

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. Сівая легенда (Ракута).**

Уразіла адразу ж веданне сярэднявечча. Замкі, зброя, побыт... Швейцарац гаворыць пра беларуса і з павагай, захапленнем... У мове шмат украінізмаў... Правіў, дзе мог. Я.Скрыган больш прайшоўся з алоўкам па аповесці. Апусцілі дзе-нідзе беларускасць — каб хаця не было "залатога веку", барані Божа. Далі чытаць М.Лужаніну — той доўга даказваў, што такога паўстання нідзе не было, не было і Кізгайлы — Кіжгайла быў, не зусім дакладна апісаны Магілёў і інш. Ул.Караткевіч апраўдваўся, спасылаўся на дакументы і кнігі. Асабліва палохаў Леў Сапега — ён памёр нешта за 15 год да паўстання Ракутовіча. Ці пакідаць яго ў аповесці — Леў Сапега фігура гістарычная, мёртвага яго рускія, калі ўзялі Вільню, цягалі па вуліцах горада, прывязаўшы да хваста каня... М.Лужанін не адобрыў некаторых моўных правак Я.Скрыгана — "астаўся" і "застаўся". Як адно, так і другое слова мае права на жыццё. Уніфіцыраваць нельга, бо за кожным гэтым словам свой сэнс. "Бег, бег і астаўся". "Засталося 40 рублёў..."

Здалі ў набор, карэктура трапіла да А.Сідарэнкі, той напісаў артыкул у "Звязду". Чакалі, калі выйдзе часопіс, каб даць. Затрымалі карэктуру, чытала вышэйшае начальства. У рэдакцыі самі выкінулі Сапегу, яшчэ сёе-тое... На выпадак — з'явіцца артыкул Сідарэнкі, ён не праверыць можа, што надрукавана ў часопісе, і сядзе ў лужу.

Выйшаў часопіс — усё ціха. Ні артыкула, ні так ніякой крытыкі. Дый не было, папраўдзе, чаго крытыкаваць — вострага нічога не асталося.. А ў кнізе выйшла амаль такая ж аповесць, як і была.

***

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. Нельга забыць.** *Раман.*

Прынёс Я.Брыль. Пісаў рэцэнзію на кнігу і адобрыў раман. Я адразу ж узяўся чытаць — першыя 70 старонак здзівілі: няўжо з'явіўся такі новы празаік у нашай літаратуры! (...)

Даў Скрыгану. Таму раман спадабаўся таксама. Рылько піў — ён нізашто не надрукаваў бы такі твор, асабліва прачытаўшы яго ў першым варыянце...

Гаварыў з Караткевічам адзін і вельмі шчыра. Праз месяц прыслаў раман з Масквы, нічога не паправіўшы. Выкінуў толькі адну сцэну — абарону Масквы, апалчэнне. (Пераказаў яе вуснамі Галаўлі.) Я ўзяўся рыхтаваць раман да друку — выкідаў усё, што вельмі выпірала. Многае можна аднавіць у асобным выданні, а цяпер — каб не чапляліся сабакі. Інакш раман асобнай кнігай не выдасі. Караткевіч мяне паслухаў. Здалі ў набор.

Першы падняў крык А.Вялюгін. "Паэму забракаваў я,

дык ён лезе праз акно — робіць яе паэмаю героя, друкуе ў "Полымі". Паэму я выкідаў першую, пакідаў толькі некалькі частак, для каларыту. Яна паўтарала папярэднія празаічныя сцэны..." Пайшоў глядзець: аказваецца, машыністка памылілася, надрукавала закрэсленае... Я.Скрыган даў указанне: чытаць пасля машынкі ўсё, што здаецца на аддзел, у набор. Я — на дыбы: я адзін у аддзеле, у мяне на ўсё не хопіць часу...

Да Вялюгіна далучыўся Р.Шкраба (ён дзяжурны быў па нумары). Раман яму наогул не спадабаўся. Узяўся чытаць Танк — ніколі не бачыў яго такім злосным. Не пакінуў нідзе жывога месца — скрэсліў усё. На мяне ўсе глядзяць, як на вінаватага. Пазвалі Караткевіча, паказалі заўвагі Танка. Караткевіч узяўся аспрэчваць: многае Танк сапраўды хапіў залішне... Сяк-так аддалі на праўку.

Ад другой часткі рамана асталіся "рожкі ды ножкі". Чытаў Танк перад самым ад'ездам у Амерыку. Прынёс рукапіс Я.Скрыган, глянуў і аж умлеў: што асталося ад рамана...

Чытачы прынялі няблага, нават А.Мальдзіс рэцэнзію хвалебную ціскануў у "ЛіМе"...

А ў выдавецтве Караткевіч здаў першы варыянт. В.Сёмуха пусціў усё. І дарэмна — нехта глянуў, нехта прачытаў — рэдсавет. Караткевіч узяўся правіць. Пакуль правіў, сустрэча інтэлігенцыі ў Крамлі. Раман яшчэ раз затрымалі. Пасля трапіў у ЦК. Там прачыталі на бюро ўрыўкі, аддалі ў Саюз — хай Саюз рашае, што рабіць з раманам: выдаваць ці не выдаваць.

Засядалі ў Броўкі ў кабінеце. Ніхто не асмеліўся ганіць раман: вельмі таленавіта напісаны. Толькі сёе-тое зняць. Караткевіч згадзіўся. Зняў. З выдавецтва раман трапіў на калегію міністэрства...

Прыехаў я з Кіева і дачуўся: раман не выходзіць, рассыпаны набор...

У першым варыянце загаловак быў — "Леаніды не вернуцца да зямлі". Я ўлавіў сэнс, ідэю — каб яе трохі схаваць, далі другі загаловак — "Нельга забыць".

***

**Міхаіл ГАРЭЦКІ. Віленскія камунары.** *Раман.*

Знайшоў раман І.Шутовіч. Ён і прадмову напісаў, і






перадрукаваў раман на машынцы. Скрыган аддаў Пташнікаву. "Прачытай і, можа, выберы які кавалак..." Пташнікаў прачытаў — трэба друкаваць раман увесь. Скрыган усумніўся. Узяў сам дадому. Папраўдзе, раман добры, трэба друкаваць цалкам. Танк прачытаў, далі М.Лужаніну. М.Лужанін прынёс і прадмову. А.Бачыла знайшоў у прадмове непажаданае — М.Лужанін заўпарціўся: альбо бярыце так, як я напісаў, альбо ніяк не бярыце... Нашы здаліся.

Скрыган загадаў зверыць усе цытаты-эпіграфы. А як, па чым? Па кнігах 1935 года (часу напісання твора) ці пазнейшых выданнях? Дзе знайсці ўсё — адзін сказ Маркса ці Леніна, а ў іх па 60 тамоў! Я хадзіў у Інстытут марксізму, у бібліятэку, капаўся сам у кнігах. Сёе-тое знайшоў, напісаў Шушкевіч пісьмо брату Гарэцкага — той таксама памог сім-тым. Астатняе выкінулі зусім, што не праверылі. Выкінулі і яшчэ сёе-тое, што не самі, Галоўліт. Я дзяжурыў якраз: тут паказаны голад у Вільні ў першую імперыялістычную вайну. Гарэцкі дае, што ён еў — меню на дзень. Апісвае сталовую — хлеб яшчэ на сталах стаіць, еш, хоць распеража́ся. Ярашэўская (работніца Галоўліта): так цяпер многія рабочыя ў нас не жывуць... А гэта ж — голад паказаны! Што могуць падумаць?..

Каб нічога не падумалі, знялі гэты кавалак, эпізод. Знялі і яшчэ сёе-тое...

Наогул — перасварыліся ўсе за гэты раман у рэдакцыі. Асабліва нерваваўся Пташнікаў — раман добры, цікавы, такіх і цяпер яшчэ "класікі" не пішуць, дык навошта валаводзіцца, трэба хутчэй друкаваць... Раман не гісторыя, калі ёсць якія "няўвязкі" — не бяда, пісьменнік мае права на выдумку. Я падтрымаў яго. З горам папалам надрукавалі, і ўсе ўбачылі, які вялікі пісьменнік загінуў ні за што... Цікава, на фоне тых, хто стаў ахвярай культу, як бы выглядалі многія "вядомыя" раманісты, паэты, драматургі? Каб не было такога клятага "культу", якая б была наша літаратура, мова, якая б была Беларусь? Ды нашто згадваць, як казаў адзін яўрэй, тое, чаго не будзе, чаго ўжо ніяк не вернеш.

***

**Васіль БЫКАЎ. Здрада.** *Аповесць.*

Аповесць была падрыхтавана да друку Я.Скрыганом

(загадчыкам аддзела). Але прачытаў яе А.Рылько, панёс Я.Брылю — і забракавалі "як ідэйна не вытрыманую". В.Быкаў казаў мне пасля: Брыль пачаў цытаваць мне статут: "У цябе вось салдат кідае зброю..." А ведаеш, што ў статуце Савецкай Арміі напісана? Я вяваў не менш Брыля, і што-што, а статут ведаю... (...)

Я стараўся — першая ж мая праца. Усё роўна знайшоў мала чаго недазволенага. Толькі моўную праўку вялікую зрабіў, апрошчваў, набліжаў да народнай мовы быкаўскія "нагрувашчванні". Нават ліст Быкаву напісаў (ці толькі збіраўся гэта зрабіць — не памятаю: вось жа — нават самае бляклае чарніла лепей за добрую памяць), што аповесць — вялікая ўдача, што нічога падобнага даўно не чытаў...

Быкаў прыехаў, папрасіў на ноч у гасцініцу аповесць (праўлены экземпляр) і многае аднавіў. Я пра гэта нікому не казаў, толькі як быў дзяжурны, выправіў сям-там "нагрувашчванні"...

***

**Мікола ЛОБАН. Шэметы.** *Раман.*

Першая кніга рамана чыталася ў рэдакцыі за год да майго прыходу і была забракавана А.Рылько і Ул.Карпавым. Я меў радасць чытаць другі варыянт кнігі — ён мне спадабаўся, за выключэннем асобных сцэн. І яшчэ: раман вельмі ж блізка пераклікаўся з "Хождением по мукам" Талстога і нечым нагадваў "Тихий Дон". Было ў ім нешта і сваё, лобанаўскае, і, дарэчы, вабнае. Зрабілі шмат моўных заўваг — дыялектызмы, газета месцамі, асобныя вобразы цьмяныя, кампазіцыя не заўсёды ўдалая.

Што мог, паправіў — і надрукавалі. (Цікава было б калі перачытаць тое, што мы друкуем. Чысценькае, гатовенькае. А то чытаеш рукапіс — і ўсё. А чытач чытае кнігу — і думка рэдакцыйная і чытацкая разыходзіцца, пэўна, будуць.)

Другая кніга — "На парозе будучыні" — лепшая за першую. Шмат дыялектызмаў Лобан правіць не хоча, адстойвае кожнае слова — загадчык сектара мовы АН БССР, як-ніяк гонар не дазваляе! Ледзь-ледзь усунулі між Савіцкага і Шамякіна. І добра зрабілі: каб не ўсунулі, бадай, і не надрукавалі б у 1963 г. — не хапіла б месца.

***

**Аркадзь ЧАРНЫШЭВІЧ. Засценак Малінаўка.** *Раман.*

Друкавала наша машыністка. Доўга я любаваўся пісьмом — доўгія лісты ў лінейку, роўны, чысты почырк. І каб хоць адна папраўвачка!

Тры экземпляры рамана валяліся ў рэдакцыі з год, пакуль урэшце не аддаў А.Чарнышэвіч грошы машыністцы і не забраў.

Раман уразіў мяне веданнем побыту беларускіх шляхцюкоў, каларытнымі характарамі і мовай. Ён спадабаўся мне не менш за раман Мележа "Людзі на балоце". (Дарэчы, мы спачатку назвалі Мележаў раман "Туманы над багнай". А.Рылько ўбачыў у гэтым загалоўку ідэйны хіб і ў карэктуры прымусіў мяняць. Мележ прынёс цэлы спіс назваў, 10—15. Спыніліся на "Людзях на балоце". Але Я.Скрыган палічыў раман сыраватым. Раман, папраўдзе, і быў сыраваты, але не настолькі, як лічыў Я.Скрыган. А.Чарнышэвіч жыў у Радашковічах — то піў, то хварэў. І ўсю работу па праўцы мне давялося ўзваліць на свае плечы. Пасля Скрыган прайшоўся добра-такі па старонках — многае згубілася, не трапіла ў друк. І гэта адзіны твор, які мы, здаецца, сапсавалі сваёю праўкаю. Лез хто хацеў, аўтара не было, ён не сочыць — што трапляе ў друк наогул з-пад яго пяра. Карэктуру чытаць не захацеў...

Ды ліха з ім, добра, што раман надрукаваны. Мінулае, а гэта многім не па густу.

**Задумы.**

Калі Бог дасць здароўя і сілы, хачу напісаць тры аповесці ці раманы (высветліцца пасля), дзе галоўныя героі будуць пісьменнікі.

***

**Сяргей ДЗЯРГАЙ.**

Першыя пасляваенныя гады, г.Мінск. Парк імя Горкага. Пасуцца козы, коні. І побач з імі, на траве, з чорным

 





партфелікам, на пузе ляжыць у салдацкім шыняню чалавек. Ён кульгае, і ўсе прымаюць яго за салдата, што вярнуўся з фронту, — такіх тады было многа ў Мінску. І ніхто не звяртае на яго асабліва ўвагі — побач піўныя, забягалаўкі, ля іх таўкуцца людзі, сярод людзей пісьменнікі — запісваюць свае творы. І чалавек у шыняню не зводзіць з іх вачэй — ён жа таксама пісьменнік, ведае амаль кожнага з іх — як пачатковец, чалавек, які цікавіцца літаратурай, ён часта бываў раней на пісьменніцкіх сходах. Нават больш: ён ведае кожнаму іх цану — недарэкі, без таленту і сумлення. Найбольш таленавітых яны пасадзілі ў 1937 г. — пісалі даносы, выступалі ў друку, і на сходах, і нават на допытах. Цяпер яны рады — яны самыя вялікія, недасяжныя, іх хваляць у друку, завуць на прыёмы.

Ён жа — на некалькі галоў вышэй за іх усіх, разам узятых, ён друкаваўся таксама да вайны, за што і ўзялі ў 1937 г. Цяпер у яго партфелі ляжаць вершы, паэмы — ён ведае, што калі б іх надрукавалі, усе гэтыя свяцілы адразу б патухлі... Ім трэба б было зноў садзіць яго ці спіхнуць з гэтага свету.

Але ён не можа друкаваць сваіх твораў, бо як толькі ён заявіцца і скажа, хто ён, яго возьмуць зноў. Ён рады, што жыў некалі на вёсцы і яго ніхто з гэтых не ведае — яго ведалі тыя, што таксама ў турмах ці загінулі.

Рады ён і волі — вырваўся з лагера ў часе вайны (разбамбілі лагер), перш хаваўся, нават прозвішча замяніў. Яго не пазналі б і тыя, хто ведаў, — так ён змяніўся: з жыццярадаснага, "кроў з малаком" юнака — стаў сівы, хмуры чалавек. У парк ён ходзіць, каб тут, пад дрэвамі, пісаць — жыве ж на ўскраіне, у сенечках — там рамантуе боты і не хоча, каб ведалі, што граматны і нешта піша, — заявяць і зноў забяруць. Такая воля ўсё ж лепш той няволі.

Урэшце ім пачынае цікавіцца міліцыя — хто ж ён? У парк нельга, міліцыя высочвае, дзе ж ён жыве. Няма прапіскі — выселяць з горада. “Частник”. Як не хочацца — ідзе ў рэдакцыю, нясе вершы. Там — у захапленні. А дае ён самае горшае. Друкуюць. Ён ідзе ў Саюз — паперку, каб не выселілі, прапісалі. Але вершы яго губяць — у Саюзе баяцца яго, як паэт ён можа зацьміць іх усіх, да таго ж баяцца, каб







не адказваць — чорт яго ведае, хто ён, гэты чалавек. Паперкі не даюць, ён едзе ў старэнькі флігель з Мінска. І вязе ў чорным, патрапаным, аблезлым партфельчыку золата, тое, чым пасля будзе зачытвацца ўвесь свет, — свае цудоўныя, неперайымальныя вершы і паэмы.

Ён перажыў многае, таму не перажывае асабліва і гэта — ён рады, што на волі, што зможа пісаць і далей, рабіць тое, чаго хоча яго душа. І галоўнае — быць, жыць на волі. (...)

***

**Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ.**

У 1956 годзе з турмы выходзіць адзінокі сівы чалавек. Яго рэабілітавалі “за неимением улик”... 19 год ён прабыў ні за што за кратамі... Куды яму падацца, што рабіць? Пенсію яму далі, дый што з яго выціснеш яшчэ, з гэтага старога...

Але чалавеку, каб жыць, трэба, каб была мэта. А дзеля чаго яму жыць, гэтаму старому, адзінокаму чалавеку? Сям'і ў яго няма — жонка памерла перад самым тым, як яго ўзялі. Другі раз ажаніцца не паспеў — пасадзілі. Астаўся, праўда, сын. Яму тады было нешта каля трох год — сам працаваў, глядзела бабка.

Успомніць — як прыходзіў, як гарнулася дзіця, як пачынала гаварыць “шакаладка — кашаладка”, часікі (пяцьдзесят часоў — время сем мінут палавіна другога), ножку падымае, тады сапка, а тады і бабка... І чакае мамы — мама лячылася, ляжала ў бальніцы, і яе прыйшлося чакаць. Чакае і цяпер — і радасць, і сум... 19 год нічога не ведае пра яго лёс. З турмы не пісаў — не хацелася вярэдзіць сэрца сабе, дый успамінаў, як чакаў сынок маці (а мама не прыйшла — не хацеў турбаваць малога — хай лічыць, што яго няма зусім). Ды каму пісаць?

Сын, мне трэба знайсці сына. І ён едзе дадому, правільней, у той горад, дзе ён жыў. Няма бабкі, няма тых людзей, дзе ён жыў на кватэры, няма нават таго дома... (Перад гэтым — у гарсавеце хутка і без валакіты далі яму аднапакаёвую кватэру.)

Горад новы, новыя людзі — вялікая побач будоўля. Але стары шукае, нястомна шукае — месяц, другі... Урэшце



 

знаходзіць нейкія сляды — у размове з суседкай даведваецца, што тая жыла побач.

"Сына?" Так, яна чула. Сынок жыў з бабкаю, пакуль тая не памерла. Тады яго нехта ўсынавіў.

Шукае ўсіх усыноўленых і — знаходзіць. Сына яго ўсынавілі заможныя людзі (ледзь не старшыня гарсавета — дырэктар, можа, загса ці нешта падобнае). Ён носіць прозвішча новых бацькоў, скончыў інстытут, камуніст, цяпер — архітэктар ці нешта такое — горада. У яго новых бацькоў не было дзяцей, яны і ўсынавілі яго.

Ідзе да сына — на рабоце не знаходзіць (лепей бы спачатку сам, сам), але ад радасці, што знайшоў, не можа стрымацца — едзе на кватэру. Звоніць (сцэна, як чакае, — як тахкае сэрца, якія думкі — на лесвічнай пляцоўцы). Выходзіць — стройны хлопец, мужчына — няўжо гэта мой сын?

— Мне Апанаса Рыгоравіча.

— Я. Што вы хацелі?

Думкі, думкі, думкі.

— Па асабістай справе, я хацеў бы проста пагаварыць з вамі.

Не хоча пускаць у хату, — убогі патрапаны стары, апрануты абы-як, на нагах — кірзавыя боты ў гразі. Глядзіць на боты, на ўсё — адгаворваецца, але стары настойвае. Заходзяць, зачыняюцца ў асобным пакоі, — пад дзвярамі слухаюць. Простая цікавасць дый нейкая нецярплівасць — яны чулі размову на лесвічнай клетцы, а таму і зацікавіліся, — дый трывога нейкая пасялілася.

— Вы (гаворыць бацька на сына на *вы*) — знаеце, што вы не родны сын.

— Так, я знаю гэта. А навошта пытаеце?

— Я знаў вашага бацьку.

— Ну і што? — як бы абыякава. — Дзе ён, што з ім? Загінуў.

— Не, жыве.

— Дзе?

— Тут жа, у гэтым горадзе.

— Праўда?











— Так. Вы хацелі б калі з ім сустрэцца?

— Але, пры выпадку.

— Я і ёсць...

Разгубленасць, бянтэжыцца. А стары плача і тым самым выказвае нейкую боязнасць. Размова...

— Ну дык можа пойдзем да мяне?

— Не позволяет партийная совесть оставлять стариков (яны зараз на пенсіі).

Ідзе дадому. Ідзе і не бачыць дарогі. А мне, што мне "позволяет совесть моя, не партийная..."

Думкі, думкі, думкі. Згадкі і пра яго дзяцінства зноў, і пра маці яго, і пра ўсё-ўсё. Жыць? На чорта яно, на чорта ўсё гэтае жыццё. Развагі яго аб жыцці — кляне, што радзіўся на свет...

І астаецца адзін сын — калі выходзіць бацька, новая маці і бацька, як каты, ходзяць кругом, шэпчуцца з сабою... што будзе!..

Ляжыць — і абавязаны перад гэтымі, і ўспамінае таго... старога. Што ён вінаваты? Хіба б не быў бы такім бацькам, як гэтыя? Гэтыя з роскашы, як сабаку ці кацяня, узялі. Для балаўства. Таму ж я трэба — як чэрствы кавалак хлеба... Жаль да таго. "Лепей бы я ў дзіцячым доме вырас, як тут..."

Рашае ісці да таго. Аб'яўляе ўранні. З новай маці прыпадак, прыступ... Прыязджае "хуткая дапамога", нашатыр панюхаць.

"Можа, і нарэшце. А не — не..."

Ідзе да таго, — стары сабіраецца вешацца, з вяроўкай ужо.

— Сынок мой, ты вярнуўся?

Лашчацца, цалуюцца, суцяшаюць адзін аднаго.

У акно заглянула сонца — узышло — нешта такое, нейкі адзін аптымістычны сказ. І ўсё.

***

**Іван ПТАШНІКАЎ. Лонва.**

Аповесць Іван занёс у "Маладосць". Прачыталі

М.Стральцоў, А.Асіпенка. Узяў П.Панчанка. Гаворка была (расказваў М.Стральцоў) нядоўгая і вельмі тактоўная. Але І.Пташнікаву нешта не спадабалася — "вы чалавек таленавіты, але сёе-тое трэба дарабіць". І.Пташнікаў узбунтаваўся, перадаў аповесць мне (я чытаў яе адначасова з "Маладосцю"), каб я даў прачытаць яе А.Бачылу, ведаючы, што аповесць чыталася ў "Маладосці", зрабіў вельмі многа заўваг — па сюжэце асабліва. Гаворка яго звялася да таго, што аповесць трэба перапісваць, фактычна пісаць новую. Іван хварэў, гаворка ішла са мной. Я аддаў аповесць чытаць далей — Я.Скрыгану. Перад гэтым Я.Скрыган ставіў пытанне аб замене І.Пташнікава як рэдактара аддзела на больш старэйшага па ўзросту і вопыту чалавека. Але нешта не выйшла — таму аповесць Я.Скрыган прачытаў з вялікаю ахвотаю і ўхваліў усё, без усялякіх агаворак. Танк прачытаў аповесць ужо ў часопісе і таксама вельмі хваліў — як нікога яшчэ. (...)

***

**Раман САБАЛЕНКА. Незамужняя ўдава.**

Чытаў я гэтую аповесць і дзіву даваўся — да чаго можа давесці нават добрага пісьменніка бескантрольнасць, безадказнасць. "Аповесць пра веліч душы"! Месцамі горш, як у І.Гурскага. Я забракаваў, мяне падтрымалі І.Пташнікаў, Я.Скрыган.

Гаворка была рэзкая, але шчырая. Першы сказаў сваё "не" Я.Скрыган, я выказаў свае довады, што так друкаваць аповесць нельга.

"Чаму? Вунь Гарбачоў у Маскве пераклаў ужо, піша, што гэта мой лепшы твор".

"Мы таксама можам напісаць такое. Хай вось надрукуе".

Р.Сабаленка аповесць забраў. Аддаў чытаць "наверх", пачаў збіраць думку — у "Полымі" не працуюць з аўтарамі, а адразу бракуюць. Я.Скрыган пайшоў "на папятную". Пачаў упамінаць у выступленнях, на вечарах і ў друку, што будзем друкаваць.

Р.Сабаленка прынёс другі варыянт. Ён быў трошкі лепшы за папярэдні, але ажывіць мерцвяка ўсё роўна нікому яшчэ не ўдавалася. Зноў прачыталі мы ўсе ўтраіх, і думка была — не






друкаваць. Далі М.Танку. Той прачытаў, сказаў: "Дрысня", але друкаваць трэба. Каб той лагер угаманіўся (М.Танк заўсёды не хацеў звягі, а таму другі раз на многае закрываў вочы, каб было менш звягі. Дый інакш нельга: адзін у вас часопіс — трэба адно даваць, трэба даваць і другое).

Выказаў шмат заўваг, і аповесць вярнулі на дапрацоўку другі раз. Надрукавалі сяк-так.

***

**Аркадзь ЧАРНЫШЭВІЧ. Засценак Малінаўка.** *Раман.* Кніга 2.

Кніга другая рамана слабейшая за першую. Няма дзеі. Героі сабяруцца, пабалбочуць і разышліся. Выйгрышныя сцэны ў рамане скомканы, другараднае — расцягнута. Мова, бы выключная.

Усе прачыталі, зрабілі заўвагі, Арк. Чарнышэвіч іх паправіў, і здалі ў друк.

***

**Ілья ГУРСКІ. Апошні раман з "Улады Саветаў".**

Раман два гады марынавалі. Трохі мы, трохі Інстытут гісторыі партыі. Рэцэнзію з Інстытута пісаў Ліпіла. "Гэты раман ніякі не гістарычны..." Такі праўда — гэта першы "плутаўскі" раман у беларускай літаратуры. Рэцэнзія была грунтоўная, але Гурскі нічога не паправіў — "Я маю сваю думку на многія рэчы. Гісторыкі таго не ведаюць, што ведаю я".

Я.Скрыган добрасумленна скараціў раман, зрабіў, каб можна было яго хоць чытаць. І.Гурскі ўзяў прагледзець раман і ўсё аднавіў. Ні радка не скараціў.

І.Пташнікаў пайшоў у водпуск, Я.Скрыган недзе паехаў (ці не ў Сібір — дэкада літаратуры ў Расіі), і я адзін даводзіў усё да ладу. Зняў старонак 150, астатняе здаў у набор. Асобныя моманты доўга аспрэчвалі — асабліва сцэны, дзе І.Гурскі апісвае Леніна і Крупскую. Прыносілі тамы Леніна, даказвалі, што многае не так было, як І.Гурскі паказвае. Але І.Гурскі змясціў гэтыя сцэны ў "Звяздзе".

Настойвалі, настойвалі, дый пусцілі амаль усё так, як і было. Адзін наш клопат — менш надрукаваць, каб нешта ў нумары паралельна і другое было. Не ўдалося — прасіў Гурскі ў два нумары, з №11 зляцела, так што №12 выйшаў з адным І.Гурскім.

***

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. Каласы пад сярпом тваім.**

Беларуская літаратура, бадай, адзіная літаратура, дзе няма сваіх гістарычных твораў. Стварыць іх таксама нялёгка, бо ў народа няма гісторыі. Гісторыя то ёсць, вядома, але якая яна — ніхто не ведае, нават самі беларусы. Ствараць гэтую гісторыю трэба беларускім пісьменнікам, бо гісторыкам гэтая задача непасільная — яны выракліся беларускасці: дух беларускі жыве пакуль што толькі ў пісьменнікаў.

І сёння самае надзённае і патрэбнае — гістарычная літаратура. Гэта той “святы дух”, удыхнуўшы які, можа, сёйтой яшчэ ажыве. Людзям трэба сказаць, што мы не бязродныя, што мы жывём даўно і маем чым ганарыцца. І Ул. Караткевіч гэта разумее больш за каго іншага. Услед за Я.Купалам ён пачаў будзіць народ, выводзіць яго са спячкі.

Калі я чытаў раман, хацелася запіць. (...) “Вярні, вярні мне бацькаўшчыну, Божа, калі Ты цар і неба, і зямлі”.

Чытаў раман улетку, услед за Іванам. Пасля Я.Скрыган, Я.Брыль, М.Танк.

Я думаў, што друкаваць раман мы не будзем. Надта ж смела ставіліся многія праблемы, надта ж ён быў беларускі. А тут у Караткевіча "хвасты" розныя валачыліся.

Танк чытаў хутка, абураўся Ул.Караткевічам, пры кожным зручным выпадку яму падтаквалі А.Клышка, Р.Шкраба і Р.Бярозкін. (Пры нас жа М.Танк маўчаў — відаць, раман ускалыхнуў і Танка.)

Доўгая гаворка была — умешваўся і Я.Брыль, і мы, і ўсё ж згадзіліся друкаваць. Караткевіч стукаў кулаком аб стол, Танк гарачыўся таксама.

Касцюшку палякі лічаць вялікім палкаводцам. Суворава таксама лічаць рускія.






А дзе праўда?

І ўся гісторыя гэтак. Згадзіліся старонак на 600—700.

Скарачаў я з першай папкі мала. Многае хацелася пакінуць. Але ўмяшаўся І.Пташнікаў (чаму — невядома) і абрэзаў усё, што і не трэба было абразаць.

Другую папку я больш сам абрэзаў, бо трэба было даць у нумар не больш 170 стар. (...)

***

Кажуць, майстэрства сучасных пісьменнікаў вышэй за майстэрства нашых класікаў. Можа быць — у паэтаў (не ва ўсіх!) лепшыя рыфмы, вольны размер, рытм, больш метафар, параўнанняў, свяжэйшая мова... У празаікаў — большая культура радка... Але ж усё гэта прыйшло да нас дзякуючы другім літаратурам, дзякуючы вучобе ў вялікіх майстроў рускай і сусветнай літаратуры. Затое чым мы прайграем — давайце палічым:

1. Мы не ведаем так чалавека, жыцця, народнага побыту, як ведалі нашы класікі... А калі і ведаем, баімся паказваць усё так, як ёсць...

2. Наша літаратура губляе нацыянальнае аблічча, робіцца інтэрнацыянальнай. У творах праблемы нацыі не падымаюцца, няма і нацыянальных тыпаў... Мала таго, рэдка ў якога паэта нават верш з’яўляецца пра Беларусь... Купалам гаварыў некалі цэлы народ, нацыя заяўляла аб сабе як аб нацыі, якая хоча гаварыць, пісаць і жыць па-свойму... Цяпер у паэтаў — гульня ў рыфмы, рытмы, робяць цацкі на ёлку... А паэт — гэта барометр часу, ён павінен усё чуць, бачыць і пра ўсё гаварыць...

3. Аддалілася мова ад народнай плыні, усё часцей і часцей сустракаеш замест сакавітага народнага выразу кальку з рускай, сухое паведамленне, а не паказ...

4. Няма народнага духу, няма стыхіі, якая неад’емная якасць усіх найлепшых твораў сусветнай літаратуры. Стыхіі не толькі ў творы, але і ў характарах — чалавек хоча зрабіць так, а стыхія яго прымушае рабіць па-свойму. Барацьба “Я” — розуму і сэрца, з тым, што ў чалавеку невядома і што ў пэўны час вядзе за сабою чалавека, хаця розум і сэрца супраціўляюцца,

— гэтага ўсяго няма. Ёсць затое клетачкі — усё расчэрчана, усё вядома, сядзі толькі і канстатуй...

Не пералічыць, што мы страцілі. Галоўнае ж, што страцілі, — літаратура больш не жыве праблемамі нацыі... І гэтага гісторыя нам не даруе. Ніколі.

***

Канечне, творы Мележа, Брыля, Панчанкі, Танка будуць уплываць на літаратуру.(...) У іх будуць вучыцца майстэрству менавіта радка, беларускаму слову, якое можна так паставіць, каб яно іграла, свяцілася...

Калі гавораць, што сённяшняя літаратура вышэй за класіку, то часам забываюць, што класіка вытрымала ўжо выпрабаванне часам. А ці вытрымаюць гэтае выпрабаванне творы, напісаныя намі? Паглядзіце на сябе, таварышы пісьменнікі, праз пяцьдзесят, сто год! Што ад вас астанецца? Па дзесяць-дваццаць год прайшло з дня апублікавання вашых твораў — і то яны ўстарэлі. А што астанецца праз пяцьдзесят, сто?

Мяне, ва ўсякім разе, пераконвае класіка: творы, дзе няма нацыянальных характараў, няма нацыянальных праблем, дзе няма нечага агульначалавечага, — не астаюцца, яны паміраюць...

А ў творах нашых пісьменнікаў сучасных гэтага якраз і бракуе. Мала таго — у іх няма роздуму, няма філасофіі свайго часу. Яны ілюструюць толькі час... (...)

Каб самому пісаць, трэба прааналізаваць усё, што да цябе напісалі. Каб не паўтараць нечых памылак, каб другі раз не вынаходзіць веласіпед. Памылкі, вядома, будуць, але яны павінны быць маімі памылкамі... (...)

Чытаў прозу А.Наўроцкага. Вось ён, відаць, усіх нас абыйдзе і пойдзе далей. Калі, вядома, ніхто яму не пяройдзе дарогі.

**14.VIII.66 г.**

(...) Трэба паэзія, проза, трэба гаварыць, хто мы і чаго прыйшлі на гэтую зямлю. Трэба думаць пра Беларусь, пра вялікі і гаротны свой народ. Народ, які яшчэ не дажыў да таго, каб





прызнаць сваю мову. Трэба на многае адкрываць людзям вочы. А мы забаўляем людзей гульнёй у рыфмы. Чорнага, Чорнага няма.

***

Быў на памінках Я.Коласа. Броўка гаварыў, што вось каб жыў Я.Колас, то як бы ён радаваўся, што ў зямлі, якой ён служыў усё жыццё, знайшлі нафту, вугаль, соль... І ні слова пра тую справу, якой аддаў Колас жыццё, — беларускае слова. А яно выганяецца са школ, радыё, газет, ВНУ... Яно робіцца зноў “неблаговидным”, “ненужным”... Прасілі і мяне выступіць ад маладых. Добра, што адмовіўся. Гаварыць пра Я.Коласа трэба. Толькі не, не так, як гаварыў П.Броўка.

**22.VIII.66 г.**

Чытаю “Братоў Карамазавых”. Вось чаго, вось чаго мне не хапае — Дастаеўскага. І не толькі мне — усёй нашай літаратуры! Не чытаць гэтую кнігу трэба — вывучаць. Усё можна выкінуць, спаліць — пакінуць толькі “Братоў Карамазавых”...

І як я раней гэтага не адчуваў?

Чытаў — і не адчуваў!..

**17.XI.66 г.**

Усёй беларускай літаратуры не хапае жанчыны. Можа, таму яна такая і сумная, нецікавая. Паспрабавалі Я.Колас і І.Мележ увесці жанчын у творы — і іхнія творы загучалі. Літаратура — самы інтымны від мастацтва. Кнігу чытаюць наадзіне, а наадзіне чалавек думае пра ўсё. І не трэба баяцца падштурхнуць яго думкі на інтымнае. Не было б Аксінні — хіба б гэтак чытаўся “Ціхі Дон”? Ці чыталіся б так “Мужыкі” Рэймонта без Ягны? Альбо “Ганна Карэніна” Талстога? Пакуль беларускія празаікі не ўвядуць ва ўсёй сваёй велічы і нізасці жанчыну ў свае творы, датуль беларуская літаратура будзе нечытэльнай.

**27.XI.66 г.**

Пісьменнік павінен пісаць свой час. Толькі тады ён будзе цікавы сваім сучаснікам, калі ў яго творах будзе адлюстраванне сучаснасці... Без сучаснасці няма пісьменніка... Наш час — самы

велічны, самы незвычайны... Лухта, якая лухта ўсё гэта! Быццам час, што быў раней, меней быў цікавы, меней велічны, меней незвычайны. Варта ўспомніць толькі вайну, 1937 год, калектывізацыю, рэвалюцыю... Яшчэ далей — паўстанне 1863 г., прыгон, 1812 год, і г.д., і г.д. Чым той час горшы за наш для пісьменніка? Чым лепшы наш час за той, мінулы? Толькі хіба тым, што мы жывём цяпер і не бачылі, не ведаем таго, ранейшага... Але ж жыццё чалавека — гэта яго змаганне са смерцю, з забыццём. Калі ў нас, у Беларусі, былі вялікія пісьменнікі таго часу, асталіся калі б іх творы — жыў бы для нашага народа той час. А так — яго няма, няма тых людзей, што жылі некалі. І задача наша — абнавіць тое, што было. Не ўсё, дык хоць трошкі таго... Чалавек жыў і тады, чалавек жыве і цяпер. І заўсёды яму было цяжка жыць. Не толькі таму, што яго ўсе, хто над ім, душылі, гнялі, але і таму, што ён — чалавек смяротны.

Прыйшоўшы на зямлю, ён павінен яе пакінуць, адысці. І ў гэтым — яго ўся радасць, усё гора, уся яго замілаванасць і бяда. Чалавеку трэба памагчы жыць на гэтым свеце. Ён адрокся ад рэлігіі, ад таго, што вякамі памагала яму хоць трохі ў цяжкіх выпадках, давала куды схавацца яго духу. Цяпер ён адзін на зямлі. І ён не вечны, і зямля яго не вечная таксама. І ён гэта ведае... Зоры — другая зямля — далёка, далёка ад яго... Пісьменнік — адзіны абаронца чалавека на зямлі, бо ўсё, што дасюль рабілі дзяржавы, урады для чалавека — не што іншае, як большае заняволенне чалавека, большы прымус.

Чалавеку трэба памагчы пражыць сваё жыццё на зямлі — вось асноўная задача літаратуры. Усё ж астатняе, што гаворыцца, — лухта.

Літаратура — даследаванне характару чалавека, а не фіксацыя падзей. Падзеі падаюцца толькі так, наколькі яны ўздзейнічаюць на чалавека, яго характар, псіхіку, жыццё.

*Працяг будзе.*

**Падрыхтавала да друку**
**Святлана САЧАНКА.**



# *Лаўрэаты "Крыніцы"*

***Рэдакцыйная калегія часопіса "Крыніца" прысудзіла штогадовыя прэміі за лепшыя публікацыі мінулага года. Як і раней, лаўрэатамі маглі стаць толькі чатыры аўтары.***



Прэміяй адзначана
падборка вершаў
**Валянціны АКСАК,**
надрукаваная ў № 5.



За апавяданні ў № 5
прэміяй уганараваны
**Барыс ПЯТРОВІЧ.**



У галіне крытыкі
і эсэістыкі лаўрэатам стаў
**Алесь АСТРАЎЦОЎ**
*("Не казка, а міф"*
*у № 3—6, 9).*

За мастацкія пераклады прэмія прысуджана **Вользе КАЛАЦКАЙ**
*(Апавяданне Олдаса Хакслі ў № 8*
*і навелы Вірджыніі Вульф у № 11-12).*